“Вяртанне берасцейскай стралы” – другі па ліку празаічны зборнік вядомага берасцейскага паэта і мастака Лявона Валасюка (кніга абразкоў-згадак пра маленства – “Сцежкі да сядзібы” пабачыла свет у 2008 годзе). У новай кнізе Валасюк-празаік раскрываецца як руплівы абаронца гістарычнай памяці (раманы “Не здабыўшыя зямлі абыходзяцца балотам...”, “Вяртанне берасцейскай стралы”, аповесць “Студэнцкія канікулы”), удумлівы даследчык узаемаадносін “камандзір-падначалены”, “салдат-першагодак” – вайсковец апошняга года службы” (аповесць-дзённік “Дзямоба”). Згадкі пра далёкую і блізкую гісторыю трывала звязаны ў пісьменніка з сённяшняй рэчаіснасцю.

Асобныя апавяданні аўтара падсвечаны ноткамі гумару і незласлівай іроніі.







## НЕ ЗДАБЫЎШЫЯ ЗЯМЛІ АБЫХОДЗЯЦЦА БАЛОТАМ...

***Раман***

*Дрымотна сваім і чужым берагам –*
*Ні ўсплёску, ні хвалі,*
*Нібы не схавалі ў тым возеры храм,*
*Нібы пахавалі.*

(“Прошча”, Ул. Някляеў)

# НЕ ЗДАБЫЎШЫЯ ЗЯМЛІ АБЫХОДЗЯЦЦА БАЛОТАМ...

***Раман***

## 1

Летні, нязвыкла ціхі ранак пачаўся са спеву птушкі. Яна вісела невысока ў небе і выводзіла сваю няхітрую, звычайную, але такую патрэбную, добразычлівую і ўтульную мелодыю, што не было ніякай моцы адарвацца ад яе...

Каваль Андрэй Ламака, малады каржакаваты мужчына, вяртаўся з падворка ў хату, калі раптам на ўзгорку старых могліц заўважыў трох вершнікаў, якія павольна рухаліся да вёскі Літвінкі. Ад нечаканасці ён нават перастаў чуць птушыны спеў. У хаце заставаліся даглядваць апошнія сны дачка Варка, сын Павел ды бацька Трахім Іванавіч; а жонка Ефрасіння, як заўжды, гаспадарыла ля печы. Андрэй накіраваўся да сянец, дзе пад лаваю заўсёды ляжала прыхаваная сякера, а ў кутку за дзвярыма стаяла каса з віламі: на ўсялякі выпадак хацелася быць бліжэй да няхітрага сялянскага ўзбраення.

“Напэўна, гэта зноў тыя смяшлівыя французы. Ох, і занесла іх нячыстая сіла ў нашыя балоты!” – Андрэй пракручваў свае думкі-ўспаміны ў галаве, чакаючы замежных вайскоўцаў. Яны ўжо не раз наведваліся ў вёску да яго, Андрэя, які ў адной асобе быў і кавалём, і бондарам, спраўна рабіў вазы, колы да вазоў ды і многае іншае, што асабліва цанілася ў сялянскай гаспадарцы. Да яго і з мястэчак прыязджалі людзі па добры воз або брычку, спраўныя цэбры ды бочкі... Нехта з суседніх вёсак і французам падказаў пра тутэйшага майстра.

У сенцы гаспадар усё ж такі ж не зайшоў. Вырашыў пачакаць ранніх візіцёраў у двары ля плота. Сваімі думкамі не павернеш іх назад. Ды і апошні раз яны за воз і некалькі колаў разлічыліся няблага. Відаць, на грошы не бедныя і трымалі сябе прыстойна. Асабліва вылучаўся афіцэр з вялікімі чорнымі вусамі пад гарбатым носам і ўсмешлівымі блакітна-зялёнымі вачыма. Француз тады добра адсыпаў залатых: рукі ажно да зямлі прыгнуліся ад нечаканай вагі...

Андрэй глянуў за хату, не ўтрымаўся. Чакаць, як і

даганяць, не вельмі прыемная справа. Гэта не тое што корпацца з жалезам, майструючы воз ці брычку для заможных людзей. А палюбіў ён гэтую справу праз дзеда Івана, хаця і бацька Трахім таксама займаўся кавальствам. А вось старэйшы брат Ігнат не ўдаўся ў бацьку: яму больш падабаецца з дрэвам працаваць, але калі Андрэй просіць брата дапамагчы дарабіць нешта, дык той не адмаўляецца.

Ды і чаго не дапамагчы, калі за гэта перападаюць нейкія грошы, за якія заўсёды можна набыць у мястэчку ўсё патрэбнае для гаспадаркі. Сярод тутэйшых балот не ўсім хапае добрай зямлі: трэба камусьці і іншай справай займацца. А ў іхнім родзе ўжо добрая традыцыя ўсталявалася: не толькі сялянскай працай можна карміцца, але і рамяством. Галоўнае – не ленавацца і старанна рабіць сваю справу, тады і заказы будуць...

З такімі думкамі і сустрэў Андрэй іншаземных вершнікаў.

– Ну што, не спіцца, майстра-селянін? Сцеражэш нешта ці, можа, жонку пільнуеш? – пажартаваў французскі афіцэр, чым выклікаў здаровы рогат сваіх падначаленых...

**2**

Алесь даўно збіраўся паехаць на сваю бацькаўшчыну: хацелася пабачыць родную вёску, папіць вады з цётчынага калодзежа, зайсці ў старую дзедаву хату, якая яшчэ трымалася на зямлі, пабачыць дом, у якім нарадзіўся (не дзедаў, а другі, які, ажаніўшыся, пабудавалі яго бацькі). Раней выбрацца ніяк не выпадала: то надвор'е дрэннае было, то недахоп часу, то яшчэ што не дазваляла... Так часам бывае ў жыцці, калі трэба, але не вельмі хочацца...

Нарэшце пашчасціла ва ўсіх адносінах: і сонца зранку зірнула ў вокны ружова- прыгожым тварам, і на душы было спакойна, і ўсе праблемы раптам некуды пахаваліся, і жаўрук весела звінеў над горадам, быццам над лугам у касавіцу... Таму на вакзал рушыў пешшу, з добрым настроем, толькі шкада было, што ехаў адзін... Але так ужо атрымлівалася па жыцці. У вёсцы думаў завітаць да каго-небудзь з суседзяў. Хаця вёска як бы ўжо і не вёска стала: з шасці "хадзячых" пенсіянераў толькі дзядзька Сцяпан і дзядзька Васіль – яго родзічы па даўно памерлай стрыечнай сястры Марыі. Такія вось засталіся "карэнныя" жыхары... Былі, як і ўсюды цяпер, прыезджыя сем'і. Працавала яшчэ сярэдняя школа-дзесяцігодка. Яе будынак знаходзіўся ў добрым стане, ды і настаўнікаў хапала. Нават камп'ютарны клас быў падораны калісьці міністрам адукацыі, які ў свой час правучыўся ў гэтай школе ўсе дзесяць гадоў. Яго зямляк, толькі з суседняй вёскі...

Родныя Літвінкі сустрэлі Алеся цішынёю і спакоем. Была сярэдзіна лета, у вучняў канікулы. На вуліцы і падворках нікога не відаць, але адчувалася пастаянная прысутнасць людзей: дзе-нідзе грэбліся куры, двары былі дагледжаныя, нават у адным стаяла балотнага колеру "Аўдзі".

Алесь завярнуў у двор дзедавай хаты, які быў заценены густым голлем вішні. Паставіўшы на мураваную прыступку сумку, ён пайшоў аглядаць сваю сядзібу, якая хоць і парасла травою і зеллем, але ўсё роўна мела прыстойны выгляд.

Гонарам сядзібы быў калодзеж, да якога прытулілася сваім старым голлем яблыня. За калодзежам сустрэў госця добра ўжо ўрослы ў зямлю хлеўчык, які хлопец неаднойчы маляваў. А колькі раз звозіў туды сена з дзедам! Не пералічыць! Вярнуўся да дзвярэй у хату. Такая старая знаёмая прыступка заўсёды сустракала яго сваім надпісам збоку ад уваходу. Ён зрабіў яе замест старой драўлянай прыступкі, калі летам вярнуўся са службы ў войску за мяжою. Тады бабуля вельмі прасіла Алеся адрамантаваць яе. І вось ужо колькі год яна ляжыць перад дзвярыма як памяць пра мінулы час, памяць пра яго дзеда і бабулю... А тады ў маі, калі толькі

памяняў вайсковую адзежу на фірменныя джынсы і кашулю, цэлы тыдзень не мог вырвацца з горада ў вёску. Ды дзед перадаў праз стрыечнага брата Івана, каб унук абавязкова прыехаў. На наступны дзень ён ужо ехаў цягнікам у вёску. Дзед вельмі любіў Алеся і яго старэйшага брата. Яны былі ў яго любімымі ўнукамі. І тыя адказвалі ўзаемнасцю, дапамагаючы па гаспадарцы, бо дзед з бабуляю былі ўжо даўно немаладыя...

Прысеўшы на лаўку ля дзвярэй перадыхнуць, папіць мінералкі, хлопец прыпомніў, як у дзяцінстве часцяком знаходзіў у перааранай зямлі старыя манеткі даўніх часоў, кулі, патроны... Даўнія родзічы "сеялі" не толькі хлеб ля хаты... А апошнім часам стала не тое што модным, а нават павальным захапленнем многіх рызыкоўных людзей блукаць па старажытных землях з металашукальнікамі. Але Алесь не па тое прыехаў: душа даўно прасілася пабываць на радзіме... Ды і што збіраць на даўно не аранай зямлі: ці не тое смецце, што накідалі новыя суседзі, якія немаведама адкуль панаехалі пасля перабудовачна-развальных часоў... Колькі не наводзіў парадак на падворку і ў гародзе, ды толькі ўсё дарма: у кожны наступны прыезд бачыў развал, бруд, нібы тарнада праносіўся над дзедавай сядзібаю. Калі ўжо толькі людзі навучацца паважаць чужое жыллё, чужую працу? Колькі ні жывуць, а ўсё наступаюць на адны і тыя ж граблі...

Але ж усё гэта ўжо ў мінулым. Колькі іх тут засталося ў роднай вёсцы?! Некалькі чалавек, якія і курэй не могуць як след пасвіць. Але затое яны берагуць колішні дух гэтага калісьці жывога і шумнага месца. Як летам бывала? Акрамя таго, што хапала сельскай працы, дык колькі прыязджала ўнукаў і ўнучак да сваіх дзядоў і бабуль! Цудоўная была пара. З якім настроем працавалася ўвесь дзень у полі ці на сенажаці, калі ведаў, што ўвечары ўсе пазбіраюцца ў цэнтры вёскі каля хаты яго дзеда! Колькі было размоў, жартаў! Бывала, што ў святочныя дні рабілі танцы пад вялікім каштаном насупраць... І першае прызнанне ў каханні, першыя пацалункі... А потым раз'язджаліся і прыязджалі ўжо старэйшыя на цэлы год. А ў тым юнацкім веку гэта быў вялікі прамежак часу... Успаміны, успаміны.... Яны кранаюць душу, нібы кот сваім пушыстым хвастом нечакана кране аголеную нагу. Успаміны...

Паціху вёска стала занепадаць, калі пачалі паміраць нашыя дзяды і бабулі. Сумна было назаўсёды развітвацца з імі, але такі чалавечы лёс... А потым і бацькі з матулямі пачалі адыходзіць ад нас, адлятаць у вырай, як птушкі халоднай восеньскай парою... Такое вось жыццё. А Алесь сядзіць, прыехаўшы з горада, каля старых векавых дзвярэй дзедавай хаты, глытае мінералку з пластмасавай бутэлькі, і яму добра, бо ён на сваёй бацькаўшчыне, бо ён на сваёй роднай зямлі, з якой яго ніхто не асмеліцца прагнаць ці папрасіць выйсці з двара. Ён – дома!

Крыху адпачыўшы, хлопец няспешна дастаў з кішэнькі сумкі два ключы ад хаты: адзін маленькі – ад навяснога замка, а другі, каваны, ад засаўкі. Алесь іх трымае асобна, каб не згубіліся, не падзеліся кудынебудзь... Дый наогул, каваная адмычка ўжо стала для хлопца рарытэтам, як і жоўты збанок, які аднойчы адшукаў на гарышчы, як старая вялікая падкова ад былога дзедавага каня. Дзе яшчэ адшукаеш такія рэчы, калі навокал камп'ютары ды іншыя цуды цывілізацыі. Той жа мабільны тэлефон. Не засталі дзед з бабуляю гэтых "цудаў", а так лёгка было б амаль кожны дзень пазваніць, запытаць пра здароўе, пра вясковыя навіны...

Дзверы ў сенцы Алесь ледзь адчыніў: так запалі. Хата паціху прасядае, але калі заходзіў, то, як і раней, грымнуў ілбом аб перамычку. Адвык ад нізкіх дзвярэй. Бабуля калісьці з яго заўсёды смяялася, калі ён, вось так прыехаўшы, заходзіў у хату з грукатам. Потым на ілбе заставаўся знак, нібыта каваль прысмаліў чырвонай палоскаю гарачага жалеза.

У хаце амаль пуста. У сенцах застаўся старэнькі

стол ды зэдлік побач з лесвіцай на гарышча. А ў самой жылой частцы ў куце яшчэ адна рэліквія – стары дубовы стол з точанымі ножкамі, але ўжо без шуфляды: нехта з былых кватарантаў вынес... Павыносілі ўсё, што толькі можна. Стол гэты, напэўна, пабаяліся вынесці, бо вельмі прыметны. А дзед яго пасля Другой сусветнай вайны з чыгункі прывёз возам. Тады шмат чаго выкідвалі з вагонаў за непатрэбнасцю, то людзі вясковыя і прыбіралі да сябе ўсё лепшае: каму што ўжо даставалася. А так мэбля была ўся самаробная.

Над сталом у куце пустая бажніца, пакрытая павуціннем і пылам. Колішняя фарба на сценах аблупілася, са столі таксама звісае пабелка. А калісь усё трымалася ладна. Дарма толькі дзядзька Сцяпан браў два разы кватарантаў: усё павыцягвалі тыя злодзеі. І адкуль толькі панаязджалі тыя людзі, бы пасля патопу якога. Усё паламалі, патрушчылі, пакралі... Бяда дый годзе. Але, нягледзячы ні на што, ўсё ж такі дух старой хаты застаўся, дух яго продкаў не выветрыўся. Як і калісь, хлопец адчуваў пахі пратопленай печы, свежага хлеба, варанай бульбы, смажанага сала і, канечне, сырадою... Ніякія ліхія чужынцы не выветраць дух бацькаўшчыны. Не атрымаецца ў іх гэта зрабіць, не... Пакуль жывыя мы, нашчадкі, пакуль жывыя нашыя дзеці і ўнукі, верыцца, што дух нашых дзядоў і прадзедаў будзе прысутнічаць вечна, пакуль тлее жыццё на бацькоўскай зямлі, пакуль гучыць роднае слова...

Прыбраўшыся крыху, Алесь вырашыў прагуляцца ў канец вёскі, дзе стаяў дом, у якім нарадзіўся.

Алесь пражыў там з маці і старэйшым братам Юрасём шэсць гадоў, а потым год з братам у дзеда, калі хату прадалі аднаму гаспадару з суседняй вёскі. Маці перабралася тым часам у горад да бацькі, дзе ўжо дабудоўвалі новы цагляны дом. Калі новы гаспадар іхняй былой хаты памёр, то сядзібу выкупіла нейкая сям'я, пра якую Алесь ужо нічога не ведаў. Але калі хлопец наведваўся ў вёску, то кожны раз прыходзіў



паглядзець на родную хату, а то і памаляваць. Яна заўсёды заставалася для хлопца нязменнай, быццам увесь гэты час чакала, што гаспадары вернуцца і зноў будуць усе разам. Алесь ведаў яе дух, яе мары, пачуцці: родная хата для яго заставалася жывою, такой, як была ў раннім дзяцінстве, мо таму, што там ён нарадзіўся зімовым марозным ранкам...

Родная хата заўсёды глядзела на Алеся шырокімі шыбамі вокнаў, якія выходзілі на вуліцу і падворак. Тая ж даўнейшая блакітная фарба аконных рам, бардовы колер пафарбаваных сцен, калодзеж у глыбіні падворка злева. Бацька расказваў: калі пачалі капаць яму пад першую бочку, то наткнуліся на даўнейшы дубовы зруб былога старога калодзежа нашых продкаў, што жылі раней на гэтым месцы. Дзяўбалі бярвёны ламамі і сякерамі, але дрэва ў зямлі акамянела і не паддавалася. Урэшце яму засыпалі, а калодзеж выкапалі ў іншым месцы. Што там у зямлі заставалася часам пасля нашых продкаў, даводзіцца толькі здагадвацца. Алесю ў дзяцінстве заўсёды падабалася нешта знаходзіць у гародчыку. Часам гэта былі старадаўнія манеткі, рэшткі каваных цвікоў ці падкоў, аскепкі старых гліняных гаршкоў. Але пасля мінулай вайны часцей траляліся патроны, гільзы ці кавалкі лентаў з патронамі. А за вёскай на ўзгорку, дзе хлопцы часцяком бавіліся летам, рыючы норы ці будуючы свае "дамы", неаднойчы траляліся патроны даўнейшых часоў. На тым жа ўзгорку Алесь, калі хадзіў з маці па зелле для свойскай жывёлы, знаходзіў і часткі ад снарадаў, асколкі, шрапнель...

Колькі войнаў прайшло праз іх мясціны, колькі часовых сцежак пратапталі вайскоўцы па іх зямлі. Такое было жыццё, такі час... І калі толькі пільней углядвацца ў нашу маці-зямлю, то чаго толькі не пабачыш, чаго толькі не пачуеш. Беражліва трэба для ўсяго гэтага адносіцца.

Алесю з дзяцінства шанцавала знаходзіць цікавыя рэчы ў гародчыках абедзвюх сядзіб. Напэўна, такі ўжо яго лёс, бо шмат пазней, калі стаў студэнтам архітэктурнага

факультэта будаўнічага інстытута, давялося ўдзельнічаць нават у раскопках месца заснавання старога горада – яго дзяцінца...

**3**

Змяніўшы адзенне на больш лёгкае, узяўшы ручнічок, стары дзедаў кіёчак, з якім стары калісьці пасвіў кароў, Алесь вырашыў прайсці ў канец вёскі да сажалкі – Кругана. “Калі вада будзе цёплаю, то крыху пакупаюся,” – падумаў хлопец, гледзячы на сонечнае, яснае неба.

На вуліцы стаяла цішыня. Знаёмай дарогаю хлопец паціху адыходзіў ад дзедавай сядзібы. Злева стаяла напалову разваленая хата дзеда Васіля, з унукам якога яны сябруюць з самага дзяцінства. Равеснікі. Добры сябар. І цяпер у горадзе падтрымліваюць сувязь. Дзяды даўно паўміралі, толькі хаты пазаставаліся як помнікі мінуламу.

Наступная хата таксама ўжо даўно не новая. Хто толькі там не жыў! Але пры яго памяці – дзяцінства, юнацтва – там таксама жылі сябры: Валерык, крыху старэйшы за яго, і яго сястра Святлана, равесніца Алесю. А бацькі іхнія былі медыкамі, працавалі ў мясцовай амбулаторыі. Анатоль Паўлавіч быў цудоўным доктарам. Сяляне з усяго наваколля вельмі паважалі яго: ён быў вопытны практык. Ведаў усе хваробы ў людзей, ведаў, як іх лячыць. А Алесь, калі прыязджаў на канікулы да дзеда, часцяком з Валерыкам глядзеў у іх тэлевізар.

Нечакана ў памяці ўсплыў адзін выпадак. Алесь збіраў грыбы за вёскаю ў невялічкім ляску і сустрэў там Анатоля Паўлавіча. Той не пазнаў хлопца, бо ішоў з суседняй вёскі п’янаваты (пачаставалі людзі – хворыя, якіх лячыў). А Алесь якраз трымаў у руцэ вялікі нож, якім падразаў грыбы, быў даўно не голены, у старой дзедавай ватоўцы. У той час па акрузе блукаў злачынца, забойца маладой дзяўчыны. Доктар прыняў Алеся за таго душагуба і пазваніў у міліцыю, якая, дарэчы, вельмі



хутка прыехала. Але Алесь ужо быў у хаце ў дзеда і бачыў праз акно, як з машыны выйшлі два міліцыянеры і накіраваліся да доктаравага дома...

Для вёскі гэта падзея – прыезд міліцыі, таму дзед выйшаў на вуліцу глянуць, што ж там такое здарылася. Міліцыянеры паказалі доктару фотаздымак забойцы, і той быццам апазнаў па картачцы незнаёмца, якога сустрэў у лесе. Ніякага забойцы там, вядома ж, не знайшлі... Калі нарэшце ўсё высветлілася, дык вясковыя жанчыны, сустрэўшы Алеся, жартавалі: “Што, прыехаў зноў да дзеда, каб доктара напалохаць! Глядзі, а то пакліча міліцыянераў з раёна!” І голасна смяяліся. Алесь разам з імі пасміхаўся ў свае вусы і караткаватую яшчэ бародку...

За паваленым плотам была сядзіба дзядзькі Сцяпана і цёткі Марыі. Дзверы былі адчыненыя, і недзе ў глыбіні двара шорхаў касою Мікола, Алесеў старэйшы сябар. Ён працаваў інжынерам на чыгунцы пасля заканчэння нейкага тэхнічнага ўніверсітэта, меў жонку і дваіх дзетак... Калі памерла маці, дык наглядаць за хатай пачаў сын, прыязджаючы з раённага гарадка, дзе ўжо даўно жыў і працаваў. Ён ездзіць чыгункай, а потым на ровары да вёскі тры кіламетры. Ровар заўсёды пакідае ў знаёмай цёткі: так зручней.

Хату трэба даглядаць, каб не зарасла травою і зеллем, каб мела прыстойны выгляд. Мікола, калі шмат працы ў гародзе, то і начуе.

– Мікола, касі лепш! Многа травы пакідаеш за сабою!

– А-а-а... – працяжна адгукнуўся той, пабачыўшы сябра.

– Вось добра, што ты прыехаў! Будзе з кім гарбаты папіць! – прыпыніўшы працу, паставіў касу да хлеўчыка і пайшоў насустрач.

– Прыехаў вось двор выкасіць, зарос травою пасля дажджоў. Ды і так крыху прыбраць у хаце ды на падворку,

за гародам таксама паглядзець. На цэлы дзень сюды, дык трэба штосьці зрабіць. – Мікола выгаварыўся, быццам даўно ні з кім не размаўляў, і потым запытаў:

– А ты як? Чым займаешся? Ці доўга прабудзеш?

– Ды прыехаў адведаць радзіму, пабачыць родныя хаты, людзей, бо даўно ўжо не быў тут... Вось выбраў, нарэшце, час, – адказаў Алесь, павітаўшыся за руку са старым сябрам. Міколава хата мела спраўнейшы выгляд, чым дзедава, бо была шмат пазней пастаўлена. Алесь аднойчы ў сенцах разгледзеў на сцяне дату пабудовы хаты – 1951 R.

– Мікола, хадзем у Круган – паплаваем. Вельмі хочацца паглядзець на тое прыгожае месца, дзе калісьці рыбу лавілі, купаліся, загаралі...

Сябар згадзіўся, толькі папрасіў пачакаць крыху, пакуль схавае касу і замкне дзверы.

Мікола прыхапіў з сабою саматканы ручнік, і яны паціху пайшлі вуліцай іхняга дзяцінства. Міналі дамы, платы, дрэвы... Навокал было ціха, толькі птушкі падавалі галасы, нібы паказваючы, што жыццё ў гэтай вёсцы працягваецца... Вось яны прыйшлі да таго месца, дзе ў пару іх дзяцінства быў праз дарогу драўляны масток, пад які вясною з рова пускалі на ваду папяровыя і з сасновай кары караблікі, а потым сустракалі іх. Бывала, што караблікі затрымліваліся пад мастком, гінулі. Алесю тады прыходзілася спешна рабіць новыя і бегчы пускаць зноў, каб не адставаць ад сваіх сябрукоў...

А вось і былая сядзіба яго бацькоў – дом, хлеўчык для каровы, калодзеж у двары... Яшчэ засталіся старыя яблыні і грушы, але з’явіліся і малаыя дрэвы. Новыя гаспадары ўжо на свой лад абжывалі сядзібу... Дзверы ў хату былі адчыненыя. Жывуць людзі і пасля іх, Літвінчукоў. Трэба будзе заглянуць, пазнаёміцца, пагаварыць...

Сашыкава сядзіба, якая адразу за хатаю Літвінчукоў, апусцела. Калісьці Алесь сябраваў з суседскаю дзяўчынкаю Анютаю. Дзе яна цяпер? Хто ведае...



Стаіць закінутая хата, глядзіць запыленымі шыбінамі ў глебу, быццам саромеецца свайго выгляду. А з правага боку пачыналася новая пасадка бярэзніку і сасонніку. Прыгожа.

– Бач ты, як разраслася хутка! – падцвярджвае думкі сябра Мікола. – Яшчэ, здаецца, летась ледзь ад зямлі адарваліся галінкі, а цяпер як узбуйнела!..

– Так, добра стаяць у зямлі дрэўцы. Быццам намаляваныя, – дадаў Алесь.

... А ў гэтым месцы ў дзяцінстве яны з сябрукамі гулялі ў хованкі, у “вайну” ды іншыя гульні. Бывала, проста так збіраліся і бавілі час. Там расла трава сярод невялікіх кустоў лазы, у якіх рабілі свае гнёзды дзікія пчолы. Дзеці выкурвалі іх, каб паласавацца мёдам. Часам даставалася малым ад тых пчол. З енкам выбягалі тады з кустоўя і ўцякалі дадому.

Бавіліся таксама ў вырытых ямках жоўтага пяску. Здаралася, там выкопвалі патроны, парожнія гільзы. Вайна часта кранала іх, вясковых хлапчукоў і дзяўчынак, сваім крылом. А з боку Кругана быў пагорак – там зімою каталіся на лыжах, санках. На лёдзе Кругана ўпершыню пачалі асвойваць і гульню ў хакей. Гэта Алесеў старэйшы брат Юрась “прывёз” яе з горада, пабываўшы там з бацькам і паглядзеўшы хакей па тэлевізары ў дзядзькі Паўла, брата іхняй матулі. У вёсцы тэлевізараў тады яшчэ не было.

Да Кругана вяла добра вытаптаная сцяжынка. Відаць, людзі тут часта бываюць. Нарэшце сярод дрэў і карчоў, якія ўтульна акружылі сажалку, бліснула вада. Нават масток на беразе быў. Малайцы, пастараліся людзі! Як аказалася, яны тут былі не адны. На другім беразе сажалкі ляжалі на траве ў цяньку дзве дзяўчыны. Пэўна, яны ўжо акунаіся ў ваду і зараз адпачывалі на нейкай посцілцы. Побач знаходзіліся іх рэчы.

– Гэта прыезджыя дзяўчаты, – заўважыў Мікола. – Я іх раней бачыў. Не адным нам захацелася пабыць ля

вады ў такі час...

Як даўно Алесь не быў ля Кругана! Як усё тут папрыгажэла! І трава была гусцейшая і зелянейшая, і дрэвы павырасталі, і вада ў сажалцы стала больш празрыстаю і чысцейшаю. Усё вабіла і хвалявала.

Алесь першы скінуў вопратку і прысеў на траву, якая прыемна казытнула аголеныя ногі. Не дачакаўшыся, пакуль распранецца Мікола, рушыў да вады. Дзяўчаты паднялі галовы. Алесь весела памахаў ім рукою, павітаўся. Тыя ветліва ўсміхнуліся і ў адказ таксама паднялі свае далоні. Можна было лічыць, што яны пазнаёміліся.

Алесь ступіў на цёплыя, прагрэтыя сонцам дошкі мастка, пайшоў па іх да краю. У вадзе адбіваліся блакітнае неба, лёгкія белыя аблачыны, промні сонца.

Дзяўчаты ўважліва сачылі за ім. Чакалі, каб пабачыць, як ён дасць нырца. Збоку квакнулі жабкі, праляцеў матыль. Эх, было не было! Алесь падскочыў, адштурхнуўся ад дошак і паляцеў у ваду, ускалыхнуўшы люстэрка паверхні і навакольную цішыню.

Спачатку нават заняло дух. “Ох, як добра!” – паспеў падумаць Алесь і раптам адчуў кончыкамі пальцаў пругкую тканіну ці плёнку. Яна падалася пад ціскам яго рук і прагнулася ўглыб вады...

**4**

Нядзеля ў Петрука пачалася са збораў на вячэрні цягнік: паскладваў у спартыўную сумку свае рэчы, прыгатаваную раней бутэльку гарэлкі, піва, крыху каўбасы з хлебам і агуркамі на дарогу. Увечары ён збіраўся ехаць са сваёй сяброўкай Наталляй ў раённы горад. Цягніком ехаць было далекавата – амаль чатыры гадзіны, але там чакалі даўнія сябры, з якімі доўга не бачыўся.

Пятрук быў вышэй сярэдняга росту, чарнявы. Смаляныя валасы прамымі пасмамі спадалі на белы лоб і цёмныя вочы. Пасля службы ў войску ён два гады правучыўся ва ўніверсітэце, а потым на трэцім курсе кінуў вучобу, бо хацелася жыць як яго школьныя сябрукі, з якімі потым працаваў на заводзе. Тыя заняліся камерцыяй, мелі ў гэтым поспех, ездзілі на машынах з прыгожымі дзяўчатамі, а ён, Пятрук, малады, здаровы і прыгожы, павінен быў сядзець на лекцыях. Не, гэта не па ім! Таму пасля двух гадоў вучобы забраў дакументы і пайшоў на свой хлеб: напрасіўся да сяброў-аднакласнікаў у аўтамабільны бізнэс, якім паспяхова пачаў авалодваць. Так прайшло некалькі год. Пятрук зарабляў неблагія грошы, пачаў прыгожа жыць, але хацелася большага, цікавейшага... А тут пачалі хадзіць чуткі пра чорных капачоў, якія знаходзяць схаваныя продкамі вялікія скарбы. Нават існуюць адмысловыя карты, па якіх можна арыентавацца ў пошуках. Але на гэта трэба мець не толькі металашукальнікі, але і шчасце, удачу...

Таму аднойчы і вырашыў Пятрук з’ездзіць да Віктара і Алега, з якімі служыў у войску. Яны жылі ў горадзе з даўняй гісторыяй, у якім часам знаходзілі скарбы, і самі пачалі займацца пошукамі. Пятрук меўся пераняць іх вопыт. А каб не сумна было ў дарозе, запрасіў сваю даўнюю сяброўку.

З Наталляю Пятрук дамовіўся сустрэцца на пероне, а яшчэ ж трэба было завітаць да Сержука, з якім раней вучыўся ва ўніверсітэце. Сяржук ужо некалькі дзён як атрымаў дыплом. Вось і дамовіліся сустрэцца, каб “абмыць”яго. Сяржук жыў непадалёк. Пятрук, прыхапіўшы з сабою бутэльку добрага напою, завітаў перад абедам да сябра. Акрамя бацькі, болей нікога не было ў кватэры, таму спакойна і селі за стол. Час павольна адлічваў гадзіны, пакуль не завітаў сусед, з якім стала яшчэ весялей. Застолле працягвалася да апошняга, ужо трэба было выбягаць, каб не спазніцца на цягнік.

На вакзале ўжо чакала Наталля. Яна з добрым

настроем сустрэла яго, але заўважыла, што ён на добрым падпітку. Дзяўчына вырашыла пакуль пра тое нічога не гаварыць, каб не псаваць настрой, да таго ж ведала складаны характар сябра. А Пятрук тым часам хуценька збегаў да "кропкі" па апельсіны ды нейкі сок на дарогу. З тым яны і ўладкаваліся ў вагоне непадалёк ад дзвярэй.

Петруку не сядзелася ля Наталлі. Вырашыў пакурыць пасля добрай сустрэчы з Сержуком, пасля прабежкі да вакзала. Хлопец быў добра разагрэты, узрушаны нядзельным днём. Ды і прыгожая сяброўка Наталля сядзела побач. Малайчына, што прыйшла! Пятрук паклаў сваю сумку, летнюю куртачку, дастаў пачак з цыгарэтамі ўжо толькі тады, калі цягнік павольна рушыў ад будынка вакзала. Трэба было пакурыць у тамбуры, крыху астыць, праветрыцца, бо пасля выпіўкі хацелася яшчэ нечага. Калі Пятрук апынуўся ў тамбуры, то крыху засумаваў ад таго, што там нікога не было. " І пагаварыць няма з кім", – падумаў ён і вырашыў пайсці ў наступны тамбур, у якім напаткаў хлопца з вялікім сабакам-ваўкарэзам. Выкурыўшы адну цыгарэту, Пятрук прысеў на прыступку з дазволу гаспадара сабакі побач з жывёлінай. Так ён і размаўляў, седзячы на прыступцы, то з сабакам, то з яго гаспадаром. Петруку было ўсё адно з кім, абы выгаварыцца. Так працягвалася нядоўга, бо праз два прыпынкі ў тамбур завітала шумная кампанія з трох чалавек. Яны пагаманілі, пагаманілі, пакурылі і прапанавалі ці то Петруку, ці то гаспадару сабакі:

– Ну, мужыкі, хто з вас будзе чацвёртым пайграць у карты? Не хапае аднаго чалавека. Будзем гуляць на інтарэс: хто выйграе, той выпівае шклянку віна. У нас яго хапае – поўная сумка.

– Калі вы не супраць, дык я пайду з вамі, – хутка адказаў Пятрук, якому свярбела ўжо ад прадчування гульні і выпіўкі. Гэта было якраз тое, чаго яму бракавала ў цяперашнім стане.

Хлопцы рушылі ў вагон і прымасціліся на свабодных месцах. На іх асабліва ніхто і не звяртаў увагі, бо такіх, як яны, хапала ў цягніку. Студэнтаў заўсёды шмат у вагонах. Віно стаяла ў сумцы на падлозе, спачатку хлопцы ўзялі дзве пляшкі і выпілі па шклянцы перад гульнёй, каб сагрэцца. Гульня ўсіх захапіла так, што яны толькі зрэдку паглядвалі ў вокны, каб не праехаць свой прыпынак. Часам выйграваў і Пятрук, і яму станавілася ўсё весялей і лагодней. Віно рабіла сваю справу. Калі надышоў час развітвацца з хлопцамі -карцёжнікамі, Пятрук вырашыў правесці іх да перона: яму было ўжо ўсё роўна, што рабіць і куды ісці.

Стоячы на пероне і развітваючыся з новымі знаёмымі, Пятрук і не заўважыў, як дзверы электрычкі раптам зачыніліся і цягнік пачаў набіраць ход, аддаляючыся ад хлопцаў, ад прыпынку. У ціхім цёплым вечаровым паветры прагучалі колы апошняга вагона. Нехта з хлопцаў з усмешкай прапанаваў:

– Пятрук, пасядзі тут, пачакай наступны цягнік! Праз гадзіну прыбудзе. А каб не было так сумна, вазьмі пляшку віна, бо яшчэ засталося некалькі. Калі нам не хопіць, то не праблема! Яшчэ не вечар!

Абняўшыся з хлопцамі на развітанне, Пятрук з бутэлькаю ў руцэ прысеў на лаву пад дрэвам. Хлопцы тым часам пайшлі гуртам за будынак станцыі. У вёсцы іх чакалі дзяўчаты...

Пятрук пасядзеў крыху на лаўцы, пакурыў, адпіў палову бутэлькі. Ён думаў пра Наталлю, якая засталася ў цягніку. "Нядобра атрымалася, што яна цяпер адна", – падумаў хлопец і вырашыў пайсці на поле нарваць кветак для дзяўчыны. Каб не перашкаджала бутэлька ў руцэ, Пятрук дапіў рэшткі віна, кінуў яе, парожнюю, у траву і пайшоў на поплаў, за якім пачыналася жыта з белымі рамонкамі і сінімі валошкамі...

## 5

Дзяўчыне адразу не спадабалася, што яе сябар Пятрук прыйшоў да цягніка нападпітку. Яны былі даўно ўжо знаёмыя, іх звязвалі добрыя блізкія адносіны. І не раз, канечне, Наталля бачыла свайго хлопца п’яным: бывала, што толькі вочы блішчэлі, а часам быў і добра “нагружаны” гарэлкаю. Але тады яна глядзела на гэта скрозь пальцы. Вось і зараз, калі Пятрук прыбег да цягніка з апельсінамі і сокам, падумала, што за дарогу побач з ёю хлопец “адцягнецца” да належнага стану. Але як толькі яны ўладкаваліся ўтульна ля акна ў вагоне, Пятрук паспяшаўся пакурыць. Курыў ён доўга – усю дарогу. Наталля пачала непакоіцца ўжо праз паўгадзіны, бо Пятрук не вяртаўся, але ісці шукаць яго не збіралася: хай працверазее ў тамбуры. Ды і пакідаць свае рэчы без нагляду не хацелася: рознае можа здарыцца ў дарозе.

Наталля змірылася з тым, што Пятрук недзе швэндаецца, паціху супакоілася, дастала газеты і пачала чытаць. Яна ведала, што хлопец нікуды не дзенецца, таму заставалася толькі чакаць. Але калі надышоў час выходзіць з вагона, яе сэрца зайшлося. Здолеўшы перамагчы хваляванне, Наталля сабрала ўсе рэчы, свае і Петрука, і выйшла з вагона на перон. Паставіўшы сумкі, яна пачала азірацца па баках, спадзеючыся ўбачыць Пятрука. Перон апусцеў, а таго не было відаць. Праз некаторы час Наталля заўважыла, як да яе накіроўваюцца трое хлопцаў – сябры Петрука: Віктар, Алег і Вадзім. Іх твары таксама не свяціліся радасцю, калі яны ўбачылі дзяўчыну са слязамі на вачах.

– А дзе Пятрук? – спытаў Віктар. Астатнія хлопцы моўчкі чакалі адказу ад дзяўчыны.

– Ён выпіўшы быў? – працягваў “допыт” Віктар і павярнуўся да сваіх сяброў. – Пройдземся па вагонах. Можа, ён заснуў у якім ды сніць нас у цішы парожняга вагона. Хадзем хутчэй!

Наталля засталася чакаць хлопцаў на пероне, выціраючы слёзы на шчоках. Мабыць, нешта здарылася з сябрам, нездарма ж амаль чатыры гадзіны ён не з’яўляўся да яе ў вагон. З ім і раней падобнае бывала: то прападзе некуды часам, то зноў аб’явіцца. Іх адносіны былі амаль выпадковыя: Пятрук знаходзіў Наталлю тады, калі былі грошы, калі па жыцці ў яго не было праблем. Яны добра сябе адчувалі разам, бесклапотна. Калі хлопец прападаў на каторы месяц, то дзяўчына займалася сваімі справамі, працавала. Але Пятрук быў сімпатычны, таму Наталля заўсёды чакала хлопца, хаця шмат што і не падабалася ў ім. Яна спадзявалася, што лепшае ў характары і паводзінах пераможа горшае, таму шмат на многае не звяртала ўвагу.

А хлопцы тым часам прабеглі ўсе вагоны, заглянулі ва ўсе прыбіральні, але нідзе не знайшлі Петрука. Вярнуўшыся да Наталлі, яны вырашылі пачакаць яго да ранку ў Віктара дома. А ў дзяўчыны зусім прапаў настрой. Яна шкадавала, што згадзілася ехаць у такое падарожжа. Пра благое ўжо не хацелася думаць: хутчэй бы адпачыць.

Па дарозе хлопцы завіталі ў магазін, купілі прадуктаў і віна на вячэру. У іх таксама быў кепскі настрой: усе планы на вечар і на ранак праваліліся.

## 6

Штосьці пякучае калола пад левым вухам, шыя і галава знаходзіліся на нечым мулкім і шурпатым. Недалёка, амаль побач, прыглушана пачуліся галасы.

“Дзе гэта я?” – падумаў Пятрук, не зварухнуўшыся. Асцярожна прыслухоўваўся да наваколля, паціху вяртаючыся да прытомнасці, потым з цяжкасцю расплюшчыў вочы. Навокал было цёмна, быццам ён і не прачынаўся зусім, але цемра была начная, ён заўважыў уверсе далёка над сабою маленькія кропачкі зорак і адразу зразумеў, што знаходзіцца не ў памяшканні, а на двары ці ў садзе. Спачатку Пятрук перапалохаўся:

нязвыклая абстаноўка нічога добрага не абяцала. Рукамі намацаў пад сабою звычайную салому. Ён ужо зразумеў, што знаходзіцца недзе сярод поля на капе саломы, ды ніяк не хацелася ў гэта верыць. Мог быць з каханай дзяўчынаю ў цёплым ложку! А тут... халоднае поле. У галаве пачало мільгаць учарашняе блуканне ў жыце, калі ён збіраў валошкі і рамонкі для Наталлі. Гэта апошняе, што ён прыпамінаў... Алкаголь зрабіў сваю справу: Пятрук адключыўся і ўпаў, стомлены, у нейкую салому.

"А дзе сумка, пінжак, дзе Наталля?" – не хацелася верыць, што ён адзін невядома дзе. Настрой пагоршыўся, калі Пятрук выразней пачуў чужыя галасы. Хлопец стараўся нават не дыхаць, каб яго ніхто раптам не пабачыў.

– На сёння пакуль хопіць шукаць, бо хутка ўжо віднець пачне. Трэба крыху ад'ехаць далей адсюль, каб ніхто не пабачыў. А бочка з золатам нікуды не дзенецца. Напэўна, глыбока яе ўсё ж такі продак закапаў. І нам яшчэ не адзін раз прыйдзецца сюды прыязджаць на пошукі. Поле вялікае... – прагучаў прыглушана ў цішы нечы непрыемны хрыпаваты голас...

– Тут ад дарогі да рова трэба яшчэ хадзіць і хадзіць. Але затое мы ведаем, што гэта тое самае месца, дзе захаваная бочка. І гэты квадрат мы выхадзім да зімы абавязкова. Старая ж казала, што ад радні перадалося пра гэты кавалак зямлі, ды толькі ніхто не адважваўся перакопваць усё поле. Час які быў! – больш упэўнена прагучаў другі голас і пачаў аддаляцца ад Петрука.

Счакаўшы яшчэ крыху, хлопец прыўзняўся і пачаў углядацца ў наваколле. Недзе за паўкіламетра пабачыў фары машыны, якія хутка зніклі за дрэвамі.

Навокал стаяла густая цемра, і толькі ў далечыні віднеліся маленькія агеньчыкі нейкага паселішча. "Мабыць, там дарога. Трэба будзе ў той бок ісці", – Пятрук лаяў сябе за тое, што апынуўся ў невядомай мясцовасці. Ён пастрэсваў з сябе салому і пыл, павымаў з валасоў рэшткі подсцілу.

"Ну і ўляпаўся!" – толькі і лезла ў галаву, пакуль ішоў пожняй да дарогі. Раптам недзе наперадзе пачуўся брэх сабакі. Гэтыя гукі падбадзёрылі яго, бо прысутнасць людскога жылля давала надзею выбрацца да чыгункі, даведацца, дзе апынуўся... Да таго ж чужыя галасы казалі нешта пра золата. Трэба запамінаць дарогу, мясцовасць. Потым можна будзе падумаць і пра гэта...

Да брэху аднаго сабакі далучыўся другі. Наперадзе пачало цямнець нешта падобнае на хутар. Адтуль і даносіўся брэх сабак, якія адчувалі прысутнасць чужога чалавека. Пятрук пачаў прыглядацца да зямлі, каб падняць камень: не з пустымі ж рукамі ісці да сабак. Падабраўшы два камяні, хлопец наблізіўся да плота, які чарнеў перад старою хацінаю. Сабакі, на шчасце, былі на ланцугах прывязаныя да дрэў, таму ён адкінуў прэч камяні, выцер рукі і падышоў да ганка. Справа бліснула шыбінай акно. Пятрук некалькі разоў стукнуў па шкле з надзеяю...

Праз некалькі хвілін светлая фіранка адхінулася, і на хвіліну выглянуў немалады жаночы твар.

"А хоць бы хто!" – рашуча падумаў хлопец і рушыў ужо смялей да дзвярэй. Іх адчыніла бабуля. Яна нібыта нават і не глянула на Петрука, бо адразу павярнула назад.

– Праходзьце ў хату, – вымавіла старая, не даслухаўшы Петруковых слоў пра прычыну такога начнога візіту. А ён пачаў распавядаць пра тое, як адстаў ад цягніка, калі ехаў з вяселля, як крыху прыблудзіў... Але хутаранцы, відаць, было нецікава ўсё выслухоўваць.

Пятрук ступіў у сенцы, дзе яго сустрэла цемра, глыбейшая, чым на вуліцы. Ён рухаўся на голас старой, нічога не бачыў перад сабою. "Добра, што не на мужчыну трапіў, а то яшчэ па галаве атрымаў бы чым-небудзь цяжкім за тое, што сярод ночы патурбаваў гаспадароў", – задаволена падумаў хлопец, прабіраючыся далей у хату...

Услед за старой гаспадыняй Пятрук апынуўся ў невялікім утульным пакоі. Праз адзінае акно прабівалася святло, пры якім хлопец крыху агледзеўся. Бабуля адразу пайшла ў кут да ложка, прылегла.

– Я паляжу яшчэ, а ты пасядзі ля дзвярэй на скрыні. Яна невысокая, табе добра будзе. Я прыхварэла крыху, дрэнна сябе адчуваю. А да цябе зараз выйдзе мая ўнучка. З Кіева прыехала на канікулы, студэнтка. Яна да мяне штогод прыязджае, не забывае мяне. Добрая дзяўчына!

Бабуля гаварыла, нібыта сама да сябе ці да нечаканага візіцёра. Яна, пэўна, даўно ўжо прывыкла да таго, што сама жыве на хутары, што часцяком трапляюць у яе двор незнаёмыя людзі. Таму да ўсяго адносілася спакойна, без боязі. Ды ў яе ўзросце няма ўжо каго і баяцца, хіба толькі якіх “адмарозкаў”... Усяго нагледзелася. Ды і благія людзі амаль не трапляліся, таму яна спакойна аднеслася да нечаканага стуку ў шыбіну і адчыніла дзверы чужынцу.

– Алена! – паклікала старая ўнучку, кашлянула. – Выйдзі да чалавека, пабудзь з ім, пакуль я яшчэ паляжу крыху.

З правага боку ад Петрука, які ўжо сядзеў на скрыні ля сцяны, пачуліся рухі. Ён павярнуў галаву да дзвярэй і пабачыў постаць дзяўчыны, якая прыпынілася на хвілінку, аглядаючы візіцёра. Яе доўгія валасы апускаліся на аголеныя плечы, з-пад лёгкай сукенкі стромка выпіралі дзявочыя грудкі. Пятрук у захапленні нават паспеў адзначыць, што ў яе цёмныя вочы.

“Алеся! Як у Купрына! І старая хворая побач. Нейкая містыка”, – падумаў хлопец, зачаравана гледзячы на дзяўчыну, якая ціха павіталася, прайшла ў бабулін пакой і прысела ля акна на зэдлік.

Пятрук не мог адарваць свой погляд ад дзяўчыны, якая так уразіла яго сваім хараством. І хоць ён яшчэ не адышоў ад выпітага ўчора, хлопец пачаў перад дзяўчынаю цверазець. Нечаканасці працягвалі яго здзіўляць. Пасля



ўсяго таго, што адбылося з ім у цягніку, пасля таго як ён нечакана заначаваў сярод поля ў саломе – трапіць раптам на хутар, якіх так мала ў гэтых мясцінах, ды ў гэты час, калі вёскі стаяць амаль без жыхароў, калі Чарнобыль пагнаў людзей на ўсе бакі ад Беларусі...

Паціху завязалася размова паміж маладымі людзьмі, а бабуля ў гэты час задрамала. Пятрук зноў пачаў расказваць пра тое, як адстаў ад цягніка. Усёй праўды ён не казаў, бо з аднаго боку было сорамна, што так здарылася, а з другога – хацеў на дзяўчыну зрабіць добрае ўражанне, бо яна адразу запала ў душу. Дзіва што! Такая прыгажуня!..

## 7

– На вяселлі быў, адстаў ад сваіх, заблудзіў крыху, вось неяк трэба дабрацца да чыгункі, да бліжэйшай станцыі, – адазваўся да дзяўчыны Пятрук.

– Станцыя далекавата адсюль, ды і рана яшчэ ісці туды. Цемра навокал, зноў заблудзіце, – усміхнулася Алена, разглядваючы хлопца.

Пазнаёміўшыся, Пятрук папрасіў папіць вады, бо пасля ўчарашніх напояў яго пачала дапякаць смага. Хацелася выйсці на падворак, лепей разгледзецца.

– Хадзем у двор, там летняя кухня, і вада халодная знойдзецца. – адказала на пытанне-просьбу дзяўчына. – Бабуля, я пайду з госцем у двор, – звярнулася да старой Алена, падымаючыся з зэдліка. Рушыў да дзвярэй і Пятрук. Праз сенцы маладыя людзі праходзілі як праз кладку над глыбокай вадою: нейкае напружанне авалодала імі на некалькі імгненняў, пакуль яны не апынуліся на свежым ранішнім паветры ў двары гэтага добразычлівага хутара...

Кухня знаходзілася ў глыбіні двара злева ад хаты. Пятрук у цемры яе не прыкмеціў, бо галава была забіта іншым. Дзяўчына падала кубак халоднай вады, Пятрук прагна асушыў яго да дна, выцер вусны далонню, крыху

падправіў валасы на галаве, у якіх яшчэ заставаліся рэшткі саломы. Алена, гледзячы на хлопца, усміхалася. Потым прапанавала яму прайсці на кухню, дзе на стале яшчэ заставаліся сляды ўчарашняй вячэры: ляжаў прыкрыты ручніком хлеб, гародніна, стаяў памыты посуд.

– Мо перакусіць хочаце? – запытала Алена ў хлопца, але той адмовіўся – яму, акрамя піва, больш нічога пакуль не хацелася.

– Прабачце, але спіртнога не магу прапанаваць, бо ўчора ўсё дапілі, што прывозілі, а ў бабулі нічога такога няма. Нам з ёй моцныя напоі непатрэбныя.

Пятрук прысеў на лаву, слухаючы дзяўчыну. Яна ўсё больш падабалася яму: цёмна-русыя валасы прыгожа падалі на плечы, вочы блішчэлі нейкім загадкавым полымем, стан прывабны. Пятрук папрасіў яе кіеўскі адрас, каб можна было потым адправіць ліст. Алена напісала яго на кавалку кардону ад парожняга пачка цыгарэт. Яна не вельмі верыла гэтаму выпадковаму візіцёру, але інтрыга нечаканага знаёмства яе захапіла.

Пятрук тым часам пачысціў свае штаны, кашулю ад пылу, прыбраў валасы на галаве і стаў выглядаць больш-меншпрыстойна.

Яны яшчэ крыху пасядзела ў кухні, пагаманілі. Алена заўважыла, што хлопец пачаў паглядаць на яе зацікаўлена, адчувала сябе крыху няёмка. Таму перавяла гутарку на тое, як госцю дабрацца да станцыі: спачатку прайсці лес, потым праз дзве вёскі.

– Увесь час проста па дарозе, нікуды не сыходзьце ўбок, – патлумачыла Алена і павярнулася, каб ісці ў хату.

Раптам дзяўчына адчула дотык хлопцавых рук. Ад нечаканасці яна нейкую хвіліну не магла нічога сказаць. А чужыя рукі ўжо мацалі яе грудзі і лезлі ніжэй уздоўж жывата...

– Што вы робіце?! – ускрыкнула Алена і рванулася ўсім целам з нахабных абдымкаў. Злосна прамовіла:

– Гэта ваша падзяка за нашу гасціннасць?! Мо сабак



спусціць на вас?! Яны даўно чакаюць такога ласунку!

Пятрук сцяміў, што не з таго пачаў, адказаў:

– Калі яшчэ трапіш мне па жыцці, дык абявязкова будзеш маёю! Гэта кажу я, каму яшчэ ніхто не адмаўляў! – вочы хлопца злосна заблішчэлі, пабляднеў твар.

Алена яшчэ доўга стаяла ля хаты, углядалася ў постаць Петрука, які паціху аддаляўся ад бабулінага хутара. Гэты начны “госць” парушыў не толькі іх з бабуляй пакой: у яе дзявочых грудзях нешта зварухнулася так, што зараз ёй ужо не заснуць, зараз яна будзе думаць пра яго, пра тое, як ён намагаўся яе згвалтаваць, як рукі яго блукалі па яе грудзях, па целе... Ёй стала брыдка ад гэтага ўспаміну. Але радавалатолькі тое, што нягодніку доўга яшчэ крочыць па пыльнай дарозе да станцыі.

Алена зачыніла дзверы ў летнюю кухню, глянула на сабак, якія аддана глядзелі ёй у вочы, і пайшла ў хату яшчэ паляжаць да ранку ў цёплым ложку. “Шкада толькі, што адрас кіеўскі дала нягодніку. Яшчэ прыедзе калі туды...” – толькі падумала, адразу правалілася ў маладу дзявочы сон...

**8**

Узбуджаны дарожнымі прыгодамі, хлопец накіроўваўся да лесу, які трэба было прайсці па дарозе да чыгункі. З галавы не выходзіла: як гэта ён так адстаў ад цягніка. “Дзе мае рэчы, дзе Наталля? Як гэта я апынуўся ў невядомым месцы ля дзіўнага хутара?” – думаў Пятрук, адмерваючы па роснай траве і пылу дарогі сотню за сотняю метраў палявой дарогі.

Алена абяцала доўгую дарогу. “Эх, такую дзяўчыну не змог угаварыць, такая мадэль трапіла сярод поля! Не змог як след з ёю пацешыцца! “ Пятрук злаваў на сябе, на ўсё, што адбылося з ім апошнім часам. “Трэба ж яшчэ паспець на цягнік, каб даехаць да горада, да сваіх сяброў. А тут якраз не зыходзіла з вачэй Алена: прыгожая дзяўчына і, відаць, недурная. І ўсё толькі спачатку

таямніча ўсміхалася, быццам даўно яго ведала...

Праз лес Пятрук крочыў па пясчанай каляіне. Трымаў сябе насцярожана, бо не ведаў, дзе знаходзіцца, ды і ўвогуле пасля ўсяго, што здарылася з ім, нічому ўжо не верыў, з апаскаю чакаў яшчэ якой прыгоды. Прахалода лесу ўзбадзёрыла хлопца, і пакуль ён мінаў лес, то пачало паціху віднець. А ранішні туман слаўся за лесам над полем, за якім віднелася незнаёмая вёска, якую ён вырашыў мінуць па загуменні, каб ніхто не бачыў яго ў такі ранні час. За вёскай у полі ўжо хадзілі каровы з пастухом, а сонца сваімі праменнямі пачало прабіваць туман.

Прысутнасць чыгункі адчулася раптам: ці то па асобным гуку ці то па асаблівых пахах. А сонца ўжо смела пачало глядзець у вочы і нават прыграваць шчодра. І вады пара папіць, бо так ужо пражыць. Але спачатку трэба разабрацца: калі і ў які бок трэба ехаць? У кішэні завалялася адзіная паперка грошай, а ці хопіць яе на квіток да горада?

Пятрук пабачыў калодзеж непадалёк ад цаглянага, свежапафарбаванага будынка станцыі. Дастаў вядро вады, папіў, абмыў твар, абутак, пачысціў штаны і толькі тады пайшоў да станцыі. Людзей амаль не было вакол.

Ля касы ўгледзеў распарадак прыбыцця і адпраўлення цягнікоў. Добра, што паспеў на "свой" цягнік. Яшчэ паўгадзіны можна адпачыць. Ён заўважыў хлопца з роварам – той стаяў ля лаўкі і прыкурваў цыгарэту. Пятрук падыйшоў да хлопца, павітаўся і запытаў:

– Колькі будзе каштаваць білет да горада? А то ў мяне не вельмі грошай засталося пасля вяселля, баюся, што не хопіць!

Хлопец адказаў спачувальна:

– Ты лепш піва папі на тыя грошы, што засталіся, а білет... Можна і без яго, гэта як пашанцуе. Вунь крама ўжо адчыніласася. Калі хочаш, дык правяду, пакажу.

Было відаць, што незнаёмец таксама быў не супраць папіць зранку піва, бо няголены твар яго шмат пра што казаў... Ды і ўвогуле ён, відаць, некага чакаў з цягніка, бо ўжо каторы час бадзяўся з роварам на чыгуначнай плошчы.

Яны накіраваліся да крамы, якая размяшчалася крыху далей ад станцыі, у прыгожа адрамантаванай пабудове; відаць было, што свята дажынак у раённым цэнтры непадалёк недарма праходзіла: зачапіла сваім фінансаваннем і гэты прыстанцыйны пасёлак. Піва было шмат, Пятрук выбраў таннейшае.

Наталіўшы смагу, рушылі назад да чыгункі. Пару хвілін заставалася да электрычкі. Васіль, як назваўся мясцовы хлопец, правёў Петрука на перон, дзе знаходзілася яшчэ некалькі чалавек. Сонца добра ўжо прыгравала патыліцу, таму Пятрук хацеў як мага хутчэй апынуцца ў цягніку, каб крыху падрамаць. Прыгоды з учарашняга вечара прытамілі яго: патрэбны быў адпачынак. У вагоне хлопец адразу сеў на першую лаву за дзвярыма ля вакна і заплюшчыў вочы. Пад гукі колаў цягніка ён праваліўся ў сон, бы ў мяккую пуховую пасцель на ложку. Разбудзіў яго штуршок у плечы: мажная жанчына-кантралёр патрабавала паказаць квіток на праезд. У кішэні хлопца захаваўся ўчарашні, з якім ён сядаў на цягнік з Наталляю. Пятрук паказаў той квіток, дадаўшы, што ўчора адстаў ад цягніка, таму так вось здарылася. Кантралёр незадаволена глянула на паперку, на якой хвіліну затрымала погляд, і моўчкі пакрочыла далей. Насупраць Петрука сядзела маладая пара. Яны пераглянуліся, падняліся са сваіх месцаў і перайшлі на другую лаву ў глыб вагона.

"Во, ужо і людзі пачалі мяне баяцца! Няўжо так страшна выглядаю? "– падумаў хлопец, засынаючы. Так няўчасна яго пабудзіла жанчына-кантралёр, – не, каб прайсці міма, не чапаць чалавека, які спіць. З-за маленькай таннай паперкі трэба было так патурбаваць! Пятрук утульней уладкаваўся да акна, за якім праплывалі палі і дрэвы, вёскі і чыгуначныя слупы.

## 9

Французскія вершнікі пазлазілі з коней, павялі іх паіць да калодзежа, які блішчэў дубовымі бярвеннямі ў глыбі двара. Афіцэр жа застаўся ля Андрэя і, пагладжваючы свае шыкоўныя вусы, загаварыў. У яго быў добры настрой, таму француз аж свяціўся, быццам і не было вайны.

– У мяне да цябе дзве справы ёсць. Ты мяне ўжо крыху ведаеш, бо не першы раз да цябе прыязджаю. З табою можна мець справу: ты чалавек сумленны, гаспадарлівы. Калі і надалей будзеш так сябе трымаць, то я дам неблагія грошы. Ты ведаеш, што я іх не шкадую. Праз тыдзень мне спатрэбіцца моцны воз і некалькі колаў. Ты зрабі, падрыхтуй, я потым прыеду сам, без суправаджальнікаў, а ты мне ў нечым дапаможаш. Тады пра ўсё скажу. Мы прыйшлі сюды са сваім імператарам надоўга, таму прывыкай да нас і любі нас, а мы табе аддзячым за гэта. Зразумеў? А пакуль паказвай, што зрабіў.

Андрэй моўчкі выслухаў французскага афіцэра і павёў яго ў хлеўчык паказваць гатовы вазок, які дарабіў за апошнія дні. “І куды толькі ён іх адпраўляе”? – падумаў вясковец, задаволены тым, што зноў перападуць грошы за работу. – “Але нешта француз задумаў хітрае, калі так падбіраецца пад мяне, у нечым яшчэ я яму патрэбны,” – думалася Андрэю, пакуль афіцэр разглядваў новы вазок. “Грошай у яго хапае, не шкадуе для мяне. Ды і паводзіць сябе прыстойна для вайскоўца. Адным словам, пашанцавала мне з гэтым французам”. – Андрэй ніяк не мог супакоіцца ад усіх гэтых навін і слоў афіцэра. Ён ведаў, што ўсё добрае некалі канчаецца, таму думаў перш пра дабрабыт сям’і.

Вайна не закранула вёску Літвінкі сваім крывава-вогненным крылом, але войскі французаў праходзілі па двух трактах у адзін бок вёскі і ў другі. Толькі раз-пораз сюды заглядалі асобныя вайскоўцы-разведчыкі: пашукаць якога фуражу ці, як гэты афіцэр, па сваіх справах. Гэта ўжо пазней, калі французская армія будзе бегчы назад, за вёскай на пагорку спешна пахаваюць забітых вайскоўцаў. А так Літвінкі апынуліся ў баку ад ваенных сутыкненняў, таму ліха абмінула... Напэўна, і навакольныя балаты дапамаглі: да вёскі былі наладжаны толькі праезды для фурманак...

## 10

Гадзіны дзве праспаўшы на лаўцы ў вагоне цягніка, Пятрук стаў адчуваць сябе лепш, але пасля сну ў саломе сярод поля ён быў нейкі памяты, як пажаваны каравай. Яму хутчэй хацелася трапіць да сябра Віктара, які жыў непадалёк ад вакзала. Памыцца, пагаліцца трэба было ў першую чаргу. Да горада ўжо было недалёка, таму ён думаў пра Наталлю, пра свае рэчы, якія заставаліся з ёю ў вагоне. “Ці даехала яна? – гэтая думка не пакідала яго ўвесь час. – Ці не выйшла з вагона на якім прыпынку, каб вярнуцца назад?”

...Петрука сустрэла маці сябра Вольга Міхайлаўна – жанчына з прыемным вясёлым тварам, але з трывогаю ў вачах. Яна ведала пра дарожнае здарэнне, таму для яе прыход хлопца быў нечакана-чаканым.

– Што здарылася з табою? Ці ўсё добра? – першае, што яна спытала, павітаўшыся, устрывожаным голасам прапанавала прайсці ў пакой. – Віця пайшоў з Наталляю да хлопцаў. Яны не ведаюць, што рабіць. Сказалі, што да абеду будуць чакаць цябе, а потым ... Жанчына не дагаварыла і павяла хлопца ў сынаў пакой, дзе пераначавала Наталля. Петрукова сумка стаяла на падлозе, побач на крэсле вісеў ягоны пінжак. Адлягло ад сэрца. Усё на месцы.

Пятрук пад пільнай увагай Вольгі Міхайлаўны прывёў сябе ў належны стан, паснедаў і стаў чакаць сяброў з Наталляю. У сумцы заставалася ўсё так, як было пакладзена, таму сустрэчу з сябрамі трэба будзе адзначыць тою бутэлькаю гарэлкі, што дачакалася яго ў

гэтым горадзе ўжо без лішніх прыгод.

Госць крыху задрамаў у крэсле пасля ежы, калі праз сон пачуў галасы сяброў, якія заходзілі ў кватэру. “Слава Богу, што ўсе на месцы!” – падумаў ён...

## 11

Алесь імгненна расплюшчыў вочы. Ён пабачыў перад сабою светлую пляму: святло роўна струменілася аднекуль знізу, а абалонка нібы трымала яго далоні нейкім магнітам ці клеем. Ад нечаканасці Алесь тузануў рукамі і раптам пачаў апускацца ў ваду, у тое святло, што струменілася знізу. Ён зразумеў, што трапіў у нейкія незвычайныя абставіны, у нейкую пастку... Такога ніколі тут не адбывалася, ніколі не прадбачылася і не павінна было здарацца. Хлопец трапіў быццам у шырокі светлы калодзеж, у які павольна апускаўся ўсё глыбей, нібы пушынка ў ціхім паветры...

Сцены “калодзежа” былі амаль гладкія, на іх паверхні праступалі малюнкі з невядомымі яму раслінамі, з пабудовамі, краявідамі. Алесь раптам нібыта апынуўся ў нямым кіно: ён бачыў дзіўныя рэчы, але быццам праз сон... Алесь быў толькі назіральнікам усяго таго, што праплывала перад яго вачыма ў гэтым глыбокім і светлым калодзежы. А праплывала маляўнічая гісторыя роднага краю, гісторыя жыцця тутэйшых людзей... Ён нават не паспеў падумаць пра Міколу, пра дзяўчат, якія засталіся на беразе Кругана. Для яго ўсё засталося недзе далёка-далёка. Алесь знаходзіўся быццам пад нейкім гіпнозам: у такім стане можна толькі за ўсім назіраць, а ўдзельнічаць у падзеях яму НЕШТА не дазваляла. Думаць пра тое, дзе ён знаходзіцца, было марнай справаю.

Таму хлопец толькі і рабіў, што насцярожана, з трывогаю ў сэрцы разглядаў малюнкі на сценах калодзежа і чакаў, што адбудзецца далей з ім. Страху ён амаль не адчуваў.



Алесь апускаўся ўсё глыбей і глыбей, пакуль раптам не апынуўся перад вялікім партрэтам сваёй маці-нябожчыцы: ён быў на ўсю вялікую сцяну калодзежа. Чыстыя колеры фарбаў высвечваліся ў пэўнай адлегласці ад Алеся. Рысы маці пачалі нібы ажываць і крыху рухацца, на твары з’явілася лёгкая прыемная ўсмешка. Ён раптам адчуў, што зноў пачаў правальвацца. Яго крыху закружыла і панесла хутчэй – так, што неўпрыкмет Алесь страціў прытомнасць.

## 12

Алена задрамала і праспала нейкія тры гадзіны, пакуль яе не паклікала бабуля Ганна. Прачынацца не хацелася пасля такой дзіўнай ночы, сярод якой пастукаў у шыбіну нейкі прыблудны незнаёмец. “І адкуль толькі яго занесла сюды? Ці верыць таму, што ён гаварыў пра сябе? Але трымаўся спачатку прыстойна, нават не чапляўся з лішнімі словамі. Відаць, стомлены быў учарашняю выпіўкаю. Але потым... “

Дзяўчыне непрыемна было ўспамінаць нечаканага госця. Трэба падымацца, бо сонца ўжо высока. А розныя думкі не пакідалі дзявочай галавы. Апошнім часам, калі сярод ночы прачыналася, то, здаралася, чула галасы за бабуліным хутарам у полі. Калі выглядвала ў акно, то бачыла маленькія агеньчыкі ліхтарыкаў: цёмныя постаці хадзілі па полі і нешта шукалі. Першы раз яна спалохалася і пабегла да бабулі... Але тая спакойна патлумачыла:

– То ў нас тут завяліся ўжо даўно мясцовыя ды прыезжыя капачы, ну тыя, хто ў зямлі грабецца, бы курыца, адшукваючы пакінутыя продкамі металічныя рэчы. А хутчэй за ўсё золата шукаюць, бо соваюцца толькі начамі, каб ніхто не бачыў. Але таго золата на ўсіх ніколі не хопіць, бо ніхто яго спецыяльна не пакідаў для гэтых маладых дурняў. Ды і дзе яго хто захаваў? Хадзілі чуткі раней пра багатага на золата вяскоўца, але

гэта даўно было. А ці праўда гэта, ці не, то паспрабуй даведайся.

Ды і навошта яно нам? Ты, Алена, не бойся, спі. У тых хлопцаў сваё жыццё, начное. Нам трэба выспацца і ранкам быць здаровымі... А хлопцы хай сабе шукаюць. Зямлі хапае ў наваколлі з “жалезам”. Не адна вайна сваім крылом зачапіла нашыя мясціны. Ох і хапіла гора людочкам, хапіла...

“Мо начны візіцёр адзін з тых капачоў? Хто іх ведае”, – думала Алена. Але за хатнімі справамі ўсё забывалася. І новы дзень нёс новыя дзявочыя клопаты...

...Мінуў год. Непрыметна для сябе Алена рабілася ўсё больш прывабнаю дзяўчынаю, на якую ўсё больш і больш звярталі ўвагу хлопцы. Але на першым месцы ў яе была вучоба, ды і бабулю Ганну не забывала: чакала наступнага лета, калі выпадзе зноў магчымасць адпачыць які месяц на яе хутары. Ды і той хлопец, што сярод ночы трапіў да іх, часцяком прыпамінаўся. Нейкае прадчуванне не пакідала яе, быццам бы наканавана была іх новая непрыемная сустрэча ў наступным годзе. Алена жыла чаканнем нечага незвычайнага. Такія былі яе дзявочыя думкі, мары, захапленні... і трывогі.

Новы прыезд нічым асаблівым не здзівіў Алену, хіба толькі тым, што бабуля паведаміла пра хлопца, што летась завітаў да іх уначы:

– Неяк трапіў на хутар хлопец, казаў, што прыходзіў раней да мяне, але я яго не запомніла тады, бо цёмна было, ды і хворая была крыху. А ён пытаў пра цябе, дык я сказала, што не ведаю, ці прыедзеш сёлета. То ён доўга не затрымаўся, папіў вады і пайшоў у бок вёскі. Казаў толькі, што вельмі вада нашая спадабалася яму яшчэ тады, летась. Але ён неяк падазрона выглядаў. Ты, Алена, калі яшчэ яго пабачыш, будзь асцярожнай. Хто яго ведае, хто ён такі і што тут робіць у нашых мясцінах. А так нічога новага няма. Вось старэю далей ды і ўсё.



Здароўя з гадамі не дабаўляецца. Дзякуй богу, што магу хадзіць і займацца хатнімі справамі сама яшчэ, без чужой дапамогі...

Бабуля выгаварылася ўнучцы і пайшла прылегчы на свой любімы ложак, які заўсёды здымаў ае стомленасць і боль з хворага цела. Стары драўляны ложак стаяў у кутку, дзе заўсёды прыемна ляжалася, нават Алена часам адпачывала там сярод дня ад летняй спякоты ці працы. У гэты раз дзяўчына дамовілася са стрыечнаю сястрою Тамараю пайсці да сажалкі Круган, што за вёскаю, пакупацца ды пазагараць пад сонцам. На тое і лета, на тое і канікулы...

## 13

Петруковы мары пра хуткае ўзбагачэнне не ажыццявіліся, але мэту на бліжэйшы час ён меў канкрэтную: адшукаць золата. Яно знаходзілася недзе паблізу вёскі, ля якой Пятрук праходзіў ранкам пасля той поўнай прыгод ночы. Мінуў ужо год, як хлопец пачаў новае жыццё: сябры, дапамаглі набыць два новыя металашукальнікі, “адукавалі” ў справах пошуку пакінутых продкамі рэчаў. Зямля, нашая карміліца, шмат яшчэ чаго трымае ў сваіх абдымках, трэба толькі ведаць месца і шукаць, дабірацца да захаваных скарбаў... Нават карты такія існуюць, дзе пазначаны месцы знаходак, месцы былых маёнткаў, багатых сядзіб. Але пакуль Петруку не да іх, бо ён добра ведае, што трапіў на след захаванага золата, якога павінна быць шмат. Мясціны, дзе ён выпадкова апынуўся, павінны быць багатыя на знаходкі, бо сама гісторыя краю кажа пра гэта. Тут і пушча кранала сваім крылом, пад якім што толькі не праходзіла ў мінулыя стагоддзі: і французскія войскі, і змагары за Бацькаўшчыну Кастуся Каліноўскага і Тадэвуша Касцюшкі, і войны з нямецкімі захопнікамі, і часы панскай Польшчы...

Ад сяброў Пятрук вярнуўся поўны новых мар і

планаў. Ён нікому пакуль не сказаў пра выпадкова падслуханую размову “капачоў”. Гэта было ягонаю тайнаю, шанцам хутка ўзбагаціцца. Але ён ужо ведаў, што трэба пасяляцца ў вёсцы, там можна на правах жыхара сноўдацца па наваколлі, абследаваць мясціны, патрэбныя для яго пошуку скарбаў. Таму ён наведаўся ў невялікую вёску непадалёк ад чыгункі з мэтаю набыць танны дамок. І калі Пятрук заглянуў у другую па ліку хату, дзверы адчыніла прыветлівая пажылая жанчына з кульбаю і, павітаўшыся, прапанавала прысесці. Па ўсім было відаць, што жыве яна адна, але ў хаце было прыбрана. І на пытанне пра куплю лецішча добразычліва адказала:

– Хат парожніх у вёсцы хапае. Хаця і некалькі новых калгас пабудаваў, якія ты бачыў, калі ішоў сюды. Гэта так званыя “прэзідэнцкія” дамы. Але ў іх шмат недаробак. Так людзі кажуць, якія перабраліся туды жыць. Нават платы не паставілі. Цяпер самім новым гаспадарам трэба ставіць. А хлеўчыкаў нармальных і ўвогуле няма. Так, нейкая хлеўчына, бы сабачая хатка.

Петруку не вельмі цікава было слухаць бабуліны аповеды пра вёску. Таму ён перапытаў пра куплю якой-небудзь таннай хаткі. Але Насця, так звалі старую жанчыну, бы недачуваючы, працягвала свой аповед:

– Нас ужо мала засталося, старых жыхароў, больш прыезджых. Але ёсць і такія, што наведваюцца ў свае старыя харомы, падтрымліваюць парадак, садзяць увесну бульбу або што іншае. А вось насупраць мяне за дарогай пустуе адна хата. Там ужо даўно ніхто не жыве, маладая гаспадыня прадасць яе за невялікія грошы. Яна мяне прасіла крыху прыглядваць, каб мясцовыя хлапчукі не нарабілі якой шкоды. А што хлапчукі, калі з раёна нядаўна ўначы прыязджалі машынаю нейкія прайдзісветы, дык пазабіралі новую цэглу, якая ад былых гаспадароў засталася. Так наш участковы міліцыянер казаў. Прыязджала маладая гаспадыня потым паглядзець, ды які толк: усё роўна не адшукалі тых злодзеяў... А месца гэтае прыгожае, старое. Тут у равах і сажалках рыба водзіцца, адпачываць добра...

...Петруку мясціна спадабалася. Ён нават і не падумаў, што можна трапіць у такую прыгажосць. Але самае галоўнае тое, што хаціна стаяла на краі вёскі сярод дрэў, кустоўя і выходзіла вокнамі ў бок поля, якое найбольш цікавіла хлопца. Акрамя таго, на тэрыторыі сядзібы знаходзіліся старадаўнія капаныя вадаёмы, збоку ад іх – глыбокі роў. Крыху далей размяшчалася невялікае балотца, направа ад якога была яшчэ адна яміна з вадою.

“Дык тут такое багацце, што ні ў якую Еўропу не трэба ехаць!”– падумаў узрадаваны Пятрук, агледзеўшы пакінутую сядзібу. “Тут толькі навесці патрэбны парадак – і можна наездамі жыць столькі, колькі патрабуе справа”.

Так Пятрук пасяліўся ў вёсцы, праз якую ў мінулым годзе ішоў да чыгункі з хутара бабулі Ганны...

Хата яго задаволіла, асабліва пасля таго, як з сяброўкаю Наталляю прывёз неабходныя рэчы, абсталяваў жыллё.

– А мне тут вельмі падабаецца, – сказала дзяўчына, калі ўсё было прыбрана і абсталявана...

Пятрук з Наталляю пасяліўся, здавалася, надоўга. Кожны дзень маладыя рабілі экскурсіі па наваколлі вёскі. Пятрук знаёміўся з мясцінамі, прывыкаў да жыхароў, прыглядваўся. Начамі, калі вёска заціхала, ён употай ад людзей выходзіў у поле з металашукальнікам. Ніхто не павінен быў дазнацца пра яго цікавасць да зямлі, да таго, што там схавана людзьмі і часам. Ён ужо добра ведаў пра ўсе навакольныя старыя могілкі, пра месцы, дзе былі хутары, дзе праходзілі вайскоўцы ў мінулыя стагоддзі. І тыя манеты розных часоў, металічныя рэчы, патроны, гільзы, якія Пятрук часам знаходзіў, сілкавалі яго цікавасць да пошукаў. Пятрук адчуваў, што знаходзіцца блізка ад жаданага скарбу, трэба толькі пэўны час. А тыя начныя “капачы”, што ледзьве не наступілі на яго ў саломе летась сярод поля, нешта не з’яўляліся, бо начамі не бачыў і здалёк нічыіх постацей, ды і ад сваіх сяброў

не чуў ніколі гаворкі пра тую вёску, у якой ён ужо добра ўладкаваўся. Але сустрэцца з тымі "капачамі" не было ніякага жадання: канкурэнты. Ды і дабром гэта магло не скончыцца.

Наталлі надоўга не хапала, каб пажыць з Петруком у вёсцы: дзяўчына сумавала па горадзе, па гарачай вадзе... Таму часцяком хлопец заставаўся адзін, а каб не так маркотна было, бавіў час з гарэлкаю. Ні з кім асабліва ён не падтрымліваў адносіны, бо не хацеў, каб раптам хто даведаўся пра сапраўдныя мэты яго знаходжання ў вёсцы. Але колькі не хавайся, усё роўна некалі тайнае становіцца яўным. Таму мо хто і здагадваўся, што хлопец не проста так прыехаў пажыць у вёсцы, а з нейкай мэтаю. І людзі ўжо пачалі гаварыць пра тое, што ён нешта шукае, бо шмат швэндаецца па наваколлі, але што тут знойдзеш, акрамя камянёў і вады. Так, "гарадскі" прыехаў ад нечага рабіць пабавіць час. Колькі іх зараз сноўдаецца па вёсках. Такі час настаў, што з горада едуць па розных прычынах, ды толькі не ад лепшага жыцця. Адны кватэры прапіваюць, другіх жонкі павыганялі, трэціх радня выселіла... А ў вёсках шмат апусцелых хат, дзе можна прытуліцца за смешныя грошы... Але ёсць, канечне, і такія, хто спецыяльна купляе хаты пад лецішчы і жыве прыстойна. Такіх прыкладаў шмат таксама.

Аднойчы пасля безвыніковых пошукаў Пятрук вырашыў праведаць бабулю Ганну на хутары за вёскай. Яго мучыла тое, што ён не адшукаў ніводнай залатой манеты. Думалася толькі пра скарб, а скарб не знаходзіўся. Начныя "капачы"-незнаёмцы недарма сноўдаліся непадалёк ад хутара бабулі. "Трэба абавязкова праведаць яе, параспытаць ды і заадно пра яе ўнучку пацікавіцца: прывабная дзяўчына яе ўнучка!" – так думалася хлопцу, так ужо яму хацелася неяк бліжэй дабрацца да скарбу, што вырашыў такім чынам неяк зрушыць застой у пошуку...



Старая корпалася ў гародчыку, калі Пятрук ступіў у двор хутара. Тыя ж сабакі сустрэлі хлопца ў двары. Цяпер ён завітаў сярод дня, калі ўсё мела зусім іншы выгляд, не той начны, змрочны. Яму адразу прыпомнілася хваляванне, з якім ён тады заходзіў на падворак, стукаў у шыбіну... Бабуля яго, канечне, не пазнала, але прыпомніла тое мінулагодняе здарэнне, упамянула пра ўнучку. Не забылася сказаць, што, пэўна, тая зноў прыедзе на які месяц, але крыху пазней. Старая запрасіла госця ў летнюю кухню, сама прысела крыху адпачыць. Слова за слова – і размова зачапілася за тэму, цікавую для Петрука. Ён пачуў ад старой тое, чаго чакаў:

– Я некалі чула ад сваёй маці, што жыў на краі вёскі адзін каваль, які спраўна рабіў вазы, колы ды іншыя рэчы, за што атрымліваў добрыя грошы. А калі ў тую даўнюю-даўнюю пару паблізу з'явіліся французы, то ён вельмі хутка разбагацеў, казалі, што шмат золата назбіраў ды потым недзе закапаў пасля нейкага здарэння. Ды дзе тое золата, то ніхто і не ведаў. Так і шмат часу прайшло, ды і ўсе паўміралі даўно, а каб хто адшукаў яго, дык не было чуваць...

Бабуля яшчэ нагадала пад настрой розныя гісторыі з вясковага жыцця ды зноў пачала збірацца на грады, успомніўшы пад канец размовы, дзе была зямля таго каваля-вяскоўца. Ёй усё роўна было, пра што гаварыць, бо век яе ўжо пражыты, толькі хацелася, каб сын з нучкай хутчэй прыехалі з Кіева...

## 14

Наступным разам, недзе праз тыдзень, французскі афіцэр нечакана наведаў каваля ўвечары. Сонца яшчэ чырванела на захадзе. Ён быў адзін, напэўна нездарма адважыўся такім чынам завітаць у глухую вёску паміж балот. Андрэй, як заўсёды, добразычліва сустрэў чужынца. На гэты раз француз меў нейкі заклапочаны выгляд, але трымаўся ўпэўнена, нават весела. Вясковец

пытанняў не задаваў, бо галава была занятая сваімі праблемамі.

Афіцэр пайшоў да кузні, як быццам толькі што адтуль выходзіў па нешта патрэбнае. На той час на двары якраз нікога не было, то Андрэй , агледзеўшыся, паспяшаўся за французам.

– Слухай, каваль, мне вось што патрэбна як мага хутчэй: сярэдніх памераў скрыню, ды такую, каб была добра акаваная жалезам, з моцнага дрэва. Ты ўжо паспяшайся, папрацуй, як заўсёды: старанна і акуратна. – Афіцэр, сказаўшы ўсё, маленькаю хусцінкаю выцер узмакрэлы твар. Ён сціхнуў на некаторы час, гледзячы на вяскоўца, чакаючы адказу. Каваль кіўнуў у знак згоды. Француз з кожным прыездам здзіўляў яго ўсё больш і больш. Андрэй ужо чакаў насцярожана, чым гэтыя адносіны ў рэшце рэшт скончацца: ці гэтая вайна яшчэ доўга будзе працягвацца недзе ў свеце, а сюды будзе толькі прыязджаць гэты француз з вершнікамі? Яму рабілася страшна за тыя зробленыя грошы, якіх ужо назбіралася шмат. Андрэй хваляваўся, бо зарабіць іх атрымлівалася лягчэй, чым захаваць у такі неспакойны час. Каваль баяўся, каб тыя грошы не адабралі...

– Праз некалькі дзён прыеду. Чакай і не здзіўляйся, бо гэта яшчэ не ўсё, што мне патрэбна ад цябе. Падумай пра тое, як будзеш жыць далей. Калі не падвядзеш мяне, будзеш слухаць і рабіць тое, што я буду казаць, то ў тваёй сям'і будзе дастатак. І ніхто ніколі не пакрыўдзіць вас, пакуль я буду жывы.

Андрэй згодна кіўнуў галавою і адказаў, гледзячы ў вочы французу:

– Усё, што тут робіцца і гаворыцца, застанецца толькі паміж намі. Нікому ні слова, ні гуку. Цяпер, калі я з вамі ўжо столькі супрацоўнічаю, то мне іншай дарогі ўжо і не шукаць. Усё зраблю для вас, што толькі змагу.

Кавалю стала нават горача ад сваіх слоў, і ён глянуў у двор: ці не чуў яго хто. Але нікога не было, толькі некалькі курыц квахталі за хлеўчыкам, займаючыся сваёю звычайнаю справаю.

– І яшчэ.. – прадоўжыў афіцэр, выразна гледзячы на каваля, – Падумай, дзе можна зрабіць схovішча для невялікіх рэчаў. Такое, дзе можна выкапаць яму, але не ў балоце, вядома, – нечакана ўсміхнуўся ён і выйшаў з кузні.

## 15

Тамара, дваццацітрохгадовая дзяўчына, таксама была на канікулах, але толькі не ў бабулі, як Алена, а ў сваіх бацькоў, якія працавалі на калгаснай ферме: дагледалі цялят. І Тамара не цуралася работы па гаспадарцы, бо з малых гадоў была звыклая да вясковага жыцця. Іначай яна і не ўспрымала жыццё ўвогуле... Яна была высокаю і стройнаю, прывабнаю ва ўсіх адносінах дзяўчынаю, ведала сабе цану і свой вольны час на абы-што не марнавала. Чытала кніжкі, любіла прагуляцца па наваколлі, у летні спякотны час хадзіла з кім-небудзь да вады ў Круган. Там было ўтульнае месца пасярод поля, якое апошнія гады зарасло маладымі соснамі і бярозкамі. А калі да бабулі на хутар прыехала стрыечная сястра Алена, Тамара ўжо мела з кім пайсці пакупацца ці пазагараць пад пяшчотным сонцам. Так і на гэты раз дзяўчына чакала сваю сястру-сяброўку, бо розніца паміж імі ва ўзросце была толькі год.

Пасля абеду, калі ў наваколлі ўсё жывое заціхала, прыходзіла адчуванне вечнага спакою. У вялікую спякоту, калі сонца стаяла над галавою, вяскоўцы стараліся не працаваць, калі на тое не было вялікай патрэбы. Управіўшыся па гаспадарцы, паабедаўшы, можна было крыху адпачыць. У такі вось час і завітала Алена да радні. У цені яблынь на падворку яна павіталася з дзядзькам Іванам і цёткаю Марыяй, а пакуль Тамара збіралася, пагутарыла пра тое-сёе , бо і часу асабліва не было ў старэйшых. Усё клопаты, клопаты ды клопаты...

Прыхапіўшы дамотканае радно, ручнічок і любімую

кніжку, Тамара выйшла з хаты, усміхнуўшыся сястры і бацькам, бы адорваючы іх сваім добрым летнім настроем.

– Ну то пайшлі, сястрычка, пакуль не перадумалі! – звярнулася яна звонкагалоса да Алены і рушыла з прыступак у бок вуліцы.

... Вада ў Кругане нібы тонкае шкло, толькі блакітнае неба адбівалася яскрава на яго паверхні. Не хацелася нават парушаць спакой, цішыню, у якой толькі цыкады стваралі своеасаблівы фон гэтага летняга дня. Дзяўчаты паслалі радно, паскідалі лёгкую адзежу і засталіся ў сваіх бікіні, як мадэлі на конкурсе прыгажунь, бо і насамрэч яны былі прыгажунямі, якімі ў гэты час і не было каму палюбавацца. А ўвогуле месца для адпачынку было цудоўнае, бо ад поля густой сцяною стаялі дрэвы, у цені якіх і прыпыніліся дзяўчаты. З боку дарогі іх амаль і не было відаць за высокай травою, якую тут яшчэ ніхто і не касіў.

Дзяўчаты ляглі на сваё радно галовамі да вады, да сцежкі, што вяла да Кругана. Так можна было пабачыць таго, хто раптам завітае сюды, хаця асабліва не было каму ў вёсцы і прыходзіць да воднай прахалоды.

– Як добра так паляжаць, падрамаць у цені. Ні пра што каб не думаць, толькі глядзець у неба на сінечу, на лёгкія аблокі, – павяла гаворку Алена. – Так добра адчуваць сябе крупінкай сусвету, рухацца ўслед за аблачынамі над роднымі мясцінамі, слухаць пераазвоны жаўрука, цоканне конікаў у траве. І не патрэбныя ў гэты час ні Кіеў, ні Брэст, ні Драгічын... І нават хлопцы не патрэбныя, – весела засмяялася Алена, штурхнуўшы ў бок Тамару, якая ўжо пільна ўглядалася ў старонкі кніжкі.

– Пачакай, дачытаю старонку, – адгукнулася тая, нібы пякла яечню на патэльні. – Так, вельмі добра тут адпачыць ад штодзённых клопатаў, паляжаць, памарыць, паслухаць галасы прыроды... Тым больш што за гэтымі маладымі бярозкамі і соснамі – месца вечнага спакою нашых продкаў. Але ніхто і не ведае, калі апошні раз там хавалі нябожчыкаў, нават дзед Ціхан. Бачыш, наколькі старыя гэтыя могілкі, наколькі даўняе наша паселішча. Яшчэ казалі старыя людзі, што на месцы гэтага вадаёма стаяла калісьці царква, ды праваліліся... Але наколькі гэта праўда, хто яго ведае. Дакладных звестак няма, толькі паданні. А іх шмат з нашымі мясцінамі звязана, бо і войны тут праходзілі, і паўстанні адбываліся, і ўвогуле жылі цікавыя людзі ў наваколлі. Так што бачыш, колькі я табе нагаварыла, толькі запамінай! – Тамара засмяялася.

– Не баішся тут ляжаць на гістарычна страшным месцы? Не хвалюйся, толькі птушкі і конікі могуць патрывожыць нас тут у гэты спякотны час! Праўда, хлопцы расказвалі, што, як праляталі ў "кукурузніку" над Кругананом, бачылі ў вадзе адбіткі купалоў з крыжамі. Зразумела, да чаго я ўсё гэта гавару, чаму прыпомніла тую гаворку?! Не надта ўсё і проста з тымі паданнямі, што перадаюцца ад людзей пра нашыя мясціны... Але ты не хвалюйся, адпачывай тут смела! Па тэлеку яшчэ не тое паказваюць, сама ведаеш. А нашыя ціхія мясціны хіба толькі нехта прыезджы патрывожыць ці "новы беларус" – тыя людзі, якім ужо ў горадзе няма чаго рабіць, дзе яны нікому не патрэбныя. Вось напачатку лета тут пасяліўся адзін малады хлопец з кабетаю сваёй, сяброўкаю. Туляецца часам па наваколлі. Відаць, што грошы ёсць, і таму бавіць час як хоча. А яшчэ прыязджае малады мужчына на былую сядзібу сваіх бацькоў: прыбірае падворак, падтрымлівае парадак. Ды і ён не адзін такі: ёсць і яшчэ некалькі нашых, што прыязджаюць па патрэбах, але гэта ўсё гаспадарлівыя людзі...

**16**

Мікола не заўважыў, як раптам стала ціха, як недзе прапаў Алесь, што пайшоў акунуцца ў ваду. "Дзе гэта

ён прытаіўся? Мо дзе схаваўся, як у дзяцінстве? – думкі пачалі непакоіць настойліва і трывожна. – Столькі знаходзіцца пад вадою яму б кісларoду не хапіла, ды і не рака гэта з праточнаю вадою!” – турбаваўся Мікола... Ён нібыта крыху задрамаў на поплаве пад сонцам пасля таго, як Алесь пайшоў да вады, ці яму толькі прымроілася? Мікола прыўзняўся з месца і пачаў углядацца ў наваколле. На другім беразе Кругана ляжалі прыгожыя дзяўчаты, адну з якіх ён знаў: гэта была Тамара, дачка Івана Сарокі. Алеся побач з імі не было відаць. Мікола нетаропка накіраваўся ў бок дзяўчат з надзеяй на тое, што Алесь з’явіцца адтуль, куды зайшоў па сваёй патрэбе. Абыйшоўшы люстра вады з правага боку, Мікола апынуўся побач з дзяўчатамі.

– Ну што, прыгажуні, дзе майго сябра схавалі? – жартаўліва запытаў ён, павітаўшыся прыветліва. – Нешта прапаў з вачэй пасля таго як паплыў у ваш бок некалькі хвілін таму. А я, бачыць бог, задрамаў быццам на хвілінку і не заўважыў, што было далей.

– Не, не падыходзіў ваш сябра да нас увогуле, але мы бачылі, як ён даў нырца. Ды толькі потым вялі далей сваю гаворку і не звярнулі ўвагу на тое, куды ён паплыў ці дзе вылез з вады і куды пайшоў. Ды ўвогуле, куды ён можа адсюль збегчы без адзежы?! – весела загаманіла Тамара, узрадаваўшыся ад таго, што падышоў да іх малады прывабны мужчына – аднавяскoвец Мікола... – Прысядзьце побач, пагаварыце з намі, а то мы тут з Аленаю, як дзве птушкі на галіначцы. Ніхто і не падыдзе, і не падляціць з чым добрым... – Тамара засмяялася прыветліва-шчыра.

Мікола, глянуўшы на берагі сажалкі, прысеў побач з дзяўчатамі, пазіраючы на паверхню вады, якая спакойна адбівала блакіт неба і белыя аблачыны.

– А я бачыла, як ваш сябар даў нырца, а потым вада крыху скаланулася, быццам там зачапілі нешта на дне, але не звярнула на тое ўвагі. Мо што здарылася з вашым сябрам, – з трывогай адазвалася раптам Алена, якая да таго часу моўчкі слухала размову сяброўкі з аднавяскоўцам. – Трэба лезці ў ваду, шукаць чалавека. Я пайду дам пару разоў нырца. Я добра плаваю, і не баюся зусім вады...

Алена прыўзнялася з посцілкі, папраўіла на клубах жоўтыя трусікі свайго купальнага гардэроба і пайшла да вады, прыгожа адбіваючыся целам у цёплай паверхні.

“Прыгожая дзяўчына,” – падумаў Мікола. Яму ўжо стала трывожна ад таго, што так доўга не з’яўляецца Алесь.

А Алена зайшла да кален у ваду, памацала яе далонямі, крыху пырснула на сваё прыгожае стройнае цела і, узняўшы ўверх рукі, дала моцнага нырца. Вада мякка разышлася і прыняла ў свае абдымкі маладую дзяўчыну, нібы рыбіну... Але праз якую хвіліну на паверхні вады з’явіліся вялікія бурбалкі і ўсё заціхла, нават, здаецца, і птушкі перасталі падаваць галасы ў кустоўі побач. Хвіліны ляцелі, але Алена не вынырвала з вады...

**17**

“О, якая цудоўная вада!” – падумала Алена, ступіўшы ў Круган некалькі крокаў. Прыпынілася, паспрабавала далонямі ваду і, адштурхнуўшыся нагамі ад дна, дала нырца. Яе пальцы раптам уперліся ў нешта пругка-падатлівае, падобнае на гумовы шар. Алена паспела заўважыць нейкае святло, што біла знізу, і ў гэты момант адчула, што яе цягне ўглыб нейкая сіла.

“Што гэта? – спалохана падумала дзяўчына і на нейкі час страціла прытомнасць.

Па целе прайшла прыемная цёплая хваля ці то вады, ці то паветра. Алена нібы прачыналася сярод ночы ў бабулінай пасцелі і не магла зразумець: яна сніць нешта прыемнае ці ўжо пачынаецца летні ранак...

Алена паступова прыходзіла ў прытомнасць і пачынала разумець, што знаходзіцца ў нейкіх незвычайных абставінах, бо такое прыемнае адчуванне

ўпершыню авалодала ёю, хіба толькі ў сне часам бывалі крыху падобныя па перажываннях моманты. Але тады яна сніла прыгожага хлопца, якога кахала: незвычайнага моцнага прынца. У ягоных абдымках Алена адчувала сябе як на нябёсах, пачуццё асалоды незвычайных хваль у целе засталося ў дзявочай памяці.

Дзяўчына нібы плыла ў нейкай беспаветранай прасторы сярод каляровага туману і святла. Яе рухі былі павольныя, але прыпыніцца ці за нешта ўхапіцца не атрымлівалася з той прычыны, што яе несла ў нейкім віры і яна сама не магла кантраляваць свае рухі. Яна цалкам залежала ад нечага, ад таго, у чыім палоне аказалася. Рабілася страшна, але нешта не дазваляла ёй увайсці ў стрэсавы стан, бо было такое адчуванне, што ўсё будзе добра...

Прыпаміналася Чорнае мора, куды яна два разы ездзіла з бацькамі. Вось цяпер такая ж асалода, як ад прыемных хваль. Перад вачыма праплывалі краявіды прыгожых мясцін, птушкі і звяркі, але ўсё як быццам было намалявана, бо занадта прыгожым падалося і незвычайным.

“А дзе ж Тамара? – падумала Алена. – Дзе Круган, дзе хлопцы? Ды і ўвогуле: што адбываецца з усімі намі?” Пытанні прыходзілі і блыталіся ў галаве Алены, як ногі ў чароце ля вады.

Дзяўчыну несла ў незвычайнай светлай прасторы, нібы ў сонечнай трубе, з якой не было ніякай магчымасці вырвацца. Тое, што праплывала перад вачыма, усё больш і больш здзіўляла яе. Адзінае, што ўсвядоміла Алена, дык гэта тое, што яна некаму патрэбная, бо не захлынулася ў вадзе, не ляжыць на дне Кругана, што яе некуды дастаўляюць невядомыя абставіны. Яе хвалявала чамусьці толькі тое, што яна амаль голая, што няма побач Тамары, што недзе засталася бабуля... Думкі раптам прыпыніліся. Алена адчула нябачную заслонку, ля якой прыпыніла рух. Цяпло, якое дагэтуль яе ахутвала, пачало мяняцца на лёгкую прахалоду. Яна



адчувала, што пачынае засынаць і некуды правальвацца ў цемру. “Дык гэта ўсё сон!” – толькі і паспела падумаць дзяўчына, і ўсё раптам пагасла і прапала...

**18**

Пасля вячэры каваль Андрэй Ламака выйшаў на падворак паглядзець, ці замкнуў дзверы ў кузню. Жонка Ефрасіння на той час пайшла з дачкою і сынам да цёткі. У наваколлі настала такая вечаровая цішыня, што было чуваць, як лёгкі ветрык кранае калодзеж. Андрэй крыху пасноўдаўся па двары, па-гаспадарску агледзеў, што дзе ляжыць, пакуль не пачуў за хатаю прыглушаныя галасы людзей і рып колаў па пяску.

“Французы! Зноў афіцэр з падначаленымі!” – падумаў каваль, а тыя паварочвалі ўжо ў двор з падводаю, якая цяжка рыпела ад вялікай вагі.

“Прывітанне, гаспадар! Добра, што ты на месцы. Менш клопату. Прымай гасцей, але спачатку напаі нас сваёю смачнаю вадою з дубовага калодзежа!” – задаволена адным духам вымавіў афіцэр... Але выгляд ягоны быў стомлены. Відаць, недасыпаў апошнія ночы і шмат быў у дарозе.

Пакуль салдаты пілі ваду (а было іх двое), паілі сваіх коней, афіцэр адвёў гаспадара бліжэй да кузні і пачаў сваю даўно прыгатаваную размову:

– Андрэй, мы з табой добра пасупрацоўнічалі, за што вялікі дзякуй. Але я прасіў яшчэ цябе прыгледзець надзейнае сухое месца дзе за вёскаю. Вось я і прыехаў з салдатамі, каб ты адвёў мяне туды з возам. Салдаты застануцца на тваім двары адпачываць, а мы з табою паедзем, як толькі пачне змяркацца. Трэба будзе закапаць тое, што мы прывезлі. Ды так замаскіраваць, каб ніхто, акрамя нас дваіх, не ведаў пра гэта, – афіцэр гаварыў кавалю і адначасова паглядаў на воз, які стаяў пасярод двара, накрыты нейкаю шэраю тканінаю так, што не было відаць паклажы.

Каваль ужо прыгледзеў за вёскаю невялікае месца з дубамі ды кустамі побач. Ніхто асабліва туды не хадзіў, толькі дзеці бавілі там свой час у гульнях. Але дубы раслі на некаторым узвышшы. Гэта было якраз тое, што і трэба...

Калі вярнулася жонка з дачкою і сынам, каваль хуценька адправіў іх у хату, зайшоў сам і загадаў класціся спаць, нікога не баяцца. Сам жа пайшоў на падворак да афіцэра, які ўжо нецярпліва чакаў яго ля воза.

Андрэй узяў рыдлёўкі, сякеру і вяроўчыну – усё, што было патрэбна для працы ля дубоў. Ён разумеў, што француз будзе хаваць свой скарб без лішніх сведак, таму не здзівіўся, калі салдаты засталіся ў двары спачываць ля хлява на траве, падаслаўшы сёдлы пад свае бакі.

Ужо было цёмна, калі каваль з афіцэрам рушылі амаль нячутна з двара. Конь паціху цягнуў цяжкі воз. “Шмат дабра прыпас француз!” – падумаў каваль, спакойна ступаючы побач з канём. Вёска ўжо спала.

Андрэй добра сагрэўся, успацеў, пакуль выкапаў патрэбную яму. Зямлю кідаў на разасланы кавалак тканіны, каб не было ніякіх слядоў. Афіцэр праверыў глыбіню,згадзіўся. Калі ўжо Андрэй засыпаў яміну, то акуратна паклаў дзёран зверху, прытаптаў, закідаў сухою травою, разгладзіў рукамі. Ніводная галіна побач не была зламаная, ніводзін карэньчык не валяўся побач. А калі ўжо ад’язджалі ад дубоў, то каваль прычапіў галіну ззаду да воза, каб яна замятала след ад колаў. Усё прадумаў Андрэй, бо ў душы баяўся за ўсё гэта, не ведаў, як яно ўсё скончыцца. Ён ведаў толькі адно: за сваю працу атрымае немалыя грошы. І гэта цешыла яго, бо з грашыма ён заўсёды будзе чалавекам.

Француз нібы прачытаў думкі каваля, бо крануў яго за плячо і ціха вымавіў:

– Андрэй, за тваю працу я даю табе торбу золата. Яно тваё. Сам ведаеш, як яго выкарыстаць. А наш угавор помніш. Маўчанне – золата. Пра гэты тайнік будзе ведаць яшчэ мой малодшы брат. І калі я не змагу некалі вярнуцца, то мой брат абавязкова прыедзе па схаванае і забярэ. Ты толькі будзь разумны і жыві правільна.

Андрэю спадабалася з самага пачатку, як французскі афіцэр ставіўся да яго, вясковага каваля, таму ён ужо даўно вырашыў, што будзе ва ўсім слухаць француза і ніколі не здрадзіць яму, бо такіх грошай, якія даў афіцэр за працу, ніколі яго сям’я не пабачыла б. Нават уся вёска не зарабіла б тых грошай. Андрэй на ўсё згадзіўся, бо ведаў, што француз – не просты афіцэр, што ён мае асаблівае становішча ў арміі Напалеона-захопніка. А што будзе далей, то час пакажа.

У двор ужо возам не заязджалі. Француз паклікаў сваіх суайчыннікаў, нешта коратка ім сказаў і падышоў да каваля.

– Я не хутка, напэўна, да цябе цяпер заеду, бо адпраўлюся далей на ўсход. А як там усё адбудзецца, я не ведаю. Жыві шчасліва з сям’ёю і ведай, што я за цябе буду маліцца кожны дзень. А ты таксама маліся за сябе, за жонку і дзяцей. Маліся, і ўсё будзе добра... І чакай...

З гэтымі словамі француз рушыў ад хаты каваля і знік у цемры ночы разам са сваімі суайчыннікамі. А каваль прайшоўся па двары, зазірнуў у свае пабудовы, у кузню – усё праверыў і толькі потым рушыў да дзвярэй у хату, калі раптам пачуў два стрэлы далёка за вёскаю ў бок Ківатыч. Каваль здрыгануўся, нібы стрэлы прагучалі побач, прыпыніўся і падумаў:”Ці то афіцэра застрэлілі салдаты, ці то француз застрэліў іх як непатрэбных сведак”.

Сон не ішоў. Таму, калі пачало віднець, Андрэй падняўся і рушыў па дарозе ў бок Ківатыч нібыта да кума па сваіх кавальскіх справах...

## 19

Пасля візіту да бабкі Ганны на хутар Пятрук інтуітыўна адчуваў: золата каваля ёсць, яно недзе побач, бо нікому і ў галаву не прыйшла думка адшукаць яго, бо не было да

гэтай пары такога прыстасавання, як металашукальнік. Хлопец з’ездзіў дадому ў горад, на апошнюю “заначку” набыў дарагі, моцны металашукальнік, дарэчы, ужо не першы ў сваёй калекцыі.

Трэці дзень Пятрук нікуды не выходзіў на пошукі. Ён вырашыў крыху навесці парадак на сваёй сядзібе. Добрае летняе надвор’е дазваляла прыемна адчуваць сябе на падворку. А калі ўжо стамляўся, то ён ішоў купацца. І ўвогуле ён вырашыў добра праверыць з металашукальнікам свой падворак. Тэрыторыя сядзібы не давала яму спакою сваёй таямніцаю знаходжання і паходжання: было ў ёй нешта незвычайнае, нешта заўсёды насцярожвала... Ад такога стану ратавала фізічная праца, але яму таксама не хапала дзяўчыны – Наталлі. І Пятрук злаваўся яшчэ і на яе, бо не захацела прыехаць з ім у вёску, скараціць яго цягучыя дні. У такія моманты ён успамінаў часцяком пра Алену, з якой выпадкова пазнаёміўся на хутары. Але і сустракацца з ёю было няёмка, бо паводзіў сябе тады па-хамску. Таму не ведаў, як яна будзе трымацца пры сустрэчы. У яго з галавы не выходзіў выгляд яе стройных ног, калі яна нахілілася ў летняй пабудове ля стала да лаўкі. Халацік палез раптам на спіну ад руху яе цела, і прыгожыя загарэлыя ногі агаліліся перад ім амаль да спіны, і белыя яе трусікі так разанулі па вачах, так у ім ірванула кроў, што ён не ўтрымаўся і палез туды сваёй бруднаю рукою. За што і атрымаў аплявуху і, як кажуць, хуткі разлік... Але ўсякае становішча можна выправіць. Так думаў Пятрук, калі адпачываў ад працы і мроіў наконт Алены. Яе цёмныя валасы на плячах, яе зграбная фігура, яе грудзі стаялі перад яго вачыма, як у тую летнюю ноч. Шкада, што не ўтрымаўся тады, палез да яе... Цяпер лепей бы сябе адчуваў. Ды хопіць!

Пятрук вынес з хаты свой новы цяжкі металашукальнік, калі ў вёсцы заціхлі нават птушкі. “Усе адпачываюць пасля абеду. Ды і людзей не асабліва шмат тут. Ніхто і не пабачыць мяне з гэтай штуковінай,” – падумаў



хлопец і пачаў абследаваць спачатку двор. З паўгадзіны Пятрук настройваўся, пакуль не пачуў пісклявы сігнал. Нешта паміж домам і хлеўчыкам зазвінела. Успыхнуў спартыўны інтарэс. Калі лапата ўперлася ў нешта цвёрдае, хлопец вырашыў адпачыць, каб з новымі сіламі завяршыць гэтую справу. Але сэрца калацілася моцна ў грудзях, бо заўсёды ў такіх выпадках чакаў нечага незвычайнага.

Раскапаўшы добры кавалак зямлі, Пятрук убачыў перад сабою дубовыя бярвенні, якія шчыльна ляжалі ў зямлі адно ля другога. “А дзе ж метал?” – падумаў хлопец, расчараваны першай знаходкаю. Але крыху астыў і падумаў:”Гэта толькіпачатак! Гэта толькі пачатак!..” Але спярша дастаў пачак цыгарэт з кішэні джынсаў, закурыў, смачна зацягнуўшыся . Так ён крыху адпачыў, супакоіўся, гледзячы ў неба, дзе павольна плылі светлыя аблокі, нібы лісты ад каханай...

“Галоўнае цяпер не спяшацца!” – вырашыў Пятрук і, схаваўшы металашукальнік у хату, пачаў паціху раскопваць бярвенні... Надвор’е спрыяла. Пад сонечнымі промнямі весялей было займацца землянымі работамі, якія ён не вельмі любіў яшчэ з гадоў юнацтва, асабліва з армейскіх...

Абкапаўшы з правага боку адно бервяно, Пятрук прысеў перакурыць, аддыхацца... Хацелася піць. “Цяжка аднаму ўсё ж такі выкопваць гэтую знаходку,” – падумаў хлопец, паглядаючы на яму з бярвеннем, але сваю знаходку нікому не хацелася паказваць і давяраць: гэта не тое што соўгацца з металашукальнікам па полі...

– Што гэта ты тут капаеш?! – раптам пачуў з-за спіны Пятрук нечы жаночы голас. Ад нечаканасці нават губы апёк цыгарэтаю, бо яго роздум і адпачынак так нечакана нехта парушыў.

– Можа, надумаў хату новую будаваць? – працягвала Настася – а гэта была яна, –падыходзячы са сваім нязменным кійком да хлопца. Яна здалёк праз плот

пабачыла, што новы “вясковец” нешта капае ў сваім падворку, і вырашыла заглянуць, праведаць. Хадзіць ёй цяжкавата было са сваёю хваробаю, але яна ўжо звыклася да таго, што сагнула яе спіну да зямлі. Ад гэтага жанчына заўчасна ператварылася ў старую бабку. Муж яе памёр вельмі рана для свайго ўзросту. Дачка нічым асабліва не дапамагала, хаця і жыла ў суседняй вёсцы, вярнуўшыся са сваёю сям’ёю з горада, бо там не было як заставацца з малою зарплатаю. А трохпакаёвую кватэру здала.

– Прыбіральню будую новую! – непрыязна адказаў капач, павярнушы галаву на голас жанчыны. – Не падыходзь блізка, а то яшчэ правалішся, то і не выцягну цябе адтуль. Прыдзецца закопваць загадзя! – задаволены сваім гумарам, засмяяўся Пятрук. – Новае жыццё будую. Хутка нявеста прыедзе, трэба падрыхтаваць добрыя ўмовы для яе пражывання ў вашай вёсцы... – весела пачаў балабоніць Пятрук, паглядваючы на жанчыну.

– Лепш бы ты гэтыя равы пачысціў ад наляцелага ламачча, берагі абкасіў, прыбраў... Тут столькі раней рыбы было, так добра было бялізну паласкаць, ды і ўвогуле памыцца-пакупацца летам... Тут і птушкі лепей спяваюць... – Настася разгаварылася, прыпомніўшы свае маладыя гады, шчокі яе ад хвалявання паружавелі...

“ Напэўна старая крыху выпіла дома і зараз шукае прыгоды на сваю с....ку,” – зласліва падумаў хлопец, не ведаючы, як адагнаць яе ад сябе.

– Гарэлкі віп’еш са мною па пяць грам? – раптам запытаў Пятрук у Настасі і пільна паглядзеў на яе.

– Калі гарадская, то можна крыху для лекаў прыняць. Мо спіна мая выпрастаецца на якую хвіліну. – Настася разгаварылася і весела паправіла на галаве хустку, што крыху збілася на плечы.

Хлопец пайшоў да дзвярэй хаты. Старая паціху ступала за ім...

На стале чакалі непрыбраная закусь, адкаркаваны літровік з



гарэлкаю. Пятрук прапанаваў Настасі зэдлік, сам прысеў на лаву ля акна, наліваючы пітво ў невялікія кубачкі.

– Бяры, папраўляйся на здароўе! – вымавіў хлопец і глытнуў адным разам гарэлку. Жанчына паправіла хустку на галаве, глянула ў акно і толькі тады ўзяла кубачак, паспрабаваўшы спачатку гарэлку на смак, нібы правяраючы яе моц, а потым паціху выпіла, зморчыўшы твар, нібы першы раз піла такую. Але імгнена ўсміхнулася, як бы дзякуючы за пачастунак, узяла кавалачак аблупленага банана і паклала ў рот.

Доўга затрымлівацца ля стала Петруку было не даспадобы, а Настасі, пэўна, хацелася выгаварыцца, таму хлопец наліў яшчэ ў кубачкі і прапанаваў суседцы выпіць:

– Бяры, яшчэ па трыццаць грам кульнём, і пайду працаваць далей, бо час хутка бяжыць, трэба спяшацца нешта зрабіць.

– А ты не спяшайся, усё роўна знойдзеш тое, што шукаеш. Толькі глыбей капай ды ўшыр бяры больш. Тут спраўныя людзі жылі, – пасля іх, напэўна, у зямлі шмат чаго цікавага засталося! – жанчына выгаварыла хлопцу на адным дыханні, быццам праспявала куплет прыпеўкі. Твар яе чырванеў ад пачастунку, яна нібы памаладзела ад выпітай гарэлкі.

Але Пятрук падняўся з лавы, пацягнуўся і рушыў за дзверы на двор, левай рукой падштурхнуўшы Настасю. Жанчына паціху прыўзнялася, зразумеўшы, што трэба ісці. Пакульгваючы, яна пакрочыла да дзвярэй. Ёй ужо захацелася паляжаць, адпачыць пасля выпітай гарэлкі, якая прыемным цяплом разлілася па хворым целе. “А хлопец гэты гарадскі няхай корпаецца. Што яму застаецца рабіць? Капаўся адзін гаспадар тут calісьці, то і гэты новы малады хай пакапаецца. Мо нешта і зробіць, мо і будзе нейкі вынік”, – падумала Настася, ідучы ў бок сваёй хаты напрасткі па нябачнай сцяжынцы, па якой раз-пораз хадзіла па сваіх справах на загуменне.

– Ты толькі працуй, не лянуйся! Тут добрыя гаспадары

жылі раней. У іх і золата вадзілася; калі пашанцуе, мо што і адшукаеш. То і пра мяне тады ўспомні. Ты толькі працуй, не лянуйся, – дадала жанчына.

Пятрук выкурыў цыгарэту, дачакаўся, пакуль спіна суседкі знікла з вачэй, і рушыў нарэшце да сваёй ямы, бо яго даймаў нязвыклы сверб: што там за бярвеннем?

Амаль дзве гадзіны патраціў Пятрук, пакуль абкапаў, абвязаў вяроўчынай і паволі выцягнуў на падворак дубовае бярвенне. У шчыліне цямнела холадам вада. Хлопец аж сцепануўся ад яе выгляду, калі нахіліўся ніжэй, нібы нюхаючы старажытнасць. Другое бервяно далося лягчэй, таму ў калодзеж можна было ўжо і свабодна пралезці. Пасля невялікага адпачынку Пятрук вярнуўся туды, апусціўся асцярожна на слізкія бярвенні і пачаў пацыху правяраць глыбіню тычкай, якую прыхапіў ля сцяны хаты. Канец яе недзе пасярэдзіне ўперся ў нешта падатлівае і пругкае і крыху падняўся над вадою. Пятрук уздрыгнуў, узмакрэў. Яму здавалася, што там нешта ляжыць. А ў галаве пачалі пракручвацца розныя варыянты. Але не доўга думаючы ён рэзка штурхануў тычку ўглыб, моцна трымаючы яе правай рукой. І ў гэты момант нейкая сіла рванула яго ўніз. Пятрук апынуўся ў цемры калючай халоднай вады. Усё адбылося так імгненна і нечакана, што хлопец ачуўся, калі яго ўжо несла ў віры жоўта-зялёнага святла з вялікай хуткасцю...

**20**

За могілкамі, бліжэй да балота, ля алешніку Андрэй заўважыў месца нейкага прыпынку ці барацьбы. Было відаць, што тут пабывалі людзі. І прытым не так даўно: трава была прымятая, голле знізу алешын – абламанае. У Андрэя склалася такое ўражанне, быццам нехта спрабаваў зрабіць тут лёгкі будан для начлегу ці ад дажджу. Надта ўжо там наслядзілі людзі. Але, акрамя французаў, ніхто ўчора тут не праязджаў. Хіба толькі з боку Ківатыч заглядваў хто ў гэту глухамань.



Каваль, разгледзеўшыся, пацыху пачаў абследаваць падазронае месца, пакуль не натрапіў на кучу наламанага свежага галля ў густым кустоўі ля рова. Нешта ў грудзях Андрэя здрыганулася, і ад нядобрага прадчування закалацілася сэрца, бы параненая птушка. Страшна было падыходзіць, але абставіны вымушалі яго рабіць справу далей, бо ўсё тое, што яго звязвала з французскім афіцэрам, было асабістым сакрэтам, ды і ўвогуле...

Прыпыніўшыся ля ламачча, прыслухаўшыся да ранішняй цішыні, каваль пацыху адну за адной пачаў адцягваць галіны ўбок. Раптам ён пакрыўся халодным потам: у траве галавой уніз ляжала нерухомае цела французскага афіцэра. На спіне чырванелі дзве вялікія плямы. “Забілі!” – здрыгануўся Андрэй ад раптоўнай думкі. – Застрэлілі!” Стрэлы ён чуў, але што адбылося тут, Андрэй толькі здагадваўся. Стала страшна, бо ён ведаў ахвяру, а засталіся яшчэ тыя забойцы – салдаты. Яны ж ведаюць пра адносіны каваля з афіцэрам.

Андрэй паступова агледзеў цела забітага, перавярнуўшы яго на спіну. Побач нічога не пабачыў, таму пачаў абследаваць наваколле з мэтаю адшукаць нешта яшчэ, пакуль пад купінаю на беразе рова не натрапіў на звязанае ў тугі скрутак адзенне афіцэра. “Забітага раздзелі, абшукалі, а потым схавалі асобна!” – так думаў Андрэй, ведаючы ўжо, што трапіў, мякка кажучы, у непрыемнае становішча. Суцяшала толькі тое, што за ім ніхто не назірае. І пакуль была раніца, вырашыў каваль пахаваць нябожчыка. Таўсцейшым канцом адламанай галіны Андрэй рыў яму – магілу для забітага афіцэра, пакуль не пачала праступаць вада знізу. Накідаў тонкіх галінак на дол, паклаў нябожчыка, пакрыў яго разгладжаным адзеннем і закідаў нарэшце зямлёю. Зверху добра замаскіраваў магілу, каб ніхто раптам не трапіў, а галлё, што засталося, адсунуў убок, склаўшы ля групкі алешын.

Нарэшце ўсё было зроблена. Каваль крыху аддыхаўся і пайшоў да рова абмыць рукі і ногі. Задумаўся пра

чалавечы лёс. “Такое вось жыццё склалася ў афіцэра. Толькі набыў тое, што хацеў, як ужо ляжыць забіты і закапаны. А што са мною будзе, чаго мне чакаць ад жыцця? А што калі тыя салдаты з’явяцца і пачнуць дапытвацца пра золата? Што рабіць увогуле?” – розныя думкі не давалі спакою Андрэю. Цяпер ужо ад свайго лёсу нікуды не дзенешся, толькі няведама, чаго чакаць. А чакаць давядзецца кожны дзень, бо ў любы момант салдаты могуць вярнуцца ці брат афіцэра прыедзе. Застаецца адно: жыць як і раней. А што ўжо адбудзецца, таго не пазбегнуць. Толькі пацíху трэба прыглядваць за Дубком, дзе захаванае золата афіцэра. Раптам салдаты-забойцы падгледзелі, як яго закопвалі. З рознымі думкамі каваль вяртаўся да сваёй сям’і, да далейшага вясковага жыцця, у некалькіх кіламетрах ад якога працягвалася вайна французаў з рускімі...

**21**

Стаяла спякотная летняя цішыня. Здавалася, усё наўкол жыло прадчуваннем, што вось зараз нешта адбудзецца. Быў пасляабедзенны час, калі Алесь пацíху апрытомнеў. Ён лежаў на пясчаным беражку выспы галавою ад вады. “Дзе гэта я? І што здарылася са мною так нечакана? Ці гэта ўсё прыснілася, ці сапраўды нешта незычайнае адбылося?” – думаў малады мужчына. Пакуль падымаўся з пяску, у галаве пранеслася, як ён вынырнуў на паверхню вады з нейкага глыбокага калодзежа-шахты, па якім прамчаўся – нібы праляцеў над зямлёю, над нябачанымі раней падзеямі. Яго выпхнула дзівосная сіла вады-патоку, і ад сонечнага святла ён раптам на нейкі час страціў прытомнасць, але дабраўся да берага. У галаве гудзела, ён ніяк не мог апамятацца пасля ўсяго, што з ім адбылося. “Не, гэта не сон. У сне так сонца не пячэ, і трава не бывае такой зялёнай, і не чуваць пчол і стракоз. Ды і птушкі падаюць дзесьці побач галасы,” – ён яшчэ не мог зразумець, дзе



знаходзіцца.

Усё пачалося з таго, як ён даў нырца ў сажалцы Кругане, у той сажалцы, дзе, як казалі, калісьці правалілася царква. Ён у вадзе натрапіў на нейкую пругкую тканіну, якая і заглынула яго ў глыб. Нібы светлы глыбокі калодзеж-тунэль прыняў яго ў свае абдымкі. Дзіўныя відовішчы жыцця людзей пранесліся перад яго вачыма. Што гэта было? І дзе ён цяпер знаходзіцца?

Раптам вада шумна паднялася, і перад мужчынам паказалася дзявочая галава са спадаючымі цёмнымі валасамі на плячах. Незнаёмка вынырнула і паплыла ў напрамку яго да берага. Дзяўчына ўпала тварам у пясок гэтак жа, як нядаўна ляжаў і Алесь. Нешта знаёмае бачылася яму ў рысах дзяўчыны. “Ці не тая прыгажуня, што ляжала з сяброўкаю на другім беразе Кругана?” – падумаў раптам ён і пачаў прыўставаць з зямлі, накіроўваючыся да дзяўчыны. Тая ляжала на пяску, цяжка дыхаючы. Алесю раптам стала лягчэй на душы ад таго, што ён не адзін трапіў у нейкія дзівосныя абставіны, што іх ужо двое. І ад гэтай думкі ён ледзь заўважна ўсміхнуўся, нахіляючыся над дзяўчынаю.

“Як ты сюды трапіла?” – запытаў ён, кранаючы далонню яе плячо. Дзяўчына здзіўлена ўзіралася ў Алеся, але жах ад таго, што з ёю адбылося, пачаў ужо праходзіць, бо яна таксама пабачыла знаёмага мужчыну з іхняй вёскі. І ад гэтага ёй рабілася спакайней. Да таго ж ён быў жывы і здаровы, толькі гэтае незразумелае страшнае здарэнне, ад якога ледзь не разарвалася сэрца... Відаць было, што яны трапілі ў нейкую пастку, незвычайныя абставіны. А яна спачатку падумала, што гэты малады мужчына патануў. А тут і сама апынулася невядома дзе і чаму. Розныя думкі імгненна пранесліся ў галаве дзяўчыны.

“Дзе мы?” – запытала яна, прысеўшы насупраць Алеся, які хваляваўся не менш за дзяўчыну. Было відаць, што Нехта ці Нешта сур’ёзна пасваволіла з імі. Бо тое, што адбылося, не траплялася ні ў адной прыгодніцкай

кніжцы, ні ў адной кінастужцы. Тое адбылося толькі што з імі. І невядома яшчэ, што будзе далей...

“Будзем зараз удваіх разбірацца... Куды мы трапілі і што адбылося з намі?.. Час пакажа...” – Алесь прыўзняўся. Трэба было нешта рабіць, бо невядомасць палохала. Па-першае, трэба было высветліць, дзе яны знаходзяцца, а потым ужо прадпрымаць нешта для выпраўлення іх становішча...

**22**

Андрэя мучыла думка пра забітага афіцэра. Ды і жонка Ефрасіння не-не ды і пачынала дапытвацца пра французаў, бо тыя ўжо надакучылі сваімі частымі прыездамі. Жанчына хвалявалася за дзяцей: страшна было, бо побач праходзіла вайна... Тых французаў лепш было б не бачыць увогуле, ды толькі ж давалі заробак... Але жыццё працягвалася, у ім і без французаў хапала праблем.

Каваль ужо даўно прыглядваўся да часткі зямлі з другога боку вёскі, якая абмяжоўвалася зарослым алешнікам і вербалозам балотцам. Для яго гэта было б добрае месца, калі давесці да ладу. Ды, як цяпер думалася, і Дубок знаходзіўся насупраць. “А што, калі перавезці туды сваю хату ды прыбудаваць нешта яшчэ, – і для кавальства няблага будзе там, ”– Андрэй усё часцей пачынаў думаць пра новае месца жыхарства. Цяперашняя сядзіба таксама застанецца за імі, але жыць трэба будзе пераязджаць туды, пад Дубок. Толькі каб жонка была не супраць, а дзеці малыя, ім яшчэ ўсё роўна, дзе жыць. Ці мо напачатку набыць той кавалак зямлі і пачаць яго асвойваць. Рукі свярбелі ад чаканай працы, бо здароўя і моцы хапала, ды і грошы на гэта былі...

...Ужо глыбокай восенню, калі стала больш вольнага часу, Андрэй зноў у думках вярнуўся да таго кавалка зямлі на ўскрайку вёскі ля балотца. Не давала спакою тая мясціна: так яна яму падабалася, што ён часцяком хадзіў туды, углядаўся ў зараснік алешніку і кустоўя. Вось толькі нізкае месца. Каб будаваць там жыллё, трэба было спачатку пракопваць роў уздоўж гэтага кавалка забалочанай зямлі. Без памочнікаў не абысціся: трэбна прасіць брата ці некага з вяскоўцаў. Не даваў спакою схаваны скарб французскага афіцэра. Страх авалодваў ад думкі пра тое, што нехта пачне там капаць ці прыглядацца, як ён сам, Андрэй, прыглядваецца зараз да гэтай забалочанай зямлі.

Так амаль кожны вечар, кладучыся адпачываць, каваль думаў пра свае клопаты, якіх хапала на некалькі чалавек. Вайна адышла ў той бок далёкай Францыі, адкуль і з’явілася. І французаў болей ніякіх не відаць, толькі ўспаміны пра тых, што прыязджалі з афіцэрам... Так вось вайна прынесла перамены ў ягоным колішнім жыцці. Мала таго, што зарабіў грошай, дык і марокі таксама прыдбаў. Схаваны скарб ужо забітага французкага афіцэра цяпер будзе яго пастаянным клопатам, бо ён як бы застаўся ягоным вартаўнікомневядома цяпер для каго, бо можна чакаць чаго заўгодна. Хто па яго вернецца, ці ж згадаеш? Толькі страх за схованку, страх перад будучыняй будзе цяпер трымаць яго да апошніх дзён, пакуль не вырашыцца лёс таго скарбу.

**23**

Як кажуць, не паспеў і злякацца, як усё скончылася. Вада вынесла хлопца на паверхню нейкай сажалкі ці балотца. У той нечаканай цішы Пятрук апынуўся так, нібы прачнуўся раніцою ў сваёй хатцы ў вёсцы. Але заставацца ў вадзе не хацелася, бо было боязна зноў праваліцца ў бездань. Страх не адпускаў, таму хлопец хутка, як мог, паплыў да блізкага берага. Калацілася сэрца ў грудзях, здавалася, што і слова не змог бы вымавіць у той момант. Страшна было ад таго, што нічога не разумеў. “Добра, што жывы застаўся,” – падумаў у нейкі момант, хаця і не ведаў, што чакае яго наперадзе. Ён ужо

паспеў упэўніцца, што гэта не сон і не галюцынацыі пасля ўжывання моцных напояў.

Не пакідала думка і пра скарб, што выявіў металашукальнік. “Дзе яно цяпер усё? І дзе сам ён? Зусім не смешна.” Пятрук заклапаціўся аб сваім жыцці. Падалося неяк раптам, што быццам і не жыў зусім. “Відаць, моцна саграшыў, калі трапіў у такія прыгоды. І чаго чакаць цяпер далей?” Думкі палахліва пераскоквалі адна за другой. Быў ужо страх перад усім, бо апынуўся зноў у невядомых абставінах, ды яшчэ якіх. Гэта не тое што прачнуцца ў саломе сярод поля летам...

Адчуўшы нагамі дно, Пятрук прыпыніўся і пачаў разглядацца на ўсе бакі. Незнаёмыя мясціны не радавалі. Добра яшчэ, што было цёпла і ўспамін пра холад вады, ў якой нечакана апынуўся, падагравала сонца. Але наперадзе раптам угледзеў хлопца і дзяўчыну ў жоўтым купальніку. “Ды не ўсё так дрэнна!” – падумаў Пятрук, раптам павесялеўшы. Ён зноў адчуў сябе “на кані”. Выплюнуў рэшткі вады з рота і накіраваўся да берага.

**24**

Алесь з Аленай адышлі ад вады крыху далей і прыселі на траву ў цені алешніку. Дзяўчына прытулілася галавой да пляча Алеся. Так ёй было спакойна і ўтульна.

Хацелася крыху апамятацца ад нечаканага здарэння. Тое, што яна кінулася ў ваду, каб дапамагчы маладому мужчыну, (бо “хлопцам” неяк не хацелася яго называць), яе цешыла. “Не злякалася, не змаладушнічала.” Ад гэтага рабілася цёпла на сэрцы. Але, страпянуўшыся, дзяўчына раптам папрасіла Алеся:

– Пачакай крыху, пасядзі побач. Я адпачну пару хвілін, а потым ужо будзем вырашаць, што рабіць далей.

– Добра. Трэба і сагрэцца крыху пад сонцам. Ты толькі не хвалюйся, усё будзе выдатна. Сустрэнешся хутка і са сваёю бабуляю. Я зразумеў ужо, чыя ты, хаця і не бачыў цябе даўно. Час такі настаў. Параз’язджаліся ўсе хто куды. Вось і я толькі зрэдку прыязджаю сюды, каб падыхаць родным паветрам, пабачыць хоць каго. Хочацца часам развеяцца ад працы над архітэктурнымі праектамі, будаўніцтвам новых аб’ектаў. А тут яшчэ і цябе сустрэў. Ведаеш, нават прыпомніў, як некалі заходзіў да тваёй бабулі папіць вады, калі быў у грыбах. Пабачыў цябе: ты была тады яшчэ школьніцай. Але пра той выпадак раскажу табе, калі выберамся з гэтай гісторыі.

У кароткія хвіліны адпачынку дзяўчыне настолькі палепшала ад сонечнага цяпла, ад прысутнасці побач Алеся, што ўжо не хацелася шукаць выйсця з гэтага становішча. Так бы працягваўся яе адпачынак невядома колькі, каб раптам яна не ўгледзела на беразе яшчэ аднаго хлопца, які выходзіў з вады.

“Дык што ж гэта такое?” – падумала Алена і здрыганулася.

– Не бойся, я побач! – Алесь таксама пабачыў незнаёмца і пачаў пільна сачыць за ім.

– Гэта ён, той, хто прыходзіў да нас з бабуляю ўначы! – заклапочана вымавіла дзяўчына. – Я яго крыху ўжо ведаю! Благі гэта хлопец! Благі! Мне спачатку было яго шкада, бо чаго не бывае па маладосці, па дурасці. Але потым ён павёў сябе нахабна. Добра яшчэ, што ўсё абышлося. Але непрыемнае пачуццё засталося ў памяці. Мне б з ім больш не хацелася сустракацца, ды толькі, Алесь, нешта і з ім здарылася неверагоднае, што і ён тут апынуўся. Нездарма ўсё гэта адбываецца!

– Паглядзім, што будзе далей. Ды толькі трэба рухацца у нейкім накірунку і глядзець, дзе мы апынуліся і што ўсё гэта значыць, – хлопец прыўзняўся і стаў чакаць, гледзячы ў бок Петрука, а гэта быў ён.

**25**

Пятрук угледзеў, што малады мужчына прыўстаў. Жаданне наблізіцца раптам знікла. “Трэба абысці іх ”,

– падумаў хлопец, стоячы ў задуменні ў вадзе ля берага. Яму хацелася як мага хутчэй вярнуцца да сваёй хаткі, ды толькі пасля перажытага не ўсё ўкладвалася ў галаве. Не верылася, што ён трапіў у безвыходную сітуацыю, хаця і перажыў жудасныя хвіліны, ды толькі маладая пара давала надзею, што яго становішча выправіцца.

Хлопец вырашыў ісці праз кустоўе, што прасціралася ўздоўж вады з правага боку. Нешта падказвала яму, што ў тым кірунку знаходзіцца яго прыстанішча з металашукальнікам – сонца за спінаю як бы падказвала напрамак. Адагнаўшы аваднёў, ён рушыў берагам. Было непрыемна прабірацца праз гушчар, але хлопец упарта рухаўся ўперад, пакуль не пабачыў прасвятленне за зараснікам. Там была невялікая плошча, парослая асакою. Ірвануўшыся з усяе сілы да плеша, Пятрук раптам праваліўся па грудзі ў яму, якую не прымеціў у траве. Ад нечаканасці не паспеў нават крыкнуць. Ды і каму крычаць. “Трапіў дык трапіў!” – падумаў хлопец, спрабуючы ўтрымацца на паверхні гэтайасткі. Раптам вельмі захацелася жыць. Прыпомніў сваё мінулае, у якім яшчэ не паспеў зрабіць нічога вартага. Але крычаць не дазваляў гонар, таму ён тузаўся ў траве, спрабуючы выбрацца з нечаканай пасткі, якая не адпускала хлопца, засмоктваючы ў сярэдзіну сваіх уладанняў. “Нейкая тарфяная яма, якіх тут хапае”, – падумаў Пятрук, адчуваючы нагамі холад знізу, нібы лёдам прыкладаў нехта. А дно не трапляла пад ногі, якімі хлопец, як мог, боўтаў, ды толькі мала сіл было на тое. Яміна не адпускала хлопца, трымаючы ў пастцы сваімі халоднымі, амаль ледзянымі абдымкамі. Рукі не дацягваліся да голля кустоў, хапаліся за вострую асаку. Хлопцу рабілася нясцерпна балюча ад гэтага прыкрага становішча. Яго пакідалі апошнія сілы, каб змагацца за жыццё, у якім так мала добрага і цікавага паспеў ён зведаць, акрамя моцных напояў і хвілін няўдалага кахання. Ды і не кахаў ён ніколі моцна і па-сапраўднаму ніякай дзяўчыны, бо заўсёды яго несла некуды ў шумныя кампаніі, да сумніўнага пошуку грошай, прыгод... Вось і зараз, перад холадам бяздоннай ямы, ён адчуваў, што так і не дакранецца да таго скарбу, які нават не патрымаў у руках, хаця адчуваў, што ён недзе побач. Шкада толькі будзе, калі той скарб атрымае нехта чужы ўжо без яго, Петрука. Ірвануўшыся з усяе сілы ў бок берага, хлопец як праз сон адчуў, што не чуе ўжо ног, што яму цяпер усё роўна, што адбываецца, бо апошнія сілы пакінулі яго, і адзінае, што яму хочацца, – спакой і сон пад высокім блакітам неба і цёплым сонцам... Але правая рука моцна ўхапілася за нейкі блізкі корань-корч і працягвала барацьбу за жыццё...

**26**

Незнаёмы знік за кустоўем. Не бачна было нават яго постаці. “Напэўна, ведае дарогу”, – падумаў Алесь, трымаючы за руку дзяўчыну.

Алесь рашуча пацягнуў за сабой Алену.

– Будзем рухацца і мы наперад, у той бок, куды гэты хлопец накіраваўся. Відаць, ён лепш за нас ведае, куды ісці.

Прабірацца сярод кустоўя і алешніку было не вельмі прыемна, ды і высокая трава калола голыя ногі, авадні цвялілі. Але даводзілася рухацца, каб хутчэй выйсці да якога-небудзь жылля.

Пацішу “вандроўнікі” апынуліся перад зарослым з іхняга боку кустоўем і травою ярам. Вырашылі прыпыніцца і разгледзецца, бо наперадзе, як падалося, пачуліся нейкія галасы, кудахтанне кур і крык пеўня. Гэта радавала.

– Ты пакуль, Алена, пасядзі крыху, адпачні, а я выгляну за роў. Цікава, што там нас чакае? – Алесь далікатна крануў яе мокрыя валасы, усміхнуўся з любоўю...

## 27

Андрэй нарэшце выкупіў частку зямлі на другім краі вёскі. Зямля, праўда, не зусім дакладная назва: зарослая алешнікам, кустоўем мясціна больш паходзіла на балота, ды і вада стаяла паміж купінамі. Любімае месца для птушак, ды і звер сёй-той часам туды заглядаў. Зімою на снезе былі добра відаць сляды зайцаў, лісаў, ваўкоў. Начамі часам было чуваць гучны сабачы брэх. Так адзываліся сабакі на з'яўленне ваўка або зграі. Тады і мясцовыя мужчыны выходзілі на падворак, да хлявоў з сякераю ці віламі, калі ўжо зусім недзе паблізу ад жылля з'яўляўся непатрэбны звер, галодны і злы на людзей. Вяскоўцы ваўкоў не баяліся, але і сустракацца з імі не вельмі хацелі, бо ад тых была адно шкода.

Каваль у свабодныя ад асноўнай сваёй працы дні пачаў прыходзіць з рыдлёўкай і сякераю на сваю новую дзялянку працаваць. Напачатку ён вырашыў уздоўж набытай зямлі да вясковай вуліцы выкапаць глыбокі роў, каб было куды вадзе сыходзіць. Ён паўбіваў палі з высечаных алешын, зрабіў вузкую прасеку ў напрамку вясковай вуліцы. А ўжо ад загумення пачаў сам пацяху капаць, высякаючы кустоўе і вольху. Голле і лазу складаў збоку, куды потым наверх кідаў зямлю. Так памалу вымалёўвалася нібыта сцежка-дарога. Ён з усё большаю ахвотаю стаў прыходзіць на новае месца. Пачаў паступова браць і сына Паўла з сабою. Пакуль здароўе дазваляла, Андрэй вырашыў будаваць новае жыллё. Сын і дачка яшчэ маладыя – будзе каму ўсё пакінуць. Ды і грошай, дзякуй богу, хапала на будаўніцтва.

Да зімы каваль вырашыў пракапаць роў да вёскі, каб ужо па вясне рыхтаваць частку зямлі пад новую сядзібу, гаспадарчыя пабудовы, агарод. Работы ого-го колькі! Тут і без дапамогі брата не абысціся. А да каго ж яшчэ ў першую чаргу звяртацца!

... Надышла зіма, вада замерзла надоўга, мароз скаваў зямлю і балота. Андрэй з сынам хадзіў смела. За зіму шмат чаго было зроблена. Сын Павел набіраўся моцы, сталеў.



## 28

Тамара перапалохалася ад таго, што здарылася ў апошнія хвіліны на вадзе: знік Алесь, за ім услед Алена. "Прапалі двое!" – першае, што падумала дзяўчына. Скакаць услед за Аленаю яна ўжо не асмельвалася. "Нешта і Мікола ляжыць без руху," – Тамары хацелася пачуць нечы голас, пабачыць жывога чалавека. І раптам закрычала так, што прачнуўся і Мікола. Ён ускочыў, паглядзеў навокал, але нічога дзіўнага не пабачыў.

– Чаго ты крычыш так як недарэзаная?! Што здарылася?! – пацікавіўся Мікола.Але тая працягвала крычаць і мыкаць ад пераляку.

Мікола подбегам накіраваўся да дзяўчыны, якая, убачыўшы свайго былога суседа, змяніла крык на ціхі плач.

– Што здарылася, дзе твая сяброўка, дзе Алесь?! – пытанні сыпаліся з Міколы, як кулямётныя стрэлы. А Тамара толькі рукою паказвала ў напрамку вады і нічога не магла сказаць.

Міколу нібы токам скаланула. Па целу прабеглі дрыжыкі. Паверхня вады была роўная, гладкая, нейкая незразумелая цішыня авалодвала наваколлем, ад яе рабілася боязна і холадна. Мікола перамог страх і, нічога не разумеючы, рушыў у ваду. Яна здалася яму халоднаю і калючаю, але ён даў нырца і апынуўся перад загадкавай паўсфераю, яго далоні ўперліся ў нешта гладкае і так жа адштурхнуліся раптоўна назад. Міколу нібыта нешта выштурхнула з вады. Пералякаўшыся, мужчына выскачыў з вады на ранейшае месца.

– Што гэта тут адбываецца?! – толькі і вымавіў ён, як раптам пачуўся з боку вады ўсплеск-стрэл. Вада на нейкую хвіліну разышлася пасярэдзіне. Бліснула маланка, усё наваколле залілося яркім святлом, ад якога стала горача. Мікола з Тамараю адчулі прыемнае цяпло, пах сырасці, вады, яшчэ нечага незразумелага і нібыта праваліліся ў небыццё. А святло над імі пашыралася, і станавілася прыемна-добра так, што ўжо не хацелася ні

пра што думаць і нічога рабіць. Час быццам прыпыніў свой ход. Мікола з Тамараю павольна апусціліся на траву і сцішана ляглі.

**29**

Перад Алесем раптам адкрылася цікавае відовішча: нібыта ў нізіне, за алешнікам і вязамі, паўстала новая прывабная хата, крытая дранкаю. Злева, крыху далей, віднеўся хлеў з прыбудоваю. Паміж гэтымі пабудовамі стаяў зруб калодзежа з дубовага бярвення. “Добра нехта абжыўся ў гэтым невядомым месцы!” – падумаў Алесь, уважліва назіраючы сядзібу.

– Алесь, ты толькі не пакідай мяне тут адну! У мяне сэрца разарвецца... Не пакідай мяне толькі, бо.. бо я цябе кахаю... – дзяўчына раптам вымавіла гэтыя словы і пачырванела, бо яны быццам самі выскачылі з яе вуснаў. Ад нечаканасці яна прысела ў траву і заплакала.

У Алеся ад неспадзеўкі адняло мову, але ён здагадаўся прысесці побач з Аленаю, абняўшы за плечы...

– Добрая ты мая, не плач, супакойся! Я цябе адну не пакіну ніколі, ты толькі супакойся і паслухай мяне. Ты мне таксама даспадобы. Калі я цябе пабачыў, то адразу адчуў, што мне хочацца быць бліжэй да цябе... Але бачыш, як усё з намі адбылося. І за тое, што цяпер ты са мною, я вельмі табе ўдзячны... Я цяпер за цябе адказны – перад табою, перад тваімі бацькамі, перад бабуляю...

Алесь далікатна трымаў Алену за плечы і адчуваў, як калоціцца сэрца ў яе грудзях.

– Алена, давай дамовімся так: ты чакаеш мяне тут, каля гэтага рова. Але пастарайся, каб цябе ніхто не заўважыў, а я пайду да сядзібы. Трэба ж нарэшце разабрацца ва ўсім...

– Мне страшна, але я згодная крыху пабыць адна...

– Добра, – Алесь прытуліў да сябе дзяўчыну, пацалаваў яе мокрую ад слёз шчаку і рушыў праз зараснік да жытла...



**30**

Нясцерпна пякло ў патыліцу. Пятрук апрытомнеў, нібыта праз сон адчуваў, што яго цела знаходзіцца ў вадзе. Правая рука трымалася моцна за чорны корч. “Таму, напэўна, і прачнуўся, што так напякло ў патыліцу?” – падумаў Пятрук і расплюшчыў вочы.

Вакол зелянела асака, блішчэла вада. “І як гэта я застаўся жывы, як утрымаўся на гэтым свеце? Напэўна, дадзена мне яшчэ пажыць?” – разважаў хлопец, паціху выбіраючыся з багны. Рабіў ён гэта павольна, асцярожна, бо адчуў, што вярнуўся аднекуль, адкуль не вяртаюцца. Корч трапіў устойлівы: вытрымаў яго вагу. Так Пятрук і выбраўся з багны, прыхіліўся да карча. Ні пра што ўжо не хацелася думаць, толькі адпачываць, бо так нясцерпна пякло, так хацелася піць...

На нейкія хвіліны Пятрук задрамаў, але, прачнуўшыся, адчуў сябе лепей і прыўзняўся.

“Занесла ж мяне сюды?” – падумаў ён і пачаў разглядацца і прыпамінаць тое, што з ім здарылася. “Трапіў дык трапіў у нейкае г...о! Цяпер разграбай...”

Пятрук пачаў прыгадваць, як нахіляўся над калодзежам, як апынуўся сярод балота, як выбіраўся адтуль...

“Ха, дык я ж бачыў нейкую дзяўчыну з хлопцам! Няўжо я не крычаў, калі мяне пачала засмоктваць багна, няўжо мяне не чулі?!” – з’яўляліся ліхаманкавыя думкі. Пятрук стаў разглядацца, шукаць чыстае месца, куды можна было б выбрацца. Трэба было і адмыцца ад бруду, які пачаў прысыхаць пад сонцам да цела. “Не, так проста я тут не застануся! Мяне чакае золата ў калодзежы, мне трэба вяртацца туды. Там засталося ўсё, да чаго так доўга дабіраўся!” – Пятрук думаў, як будзе далей дзейнічаць у гэтых страшных абставінах.

Нарэшце ён адшукаў ля купіны чыстую ваду, у якой і змыў з сябе ўвесь бруд. Паплюхаўся, адпачыў крыху і вырашыў рухацца туды, дзе спадзяваўся натрапіць на сваю вёску...

Калі наперадзе пабачыў узвышша, то абрадаваўся, бо гэта азначала край балота. І тут пачуў нечыя галасы, затаіўся. Нарэшце разгледзеў усё тых жа хлопца і дзяўчыну. “Дзяўчына вельмі прыгожая!” – падумаў Пятрук, набліжаючыся да пары...

**31**

Прабірацца праз кустоўе было нязручна: голле чаплялася за цела, ды і ступаць басанож было балюча. Алесь уважліва глядзеў пад ногі, каб не параніцца, і ў той жа час не спускаў вачэй з хаты, ля якой убачыў гаспадара – шыракаплечага мужчыну ў простай сялянскай вопратцы з маладым хлопцам побач: тыя няспешна складвалі з воза пад хлеўчык розныя гаспадарчыя рэчы.

Іх выгляд падаўся Алесю дзіўным. “Так жа сяляне, пэўна, ужо не апранаюцца?! Ці гэта нейкае паселішча людзей у Беларусі асаблівае, невядомае, куды нас занесла незразумела як?! “ – думалася-гадалася Алесю міжволі, пакуль ён крок за крокам набліжаўся праз зараснік алешніку з бліскучымі плямамі вады ў акуратных прамавугольных ямінах, што адбівалі цёмнаю глыбінёю. “Во дзе рыбы павінна быць многа!” – падумаў, абыходзячы збоку адну з ям.

Хоць Алесь і прабіраўся праз алешнік як мага цішэй, але было дзіўна, што да гэтага часу яго не чуюць. Ступаючы крок за крокам, ён нечакана натрапіў на нябачную перашкоду: нібыта ўпёрся ў празрыстую сцяну з тонкай гумы ці паліэтылену. І адразу стала горача ад думкі-ўспаміну.

Падобнае з ім ужо адбылося, калі ён даў нырца ў Кругане. Тады таксама адчуў нябачную перашкоду. На гэты раз ён не мог рухацца: нябачная сцяна не дазваляла яму наблізіцца да хаты невядомых людзей. Тады ён паспрабаваў рухацца ўздоўж перашкоды. Атрымалася: Алесь паціху ішоў, назіраючы за гаспадаром з сынам: твары падаліся яму знаёмымі. І пакуль хлопец думаў-гадаў, пачуў раптам працяжны, перапалоханы крык Алены. Алесь ірвануўся назад...

**32**

Алена засталася адна. Сцішылася, затаілася і пільна сачыла за Алесем.

Ад гэтага занятку дзяўчыну адарваў шум ззаду. Не паспела яна нават аглянуцца, як нечыя рукі моцна абхапілі яе ззаду за грудзі і пачалі валіць долу... Ад нечаканасці перахапіла дыханне, перасохла ў роце. Алена нейкае імгненне была ў шоку, але нарэшце з яе грудзей вырваўся крык. Яна пачала клікаць Алеся.

– Цішэй ты, дурная, не крычы, а то прыдушу! – нарэшце пачула Алена голас з-за спіны і раптам аказалася на траве і пабачыла над сабой маладога мужчыну. Так, таго, хто летась хацеў яе згвалтаваць, хто не так даўно прамільгнуў сярод балота... Гэта быў усё той жа малады чалавек...

Алена абяссілена прыціхла ад страху і нечаканасці. А Пятрук – гэта быў ён, – ужо ўзабраўся на яе, сеў на яе ногі, заламаўшы ёй рукі за спіну і прыціснуў мацней да зямлі. Дзяўчына адчула, што сілы пакідаюць яе, што змагацца з гэтым нахабным хлопцам яна ўжо не зможа, і толькі адна надзея была на Алеся, які недзе побач, які, нарэшце, пачуе яе.

– Ну што, дапамогі няма адкуль ужо чакаць; мо будзеш трымаць сябе са мною палюбоўна. Я пазнаў цябе адразу! Ты мне падабаешся, але я не люблю прайграваць з жанчынамі, таму паводзь сябе прыстойна, усё прымай як след, па-жаночы. Ты цяпер мая, пакуль мы не выберамся з гэтага становішча. Будзеш маўчаць і добра сябе паводзіць – застанешся жывою і прыгожаю!

Пятрук праваю рукою пачаў здымаць з Алены яе жоўтыя плаўкі. На целе дзяўчыны высвецілася палосачка белага незагарэлага цела, а нахабнік павольна сцягваў плаўкі ніжэй, задаволены сабою, пакуль

раптам не вырваўся крык з вуснаў Алены. Яе прарвала гэтым крыкам, яна рванулася усім целам убок і раптам пабачыла побач з сабою Алеся, які моцным ударам кулака ў скроню зваліў Петрука на зямлю.

– Во табе, казёл! Па табе даўно цяжкі кулак сумуе! Ты яшчэ, напэўна, за свае злачынствы ніколі не атрымліваў па галаве! Трымай! – Алесь біў нягодніка з усяе сілы.

Алена пачала плакаць ад агіды і сораму, ад усяго таго, што адбылося з ёю ў апошнія хвіліны. Яна механічна насунула свае плаўкі з нагі да жывата. А Алесь біў кулакамі Пятрука, пакуль той не страціў, як здалося, прытомнасць. Ды і Алена на той час пачала ўжо адцягваць Алеся ад нахабніка:

– Хопіць, хопіць, Алесь, ён сваё ўжо атрымаў! У нас свае праблемы, хутчэй адсюль! Мне непрыемна глядзець на яго, непрыемна заставацца на гэтым месцы!

– Хадзем, хадзем, Алена! Але што з ім рабіць?!

– Хай застаецца. Ачуняе, тады хай робіць што хоча. Але як ён трапіў да нас сюды, адкуль яго прынёс нячысты?!

– Алена, даражэнькая, хадзем за мною. Я, мабыць, ведаю, што рабіць нам далей...

Алесь узяў за руку дзяўчыну і подбегам павёў яе ў той бок, адкуль нядаўна прыбег сам: да гаспадара з сынам... Хутка яны ўжо ўдваіх апынуліся перад нябачнаю сцяною, далей яна не пускала...

**33**

...Ішоў час. Паціху Андрэй абжываў новае месца на другім баку вёскі. З’явіўся ладны прытулак, кузня, а побач і вада свая. У выкапаных кароткіх, але глыбокіх раўчуках нават і рыба завялася: карасі, уюны, траплялiся і шчупакі. Але галоўнае – вясною там збіралася вада з яго надзела. Ну а ўжо летам ад яе заўсёды была прахалода і вільгаць.

З вокнаў сваёй хаты Андрэй заўсёды бачыў Дубок – тое месца, дзе француз схаваў свой скарб і які папрасіў-загадаў сцерагчы. Андрэй ведаў, што жыццё кароткае ў чалавека, таму часцяком задумваўся над тым, як той скарб не страціць, як лепш зберагчы калі не для француза, дык для сябе, для сваіх сына з дачкою, для блізнятак-немаўлятак, якіх Бог даў нядаўна яму з жонкаю Ефрасінняю. Старэйшыя дзеці падраслі ўжо, сталі добрымі памочнікамі па гаспадарцы.

Навокал паціху мянялася і сялянскае жыццё. Вайна ўжо колькі гадоў як прайшла, французаў перамаглі. Ці варта чакаць брата забітага афіцэра? Ды і прыедзе калі хто па тое золата? А калі той Дубок трапіць да каго ў асабістую ўласнасць? У такім выпадку туды не трапіш тады ні ўначы, ні ў дзень...

Андрэй Ламака ўсё часцей і часцей думаў пра тое, каб вывезці скарб з Дубка на сваю сядзібу ды перахаваць. Аднаму яму гэта было не па сілах. Калі падрос сын Павал, Андрэй пачаў падбіраць зручны момант, каб пагаварыць з сынам.

Аднойчы разам паехалі на кірмаш у Кобрын. Каваль вырашыў па вяртанні наведацца ўначы ў Дубок так, каб ніхто не пабачыў. А дзве рыдлёўкі і пару вяроўчын прыхапіў з сабою. Ды і некалькі парожніх мяхоў узяў, каб не бачыла жонка з дачкою...

... Летняя ноч кароткая. Ды Андрэй выбраў такі час, каб дабрацца да вёскі ўжо ў цемры і з другога боку, адкуль ніхто б і не дадумаўся ехаць.

– Паўло, паедзем праз Заверша да хаты. Ды завернем у Дубок: трэба выкапаць даўнія скарбы, што засталіся яшчэ з вайны з французам! – нечакана адрывіста-гучна паведаміў каваль сыну, калі выехалі з Кобрыня ў бок Стрыгава.

– А што такое, тату? – здзівіўся хлопец, неўразумела гледзячы на бацьку. Ён ужо даўно падазраваў, што бацька нешта захоўвае ў наваколлі, што ў яго маецца нейкая таямніца, пра якую ніхто не ведае ў сям’і.

– Паўло, табе ўжо амаль дваццаць гадоў. Ты ўжо

дарослы чалавек, гаспадар. У мяне з вайны ёсць асабістая тайна, якая трымае мяне ланцугамі. Ты на ўсялякі выпадак павінен ёю валодаць і больш нікому не гаварыць, акрамя толькі пасланца ад французаў... Але цяпер гэта ўжо не так проста, хаця чакаць трэба, пакуль жывеш. А той прыхаваны скарб павінен быць захаваны намі ў сям'і назаўжды. Таму мы заедзем і выкапаем яго, пакуль цёмна, пакуль лета... Настаў час перахаваць яго на нашай сядзібе...

... Вёску аб'ехалі з другога боку, каб неяк замесці сляды. Усё атрымалася. На падворак заехалі яшчэ ў цемры і мяхі са скарбам занеслі ў хлеў і завалілі сенам, а наступнай ноччу перахавалі ўжо на сядзібе.

Усё атрымалася так, як задумваў Андрэй Ламака. І з таго часу таямніцай валодалі ўжо двое з чатырох дарослых членаў сям'і.

**34**

Алесь з Аленаю павольна крочылі ўздоўж нябачнай сцяны, якая быццам бы вяла іх да чагосьці новага, невядомага. Алесь адчуваў, што яны знаходзяцца пад пільнай увагай нейкай сілы, што трымае і вядзе іх ад вёскі. Нехта ці Нешта дазволілі ім толькі крыху дакрануцца да таямніцы, да астатняга трэба будзе дадумвацца...

Хутка Алесь з Аленаю апынуліся ля невялікай, але прыгожай дубровы, праз якую і пралягла іхняя дарога.

– Алесь, глядзі, а тут свежы пясок на траве. Адкуль ён узяўся? Нешта закопвалі ці адкопвалі тут вяскоўцы! – Алена ўстрывожана паведаміла хлопцу, хаця той ужо і сам звярнуў увагу на пясок. Раптам ён заўважыў і нейкую рэч, што блішчала пад сонечнымі промнямі.

– Глядзі, Алена, манета! – Алесь нахіліўся і падняў нечаканую знаходку. – Залатая! Вось што тут рабілі людзі: адкапвалі ці закапвалі скарб.

Манетка аказалася старою і замежнаю. Хлопец заціснуў яе ў кулаку і, гледзячы дзяўчыне ў вочы, прамовіў:

– Алена, тут затрымлівацца нельга. У нас свае, іншыя праблемы: трэба выбірацца да родных мясцін, пакуль Сцяна трымае нас і некуды вядзе. А тут нехта да нас зрабіў сваю справу: ці прывезлі возам і закапалі скарб, ці наадварот – адсюль вывезлі. Што верагодней, бо вельмі слядоў шмат. Дарэчы, я бачыў на падворку гаспадара з сынам, якія нешта здымалі ў мяхах з воза. Мо гэтая таямніца знаходзіцца там, куды мяне не пусціла Сцяна? Але ж давай будзем рухацца далей, бо ўжо сонца пераваліла на другую палову дня...

Хлопец з дзяўчынаю, трымаючы адно аднаго за рукі, пакрочылі ўздоўж Сцяны, адчуваючы яе прысутнасць прахалодаю нябачнай паверхні. Ад дубровы шлях скіраваў праз поплаў, уздоўж забалочанай мясцовасці, за якой і знаходзілася невядомая вёска-паселішча.

– Алесь, а ці не напамінаюць табе гэтыя мясціны тыя нашыя, родныя. Калі крыху падумаць-пафантазіраваць, дык можна нешта знаёмае і вызначыць...

– Прабач, няма часу, ды недарэчы ўсё гэта. Лепш давай спяшацца, бо невядома яшчэ колькі і куды нам трэба будзе ісці. Ты ж бачыш, што мы залежныя ад абставін. А абставіны – гэта Сцяна. Яна нас трымае, Яна за намі назірае і Яна нас вядзе некуды...

**35**

Пятрук апрытомнеў ці то ад пякучага сонца, ці то ад болю ў галаве, ці то ад смагі.

"Што гэта тут адбываецца? Ніяк не магу прачнуцца пасля ўчарашняга ці жахлівы сон не адыходзіць ад мяне? Але нешта так дрэнна, што і падымацца не хочацца. Ды і галава баліць не ад выпітага..." – паціху ён прыўзняўся над травою і, хістаючыся, пачаў абглядаць сябе.

"Не, так проста не можа ўсё адбывацца. А дзе тая

прыгажуня?! Гэта яна мяне так гвазданула нечым па галаве, што я страціў прытомнасць? Але ж вельмі прыгожая... Нездарма я яе памятаю яшчэ з мінулага года. Ды куды толькі прапала яна ад мяне? Пэўна, яе прыяцель дабег?..”

Пятрук абцёр рукою твар, глянуў на сябе і прыпомніў усё, што адбылося за мінулыя гадзіны з ім. Вельмі шмат розных падзей: скарб, калодзеж, балота, прыгажуня... Усё змяшалася ў адно. Трэба шукаць выйсце. Хлопец пайшоў у бок сядзібы, але праз некалькі крокаў упёрся ў невядомую нябачную агароджу. Пятрук імгненна рвануў крыху ўбок, але і там напаткаў Сцяну... Нябачнае Нешта накіравала туды, адкуль ён выбраўся з багны. І калі хлопец апынуўся якраз ля таго карча, які яшчэ не так даўно яго выратаваў, мільганула думка: “Гэта ж мяне Гасподзь збярог для выпрабавання, а я яго не вытрымаў: як пабачыў прыгажуню, дык і розум адняло! І як зараз выбрацца з гэтай багны, што засмоктвае паціху мае ногі, нібы цягне ў бяздонне?..”

Пятрук імкнуўся вырвацца з абдымкаў Сцяны, вырвацца з багны, але здавалася, што ён апынуўся ў нябачным калодзежы, сцены якога стварыла Сцяна, а дол быў багнаю... І сіл змагацца за жыццё ў яго ўжо не заставалася. І адзінае, чаго шкада стала ў апошні момант, гэта таго, што так і не патрымаў у руках той скарб, які так блізка знаходзіўся ад яго вясковай хаты, ад яго маладых і моцных рук.

Сонца сядала за вясковыя вязы і дубы, за крытыя саломай дахі хат. Недзе сярод балота пачуўся гук, нібы вялікая рыбіна плюхнула хвастом па цёплай паверхні вады. Ды гэтага ніхто не пачуў, толькі ветрык свавольна хістануў асаку і голле кустоўя, толькі нейкае светлае воблачка адарвалася ад паверхні балотца з знікла ў промнях заходзячага сонца...



## 36

Калі перакладалі з воза мяхі са скарбам француза, Павал адчуў, быццам нехта за імі назірае. Ён выпрастаўся і павёў галавою на ўсе бакі. Але цішыня панавала навокал.

– Ты чаго гэта круціш галавою? – запытаў бацька, на хвіліну прыпыніўшы працу.– Віднець будзе хутка, пасьпяшайся. Што ты там пабачыў?!

– Падалося, быццам нехта сочыць за намі. Адчуў спінаю. Нечы погляд на сабе адчуў...

– Спінаю адчувай лепш мяхі. А навокал не можа быць нікога, бо сабака пачуў бы. – Каваль недаверліва глянуў на сына, працягваў прыводзіць да ладу парожні воз. “Малады яшчэ. Вялікую адказнасць атрымаў толькі што. Хвалюецца,” – падумаў Андрэй, на ўсялякі выпадак вырашыў ранкам агледзець наваколле сядзібы. “Так проста нічога не адбываецца. Усё мае сваю прычыну і свой вынік!” – падумаў Андрэй, накіроўваючыся ў хлеўчык, дзе чакаў яго сын са скарбам француза. Днём, калі нікога не будзе ля сядзібы, трэба будзе ўважліва агледзець калодзеж ды апусціць увесь скарб у дубовых бочках на дно: адтуль, пакуль я жывы і сын тут будзе, ніхто не дастане, бо не ведае ніхто, нават жонка з дачкою і немаўляткі-сыны...

## 37

Першай прачнулася Тамара: яна ляжала на даматканай сваёй посцілцы ля Кругана і нічога пакуль не разумела. Ёй здавалася, што яна яшчэ спіць і бачыць сон. Бо тое, што адбылося нечакана тут з усімі імі, не ўкладвалася ў галаве. Дзяўчына стомленымі вачыма азірала наваколле.

Сонца пачало ўжо хіліцца да захаду, але было паранейшаму цёпла і вільготна. У небе вісеў са сваёю адвечнаю песняю жаўрук, у траве сакаталі цыкады ды аднекуль з вёскі даносіўся раз-пораз крык пеўня. Жыццё працягвалася. Тамара адчула нейкую незнаёмую

прысутнасць пахаў у паветры: нібыта побач знаходзіліся памяшканні лячэбнай установы. “Напэўна, ад вады такія пахі ды ад травы?” – падумала дзяўчына, узнімаючыся. Амаль побач расплюшчваў вочы і Мікола.

– Тамара, што гэта з намі тут адбываецца? Дзе Алесь з тваёю сяброўкаю?

– З намі пакуль усё нармальна, толькі невядома, што з Аленаю і Алесем. Яны нібыта зніклі ў вадзе і больш не выплывалі. Што будзем рабіць?!

– Крыху ачуняем і будзем напраўляцца ў вёску пазваніць у міліцыю. Нічога лепшага не прыдумаеш.

Мікола падышоў да Тамары, прысеў побач на яе посцілку і пачаў глядзець на ваду. Тамара маўчала. Кожны мучыўся пытаннямі.

Недзе непадалёк за іх спінамі праляцеў свежы ветрык, падняў хвалі на вадзе. Мікола з Тамараю пераглянуліся. А ў гэты момант ззаду нешта гучна стрэліла, адчуўся моцны пах невядомых лекаў і яркае святло ахінула наваколле. Мікола з Тамараю пачалі зноў правальвацца нібыта ў сон, але раптам пабачылі перад собою непадалёк Алеся з Аленаю, толькі нічога не здолелі вымавіць, нават рукамі не змаглі варухнуць. Яны толькі назіралі, нібыта ап’янелыя, за ўсім, што адбывалася перад іхнімі вачыма...

... Абышоўшы кругам вёску па палях і побач з балотцам, Алесь з Аленаю зноў апынуліся перад Круганом. Яны пазналі тую мясціну і гучна закрычалі, але як па камандзе раптам заціхлі: стала страшна.

“Што ж адбываецца з намі?!” – падумалі абодва адначасова.

– Мы блізкія да разгадкі! – ціха вымавіў Алесь, трымаючы Алену за плячо. – Але Сцяна пакуль трымае нас у іншым вымярэнні часу. Разумееш, мы трапілі ў нейкую пастку Часу і Абставін, але пакуль яна не зрабіла нам вялікай шкоды, акрамя сустрэчы з тым нахабнікам-гвалтаўнікам, які так паралякаў цябе і раззлаваў мяне...



– Алесь, глядзі, вунь Тамара з тваім сябрам сядзяць на поплаве ля вады і пра нешта размаўляюць.

Алесь павярнуў галаву ў той бок, куды паказала рукою дзяўчына, і рашуча пакрочыў наперад. Сцяна была побач, але не перашкаджала рухацца, пакуль яны не апынуліся амаль за спінамі Тамары і Міколы. Там Яна стрымала іх на пэўным аддаленні ад сяброў.

– Тамара! – крыкнула Алена і хацела ўжо бегчы да сяброўкі. Але Сцяна не пусціла, толькі нябачная паверхня яе стала нібы мякчэйшая. –Тамара! – крыкнула яшчэ раз дзяўчына і з усяе моцы рванулася.

Надзіва адбылося нечаканае: яркая ўспышка, падобная на сонечную, з’явілася ў тым месцы, дзе Алена кранула Сцяну. Паветра холадам ахапіла Алеся з Аленаю, яны адчулі пах мяты і нейкіх лекаў. І раптам падалося, што яны правальваюцца некуды ў прыемнае вільготнае асяроддзе. Іх ахутала цеплынёй...

“Толькі б не страціць прытомнасць!” – думаў Алесь, правальваючыся нібыта ў прыемны ранішні сон, назіраючы, як наваколле пакрыла сонечным дымам-павалокаю, як нечаканы вецер пагнаў уздоўж Кругана туман, як паказаліся галовы Міколы і Тамары. А над Круганом павісла, а потым пачала павольна падымацца ўверх шарападобнае святло, якое дзівосна злілося потым з сонцам у адно цэлае і некуды знікла...

“Што гэта з намі адбываецца, калі гэта скончыцца, дзе Алена? “– пытанні блыталіся ў затуманенай галаве хлопца ...

***

Вецер заціх, вада паспакайнела... Мікола прыўстаў, дапамог падняцца Тамары. Навокал панавала ціша, усё так жа вісеў над імі непрыкметна жаўрук. Сонца апускалася за старую грушу ў полі амаль насупраць Кругана. За некалькі крокаў на поплаве ляжалі побач адно з адным Алесь і Алена.

"Моцна мы спалі! Так сонца напякло, што пазасыналі пасля водных працэдур! Нібыта шампанскага напіліся ўволю!" – падумаў Мікола. Нібыта Нешта адбылося з імі тут. Усе ўжо разам, але адчуванне нейкага страху, нейкай невядомай асалоды прысутнічае побач...

– Што ж з намі тут здарылася? – спытала Тамара, узрадавана гледзячы на Алену з Алесем. Тыя яшчэ толькі пачалі расплюшчваць вочы.

– Я бачыў страшны сон! – сказаў Алесь, гледзячы на Алену, якая ляжала побач у брудным жоўтым купальніку.

– Дзе ты так запэцкалася?! – запытала голасна Тамара ў сяброўкі і ўсміхнулася. Алена глянула на жывот і пачырванела.

– У муле пакачалася, ці што? – павесялеўшым голасам вымавіла Тамара. – Мы тут ледзь з глузду не з'ехалі пасля таго як вы прапалі! Што тут адбываецца ўвогуле?

– Шаноўныя, мы трапілі ў незвычайныя абставіны. Над намі Нехта ці Нешта правяло эксперымент. Але ўсё яшчэ трэба праверыць і ўдакладніць. Дарэчы, я бачыў шмат такога, што і не ў кожным сне пабачыш.

– А я ўвогуле ледзь не памерла ад страху! – азвалася Алена, усё яшчэ чырванеючы.

– А што гэта ты так моцна зацiснуў у руцэ? – раптам спытаў Мікола ў сябра.

Алесь, не разумеючы пытання Міколы, глянуў на свае рукі. Левая была сціснутая ў кулак. Хлопец, здзівіўшыся, расшчапіў пальцы, і ўсе пабачылі ў збялелай далоні бліскучую жоўтую манетку.

– Адкуль у цябе гэта? – запытаў Мікола, і ўсе пераглянуліся...

**38**

Нарэшце кампанія рушыла ў вёску, так і не вырашыўшы, што рабіць далей, так і не разабраўшыся, што з імі адбылося ля Кругана. Пераэкыўшы неверагодныя падзеі, нібы пабываўшы ў сучасным кінатэатры на прыгодніцка-фантастычным фільме, маладыя людзі вярталіся да роднага жытла, не ведаючы яшчэ таго, што чакае іх наперадзе... Цяпер іх аб'ядноўвалі загадкавыя падзеі, што адбыліся з імі.

***

На наступны дзень зранку вёску абляцела вестка: на былой сядзібе Марысі ў калодзежы суседка Насця заўважыла мёртвага новага пасяленца – Петрука. Участковы міліцыянер капітан Бронык, высокі русавалосы мужчына з мясцовых, шмат цікавага для сябе пабачыў і адзначыў, пабываўшы ў хаце... Асабліва яго ўразілі металашукальнікі, якія ён адшукаў пад ложкам, і некаторыя металічныя рэчы – вынікі шматлікіх пошукаў нябожчыка. Усё гэта капітан склаў у асобны мяшок для далейшага следства . Але для сябе адзначыў, пабачыўшы шмат прыгожых парожнік бутэлек, што хлопец, напіўшыся, раптам трапіў у раскапаны калодзеж і заглынуўся вадою.

Алена даведалася ад Тамары, што ў вёсцы ўтапіўся ў калодзежы гарадскі хлопец Пятрук, які нядаўна пасяліўся там, выкупіўшы хату. Цела павезлі ў Кобрын для апазнання і далейшага следства.

Дзяўчына скаланулася ад такой звесткі: сны здзяйсняюцца. Нешта далёкае з даўніны заўжды нябачна прысутнічае побач з імі, назірае і робіць вынікі. А Пятрук панёс пакаранне за свае грахі... "Не здабыўшыя зямлі абыходзяцца балотам..." – успомніла дзяўчына словы з прачытанага раней верша, якія чамусьці адбіліся ў яе памяці. "Пэўна, што шукаў той хлопец, да чаго імкнуўся ў сваім непрацяглым жыцці, тое і атрымаў у рэшце рэшт як вынік нядоўгага, пражытога абы-як жыцця..."

Дастаўшы мабільнік, Алена пачала шукаць Алесеў нумар, каб пазваніць таму ў горад, бо ўчора ўвечары яны з Міколам з'ехалі.

– Навіна дык навіна! – вымавіў Алесь, пачуўшы ад Алены апошнія весткі – рэха мінулых неверагодных падзей. – Я праз два дні прыеду, тады пабачымся, пагаворым і пра нашу “вандроўку” з табою больш падрабязна, і пра ўсё іншае, што не дасць нам супакою ў далейшым... Навокал нас столькі неразгаданага, столькі цікавага з гісторыі роднага краю, што не хопіць і аднаго жыцця, каб хоць у нечым паставіць кропку, таму хачу, каб і ты дапамагала мне ў далейшым. А пра знойдзеную манетку я даведаўся шмат чаго цікавага. Пры хуткай сустрэчы ўсё вам з Тамараю раскажу, толькі пра нашы прыгоды пакуль нікому ні слова.









# ВЯРТАННЕ БЕРАСЦЕЙСКАЙ СТРАЛЫ

*Раман*

*Зацёртая страла,*
*нібы бачаная Мастаком раней,*
*павольна калыхалася свабодным канцом*
*над палатном...*

# ВЯРТАННЕ БЕРАСЦЕЙСКАЙ СТРАЛЫ

*Раман*



## 1

За прыватным домам з ружовай мансардай, абвітай дзікім вінаградам, раптоўна пачуўся шум, свіст... Нібы маланкай, Нешта асвяціла наваколле і выбухнула ў вялікае памяшканне майстэрні, што знаходзілася менавіта ў мансардзе. Ад нечаканасці і здзіўлення малады Мастак, які стаяў з пэндзлем і палітраю ля мальберта, павярнуў галаву – і яго працялі халодныя дрыжыкі ад невядомага страху. Вялікіх памераў аконнае шкло пачало бясшумна выгінацца ўнутр майстэрні і нібыта закіпаць. Як у фантастычна-містычным трылеры, шкло, найбольш выгнутае па цэнтры, няспешна пасыпалася дробнымі кавалачкамі-кропелькамі. Бясшумны шкляны дождж упаў на падлогу, а ў гэты момант Нешта, тонкае і вострае, ўтыркнулася ў драўляную станіну мальберта. Цішыня стала такая, быццам адключылі гук у наваколлі, быццам на імгненне прыпыніўся час і горад застыў у нерухомасці.

Зацёртая страла, нібы бачаная Мастаком раней, павольна калыхалася свабодным канцом над палатном карціны. Ад стралы зыходзіў пах дыму, сухіх раслін: чабрацу, мяты, зверабою – нечага мокрага, сырога... “Нібыта нехта сена пахучага кінуў у майстэрню...” – здзіўлена падумаў Мастак, не паспеўшы асэнсаваць нечаканае здарэнне. Ён быццам аслупянеў: не мог ні варухнуцца, ні вымавіць слова, каб паклікаць каго са сваіх родных знізу... Яго малады твар з амаль чорнымі вусамі і такой жа невялікай бародкай крыху перакасіла, цёмныя валасы на галаве распушыла, быццам заляцеўшым ветрам.

Так жа нечакана ў майстэрню вярнулася ранейшая атмасфера, а шкло ў акне – выпрамілася. “Што б гэта магло значыць?” – толькі і паспеў падумаць мастак, як раптам страціў прытомнасць.

Страла тырчала на станіне і лёгка пакалыхвалася над Мастаком, які ляжаў на падлозе ля мальберта. Лёгкае калыханне Стралы нагадвала Мастаку жывую істоту:

яшчэ якую хвіліну – і яна пачне аб нечым распавядаць.

**2**

... Мастак напружана працаваў ужо каторы месяц над вялікім палатном “Вяртанне Берасцейскай Стралы”. Думка пра стварэнне гэтага манументальнага палатна, прысвечанага гісторыі роднага горада, прыйшла даўно, але адважыўся распачынаць працу толькі летась: набліжалася гістарычная юбілейная дата – 1000-годзе з дня заснавання старажытнага Бярэсця. І хаця ўжо амаль два стагоддзі Горад знаходзіўся ў іншым месцы, перанесены па загаду расійскага цара на паўтара кіламетра на ўсход (усё бліжэй да Масквы), душа Мастака імкнулася туды, дзе сустракаліся воды Буга і Мухаўца, дзе вітаў дух старога Бярэсця, дзе некалі даўно ўбачыў сярод рэштках кляштара і высокай травы прывід прыгожай Дзяўчыны ў белым палатняным адзенні з вянком кветак на галаве. То быў цудоўны час, калі Мастаку давялося пэўны час папрацаваць з Археолагам на раскопе старажытнага Горада... З таго часу і “захварэў” Мастак любоўю да Бярэсця. Відаць, надыхаўся паветрам даўніны, дакранаўшыся да старых касцяных пячатак, свінцовых іконак, вырабаў з металу і гліны, да манетак і пломбачак... Асабліва ўражвалі яго знойдзеныя жаночыя ўпрыгожванні са шкла, серабра, золата, бурштыну... Яму хацелася ў тыя хвіліны сустрэцца з прыгажуняю дзяўчынай з сівой даўніны, заглянуць ёй у вочы, нешта сказаць...

На месцы зруйнаванага старога Горада пабудавалі прыгожую крэпасць з чырвонай цэглы. Але дух былога Бярэсця заставаўся. Пра гэта сведчыла і адна з апошніх знаходак – рэшткі старажытнай печы, якой на той час было больш за тысячу гадоў... Гэта адзначыў сталічны Археолаг.

Археолаг ужо даўно пасябраваў з Горадам: пасля яго



шматлікіх раскопак быў знойдзены стары Дзядзінец з рэшткамі драўляных пабудоў і вуліц з бярвення. З часам тут узвялі музей са шкла і металу. Цяпер старажытнае драўлянае Бярэсце захоўваецца пад дахам са шкла. Відовішча ўражвае: драўляны горад пад шклом... Дзе яшчэ такое магчыма пабачыць?!.

Мастак таксама ўдзельнічаў з Археолагам у тым раскопе. Хаця папрацаваць давялося толькі крыху больш за месяц, але незабыўных уражанняў набраўся. Тады ж і пазнаёміўся з Берасцейскай Стралою, рэшткі яе аднойчы пабачыўшы на металічнай пломбачцы, якую адшукаў у зямлі дванаццатага стагоддзя. Мастак тады і надыхаўся духам, пахам зямлі старажытнага Бярэсця, і цікавасць да гісторыі Горада пачала ў ім расці нібы малады бамбук... А тут яшчэ прывід аднойчы пабачанай дзяўчыны са старажытнага Бярэсця не-не ды і з’яўляўся перад ім то ў полі за Горадам, то ў майстэрні... З тым жыў і працаваў, зрэдзьчасу ўспамінаючы дні працы на раскопе...

**3**

На адной з цэнтральных вуліц Бярэсця захаваўся слуп, які раней паказваў жыхарам мяжу паміж тэрыторыяй Горада і Крэпасці. Гэты Слуп доўгі час не даваў спакою Мастаку: ён быў завостраны ўверх так, што сваім знешнім выглядам напамінаў вастрыё Берасцейскай Стралы, што месцілася на Гербе Горада.

Адметны Межавы слуп трапляў на вочы Мастаку з маленства: і калі хадзілі з хлопцамі-сябрукамі на Мухавец у Крэпасць вудзіць рыбу ці займацца фехтаваннем у спартыўны будынак, і ў час штогодніх святочных дэманстрацый, і проста калі прагульваўся там з прыгожымі дзяўчатамі...

Мастаку з маленства, са школьных гадоў здавалася, што ў тым Слупе захавана Берасцейская Страла – з таго даўняга часу, калі расейцы разбурылі старое Бярэсце. Мастак верыў, што прыйдзе час, калі Страла вызваліцца

з-пад камянёў,узнімецца над Горадам і пакарае тых, хто калісьці руйнаваў старажытнае Бярэсце, хто ўвогуле ва ўсе часы прыносіў шкоду самому Гораду і яго жыхарам... Мастак верыў у Вяртанне Берасцейскай Стралы. Верыў, бо ўжо і Сцяг з Гербам узнімаўся над вежаю ў цэнтры Горада, пра што яшчэ некалькі гадоў таму і не марылася. Мастак у свой час апантана хацеў, каб Сцяг і Герб Бярэсця адрадзіліся з небыцця, і яго жаданне збылося! У той момант ён нават паверыў, што яго думкі могуць збывацца...

І вось зараз Мастак маляваў на палатне Вяртанне Берасцейскай Стралы. І ў аснову сваёй кампазіцыі ён узяў той самы Межавы слуп, што стаіць на былой вуліцы Леніна. Ад Слупа пачнецца Вяртанне, ад Слупа пойдуць усе Падзеі Адраджэння. Мастак верыў у сілу Стралы, у моц духу Старога Горада, у вяртанне да мінуўшчыны, да гістарычнай памяці продкаў...

## 4

Мары пра Стралу ў маладога Мастака пачаліся ў далёкім дзяцінстве, калі са сваімі сябрамі-хлапчукамі гулялі ў "вайну", майстравалі мячы, дзіды і лукі.

Непадалёк ад дома стаяў высокі чорны слуп. У яго і цэліў найперш ён, дванаццацігадовы хлопчык, пакуль не трапіў выпадкова да Трэнера займацца фехтаваннем спачатку на рапірах, а крыху пазней і на шпагах. Але ў чорныя слупы заўсёды цэліў у сваіх гульнях: яму падавалася, што чорная выява слупа напамінае яму смерць, чужынцаў-ворагаў, з якімі хацелася распраўіцца так, каб яны ніколі больш не з'яўляліся сярод людзей на Зямлі, асабліва пасля таго, як памерла бабуля – маці яго маці...

Вось тады і адчуў Мастак, што пастутова набліжаецца да разгадкі тайны Вяртання Берасцейскай Стралы.



## 5

Па некалькі разоў на тыдзень ён ездзіў на трэніроўкі, спаборнічаў з хлапчукамі, з Трэнерам: удасканальваў сваё майстэрства. Так патрабаваў Трэнер. Мастак адчуваў ужо некаторую сваю сілу і моц, майстэрства валодання шпагай, якая нагадвала яму Стралу...

І кожны раз, калі ён апынаўся ля Межавага слупа, хлопчык адчуваў, што ад таго зыходзіць нейкае прадчуванне. Але гэта ўсё было на ўзроўні думак, мараў, перажыванняў. Калі ж прыпыняўся ля Слупа, кранаў яго сваімі далікатнымі дзіцячымі далонямі, гладзіў, нібы кацяня. І кожны раз хлапчук адчуваў цяпло, што зыходзіла ад камянёў Межавага слупа, і верылася, што Слуп не цураецца хлопчыка, а наадварот, не супраць яго прысутнасці побач. Так і сустракаліся яны, так і бачыліся кожны тыдзень – Хлопчык і Слуп.

Але надышлі перамены ў жыцці Хлопчыка. Перастаў ён займацца фехтаваннем, перайшоў у іншы спартыўны будынак... Але бываць на былой вуліцы Леніна ён не перастаў. Наадварот, бываць там стала яшчэ больш прыемна, бо ён пакахаў Дзяўчыну, якая жыла на той вуліцы. Сустрэчы з Межавым Слупом не спыніліся.

## 6

... Дзяўчына была са старога Бярэсця. Жыла з бацькамі і братамі ля сцен замка непадалёк ад мураванай вежы. Яна вельмі любіла сонечнае святло і цяпло, таму ўлетку ёй было даспадобы ў вольныя хвіліны хадзіць да ракі за кветкамі, назіраць за птушкамі і матылямі.

Вось і ў той памятны дзень на зялёным квяцістым лузе назбірала яна кветак, сплялa вянок, якім упрыгожыла валасы на сваёй дзявочай галаве. Глянула, нахіліўшыся да вады, на свой адбітак: прыгожы дзявочы твар з стракатым вянком кветак на галаве павольна ўзіраўся ў яе. Дзяўчына ўзрадавалася: вось прыдзе дахаты, парадуе бацькоў і братоў. Ды раптам прыкмеціла незнаёмых

вершнікаў: яны назіралі за ёю, нібы чакалі, пакуль прыгажуня наглядзіцца на свой адбітак у вадзе ракі. Холадам павеяла раптам ад вады...

**7**

Вастрыё Берасцейскай Стралы з’явілася на зямлі былога Старажытнага Горада: з узвядзеннем мемарыялу быў пастаўлены вялікі сімвалічны металічны штык, які сваім вастрыём пранізаў паветра над Цэнтральным востравам.

“Вось гэта дык Страла!”– думаў Мастак, узіраючыся ў неба. Калі ён доўга назіраў за кончыкам штыка, то падавалася, што зямля пачынае калыхацца пад ім, а аблокі імкнуліся хутчэй праплываць над Крэпасцю. Кругам ішла галава.

“Гэты штык будзе вартаўнікам для старога Горада, для Бярэсця...” – працягваў разважаць Мастак пра ўзведзены сімвал мужнасці і стойкасці абаронцаў Крэпасці.

Штык адбіваў на сваёй бліскучай паверхі блакітнае неба, белыя аблокі, сонечныя праменні і прывіды старога Бярэсця. І, гледзячы на яго, уяўлялася, што ён варушыцца, што ён жывы. У такія хвіліны Мастаку хацелася загаварыць з ім, звярнуцца да яго з нейкім пытаннем, за дапамогаю... Мастак парадніўся са штыком яшчэ ў той час, калі той бездапаможна ляжаў на зямлі, а іх клас прыходзіў наводзіць парадак на сумежнай тэрыторыі. Цікава было дакранацца да металічнай паверхні штыка, якая бліскуча адбівала постаці і твары аднакласнікаў. “Калі штык будзе ўзвышацца над Крэпасцю, то ўжо не дакранешся да кончыка гэтай вялікай дзіды-стралы,” – думаў неаднаразова Мастак, ласкава пагладжваючы халодны метал штыка.

Тады ж Мастак і пазнаёміўся з цудоўнай Дзяўчынай – студэнткаю, якая была на практыцы ў іхняй школе і дапамагала іхняму класнаму кіраўніку. Разам з класам Дзяўчына працавала і ля штыка.

Весела было пасля заняткаў у школе дабірацца ў Крэпасць, працаваць побач з прыгожаю Дзяўчынаю. У тыя дні Мастак і адчуў, як цёплыя хвалі ахутваюць яго ад адной толькі прысутнасці Дзяўчыны побач. Дзяўчына падабалася Мастаку: ён адчуваў гэта ўсё больш і больш... Ён стаў шчаслівы ад стану закаханасці. А Дзяўчына, пэўна, таксама гэта адчула, бо і сама добра адносілася да юнага Мастака. Так на свет з’явілася яшчэ адно светлае Каханне...

**8**

Яна жыла на той жа былой вуліцы Леніна, якая стала для Мастака цэнтрам прыцяжэння, месцам яго тайны, месцам успамінаў і загадак.

Мастаку верылася і не верылася, што ўсе падзеі яго жыцця адбываюцца такім чынам, што вядуць да нечага галоўнага, значнага, пра што ён яшчэ нават і не здагадваецца. Але адзінае, што трымае яго на гэтым накірунку, звязана з гісторыяй старажытнага Бярэсця, з тайнай Вяртання Берасцейскай Стралы...

Аднойчы летнім вечарам яны з Дзяўчынай гулялі ля ракі на набярэжнай – там, дзе ёсць спуск з прыступкамі да самай вады. Гэтае месца нечым зачаравала Дзяўчыну: ёй нават здавалася, што яна ўжо некалі пабывала тут, што месца ёй даўно знаёмае, даўно вядомае...

Вось і зараз, калі яны ўжо ў цемры праходзілі побач з крапасным валам-умацаваннем, Нехта са сцяжынкі адышоў углыб кустоўя і дрэў, прапускаючы іх да берага ракі. “Нібы нейкі начны вартаўнік тут знаходзіцца, ахоўвае гэта месца...” – падумала Дзяўчына.

Бетонная набярэжная сустрэла спакоем і цішаю. Толькі ледзь чутны плёскат вады, шолахі крылаў начных птушак і шапаценне лістоты...

– Давай падыдзем да самай вады, – папрасіла Дзяўчына Мастака, паклаўшы далікатна руку на яго плячо.

Вада нібыта дамагалася нешта сказаць ім, час ад часу набягаючы на ніжнюю прыступку...

– Яна просіцца да нас! – усміхнулася Дзяўчына,

нахіляючыся да хвалі. Яе спіна прыгожа выгнулася пад тонкай светлай сукенкай, акрэсліўшы межы вузкіх трусікаў пад тканінаю. Хваля гарачай крыві прабегла па целе Мастака.

Ніколі яшчэ ён не адчуваў такой блізкасці дзявочага цела. Рукі міжвольна ляглі на талію Дзяўчыны, нібыта па шаўкавістай скуры плылі яго далоні. У Мастака перахапіла дыханне...

Дзяўчына выпрасталася перад ім, прыхінулася спінаю да падпорнай сценкі. Мастак працягваў трымаць яе абедзвюма рукамі за талію, прыцiснуўшы да сябе. Яго ўзбуджанасць перадалася і Дзяўчыне: нешта значнае ў гэты вечар павінна адбыцца з імі. Недарма яны прыйшлі да ракі, недарма іх цягнула сюды – да загадкавай вады ...

Гарачыя хвалі крыві блукалі па прывабным целе Дзяўчыны. Яна таксама абняла хлопца за плечы, мацней прытуліла да сябе.

Знятая сукенка апынулася на бетоне сцяны, Дзяўчына распранула і Мастака. Цёплае паветра ахінала іх у начной цішы. Далікатныя далоні хлопца трымалі Вялікі Скарб Дзяўчыны: не было слоў, не было дыхання... Адны толькі пачуцці захлёствалі іх у той момант, як хвалі вады плёскаліся па ніжняй прыступцы набярэжнай ...

Абодва праваліліся ў цяпло летняй ночы...

**9**

Дзяўчына адчула, што яна плыве ў цёплай вадзе ракі... Побач раптам пабачыла на паверхні цела чужынца-воя са стралою ў спіне. Яна перапякалася, крутанула рукамі ўбок. Трэба далей, далей ад забітага чужынца. Недзе побач павінны быць і астатнія воі. “Нешта здарылася, аб чым не паспела ні пачуць, ні пабачыць!” – падумала ліхаманкава Дзяўчына, выбіраючыся на бераг Буга. Мокрае адзенне абляпіла яе зграбную постаць: выпіралі вострыя кончыкі дзявочых грудзей, клубы і ногі мяккімі абрысамі выдзяляліся пад мокрым адзеннем. Дзяўчына пабегла ў зараснік хавацца, паспеўшы толькі запомніць выгляд Стралы ў спіне чужынца. Страла была берасцейская. Такія яна не раз бачыла ў сваіх вояў... Але што здарылася з ёю, што вымусіла яе скокнуць у ваду?..

Гледзячы на свой адбітак у вадзе, Дзяўчына нават не пачула крокаў чужынца за спінаю. Той нячутна падкрадаўся да яе ззаду, збіраючыся захапіць нячутна ў палон, але паслізнуўся на траве перад Дзяўчынаю і няўдала зачапіў яе рукамі так, што яна кульнулася ў ваду, а чужынец, ускочыўшы на ногі, нечакана атрымаў стралу ў спіну, упаў следам за Дзяўчынаю...

Вершнікі-чужынцы, назіраючы за сваім няўдалым “паляўнічым”, раптоўна зніклі з пагорка, убачыўшы, што берасцейцы так проста не аддаюць у палон нікога са сваіх...

Дзяўчына ад спалоху доўга не магла сагрэцца, прыйсці ў прытомнасць. Перад вачыма ўсё яшчэ стаяў чужынец са стралою ў спіне. Дзяўчына ціха заплакала, баючыся нават варухнуцца ад думак. Трэба было неяк выбірацца да сваіх родных, да дому... Ды толькі варта крыху перачакаць у зарасніку лазы, абсохнуць...

Схаваўшыся ў надзейным месцы, дзе яе ніхто не мог адшукаць-пабачыць, Дзяўчына ціхенька скінула з сябе мокрую вопратку, выкруціла яе і расклала на голлі кустоў прасохнуць.

Сагрэўшыся пад цёплымі сонечнымі промнямі, яна задрамала. Але сон яе быў нямоцны і нядоўгі: не пакідала ўвесь час думка пра таго воя, які выратаваў яе ад чужынца, ад магчымай смерці. “Вось бы сустрэцца з ім, падзякаваць яго, нават і пакахаць, калі тое будзе магчыма... ” З такімі думкамі і накіравалася Дзяўчына дамоў, па дарозе яшчэ раз глянуўшы ў бок прыляцелай выратавальнай Стралы. І ёй нават здалося, што вой-выратавальнік нізірае за ёю, сочыць, каб з ёю больш нічога дрэннага не здарылася.

Дзяўчына з таго часу толькі і думала пра выратавальніка і выратавальную Стралу, якія сталі сэнсам яе жыцця.

## 10

Гады службы ў войску для Мастака былі працягам далучэння да Стралы. Так ужо адбывалася з ім па жыцці, так ужо было яму наканавана, бо аднойчы змайстраваная ім Страла пакінула адбітак у яго свядомасці, у яго далоні і, як радзімая плямка, заставалася цяпер назаўсёды з ім...

Служба праходзіла ў штабе за мяжою... І там ён маляваў стрэлы на картах, на схемах для вучэнняў, у час вучэнняў.

І калі Мастак маляваў тыя чырвона-сінія стрэлы, то ўспамінаў родны горад з яго цікавай гісторыяй, з выявай серабрыстай стралы на блакітным гербе горада. Яму хацелася лепей маляваць стрэлы на гербах роднага горада, чым напраўляць іх на суседнія прыгожыя краіны з дзіўнай шматвекавой гісторыяй...

“Усюды стрэлы. Яны заўжды будуць побач са мною, пэўна, таму, што я па гараскопе Стралец!” – думаў Мастак, і яму вельмі хацелася вярнуцца ў Бярэсце, падыхаць родным паветрам, пашпацыраваць па любімых вуліцах і завулках, асабліва па старажытным горадзе, дзе некалі і была зроблена Берасцейская Страла. Ён адчуваў яе прыцягненне, неабходнасць быць побач з ёю, хаця ніколі дагэтуль не бачыў сапраўдную Берасцейскую Стралу...

## 11

Вяртанне да рэалій жыцця Мастаку давалася цяжка. Ён адчуваў вялікую стому, не разумеючы дакладна, што з ім адбылося.

Страла тырчэла на станіне мальберта, нібы загадкава клікала Мастака да сябе. “Не ўсё так проста. Нейкая загадка-містыка прысутнічае тут зараз побач са мною,” – працягваў думаць Мастак, прыўстаючы з падлогі, азіраючыся па баках, паступова вяртаючыся да свядомасці.

У акно лілося летняе святло. Мастаку падалося, што дзень ужо схіляецца бліжэй да вечара... “Колькі ж я праляжаў тут без прытомнасці?” – падумаў ён, сядаючы ў крэсла побач з акном, на шыбінах якога не заўважыў не толькі аніякай трэшчынкі, але і ўвогуле ніякіх слядоў Стралы, што ўляцела ў пакой... “Адкуль яна ўзялася?”

Страла была старая, пацёртая, але мела выгляд надзейнай, добра захаванай зброі, якая можа служыць яшчэ доўга-доўга: роўны гладкі прут з зеленавата-бліскучым металічным наканечнікам, тры пёры на другім канцы...

“Вось гэта і ёсць тая рэч, што ўнесла неспакой і містычную загадкавасць у маё жыццё толькі што?..” – падумаў Мастак і працягнуў руку, каб дакрануцца да загадкавай Стралы, упэўніцца ў рэальнасці яе існавання...

Драўляны прут Стралы быў нечакана гарачы, нібыта нагрэты металічны дрот. Гэта здзівіла Мастака, а тут яшчэ Страла задрыжэла ад крანання яго рукі і нават ледзь чутна зазвінела. Спачатку пальцы, а потым і ўсё цела адчула гарача-калючае напаўненне, быццам слабым электрычным токам ударыла. І раптам гучны свіст мноства стрэл скалануў пакой майстэрні, а яркая асляпляльная ўспышка святла на імгненне засціла Мастаку ўсё астатняе...

Праз якую хвіліну-другую драўляная станіна мальберта была ўжо без Стралы. На месцы яе нядаўняга знаходжання засталася толькі невялічкая дзірачка. Гэта быў след Стралы з крыху апаленымі чорнымі краямі.

Праз некалькі хвілін Мастак адчуў, як яго цела напоўнілася нейкай незвычайнай энергіяй: яно нібыта гучала, як тая Страла на станіне мальберта, як нацягнутая цеціва лука. Мастак адчуваў рух кожнага мускула, кожнай жылкі ў сваім целе... Ён адчуваў сябе моцным і здаровым як ніколі да гэтага раней...

## 12

Для Мастака, які год правёў за мяжою ва ўмовах вайсковай службы са сваімі цяжкасцямі і прыгодамі, прыехаць у родны горад было вялікай падзеяй. Тым больш, што тут чакала Дзяўчына і каханне...

Яна паланіла яго сваёй стройнай постаццю, сваім чароўным голасам і вялікімі зялёнымі вачыма. Мастак пазнаёміўся з ёй крыху больш за паўгода да адпраўкі ў войска ў Доме сувязі.

Яго Дзяўчына была з цёмнавалосай вясёлай сяброўкай, каторая нават і больш Яму спадабалася потым, але было ўжо позна, бо ягоны сябар пачаў завіхацца да сяброўкі Яго Дзяўчыны... Так і правялі ў сустрэчах тыя цудоўныя месяцы перад службай у войску. А цяпер вось чакала сустрэча з Дзяўчынай, тым больш што Яна заканчвала ўжо свой універсітэт: заставаліся наперадзе дзяржаўныя экзамены...

За мінулы год Яна змянілася: акруглілася крыху, стала больш прывабнай. Толькі вялікія зялёныя вочы папранейшаму заставаліся ўсё тымі ж: яны зачароўвалі, яны маглі давесці да шаленства... Мастаку гэта падабалася: Ён любіў усё прыгожае і хацеў як мага больш бачыць прыгажосці наўкол. Час проста так Дзяўчына, канечне, не праводзіла. Яна ведала, што хутка прыйдзецца ехаць працаваць па размеркаванні ў вёску, куды патрапіць так не хацелася...

## 13

Мастак на наступны дзень завітаў да Дзяўчыны ў інтэрнат. Нічога не змянілася ў студэнцкім жыцці, толькі дзяўчаты папрыгажэлі, ды з’явіліся новыя, маладзейшыя. Дзяўчыне трэба было па сваіх студэнцкіх справах ісці ва ўніверсітэт. Дамовіліся сустрэцца ўвечары.

Прыемных клопатаў у Мастака было дастаткова, таму летні дзень праскочыў хутка, нібы вавёрка прабегла праз дарогу.

Дзяўчына падрыхтавалася да прыходу хлопца: стол быў акуратна прыбраны і накрыты чыстым абрусам, на якім стаялі талеркі з прысмакамі. Мастак прынёс дзве бутэлькі паўсалодкага чырвонага віна, цукеркі.

Вячэра доўжылася амаль да змяркання. Потым непрыкметна ўсе дзяўчаты некуды па адной разышліся. Мастак застаўся з Дзяўчынаю ўдваіх у пакоі.

– Ніхто сюды да ранку ўжо не вернецца. Мы будзем удваіх з табою тут, як тое было перад тваім адыходам у войска... – з прыемнай усмешкаю вымавіла Дзяўчына, абдымаючы Мастака за плечы і цалуючы ў вусны працягла-доўга. Вочы яе ў прыцемках адбівалі зялёнымі фарбамі, нібы ў кошкі. “Зараз яна мяне схопіць кіпцюрамі і не адпусціць, пакуль не адгрызе галаву...” – з усмешкай падумаў Мастак, аддаючыся салодкім хвалям блізкасці з каханай Дзяўчынай.

Белыя грудзі Дзяўчыны, нібы белыя галубы, адбівалі святлом у паўзмроку. Ён далікатна кранаўся іх, цалаваў... Вочы блішчэлі зялёна-загадкава, нібы гаварылі: “Я ўся твая, я ўся твая... Тваёй буду назаўжды... Я належу толькі табе!” Утульны пакой абвалокваў цішай і загадкавасцю, далікатнасцю і асалодай...

У начной чэрвеньскай цішы праз акно адбівалася святло ліхтароў з вуліцы. У пакоі было душна. Нават расчыненыя шыбіны не дабаўлялі патрэбнай прахалоды.

Накінуўшы на плечы лёгкі кароткі халацік, Дзяўчына глянула ў акно і ўсміхнулася:

– Зараз на вуліцы вельмі прыгожа. А паветра такое, што толькі дыхаць і дыхаць ім у цішы. Давай сходзім да ракі. Мо і акунемся ў ваду. Яна павінна быць зараз цёплаю. А потым вернемся яшчэ сюды ў пакой і дагледзім нашы каляровыя сны...

## 14

Дзяўчына прывяла Мастака да ракі ў тое месца, дзе ён раней ужо быў з іншаю дзяўчынай, тою, што была некалі практыканткаю ў іхняй школе. У ім нешта ўскалыхнулася ўсярэдзіне, абдало гарачынёй. Здалося,

быццам нехта сочыць за імі пільна. Але ноч была ціхаю, ніякіх гукаў і шолахаў не было чуваць.

– А чаму ты прывяла мяне сюды? – запытаў Мастак у Дзяўчыны, калі яны ўжо прыпыніліся блізка ад вады ў тым месцы, дзе прыступкі вядуць прама да хваляў ракі...

У Мастака ўсплыло ў памяці былое спатканне з дзяўчынаю-практыканткаю. Яна таксама прыводзіла яго сюды. Нешта містычнае праглядвалася ў гэтым.

– Мяне неяк старэйшыя дзяўчаты прыводзілі сюды ўначы пакупацца ў цёплай вадзе, – растлумачыла дзяўчына. – Гэта, як ты бачыш, зусім блізка ад нашага інтэрната. Ды і ўначы ніхто ўжо не сноўдаецца тут. Можна лезці ў ваду без купальніка. У гэтым таксама ёсць нейкая асалода. Пойдзем вось зараз удваіх і паплаваем крыху. Пабачыш, як гэта прыемна...

Дзяўчына пачала распранацца, скінуўшы з сябе ўсё. Мастак палез у ваду таксама голы. Вада сапраўды была цёплая. Лёгкая плынь напраўляла ваду ў бок Крэпасці, але туды Дзяўчына з Мастаком не паплылі, бо было далекавата...

Выбраўшыся з вады, яны абцерліся, крыху абсохлі, і раптам Вялікае Пачуццё Кахання ізноў нясцерпна пацягнула адно да другога. Чароўная ноч працягвалася. Хацелася, каб ёй не было канца. Але пачынала ўжо святлець на ўсходзе, час быў і апранацца. Таму, яшчэ раз кульнуўшыся ў ваду, Мастак з Дзяўчынаю паплавалі, пам ілаваліся ў вадзе і вылезлі на каменныя прыступкі набярэжнай...

– Давай залезем на валы, паглядзім на Крэпасць у ранішнім святле-тумане. Вось, пэўна, прыгажосць вялікая чакае нас! – усхвалявана прапанавала Дзяўчына, абдымаючы Мастака і цалуючы яго ў твар...

– Я згодны! – весела адгукнуўся на прапанову каханай хлопец, ухапіўшы яе на рукі.

Ён панёс каханую ў бок зялёных валоў, што акружалі Крэпасць.

– Тут некалі быў цудоўны стары Горад, які разбурылі ў свой час па загаду Імператара Расіі дзеля таго, каб пабудаваць Крэпасць для абароны Імперыі. Але гэтая Крэпасць так і не прынесла ніякай асаблівай карысці той Імперыі, бо нельга разбураць створанае, нельга было высяляць жыхароў з Іхняга Горада, нельга на чужым горы будаваць сваё шчасце... – Дзяўчына доўга гаварыла, нібы чытала лекцыю па гісторыі Горада. Мастак уважліва слухаў, несучы Дзяўчыну на вал.

– Ты добра ведаеш гісторыю нашага горада! – задаволена вымавіў хлопец, апускаючы каханую на траву. – Зараз будзем наглядаць усход сонца. Яно павінна павітаць нас першым, як і мы яго!

– Давай крыху пройдзем бліжэй да самой Крэпасці: зверху прыгажэй глядзець на яе...

Яны пакрочылі па версе вала бліжэй да цэнтра. Лёгкі туман нібы слаўся пад імі ўнізе, падымаючыся ўверх ватнымі кавалачкамі.

Раптам Мастак з Дзяўчынаю натыкнуліся на Нешта нябачнае, што не пусціла іх далей. Здзіўлена глянуўшы адзін на аднаго, амаль адначасова запыталі: “Што гэта?!.”

Але туман ужо падняўся вышэй над імі і ружовыя промні сонца пачалі прабівацца да іх... Маладыя не маглі рухацца: іх целы быццам прыкавала да аднаго месца так, што нельга было варухнуцца.

Яны глядзелі перад сабою ў бок Крэпасці. Пад ружовымі промнямі сонца ажывала наваколле. На месцы даўно знаёмага Мемарыялу пачалі вымалёўвацца абрысы Старога Горада: будынкі храмаў і манастыроў, каменныя пабудовы жыхароў былога велічнага Горада... Дзіўная панарама Старога Горада з’явілася перад Мастаком з Дзяўчынаю як нешта казачна-фантастычнае! Стары Горад у ружовым святле ранішняга сонца нібыта вітаў іх сваёй прысутнасцю і ўрачыстасцю новага дня...

## 15

Унізе, пад валам, на якім знаходзіліся Мастак з Дзяўчынаю, павольна несла свае воды рака. Здавалася, што яна запрашае маладых людзей разам з сабою. Хлопец з Дзяўчынаю паціху пачалі прабірацца наперад бліжэй да Старога Горада. Здзіўленне, што апанавала іх ад убачанага краявіду, усё яшчэ не адпускала...

– Такое бывае з людзьмі, калі яны вельмі хочуць, калі яны могуць бачыць міражы мінулага. Пэўна, і мы трапілі зараз з табою ў такое незвычайнае становішча... – выказала сваю здагадку Дзяўчына, тулячыся да Мастака.

– Вось зараз мы праверым: ці гэта ўсяго толькі аптычны падман, ці мы трапілі з табою ў мінулае, апынуўшыся нечакана ў адпаведным месцы ў патрэбны час, калі такое наогул можа стацца з людзьмі. – Мастак ўзяў Дзяўчыну за руку, і яны павольна пакрочылі далей у бок былога Горада, крыху спускаючыся да вады. Раптам Мастак заўважыў, глянуўшы ўніз, дзявочую постаць, што вылучалася сярод прыбярэжных раслін. Дзяўчына была ў светлай вопратцы. Яна нібыта хавалася ад некага ў кустоўі і высокай траве. Зверху ўсё было добра відаць, таму Мастак моўчкі назіраў за незнаёмкаю з мінулага, пакуль наперадзе не заўважыў воя-чужынца, што прабіраўся да дзяўчыны.

– Шаноўная, глядзі, што робіцца?!. – нечакана ціха прамовіў Мастак сваёй каханай Дзяўчыне. – Зараз мы будзем сведкамі бруднага забойства ці рабавання. І нічым не зможам дапамагчы, акрамя таго, што пачнем крычаць. Але ці пачуе нас тая дзяўчына, што хаваецца ў прыбярэжным хмызняку ля вады? Адсюль толькі з лука можна было б стрэліць, ды і то невядома, ці змог бы я забіць воя-чужынца такім чынам.

– Трэба нешта рабіць!.. – затрымцела ад страху Дзяўчына, мацней прытуліўшыся да Мастака.

– Заставайся тут, а я пабягу да чужынца. Мо нешта і вырашу па дарозе, – Мастак далікатна адхіліў ад сябе Дзяўчыну і накіраваўся хутка да берага, дзе прыкмеціў прывязанага да карча каня, а побач забітага маладога берасцейца...

Мастаку пашанцавала: побач з канём воя-чужынца адшукаўся лук са стрэламі забітага маладога берасцейца, якія прыхапіў Мастак і подбегам накіраваўся ў бок ворага.

Зверху як на далоні Мастак бачыў перад сабою ўсю карціну: чужынец быў ужо блізка ля дзяўчыны. Мастак пачаў цэліць з лука, узяўшы самую моцную на яго разуменне стралу. Ён выпусціў Стралу з усёй моцы з вялікім жаданнем забіць чужынца. Страла трапіла якраз у спіну вою, і той упаў, смяротна паранены, у ваду...

“Добрая Страла! Ды і лук што трэба. Як бы самім лёсам наканавана нам з сяброўкаю апынуцца зараз тут, каб выратаваць дзяўчыну з мінулага...” – падумаў усхваляваны Мастак, глянуўшы на сваю спадарожніцу...

Такое адчуванне ўсхваляванасці ён перажыў упершыню: што і казаць – забіў чалавека! Ды толькі ці быў той сапраўдным чалавекам, калі спакушаўся на жыццё дзяўчыны? А забіты юнак непадалёк?.. Не, усё роўна непрыемна быць воем, забіваць падобных на сябе людзей, хаця і ворагаў.

А як весці сябе далей? Адбылося нейкае сумяшчэнне ці перакос Часу?

– Любая, даражэнькая, трэба паглядзець, што сталася з берасцейкаю! – усхвалявана вымавіў Мастак. Дзяўчына згадзілася. Але падбегчы да выратаванай берасцейкі не давялося: нешта пругкае і нябачнае не пускала іх у бок старога Горада і ракі.

“ Нехта не жадае, каб мы і надалей умешваліся ў падзеі жыцця жыхароў старажытнага Бярэсця! Нехта ахоўвае стары Горад! – выказаўся ўсхвалявана Мастак і, узяўшы Дзяўчыну за руку, паціху пачаў вяртацца назад з валоў... Ён разумеў, што ім і так выпала неверагодная магчымасць апынуцца ў мінулым часе, стаць сведкамі і нават удзельнікамі страшнай падзеі. Гэтае містычнае здарэнне, пэўна, не проста так адбылося з імі. “Няўжо

ж і працяг нейкі будзе?” – падумаў хлопец, вяртаючыся на ранейшае месца ля ракі... Калацілася гучна сэрца ў грудзях, рабілася горача целу.

**16**

Цішыню ў майстэрні парушыў сам жа Мастак: ён павольна пачаў прыўзнімацца з падлогі, на якой невядома колькі часу праляжаў, пакуль прыйшоў у прытомнасць. Перад вачамі плылі featureрознакаляровыя кругі: “Во як напякло сонца, во як нанюхаўся фарбаў!..” – толькі і падумаў Мастак, калі раптам погляд трапіў на Стралу на мальберце. Яна павольна тырчэла на станіне і нібыта жадала нешта сказаць. Але замест гэтага ад Яе пайшла лёгкая празрыстая пара з пахамі балотнай вады і мокрых раслін. І раптам Страла пачала на вачах у Мастака паціху знікаць з поля зроку: здалося, што Яна быццам растварылася ў паветры майстэрні.

“Дапрацаваўся...” – усхвалявана падумаў Мастак. Яму адразу прыпомнілася здарэнне ля ракі, калі ён з Дзяўчынаю з валоў страляў у чыжынца-воя, выратоўваючы светлавалосую маладзенькую берасцейку. Тады таксама адбыліся незразумелыя падзеі. Страла! Тая Страла, каторую ён выбраў з усіх, што былі тады побач з лукам маладога воя-берасцейца, прыцэльна трапіла ў ворага-чужынца! І падобная на тую стралу, што была ў яго майстэрні! Гэта Знак-Напамін!

Мастак прысеў у крэсла, прыходзячы ў сябе. Было крыху млосна, нібыта не хапала свежага паветра.

**17**

Цэнтр Горада мяняў сваё аблічча не ў лепшы бок. І вінаваты ў гэтым быў не толькі Архітэктар, але і Мэр.

Будаўніцтва ў Горадзе распачала фірма, якая, як клешч, учапілася ў старыя гістарычныя кварталы. Замест таго, каб адпаведна закону праводзіць рэканструкцыю, фірма распачала свае камерцыйныя праекты, пасля каторых вуліцы старога Горада было не пазнаць: замест двух-трохпавярховых дамоў павырасталі сямі-дзевяціпавярховікі. І гэта ў асяроддзі невысотнай старой пабудовы вызывала вялікі дыскамфорт і кантраст. Усе пратэсты грамадзян ніякага выніку не далі. У дадатак да ўсяго зняважылі абласную бібліятэку, якую з двух бакоў акружылі будоўляй, з трэцяй паставілі пад вокнамі прыбіральні, а чацвёрты бок бібліятэкі па-ранейшаму ўпіраўся ў агароджу са школай... Такая непавага да Храма Кнігі абурыла значную колькасць жыхароў Горада, але ўсе іхнія намаганні не далі ніякіх вынікаў. “Пакуль не памяняецца Мэр, не памяняюцца адносіны і да цэнтра Горада, і да абласной біблятэкі... “ – так гаварылі жыхары Горада, якіх хвалявала яго будучае, яго прыгажосць і ўтульнасць... Будаўнічая фірма пад прыкрыццём Мэра паступова заваёўвала цэнтральныя кварталы Горада, мяняючы не ў лепшы бок яго выгляд.

Былая вуліца Леніна, дзе знаходзіўся Межавы Слуп, рамантавалася і абнаўлялася больш-менш граматна і дакладна: на ёй знаходзіліся будынкі ўладных структур. Тым не менш праз дарогу, акурат насупраць Межавога Слупа, на месцы старога дома пачалі зноў нешта будаваць, агарадзіўшы навакольную тэрыторыю.

**18**

Пасля нечаканага неверагоднага здарэння ў майстэрні Мастаку захацелася прайсціся па Горадзе, пабыць сярод людзей. Яго вабіла былая вуліца Леніна, з каторай так шмат было звязана добрага і прыемнага яшчэ са школьных гадоў.Часам ён пачынаў успамінаць падзеі, што адбываліся з ім тут, сустрэчы... Бывала, што любіў прайсціся проста так без усялякай нагоды.

Кожным разам Мастак на былой вуліцы Леніна адзначаў для сябе нейкія перамены: то адно мянялася ў яе абліччы, то другое. Вось і зараз перабудоўвалі невялікі сквер з помнікам лётчыку, герою вайны, рабілі

рэканструкцыю старога будынка. Ён на вачах станавіўся прыгожым: з’явіўся новы дах з чырвонай чарапіцы, новыя вокны, дзверы. Маляры фарбавалі сцены ў жоўта-белы колер. Гэта прываблівала. Але нечакана Мастак заўважыў, што няма Межавага Слупа на яго старым гістарычным месцы. Асобныя камяні з таго помніка-знака ляжалі паасобку ля агароджы бальніцы, а на месцы, дзе амаль два стагоддзі стаяў Межавы Слуп, віднеліся рэшткі падмурка, напалову засыпаныя зямлёю і будаўнічым смеццем.

Сэрца затахкала ў Мастака так, нібы хацела выскачыць з грудзей. Стала млосна. “Што ж гэта робіцца ў родным Горадзе? Хто ж так дадумаўся нарабіць бяды? Каго занесла сюды, безгаловага?” – узбуджана падумаў Мастак, накіроўваючыся да месца, дзе стаяў Межавы Слуп.

Вастрыё Слупа ляжала ля агароджы напрамкам у бок недалёкага будынка за былой плошчай Леніна, дзе знаходзіліся службы Мэра.

“Вось бы вастрыё Слупа шандарахнула ў акно тых памяшканняў, дзе працуюць чыноўнікі, што дапусцілі такую абразу!” – падумаў раззлаваны Мастак, нахіляючыся над каменным вастрыём Слупа.

У той жа момант, як толькі падумаў Мастак пра Вастрыё, над камянямі паднялася пара ці то дым, паўпразрыстае воблака ахутала Вастрыё ў некалькі хвілін, і Мастак паспеў толькі заўважыць: быццам Страла мільганула перад яго тварам. Страла, падобная на тую, што прыляцела да яго ў пакой і тырчэла ў станіне мальберта...

Але вастрыё Слупа засталося на былым месцы. “Пэўна, нешта ўявілася ад хвалявання...” – вызначыў Мастак, працягваючы разглядваць разбураны Межавы Слуп.



## 19

У пакоі Мэра, высокага мажнага мужчыны, знаходзіўся Архітэктар – нізкарослы хударлявы чалавек, які амаль кожную хвіліну папраўляў на галаве непаслухмяныя валасы, што спадалі на пляскаты лоб.

– Спадар Мэр, за тое, што знеслі Межавы Слуп, нас не пахваляць у Сталіцы. Трэба нечым абгрунтаваць такое рашэнне, – Архітэктар мітусліва пачаў даставаць з папкі нейкія паперкі, класці на стол перад Мэрам, як раптам яркім святлом палыхнула ў акно памяшкання, пасыпалася шкло... Мужчыны са страху пападалі на падлогу, схаваліся пад стол. Нешта з грукатам ударыла ў супрацьлеглую сцяну.

– Што здарылася? – перапуджана, ціха прамовіў Мэр, выціраючы ўзмакрэлы шырокі лоб, баючыся прыўзняць галаву.

– Мо нейкая вялікая птушка заляцела знянацку? – адазваўся Архітэктар. Мужчыны размаўлялі прыглушанымі галасамі, усё яшчэ не вылазячы з-пад стала.

Настала раптоўная ціша ў пакоі, толькі незразумелыя пахі пачалі даходзіць да збялелых чыноўнікаў, якія нарэшце вылезлі са схованкі і пачалі аглядвацца ў вялікім пакоі.

На макеце Горада, акурат у будынку, дзе знаходзіліся службовыя пакоі Мэра, тырчэла Страла.

– Гэта нейкая містыка! – усхвалявана заключыў Мэр, кідаючы позірк то на Стралу, то на Архітэктара. Яму стала яшчэ страшней ад усведамлення таго, што Страла магла трапіць і ў яго самога...

– Нехта нас так пужае! – выказаў здагадку Мэр, дрыготкімі рукамі дастаючы насоўку і выціраючы ёю ўспацелы твар.

– Не, гэта ўсё не дарма! Няўжо з-за Слупа?! У Слупа верх як вастрыё Стралы, і тут Страла. Выцягні яе з макета! – папрасіў Мэр Архітэктара.

Невялічкімі пужлівымі крокамі Архітэктар падышоў

да макета, у якім тырчэла Страла і працягнуў руку да яе. Але не паспеў ён дакрануцца да Стралы, як новая, але крыху меншая ўспышка святла напоўніла памяшканне. Пачуўся свіст, і перапуджаныя мужчыны зноў заўважылі, што Страла знікла. На яе месцы засталася апаленая з краёў дзірка...

Праз якія хвіліны адазваўся перапалоханы ўшчэнт Мэр:

– Не, не дарма ўсё гэта. Мы ўляпаліся з табою ў непрыемную гісторыю. Нешта мы не тое зрабілі, нашкодзілі, калі Бог нас папярэджвае такім чынам.

– Ды не! Гэта чыёсьці хуліганства! Трэба паведаміць ў нашу міліцыю і КДБ! – асмялеў Архітэктар, пабачыўшы, што ўсё самае непрыемнае мінула.

– А што ў нас у Горадзе на будоўлях робіцца, як ідзе добраўпарадкаванне вуліц і плошчаў? – Мэр гнеўна глянуў на падначаленага...

– Хіба што ўчора гора-будаўнікі развалілі Межавы Слуп непадалёк адсюль, на рагу дзвюх вуліц. Там пачынаецца знос старога квартала. І невядома цяпер, што рабіць з тым Слупом: ці то перавезці рэшткі куды, ці то паставіць у іншае месца?..

– Ты што, зусім хворы на галаву?!. Ты ведаеш, што нарабілі твае гора-будаўнікі?!.– Мэр узмакрэў ад навіны пра Межавы Слуп. Яму стала не па сябе ад усяго, што нядаўна адбылося. Да праблемы з рэканструкцыяй абласной бібліятэкі дабавілася яшчэ і праблема з гістарычным помнікам. Нездарма прыляцела нейкая Страла... Нездарма ўсё гэта. “А што, калі наступным разам тая Страла ўтыркнецца не ў макет Горада, а ў маё сэрца ці горла?” – жахлівыя думкі апанавалі Мэра...

**20**

Дзяўчына-берасцейка дабралася да берага ракі, пралезла пад дрэва, што сваім голлем краналася зямлі,



ствараючы такім чынам заслону ад чужых вачэй.

“Мне тут добра будзе пабыць нейкі час, каб абсохнуць,” – падумала Дзяўчына, здымаючы з сябе і выкручваючы мокрую вопратку. Холаду яна не адчувала: было цёпла, цела лавіла толькі прыемную прахалоду лёгкага ветрыку, што прабягаў па скуры. Кропелькі рачной вады сцякалі серабрыстымі стужкамі з вострых кончыкаў яе стромкіх дзявочых грудзей, падалі на жывот і збягалі ўніз на чорны трохкутнік і ніжэй на ногі. Дзяўчына нават залюбавалася відовішчам: ёй спадабалася нейкае імгненне глядзець на сваё прыгожае аголенае цела. У гэты яшчэ нядаўна небяспечны час яна раптам заўважыла, што ўжо зусім дарослая.

Але яе раптам вярнуў да рэальных падзей шолах ля берага ракі: побач да прыбярэжнага аеру хваля прыбіла мёртвага чужынца-воя са стралой у спіне.

“Гэта ж Некаму я павінна быць удзячнай за тое, што выратаваў мяне, пусціўшы гэтую стралу ў спіну ворагу! – усхвалявана падумала Дзяўчына, жахліва гледзячы на забітага. “Гэтая Страла выратавала мяне! Яна незвычайная! Трэба яе забраць сабе, захаваць як абярэг!” – думкі апантана мітусіліся ў яе галаве. Але было страшна падыходзіць да забітага, ды толькі жаданне захаваць гэтую Стралу як абярэг для далейшага жыцця перасіліла страх.

Дзяўчына глянула па баках, насунула на сябе сыраватую адзежу і паціху падышла да забітага чужынца. Ухапіўшыся за Стралу моцна дзвюма рукамі, Дзяўчына з усяе сілы ірванула Стралу да сябе. На здзіўленне, Страла лёгка пакінула цела забітага воя. Дзяўчына апаласнула Стралу ў вадзе, выцерла травою і пачала разважаць пра свае далейшыя дзеянні...

Трэба было вяртацца непрыкметна дадому, каб ніхто нічога не прыкмеціў незвычайнага ў яе паводзінах...

“Добра, што Стралу я забрала з сабою!” – ужо весела адзначыла сама сабе Дзяўчына. “З гэтай Стралою і я сама буду смялейшай і мацнейшай! Можа нават і я

некалі, як гэта Страла, некаму дапамагу ў жыцці", – думкі Дзяўчыны роіліся ў галаве адна за адной. У душы нешта скаланулася, прыемнае цяпло прабегла па ўсяму целу. Дзяўчына раптам адчула сябе ўтульна ў родным Горадзе, ля роднай ракі... Нават шчаслівай на нейкае імгненне. А яшчэ ёй захацелася пабачыць у хуткім часе свайго Выратавальніка, што пусціў Стралу ў ворага. Яна адчула сябе бы нанова народжанай. З лёгкасцю ў целе і на душы яна паціху накіравалася да сваёй хаты, прадчуваючы непрыемную размову з бацькамі наконт непрадбачна доўгай адсутнасці.

## 21

Навіна пра Стралу, што заляцела ў службовы кабінет Мэра Горада, у хуткім часе стала набыткам гараджан. Яны абмяркоўвалі па-свойму гэты выпадак. Розныя думкі з'яўляліся невыпадкова. Але дакладнасцей, вядома, ніхто не ведаў, таму пачуць можна было што заўгодна. Брастаўчане разумелі, што Страла заляцела ў акно да Мэра не проста так: на тое былі свае падставы. Шмат каму не падабаліся зацягнутыя рамонты вуліц, дамоў; адносіны да будаўніцтва; не падабалася стаўленне ўладаў да спадчыны Горада. Праблем хапала, а за ўсё адказны быў Мэр Горада. "Пэўна, кагосьці так моцна "дастаў", што і да кабінета ягонага дабраліся. Не дарма ўсё гэта. Хутчэй за ўсё гэта папярэджанне!" Так вырашыла і гаварыла пра гэта большасць насельніцтва Горада...

Мастак у хуткім часе таксама даведаўся пра незвычайны выпадак у Горадзе. Пра тое, што Страла пабывала і ў яго майстэрні, ён нікому, канечне, не гаварыў і не будзе гаварыць. Але тое, што гэта ўжо другі выпадак за апошні час, Мастак адзначыў і задумаўся: што б гэта магло быць? Усё гэта невыпадкова, усё гэта не проста так, а нейкім чынам звязана паміж сабою. І Мастак пачаў аналізаваць і супастаўляць усе падзеі, што мелі дачыненне да Горада, яго, Мастака, і параўноўваць...

Разбурэнне Межавага Слупа было на першым месцы ў меркаваннях Мастака. Ён пачаў прыпамінаць тое імгненне, калі абурыўся, пабачыўшы разбіты Слуп. Яго незадаволенасць у паводзінах кіраўніцтва Горада не мела межаў. Яго думкі былі накіраваны на тое, каб пакараць за гэта адказных людзей, пакараць нейкім чынам Мэра Горада, але як гэта зрабіць, Мастак не ведаў, бо проста так зайсці і выказаць Мэру сваю пазіцыю не было магчымасці. І толькі ў думках ён не адзін раз абураўся на "дзеянні" чыноўнікаў і жадаў пакарання іх, каб нейкім чынам адпомсціць за непавагу да старых гістарычных дамоў, да старажытных вулачак горада, над якімі здзекуюцца будаўнікі-рамонтнікі пад кіраўніцтвам Мэра, да гараджан, якім дарагая сівая даўніна.

Мастаку раптам падумалася, што адна яго мара матэрыялізавалася: хоць крыху, але Мэра напужалі. Ды не проста так, што цэгліна ўпала перад носам на асфальт, а Страла заляцела ў службовы кабінет! Гэта ўжо нейкі Засцярагальны Знак! А што, калі ён, Мастак, і надалей будзе думаць пра тое, як пакараць карыслівых, несумленных людзей за тое, што яны не прытрымліваюцца закона, што яны парушаюць яго, не выконваюць добрасумленна свае абавязкі. Яны павінны быць слугамі народа, а не наадварот!

Не-не ды і звяртаўся Мастак у сваіх думках да той Стралы, што залятала да яго ў майстэрню, да той Стралы, якой ў неверагодных містычных абставінах выратаваў Дзяўчыну са старога Бярэсця, апынуўшыся нейкім чынам з сяброўкаю ў мінулым... "Не, не ўсё так проста ў Горадзе, у гэтым жыцці. Повязь часоў абавязкова прысутнічае. І тыя дзеянні, што адбываліся ў мінулыя стагоддзі, і тое, што дзеецца цяпер – абавязкова звязаны паміж сабою!" – Мастак думаў і ўсведамляў, што так проста на зямлі нічога не адбываецца. Таму зрабіў выснову, што ўсе падзеі са Стралою яшчэ наперадзе.

Толькі цяпер ён будзе больш уважліва адносіцца да таго, што адбываецца ў Горадзе, што адбываецца ў яго асабістым жыцці...

**22**

Дзяўчыне ў студэнцкім інтэрнаце сніўся сон: летні поўдзень, рака, вада; і нібыта яна – Дзяўчына ў белай лёгкай вопратцы на беразе той ракі. Яна быццам назірае за сабою збоку. Вось аднекуль крадзецца чужынец-вой з крывою шабляю ў руцэ. Ёй становіцца страшна, але раптам прылятае Страла і ўтыркаецца ў спіну чужынцу. Той падае ў ваду... Дзяўчына прачынаецца. За акном шапаціць зялёным лістом ліпа. Толькі што пачалося лета. Цёпла і хораша ў студэнцкім інтэрнаце: за спінай засталіся экзамены, наперадзе – месяц практыкі.

Дзяўчына з задавальненнем расплюшчыла вочы, паглядзела ў акно, дзе віравала сонца. Скінула з сябе прасціну, якой накрывалася нанач: цеплыня была такая, што можна было спаць і голаю, але неяк нязручна адчувала б сябе, хаця ў пакоі была адна. Сяброўкі параз’язджаліся ўжо хто куды.

Дзяўчына пацягнулася праваю рукой да кубачка з учарашняй гарбатаю на стале і раптоўна заўважыла чырвоныя палоскі на далоні. Праз далонь віднеліся дзве паралельныя чырвона-ружовыя паласы, нібыта прыпаленыя дротам. Адчуваўся лёгкі сверб на месцы палосак. “Што б гэта магло значыць?” – падумала са здзіўленнем Дзяўчына, сеўшы на ложку. Яна глядзела на сваю далонь і не разумела, адкуль узяліся ружовыя палосы, якія былі быццам праведзены пэндзлем Мастака ...

“Ноччу нікуды не выходзіла, ніхто не прыходзіў да мяне, увогуле не ўставала і нічога не рабіла сярод начы!” – думкі ліхаманкава круціліся ў галаве. Дзяўчына раптам прыпомніла сон пра маладую берасцейку і да яе дайшло, што ў сне, пэўна, яна ўхапілася з перапалоху за металічны прут спінкі ложка, і ад таго ўзбуджэння, мабыць, засталіся гэтыя палосы. Відаць, моцна надавіла.

“А можа, прычына з’яўлення гэтых палос бярэ пачатак у той пары, калі яна з сябрам-Мастаком хадзіла ўначы на бераг ракі, калі сталі яны нечакана сведкамі і ўдзельнікамі незвычайных абставін пераломy часу і наваколля...” – Дзяўчына ўвачавідкі ўявіла здарэнне. “Што б гэта магло значыць?” – думкі не адпускалі яе. “Трэба ісці да Мастака і разам абмяркаваць падзеі”.

**23**

Прыход сяброўкі не здзівіў Мастака, які якраз знаходзіўся ў майстэрні ля мальберта з новапачатым палатном-творам. Ад палітры зыходзіў пах толькі што выдаўленых з тубаў алейных фарбаў. А ў гаспадара майстэрні быў цудоўны творчы настрой...

Па “мабільніку” гадзіну таму Дзяўчына паведаміла, што хоча сустрэцца абавязкова. Мастак і сам быў не супраць пабачыць Дзяўчыну, бо вельмі кахаў яе. А жаданне бачыць яе побач з сабою прысутнічала заўсёды.

Вось і на гэты раз, пагаварыўшы з Дзяўчынаю па тэлефоне, ён падняўся на другі паверх у сваю майстэрню і крыху прыбраўся, каб агульны выгляд памяшкання быў прывабны для госці. Ён увогуле не даводзіў памяшканне майстэрні да непрыгляднага выгляду: заўсёды падтрымліваў парадак.

Мастак жыў з бацькамі і малодшаю сястрою ў адным доме, але жылі нібыта як паасобку, бо шмат часу Мастак праводзіў у сваёй майстэрні, дзе побач быў і пакойчык з ложкам і ўсімі астатнімі прыладамі для цывільнага жыцця. Памяшканне майстэрні было з асобным уваходам і не перашкаджала нікому з родных у доме, бо месца ў ім хапала ўсім. Дом быў новы, не так даўно адбудаваны на месцы старога, драўлянага, у якім жылі раней дзядуля з бабуляю.

Зараз, калі ўжо прайшло шмат часу пасля службы ў войску, Мастак прагна працаваў у сваёй майстэрні, нешта выконваючы на заказ, а большай часткай працуючы творча, рэалізуючы свае асабістыя праекты і задумкі.

Так вось і зараз, калі пазваніла сяброўка, Мастак пачынаў рыхтаваць фарбы і пэндзлі для працы над новым творам для міжнароднай выставы, што павінна была адбыцца на пачатку наступнага года ў суседняй краіне. Ідэя твора ўжо даўно выспела ў яго галаве, быў зроблены і эскіз. Заставалася толькі выканаць у матэрыяле: алейнымі фарбамі на палатне.

– Мне сніўся дзіўны сон, – адразу пачала гаварыць пра сваё Дзяўчына, ступіўшы ў памяшканне майстэрні, паклаўшы сваю невялічкаю сумачку на стол з тэлефонам і букетам свежых кветак. – Яны для мяне? – зацікаўлена запытала Дзяўчына, нахіліўшыся над букетам.

– Тут усё тваё, – адказаў Мастак, весела ўсміхнуўшыся ў адказ. – Калі ты да мяне прыходзіш, то ў нашым садзе адразу зацвітаюць усе кветкі, нават позныя. І яшчэ сюды адразу злятаюцца з наваколля сініцы, салаўі і іншыя прыгожыя птушкі, каб паглядзець на цябе і парадаваць нас сваімі песнямі!

– Дзякуй за добрыя словы, – весела ўсміхнулася ў адказ Дзяўчына, прысеўшы ў крэсла непадалёк ад мальберта. – Але мне ёсць што табе расказаць. Нам удваіх трэба сур’ёзна пагаварыць пра мой сон.

– То пачынай, а я пакуль прыгатую гарбату, – Мастак выйшаў з пакоя за кіпенем.

– Мне сніўся той наш апошні вечар на рацэ, калі мы раптам трапілі з табою ў мінулае стагоддзе, дакрануўшыся крыху да тых падзей, што адбываліся некалі ў нашым старым Горадзе. Але не гэта самае дзіўнае, што мне прысьнілася... Раніцаю я раптам заўважыла на сваёй руцэ дзве чырвоныя палоскі,нібы прыпаліла на кухні ля пліты. Гэты незвычайны след на далоні – нібыта пасланне адтуль, з мінулага... Падобна на тое, што гэта след ад Стралы. Ад той Стралы, якой ты цэліў у чыжынца-воя, якая і трапіла таму ў спіну, якой ты выратаваў берасцейку... Бо больш нічога іншага не прыходзіць у галаву...

– Калі гэта так, то след з часам знікне. Мо ты моцна тады надавіла, узяўшы Стралу ў далонь. Гэта не самае дзіўнае за апошнія дні. Вось я чуў, што да Мэра ў рабочы кабінет залятала Страла праз акно, напалохаўшы яго і Архітэктара. Гэта падзея не проста так адбылася! Нашы кіраўнікі шмат чаго благога нарабілі для Горада, таму Страла і папярэдзіла іх. Але самае цікавае і загадкавае, што ніхто не бачыў, каб нехта цэліў у акно з лука, пускаў Стралу. І на відэакамерах адследжвання нічога не бачна. І гэта яшчэ не ўсё! Але пра наступнае потым. Цяпер будзем піць гарбату і слухаць лёгкую музыку...

## 24

У наступныя дні Мастак шмат хадзіў па Горадзе, сустракаўся з сябрамі, калегамі. Размовы пра здарэнне ў кабінеце Мэра было чуваць у кожным куточку Горада. Усе разумелі, што нездарма ўсё гэта адбылося менавіта з Мэрам і Архітэктарам. На тое былі свае падставы. Але нічога ўжо такога страшнага і не адбылося ўвогуле: мужыкі перапалохаліся ды і толькі. Вось калі б тая Страла трапіла ў сэрца ці галаву, то ўжо была б іншая справа, а так...

Мастак быў упэўнены, што такім чынам Нехта адпомсціў за разбураны Межавы Слуп, як таго хацелася і Мастаку! Але далейшыя падзеі ў Горадзе заставілі Мастака глядзець на ўсё крыху інакш.

Акрамя разбуранага Межавога Слупа ў Горадзе было шмат развалена і зруйнавана старых пабудоў, якія захоўвалі ў сваіх сценах гісторыю і дух старога Горада. Іх можна было давесці да патрэбнага ладу, адрамантаваць – і яны служылі б яшчэ шматлікім пакаленням гараджан, але ўлады зрабілі па-свойму і да таго ж няправільна, злачынна...

Мастак і раней не раз абураўся, калі сустракаў на вуліцах Горада пустэчы на месцы старых пабудоў. Ад гэтага сірацеў Горад, губляў сваю прыгажосць і ўтульнасць.

Не раз Мастак жадаў пакарання для тых кіраўнікоў, хто загадваў валіць старыя дамы, зносіць іх з твару Горада. Вось і цяпер, пабачыўшы рэшткі старой цэглы на месцы прыгожага калісьці аднапавярховага дома, Мастак падумаў: ”Вось бы Страла яшчэ раз заляцела да Мэра Горада і Архітэктара! Ды толькі не лякала, а пакарала некага з іх, мо тады прыпынілі б свае злачынствы супраць Горада і гараджан. Далей трываць такое не было магчымасці. Ён ведаў даўно думкі грамадства Горада наконт гэтага, таму і не мог супакоіцца. А звяртацца да адпаведных пракурорскіх службаў не было сэнсу.

Калі праз два дні Горад абляцела вестка, што загадкава загінуў Мэр, Мастак задумаўся над сваім прароцтвам. Ва ўсіх хібах у горадзе Мастак лічыў вінаватым перш за ўсё Мэра. Страшная падзея ў Горадзе доўга была навіной нумар адзін: такога фіналу для жыцця Мэра ніхто не чакаў, але многія гараджане жадалі гэтага ў сваіх думках. Таму хапала розных меркаванняў, гаворкі на конт раптоўнай смерці высокапастаўленага чыноўніка.

Смерць Мэра была загадкавай: ён упаў з лесвіцы, моцна ўдарыўся. Не прыходзячы ў прытомнасць, памёр...

Але гэтага здарэння ніхто не бачыў, бо выходзіў перад абедам са свайго кабінета Мэр адзін. На той час нікога і не было побач. А што і як усё адбылося – засталося загадкаю. Толькі следчыя на падваконні лесвічнай пляцоўкі, з якой нібыта паляцеў уніз Мэр, адшукалі загадкавыя рэшткі шкла і тынкоўкі. Урачы напісалі свой дыягназ: раптоўнае кровазліянне...

Архітэктар пасля гэтага смяротнага здарэння нечакана для ўсіх звольніўся са сваёй пасады і з’ехаў за Горад у свой катэдж: па стане здароўя.



## 25

Размовы пра загадкавую смерць Мэра пачалі крыху заціхаць, але Мастак не мог прымірыцца з тым, што застаўся без пакарання Архітэктар, які быў праваю рукою Мэра. Ад Архітэктара таксама шмат што залежыла па ўладкаванні вуліц і дамоў Горада. Без яго подпісу ні адзін важны дакумент не меў сілу закона.

Мастаку хацелася, каб і Архітэктар панёс нейкую адказнасць за свае непрынцыповыя дзеянні, за разбуральную палітыку ў Горадзе.

Думкі Мастака, як яму падалося, нарэшце матэрыялізаваліся: у газеце неяк прачытаў пра вялікі пажар, што адбыўся ў катэджы Архітэктара. Нібыта ўсё адбылося ў час навальніцы: загарэлася жыллё ад ўдару маланкі. Але, як казалі потым сведкі-суседзі, грому у той момант не было. Толькі пасля таго здарэння Архітэктар доўга не пражыў: не вытрымала сэрца...

Пасля такіх загадкавых смярцей жыццё ў Горадзе неяк пацішэла, хаця яго жыхары не верылі ў выпадковасць усяго, што здарылася. На будоўлях прыпынілася работа, Межавы Слуп быў адноўлены і стаяў на сваім месцы, старыя гістарычныя дамы перасталі валіць і руйнаваць.

Мастак не мог прыйсці да лагічнага выніку: няўжо Яго думкі і пажаданні матэрыялізаваліся.

Сваімі здагадкамі ён мог падзяліцца толькі з адным чалавекам – са сваёю Дзяўчынаю...

## 26

Дзяўчына з’явілася ў майстэрні Мастака пасля абеду, калі спала крыху сонечная спёка. Яна была апранута ў лёгкую белую сукенку і кароткую спадніччку, з-пад якой выглядалі загарэлыя прыгожыя ногі шакаладнага колеру.

– Падабаюцца? – весела запытала Дзяўчына ў Мастака, злавіўшы яго зацікаўлены позірк.

– Ты – нябеснае стварэнне! Быць побач з табою – вялікая асалода! – з задавальненнем адказаў хлопец.

– А са мною зноў адбылося нешта незвычайнае ў сне. Але ж трэба гэтак было здарыцца: задрамала, здаецца, толькі на хвіліну, а чаго толькі не прыснілася! І зноў чырвоныя палосы з надрэзамі на далоні з'явіліся. Трэба ісці да траўматолага альбо хірурга...

– Добра, што ты да мяне прыйшла! Гэта лепш, чым ісці да ўрачоў, бо тыя таксама ўжо зусім дайшлі "да ручкі": выпісваюць самыя дарагія лекі, каб уладальнікі аптэк нажываліся на людскім горы. А тое, што паўсюль пішуць і кажуць, нібыта ў нас бясплатная медыцына – прафанацыя! – Мастака вельмі ўжо непакоіў гэты бок жыцця. – Па мне, дык медыцынскае абслугоўванне павінна быць ці бясплатным, ці платным. – узрушана заключыў хлопец.

– Давай лепш пагаворым пра маю далонь: штосьці незвычайнае я бачу ў гэтым. Трэба нешта рабіць.

– Давай я табе перабінтую, прыкладу ліст падарожніка. Павінна дапамагчы, – прапанаваў Мастак.

## 27

Незвычайныя навіны абляцелі Горад: пажар у Галоўным аптэчным упраўленні Горада, прапаў бясследна яго Начальнік. Нават праз некалькі дзён пасля пажару ніхто з родных, з падначаленых не ведаў пра лёс Начальніка.

"Пэўна, загінуў у пажары..." – меркавалі гараджане.

Пошукі з дапамогай сілавікоў не далі выніку. Чарговае неверагоднае здарэнне ў Горадзе за апошні месяц пасеяла трывогу і страх у некаторых высокапастаўленых чыноўнікаў: хто будзе наступны? На гэта не мог даць адказ ніхто. Хоць многія разумелі, што Нехта распачаў "вайну" супраць чыноўў, якія злоўжываюць сваім становішчам. Ды гэта і зразумела! Дзеянні ўлад даўно патрабавалі кантролю і праверкі, і самых строгіх пакаранняў.



## 28

Мастак прачнуўся, калі ўжо сонца заглядала ў акно яго пакоя. Ён усміхнуўся лагодна сам сябе: учарашні прыход Дзяўчыны пераканаў яшчэ раз у тым, што ён моцна кахае яе. Ды і яна паводзіла сябе ласкава і чулліва. Такой яна вельмі падабалася. Ды і ўвогуле Мастаку з Дзяўчынаю заўсёды было прыемна бавіць час: з ёю было цікава размаўляць на розныя тэмы, да таго ж была яна яшчэ і прыгажуняю. І кожная іхняя сустрэча рабілася чарговым святам для абодвух...

Учарашні прыход Дзяўчыны насцярожыў Мастака тым, што чырвоныя палоскі нейкім чынам з'явіліся на яе далоні другі раз.

Хлопец вырашыў патэлефанаваць Дзяўчыне. Ён насцярожана падумаў: "А што чакаць у наступны раз?"

Тэлефон не адказваў. Раптам услед за сігналамі ў трубцы пачуўся крыху знаёмы трывожны шолах. Яркая, асляпляльная ўспышка асвяціла ранішнюю майстэрню, і шкло ў акне пачало выгінацца і нарэшце лопнула, рассыпаўшыся маленькімі кропелькамі, падобнымі на шарыкі ртуці. Ад нечаканасці Мастак заплюшчыў вочы, засланіў іх далонню...

Стала ціха, толькі пахі вады і раслін запанавалі ў пакоі. Мастак расплюшчыў вочы і пабачыў, як некалі раней, Стралу ў станіне мальберта. "Страла вярнулася!" – нявытлумачанай радасцю раптам падумаў ён, углядаючыся ў дрэўка Стралы, якая павольна хісталася.

Мастак глянуў на акно, але там усё было на месцы. На падлозе таксама не было аніякіх аскепкаў... "Нешта неверагоднае, але ўжо крыху знаёмае", – падумаў ён і ступіў на падлогу, каб падысці да Стралы. "Страла вярнулася", – усклікнуў Мастак, працягваючы насцярожана да яе руку.

Ад Стралы зыходзіла лёгкае цяпло, якое ён адчуваў на невялікай адлегласці ад дрэўка. "Нешта містычнае адбываецца апошнія часы вакол мяне", – падумаў Мастак, дакранаючыся да Стралы, нібы да нагрэтага

сонцам прута. Страла пачала злёгку дрыжэць, хістацца. У гэтую хвіліну далонь апякло, Мастак раптоўна адняў руку ад дрэўка. "Адкуль у дрэўка такое цяпло?" – падумаў хлопец і глянуў інстынктыўна на сваю далонь. Упоперак яе чырванелі дзве паласы ў тым месцы, дзе краналіся дрэўка Стралы. "Такія ж я бачыў на далоні Дзяўчыны!" – ледзь не ўскрыкнуў Мастак і адчуў, як яму стала горача ад гэтага адкрыцця. Што рабіць далей, Мастак не вырашыў, але ягоныя думкі былі накіраваны на Стралу і на сваю сяброўку. "Трэба званіць ёй, каб прыехала як мага хутчэй у майстэрню, пакуль Страла тырчыць на станіне мальберта." – Так нарэшце вырашыў хлопец, беручы ў руку тэлефон. Дазваніцца не атрымалася, таму Мастак зноў вярнуўся да Стралы, у крэсла насупраць мальберта.

Страла якраз навісла над палатном, на якім Берасцейская Страла вярталася ў Горад. Яна была на той час нібыта ахоўніцай, вартаўніцай ...

"Хай бы яна заляцела на гарадскую вежу з гадзіннікам ў цэнтры Горада," – падумаў засяроджана Мастак, гледзячы, як тырчыць "госця" на станіне мальберта. Ды і ўвогуле: яму хацелася, каб выяву Герба Горада са Стралой як мага больш было на гарадскіх вуліцах і плошчах, на рэкламных шчытах, на прамысловых і прадуктовых таварах. Яму хацелася, каб Гістарычны Герб ведалі ўсе гараджане і памяталі, адкуль яны родам. З такімі думкамі, седзячы ў мяккім крэслы, Мастак задрамаў, а прачнуўшыся, Стралы на мальберце не ўбачыў.

"Ці прымроілася яна мне зноў, ці сапраўды прылятала паглядзець на маю працу, ці яшчэ што?" – Мастак быў ня ўпэўнены, што Страла пабывала перад гэтым у яго майстэрні.



"Трэба дазваніцца да Дзяўчыны! – рашуча падумаў хлопец, уздымаючыся з крэсла. Раптам, глянуўшы на далонь правай рукі, уздрыгануўся: на далоні чырванелі дзве ружавата-чырвоныя паласы. "Страла была! Гэта не сон і не дрымота!" – усхваляваўся з новай сілаю Мастак, беручы тэлефон...

**29**

Настаў нарэшце чаканы час, калі над вежаю з гадзіннікам у цэнтры Горада пачаў красавацца блакітнага колеру сцяг, на якім белымі абрысамі выступаў Герб Горада са Стралою. Мара Мастака здзейснілася! Нарэшце новае кіраўніцтва Горада зразумела, што трэба аднаўляць гістарычную памяць, што без гэтага немагчыма рухацца наперад, немагчыма будаваць новае жыццё.

Дзяўчына засталася жыць у Мастака. На сцяне ў майстэрні з'явіўся старажытны лук са Стралою побач з выявай Герба Горада. Адкуль Дзяўчына прынесла рарытэтную зброю, Мастак пакуль не ведаў: не было часу спытаць. У пакоі пасялілася каханне і радасць ад захаванай памяці.

А Горад жыў сваім жыццём ужо ў нейкім іншым духоўным вымярэнні: з цягам часу памяняліся назвы некаторых старых вулак, ад уладаў зыходзіла ўжо больш павагі да мінуўшчыны Горада, да яго гісторыі. Горад адчуваў сябе нібыта пасля моцнага летняга дажджу-навальніцы: чыста вымытым, свежым, усмешлівым.

Мастак з Дзяўчынаю часта хадзілі на бераг ракі да былога Старога горада: Дзяўчыне хацелася дыхаць тым паветрам, слухаць спевы птушак...

– Я і не адчувала раней, што магу жыць без цябе, мой каханы Мастак, але мяне з маленства чамусьці цягнула ў бок гэтага старога Горада, хаця і жыла я ў другім месцы. Таму і паступіла пасля заканчэння школы ў ваш універсітэт на гістарычны факультэт. Гісторыя мне даспадобы, як і гэты Горад. А яшчэ ў грудзях сядзіць

нешта сумліва-балючае, непазнанае, якое давядзецца яшчэ разгадваць доўга, як і з'яўленне чырвоных палосак на маёй далоні. Вяртанне Берасцейскай Стралы працягваецца... І я адчуваю сваю прыналежнасць, сваю адказнасць да гэтай з'явы. Я адчуваю, што ўва мне пульсуе кроў маіх продкаў, тых людзей, каторыя раней жылі тут, будавалі гэты стары Горад, імкнуліся да лепшага жыцця праз пакуты войнаў, змагаліся за лепшую долю. А Страла па жыцці заўжды дапамагала ім у добрых справах...









# СТУДЭНЦКІЯ КАНІКУЛЫ

*Аповесць*

*...у летнім небе абазначылася першая зорка,*
*якая нібыта ўвесь гэты час толькі і рабіла,*
*што сачыла за суразмоўнікамі.*
*Студэнцкія канікулы працягваліся...*

# СТУДЭНЦКІЯ КАНІКУЛЫ

*Аповесць*

Скочыўшы ў тамбур цягніка і выбегшы на другі бок станцыі, Сцяпан адарваўся ад паліцыянтаў нечакана для самога сябе: нехта з яго паплечнікаў пачаў раптам страляць з рэвальвера ў прадстаўнікоў польскай улады, і тыя пападалі ад нечаканасці на брукаванку, галосна лаючыся на ўсё наваколле, і залеглі за невысокім плотам, дастаючы зброю. Пачалася стыхійная перастрэлка.

Сцяпан таксама падрыхтаваўся да стральбы, дастаўшы свой чорны рэвальвер, але каштоўны саквояж у другой руцэ вымушаў бегчы далей ад станцыі, хавацца, каб толькі не трапіць на вочы і ў рукі паліцыянтаў, бо саквояж... Ды і ўрэшце маладому мужчыну вельмі пашанцавала адразу выскачыць без прыгод на процілеглы бок станцыі з вагона праз тамбур. Ён імгненна з’арыентаваўся ў экстрэмальных абставінах.

Гэтых каштоўных хвілін Сцяпану хапіла схавацца за нейкай хацінай з хлеўчыкам непадалёк ад станцыі і кінуцца зарослай кустоўем нізінкаю са старымі вязамі ўздоўж рова ў бок Сяхновіч. Там, далей ад станцыі, было ўжо прасцей аддаліцца ад небяспечнага месца і дабрацца нябачным для паліцыянтаў да хутара бабулі Хвядосі, каб перачакаць, пераседзець ноч, затаіцца на некаторы час. Правая далонь з рэвальверам у руцэ ўзмакрэла, пот заліваў вочы з-пад зеленаватай кепкі, давіў на плечы пінжак з даматканай тканіны. Невыносная смага перашкаджала нармальна дыхаць. Моцна тахкала сэрца ў грудзях...

Нечаканае спыненне цягніка не ўваходзіла ў планы, таму і незапланаванымі сталі гэтыя ўцёкі ад паліцыі. Але загадзя мужыкі дамаўляліся паміж сабою ў выпадку небяспекі разбягацца ў розныя бакі, каб тым сабакам польскім было нязручна іх лавіць. Вось і несла Сцяпана, як таго сабаку, далей ад бяды, далей і далей ад станцыі. Ужо і ногі былі мокрыя, і па целе збягалі ручаінкі поту, але прыпыняцца не было як...

Да маці ці старэйшага брата ісці было рызыкоўна: не ведаеш, дзе напаткае паліцыя. Канечне, калі некага

схопяць, то выламаюць пальцы на руках, а дазнаюцца пра астатніх, хто быў... А пакуль малады мужчына асцярожна, аглядваючыся па баках, шыбаваў у патрэбным накірунку, не зважаючы на тое, як яго новыя скураныя боты ператвараліся ў нешта невыразнае і бруднае: у равах і нізінках хапала вады.

Надвор'е не спрыяла ўцекачу: тусклае сонца ледзь-ледзь прабівала свінцовыя хмары. Пасля ўчарашняга дажджу месцамі блішчэлі калюжыны, адбіваючы нізкае неба і навакольныя дрэвы і кустоўе. Настрой ва ўцекача быў адпаведны надвор'ю: чакалі вялікія непрыемнасці, бо сама перастрэлка ўжо многа значыла. Непакой і няўпэўненасць адчуваліся ва ўсёй постаці мужчыны...

Спланаваную аперацыю па крадзяжы каштоўнасцей з паштовага вагона ледзь не сарвалі мужыкі-памагатыя: вельмі рана пачалі выкідваць пакункі з нейкай непатрэбшчынай у праём дзвярэй. Непрыкметна прыблізіліся да Жабінкі. А калі цягнік рэзка затармазіў, то ад нечаканасці пападалі, а потым паўскоквалі і пачалі вывальвацца хто як мог у дзверы...

Адчуўшы рэзкае тармажэнне цягніка, Сцяпан зразумеў, што на станцыі іх ужо чакала паліцыя: нехта з "добразычліўцаў" данёс на іх, маладых і здаровых мужчын, каторыя апошнія гады звязалі свой лёс з процiўладнымі дзеяннямі, далёкімі ад палітыкі: яны пайшлі іншым шляхам – шляхам экспрапрыяцыі. Такое жыццё падабалася: рызыкоўнае і цікавае. Акрамя грошай бралі гарэлку, тытунь і ўсё тое, што мела каштоўнасць. Працавалі на цягінках у паштовых вагонах. Такія аперацыі праводзілі не часта, і рыхтаваліся да іх доўга. Сцяпан у гэтым іграў галоўную ролю: выведваў у Брэсце, Кобрыне і ў Жабінцы пра цягнікі з грузам і грашыма, планаваў дзеянні групы. Чацвёра-пяцёра чалавек тыдзень рыхтаваліся да справы. Часцей за ўсё выбіралі вячэрні час – найбольш зручны для акцыі. За ноч удавалася сабраць выкінутае з вагона і адвезці фурманкаю да каго-небудзь з надзейных людзей на дальні хутар. Ну а потым ужо два-тры месяцы займаліся хто чым: адны гулялі пацiху, іншыя працавалі на бацькоўскіх падворках і палосках. Сцяпан больш швэндаўся па сваіх родных. Бавіў час то ў маці, якая жыла з сярэднім сынам, то заходзіў да старэйшага брата , а ў асноўным жыў ля бабулі на хутары, дапамагаючы старой па гаспадарцы, калі на тое быў настрой ці вольны час... Такое жыццё падабалася Сцяпану і яго хаўруснікам, хаця ўсё было не так і проста, бо навокал былі цікаўныя вочы і чуйныя вушы. Ды і не схаваешся ад людзей, бо ўсе ведаюць адзін другога з маленства...

Сцяпан прысеў пад стары раскідзісты вяз, пачаў аддыхвацца. Як там яго таварышы? Ці ўсе жывыя? Зараз ужо кіламетры тры аддзяляла яго ад чыгункі. Хаваючыся, пагледзеў у бок станцыі: здаецца, ніхто не даганяў. Але калі паліцыянты затрымалі некага з таварышаў, то будуць ведаць, у які бок рухацца, каго шукаць і дзе.

Сцяпан ведаў, бясконца іхнія крадзяжы працягвацца не будуць, паліцыянты доўга шукалі зручны момант, каб захапіць усіх на месцы злачынства. Толькі да гэтага часу ўсё абыходзілася. Маладая сіла і спрыт пакуль дапамагалі. Але кіраўніцтва чыгункі занепакоенае тым, што апошнім часам было шмат крадзяжоў у паштовых вагонах, прымала адпаведныя меры. Сцяпан са сваімі хаўруснікамі-землякамі трапілі ў адну з засад.

Сцяпан дастаў з кішэні рэвальвер, праверыў патроны, правёў далонню па ўзмакрэлым твары. У саквояжы, ён ведаў, ляжалі грошы: царскія чырвонцы, польскія злоты і залатыя ювелірныя вырабы. Гэты скарб аддалі хлопцы, каб перазахаваць у надзейным месцы: яны збіраліся на нейкі час затаіцца, спыніць свой "промысел". Сцяпан вырашыў усё схаваць на хутары ў сваёй бабулі: ён даўно рыхтаваўся да гэтага і ўсё прадумаў. Бабуля пасля смерці дзеда Анісіма засталася адна ў хаце. Ды і хата стаяла ў баку ад вёскі. Там не адразу пачнуць шукаць.

Ужо пачынала змяркацца, калі Сцяпан асмеліўся

выбрацца з бярэзніку, каб накіравацца да бабулінага хутара.

Бабуля спраўлялася з невялікай гаспадаркай адна, наколькі дазваляла здароўе. Хаціна была старая, але ўтульная. Ставіў яе яшчэ нябожчык Анісім. Навокалраслі вязы, бярозы, дубы. Сядзіба хавалася ад старонніх вачэй за дрэвамі, і адтуль зручна было назіраць за адзінай сцяжынай, што вяла да гасцінца.

Ад бярэзніка Сцяпан ішоў не па дарозе, а ровам, на ўсялякі выпадак, калі раптам у бабулі будзе паліцэйская засада ці нехта непатрэбны з суседзяў.

Роў быў дастаткова глыбокі для таго, каб у ім схавацца. Сцяпан вырашыў да ранку прыхаваць саквояж з грашыма і рэвальверам на адхоне, каб бабуля не прыкмеціла ў яго нічога лішняга.

Зямля была падатлівая, таму Сцяпан хутка вырыў яміну складным нажом, прыхаваў свой скарб, навалiў зверху невялікі валун, што аказаўся непадалёк, апаласнуў рукі, прыслухаўся. Вечаровая цішыня супакойвала, хаця на сэрцы было неспакойна: што сталася з сябрамі ў Жабінцы?

Адышоўшы метраў трыста ровам, мужчына накіраваўся ў бок бабулінай сядзібы, будучы ўпэўнены ў тым, што да ранку выспіцца, адпачне, а тады пачне вырашаць свае праблемы. Галоўным было затаіцца, даведацца пра лёс таварышаў, не трапіць у рукі паліцыі.

Ужо непадалёк ад хутара бабулі Сцяпана нечакана спыніў сполах агню з-пад ценю дрэў, што сцяною стаялі перад бабулінай сядзібай. Яму раптам стала вельмі горача ў целе, перад вачыма ўсё паплыло, нібы ў сне. “Знайшлі такі... дачакаліся...” – толькі і паспеў падумаць мужчына.

Сцяпан павольна апусціўся на траву, апошні раз зірнуўшы аслеплымі вачыма на бабулін хутар, які пачаў расплывацца ў вялікую невыразную пляму. Усё адбылося ў імгненне нечакана, раптоўна.

Глухі жаночы крык разарваў прастору следам за выстралам і доўга яшчэ рэхам аддаваўся ў наваколлі...



***

– Міхасёк, зайдзі да мяне на некалькі хвілін, – запрасіла хлопца цераз плот цётка Адарка, якая корпалася на градках. Яна паправіла хустку на галаве, усміхнулася і накіравалася да хаты, што цямнела ў глыбіні старога саду...

Цётку Адарку Міхась ведаў з самага маленства: жылі раней у адной вёсцы. Яна часта прыходзіла да дзеда з бабуляю пагаварыць: у іх былі добрыя вясковыя адносіны. Бацькі Міхася таксама не забывалі жанчыну, бо яна лічылася далёкай родзічкаю.

Па жыцці склалася так, што жанчына свой век дажывала адна ў горадзе: сямейнага шчасця не зведала. Так і жыла, прадаўшы ў свой час бацькоўскую хату ў вёсцы стрыечнай сястры Лідзіі і, набыўшы ў старым раёне горада невялічкую драўляную, жыла ўжо колькі гадоў у ёй. На той час у горадзе ўладкавалася ўжо нямала землякоў. Працавала да пенсіі на чыгунцы. Па некалькі разоў у год прыязджала ў родную вёску ў адведкі: пагаварыць з аднавяскоўцамі, пахадзіць па родных мясцінах, крыху пасумаваць...

Цётка Адарка, маленькага росту хударлявая жанчына, апошнія гады часта звярталася да Міхася па дапамогу: то лекі якія набыць, то з крамы нешта прынесці. Міхась ніколі не адмаўляў, тым больш што цікава было слухаць яе ўспаміны пра колішняе жыццё...

Недзе з кутка за старой шафай цётка дастала невялічкую металічную скрынку з пацёртымі бакамі, у такіх вайскоўцы захоўвалі патроны ў час мінулай вайны.

“Напэўна, нечым хоча здзівіць жанчына?” – падумаў хлопец.

– Даўно хацела аддзячыць цябе, ды ўсё не даводзілася, – неяк мітуслівa прагаварыла старая, здымаючы непаслухмяную накрыўку са скрынкі. – Мне, пэўна, ужо мала засталося хадзіць на гэтым свеце, дык хачу табе

нешта перадаць. А то ўсё забываюся. А тут якраз вось пабачыла, дык адразу прыпомніла... – цётка Адарка нарэшце зняла непаслухмяную накрыўку і засунула далонь у скрыначку.

– Цётку, ды не трэба мне грошы! Сваіх хапае! – пачаў рашуча адмаўляцца Міхась.

– Ты не шумі, бо не ведаеш, што тут! – сказала старая, глянуўшы на хлопца з дакорам. – Ты мне не чужы, а родных у мяне няма нікога, акрамя тваёй маці, таму маўчы і слухай, што буду гаварыць.

Адарка нарэшце высунула далонь з металічнай скрыначкі, і на стол, бліснуўшы халоднымі бакамі, пасыпаліся сярэбраныя манеты і жаўтаватыя паперкі, скручаныя і завязаныя шэрым шнурочкам.

– Я гэта адшукала ў старой бацькоўскай хаце. Пад кроквамі на гарышчы было прыхавана. Я тады ўсё праглядзела-праверыла, перш чым хату прадаваць. Грошы засталіся з польскіх часоў. Нават выява Пілсуцкага там ёсць на некаторых. Але ёсць і нейкія вельмі старыя. Я нікому раней не гаварыла і не паказвала, а сама не ведала, што з імі рабіць. Самае каштоўнае ў гэтай скрынцы – паперы. Адна, я думаю, павінна зацікавіць цябе, як для маладога і вучонага хлопца: там малюнак нейкай сядзібы ў нашай вёсцы. Але мне складана зразумець што да чаго: не тая адукацыя – чатыры класы польскай школы. А ты зможаш разабрацца. Я ніколі нікому пра сваю знаходку не гаварыла, і ты пакуль маўчы... Спачатку як след разбярыся. Калі што будзе незразумелым, то папытайся ў свайго дзеда. Але і яму ўсяго не гавары. Не трэба... Больш спадзявайся на самога сябе.

На старой пажоўклай паперы ў ледзь прыкметную лінейку не зусім удала быў намаляваны алоўкам план мясцовасці. Міхась углядваўся праз павелічальнае шкло ў кожную рысачку, у кожную кропачку. Самым загадкавым было месца, абазначанае крыжыкам. Пэўна, ён хаваў нейкую таямніцу...

Міхась нарэшце прыйшоў да высновы, што гэта ваколіцы ягонай вёскі: балота з равамі, грэбля сярод балота. А крыжык – на месцы нечага закапанага.

У думках Міхась раз і другі вяртаўся да загадкага плана, адкладваючы пошукі да лепшага выпадку. Чакаў, калі настануць студэнцкія канікулы...

## ЧАЦВЕР

Міхась Балановіч прачнуўся нечакана. Здавалася ж толькі задрамаў на хвіліну ўвечары перад родным сябрам – тэлевізарам. “Дзе гэта я?! – пранеслася ў галаве. Ад гэтай думкі нават уздрыгнуў.

Міхась ляжаў тварам да акна, ля якога стаяла зграбная дзяўчына ў лёгкім паўпразрыстым халаціку. Яе гожая постаць, як толькі прадраў вочы, адразу ж нібы магнітам прыцягнула да сябе ўвагу хлопца.

– Шаноўная, вы хто? – запытаў Міхась ці то ўсур’ёз, ці то жартам. У яго адразу падняўся настрой: вабкая дзяўчына хвалявала яго позірк гнуткім станам пад лёгкім халацікам.

Быў ранак, але паколькі вокны выходзілі на поўнач, можна было падумаць, што гэта і вечар.

Міхась глядзеў на дзяўчыну, любуючыся яе прывабнаю постаццю. І пакуль яна не адазвалася, не пазнаваў яе. Ці то яшчэ канчаткова не прачнуўся, ці то ўчарашняе застолле пасля апошняга экзамена давала пра сябе знаць. Але паступова прыйшло праясненне ў галаве, і Міхась пачаў прыпамінаць, што адбылося напярэдадні.

– Ты мне ўчора ледзь дзверы не выбіў. Так улупіў, што я не паспела і войкнуць, як яны расчыніліся. – Надзея Беркач, а гэта была Міхасёва сяброўка, з вясёлаю ўсмешкаю павярнулася з парожнім кубкам у руцэ, з якога толькі што палівала кветкі на падаконніку. Яе вялікія зеленаватыя вочы свяціліся. Было відаць, што дзяўчына вельмі кахае хлопца, які так моцна налякаў яе ўвечары, амаль непрытомным з’явіўшыся ў інтэрнатскім

пакоі. Добра яшчэ, што нікога не было з сябровак – параз’язджаліся на канікулы хто куды. Міхась, уваліўшыся ў пакой, адразу ж бухнуўся на першы ложак не здымаючы адзенне. Так і праспаў усю ноч, хаця яна і была не супраць, каб нечаканы госць распрануўся і лёг побач. Але хлопец толькі нешта ў адказ прамармытаў і заснуў. Было відаць, што сонца і віно зрабілі сваю справу. Ды і цяжкая сесія пакінула адбітак. Але ж такое з ім здарылася ўпершыню.

Заснуць Надзея доўга не змагла: хвалявалася, каб што благое не здарылася з Міхасём. Раніцай ціха паднялася, прыбралася і пачала паліваць кветкі ў чаканні, калі хлопец прачнецца, каб разам паснедаць. Спяшацца не было куды, бо яна таксама была ўжо свабодная ад экзаменаў, і дадому збіралася ехаць толькі пасля выхадных. Хацелася пабыць некалькі вольных дзён з Міхасём удваіх.

***

Алег Бельнік, студэнт пятага ўжо курса (толькі што скончылася летняя сесія), жыў на кватэры ў прыватным доме з жонкаю Людмілаю, прыгожаю чорнавалосаю жанчынаю. Сам жа ён быў бялявы. Пшанічнага колеру вусы вельмі пасавалі яму да твару.

Пажаніліся маладыя людзі напрыканцы жніўня, пасля таго, як хлопец паступіў ва ўніверсітэт на гістарычны факультэт. Людміла, малады эканаміст-бухгалтар, з якой пазнаёміўся Алег пасля службы ў войску, яму вельмі падабалася. Ды і ён дзяўчыне быў па душы. Толькі адразу заявіла, што не будзе чакаць, пакуль той будзе вучыцца пяць гадоў у другім горадзе.

Вяселле справілі праз два тыдні пасля ўступных экзаменаў. На бяседу Алег запрасіў і Міхася, земляка, з якім сышоўся на ўступных экзаменах і паспеў пасябраваць. Той таксама быў толькі што пасля службы ў войску. Яны былі аднагодкі і наогул мелі шмат агульнага. Толькі здарылася так, што трапілі ў розныя групы. Але



гэта не перашкаджала іх моцнаму сяброўству.

Міхась не змог прыехаць на вяселле да Алега, але з радасцю сустрэў новага сябра з прыгажуняю-жонкаю ў бацькоўскім доме, калі тыя ўжо прыехалі перад пачаткам верасня на вучобу ва ўніверсітэт.

Адшукаць жыллё не атрымалася. Гледзячы на пакуты маладых, маці Міхася, Ганна Паўлаўна запрасіла пажыць пакуль у сябе. Так лёс звязаў Міхася і Алега з Людмілаю.

Праз тры гады маладая сям’я перабралася жыць да суседкі праз вуліцу, дзе вызвалілася на той час палова дома. Там і ўваход быў асобны. Да таго ж у іх часта заставаўся начаваць малодшы брат Людмілы – Сяргей, таксама студэнт універсітэта.

***

– З’ездзім да маёй сяброўкі Веры на працу, – прапанавала Надзея Міхасю, калі яны паснедалі ў яе пакоі. Хаця апетыт у Міхася быў аніякі, яго “пражыла” пасля ўчарашняга: хацелася папіць нечага халоднага і кіслага.

– Я павінна ёй грошы перадаць. Ці ты яшчэ не адышоў пасля ўчарашняга? – Надзея гулліва глядзела на каханага, нібы правакуючы яго на нешта спакуслівае...

– Я яшчэ б крыху паваляўся ў пасцелі... з табою, – Міхась паклаў далонь на плячо Надзеі. – Ты мне зараз так моцна падабаешся! Давай яшчэ пабудзем у цябе тут. Куды спяшацца? Веры ўсё роўна, калі ты ёй прынясеш грошы: да абеда ці пасля яго...

Надзея паднялася з крэсла, зачыніла дзверы на зашчапку і пачала рыхтаваць ложак. Міхась падышоў ззаду, далікатна абняў. Нібы гарачай хваляю абдало яго цела. Дзяўчына павольна павярнулася, абняла хлопца і пачала цалаваць яго мацней і мацней, пакуль яе халацік не апынуўся на ложку, а яна сама на руках Міхася.

– Усё б жыццё насіў цябе так! – вымавіў з хваляваннем хлопец, стоячы з каханаю на руках перад вялікім люстрам, у якім адбівалася цнатлівая Надзеіна спіна,

на якую прыгожа спадалі цёмныя валасы. – Нікому не дазволю кранацца да цябе...

– То што ж табе перашкаджае? Я ўся твая – цяпер і назаўжды!..

... Да Веры на працу Міхась з Надзеяю трапілі ажно пасля абеду. Тая нешта пісала на цёмнай стужцы.

– Во, якія госці ў мяне сёння! Сапраўднае свята! – з прыемнай усмешкаю накіравалася насустрач маладая жанчына. Надзея пазнаёмілася з ёй у абласной бібліятэцы на прэзентацыі кнігі аднаго з мясцовыў літаратараў. Абедзве былі прыхільнікамі і аматаркамі літаратуры.

– Мы да цябе ненадоўга, Вера, – папярэдзіла Надзея, але Вера не звяртала ўвагу на яе словы:

– Хутка канец працы, давай сходзім куды-небудзь, пасядзім, пагутарым у прыемным інтэр'еры ( сама яна не так даўно скончыла будаўнічы факультэт універсітэта, таму любіла вывучаць новыя інтэр'еры бараў і кафэ). Я сёння якраз атрымала прэмію, таму ёсць нагода адзначыць.

Вера была прыгожаю статнаю маладою жанчынаю: яе светлыя валасы ўдала стасаваліся з блакітам вачэй, характар яе вылучаўся добразычлівасцю. Вера гадавала цудоўную дачушку, шкада толькі з мужам пачаліся праблемы...

– Я таксама магу пісаць пэндзлем, – звярнуў увагу на працу Веры Міхась, – у войску даводзілася. Калі даверыш, то я дараблю тваю працу. Тая пагадзілася:

– Ты пішы, а мы з Надзеяю паплётнічаем па-жаночаму.

Утрох маладая кампанія апынулася ў невялічкім кафэ з прыглушаным святлом, з ціхай прыемнай музыкай. Вера частавала. Міхась сеў паміж Надзеяю і Веранікаю ( яму падабалася так яе называць).

Да таго часу хлопец бачыў Веру ўсяго некалькі разоў. Яна з дачушкай заходзіла да дзяўчат у пакой інтэрната.

Міхась гаварыў больш з Вераю. Надзея, задаволеная тым, што дзень неблагі атрымаўся, раз-пораз адзывалася то да Міхася, то да Веры: падтрымлівала гаворку. Ёй



было прыемна, што Міхась добра ставіцца да яе сяброўкі.

Міхась, між тым, пачаў заўважаць, як адзін чарнявы хлопец, што сядзеў збоку, пачаў часта пазглядаць у іхні бок, пасля падышоў да Міхася і спытаў з усмешкаю:

– Слухай, зямляк, навошта табе дзве жанчыны, дазволь адну забраць у нашу кампанію (яны сядзелі ўтрох ). Мы табе яшчэ праставім за гэта.

Міхась не чакаў такога нахабства, але адмовіў далікатна:

– Па-першае, я табе не зямляк, а па-другое, не суньcя куды не просяць. Дзяўчат навокал хапае, таму не лезь да чужых. У вас сваё вяселле, у нас – сваё.

Незнаёмец адышоў да сваіх, прысеў побач. Яны пачалі нешта абмяркоўваць.

– Міхась, ты толькі не звязвайся з імі. Нам не хапала яшчэ прыгод з нейкімі азіятамі...

– Такіх ужо зашмат у нашым горадзе. Хай ведаюць сваё месца. Мне яны не патрэбныя. Я тут нарадзіўся, тут мая радзіма. Яны да нас, а не я да іх прыехаў. Хай адпаведна і паводзяць сябе!

– Мы ім спадабаліся, вось і чапляюцца, – адгукнулася Вера гарэзліва. Але трэба ўжо збірацца. Пара ехаць да сям'і, – дадала яна з прыхаваным сумам.

Яны дапілі віно, крыху яшчэ пасядзелі і накіраваліся да выхаду. Надыходзіў вечар...

Спыніўшыся на прыступках, жанчыны закурылі. А Міхась, які ішоў на некалькі крокаў паперадзе, раптам пачуў ззаду:

– Зямляк, а ты што не курыш?

Механічна павярнуўшы галаву на голас, Міхась інстыктыўна адхіліўся, адскочыў ўбок і апынуўся перад трыма "знаёмымі" па кафэ. Адзін з іх размахнуўся для новага ўдару. Але Міхась імгненна перахапіў яго правую руку сваёй левай і ўдарыў на апераджэнне ў сківіцу. Той паляцеў убок. Наступны зваліўся ад удару нагой у жывот. Трэці сам адскочыў і стаяў, не ведаючы што рабіць далей, бо ўсё адбылося імгненна, раптоўна...

– Дзе ты так навучыўся біцца? – з трывогай запытала Надзея. Яе сэрца ўсё яшчэ моцна калацілася. Такое развіццё падзей зусім не радавала.

– Жыццё навучыла. У школьныя гады шмат займаўся спортам, і ў войску таксама. Ды і фізічнай працы не цураўся ніколі. На здароўе не скарджуся. А, дарэчы, прапаную з’ездзіць са мною на выхадныя да дзеда з бабуляю ў вёску. Люблю вясковую працу! Ды і пара ўжо цябе пазнаёміць з дзедам і бабуляй, ды і ўвогуле пабываць на маёй радзіме... Не пашкадуеш!

– Я таксама не супраць была б у вольны час з’ездзіць, – адазвалася Вера. Але на сёння ўсё: дачушка чакае...

– Давай заедзем да майго сябра з жонкаю, – прапанаваў Міхась Надзеі. – Яны зараз дома. А Веру праводзім на тралейбус. Сустрэнемся наступным разам у Надзеі.

Па дарозе да студэнцкага сябра Міхась з Надзеяю прыхапілі дзве бутэлькі чырвонага віна на вячэру. Праз нейкіх паўгадзіны яны апынуліся на ціхай вулачцы з прыватнымі дамамі. Вечаровая ціш была напоўнена пахам кветак. У садах цёхкалі галасістыя птушкі...

Зялёны драўляны дом стаяў у глыбіні старога саду.

– У вас тут як у вёсцы. Асабліва прыгожа цяпер, пад вечар: водар, цішыня. Добра было б пасядзець дзе пад вішнямі, – прагаварыла з настроем дзяўчына, пакуль яны ішлі акуратнай бетоннай дарожкай да дзвярэй...

– Зараз вось і паглядзім, дзе лепей пасядзець: пад вішнямі ці ў пакоі. Як ужо гаспадары пажадаюць... – весела адгукнуўся Міхась, прытрымліваючы далікатна Надзею за правае плячо.

***

... Алег з Людмілаю былі дома: глядзелі вячэрнія навіны па тэлевізары, займаліся хатнімі справамі. Яны ўжо пабачылі ў акно, што да іх накіраваўся Міхась з дзяўчынаю.

Маладыя гаспадары першы раз бачылі Надзею. Ім было прыемна пазнаёміцца з прыгожаю дзяўчынаю. Усе былі аднаго ўзросту, лёгка і проста адчувалі сябе ў кампаніі.

Пасля выпітага віна павесялелі і разгаварыліся. Усе адчувалі сябе ўтульна яшчэ і ад таго, што быў цёплы летні вечар, што насталі студэнцкія канікулы, і раніцаю не трэба спяшацца на заняткі...

– Давайце паедзем заўтра ў вёску да маіх дзеда з бабуляю! – прапанаваў Міхась, напаўняючы чарговы раз бакалы з віном. – Абяцаю, што сумна не будзе! Ёсць дзе рыбу палавіць і грыбы пазбіраць. За гэта і вып’ем!

– А калі цягнік адпраўляецца? – запытала Людміла, дакрануўшы лёгка да Міхасёвага бакала з віном.

– Паедзем увечары. Якраз трапім на вячэру. Пэўна, ужо і бульба маладая нарасла ў бабулі. А да бульбы возьмем селядцоў. Іх вельмі падабае мой дзед Павел.

## ПЯТНІЦА

Міхась начаваў у бацькоўскім доме, Надзея – у новых сяброў. Там і сустрэліся раніцай.

Цёплы сонечны ранак спрыяў таму, каб пасядзець на падворку, пафатаграфавацца. Спяшацца не было куды. За свежым півам сябры працягвалі ўчарашнюю размову...

... Вечарам сустрэліся на вакзале. Доўга давялося ўгаворваць Надзею, якая крыху спазнілася і нечакана раптам засаромелася ехаць у вёску да Міхасёвых дзеда з бабуляю. Адмаўлялася па прычыне таго, што нічога не ўзяла ў дарогу, бо быццам бы ўжо і не збіралася ехаць. Але да іх далучыўся яшчэ Валерык, таксама студэнт,аднавясковец Міхася.

– Усё патрэбнае набудзем у вясковай краме. А падушкай на сене будзе табе маё плячо!– весела адказаў Міхась на сумненні дзяўчыны, якая ў самы апошні час засумнявалася наконт паездкі.

– Толькі сена дзедава не папсуйце! – падкузьміў Валерык, задаволены тым, што сабралася добрая кампанія.

***

Дзеду Паўлу і бабулі Лізавеце было прыемна сустракаць нечаканых гасцей. Яны не разгубіліся, бо Міхася з дзяўчынай-нявесткай даўно ўжо чакалі. А яго сябры толькі дабавілі радасці ў хату.

Вячэралі ў хаце за старым дубовым сталом.

– Ну то якая твая будзе? – зацікаўлена запытаў дзед, гледзячы то на Надзею з Людмілай, то на Міхася.

– Дзеду, а якая вам больш спадабаецца, тую і аддамо за Міхася! – пажартаваў Алег.

– Мне абедзьве падабаюцца!” – адказаў упэўнена дзед, глытнуў гарэлкі, і прымерыўся да талеркі з селядцамі.

Уладкаваліся на начлег на сене на гарышчы. Тут было ўтульна ад водару траў, ад цішыні, ад цяпла каровы ўнізе. Паклалі дзве посцілкі і леглі адзетымі: пасярэдзіне мужчыны, а па краях жанчыны, кожная ля свайго абранніка.

Стаміўшыся за дзень, амаль адразу пазасыналі.

***

Міхась пракінуўся ад асцярожных крокаў на падворку, якія аддаляліся ў бок балота. “Каго гэта носіць сярод начы? Што тут каму патрэбна? Але не будзеш жа злазіць уніз і высвятляць падрабязнасці. Ды і , напэўна, падалося ўсё гэта...” – падумаў хлопец і прыціснуўся мацней да сяброўкі, адчуваючы лёгкі ранішні халадок. Цёплая спіна Надзеі пахла мятаю і чабрацом, нечым яшчэ прыемна-няўлоўным і жаданым. Праз каторы час крокі пачуліся зноў. “Нехта палякаць нас прыйшоў сюды ці што? Мо Валерыку не спіцца, выбраўся па грыбы, дык вырашыў нас папужаць крыху на досвітку?” – пачаў разважаць Міхась. Прыўзняўшыся на локаць, ён прыслухаўся: нібыта нехта ў старых галёшах аддаляўся ад хлява. “Раніцай трэба будзе пагледзець на сляды,” – вырашыў хлопец, тулячыся зноў да Надзеі...



## СУБОТА

Першым падняўся Міхась. Злез па старой драбіне з гарышча, выйшаў на падворак, агледзеўся. Раса на траве была збітая, і сцежка вяла ў бок балота. “Нехта тут такі праходзіў. Толькі каму патрэбна было пад ранак лазіць? Нешта тут не тое...” – разважыў Міхась. Але вырашыў нікому пра гэта пакуль не гаварыць, ва ўсім разабрацца самому. Палохаць гасцей на самым пачатку было нядобра.

***

Дзед Павел, якому хацелася зранку пачаставаць гасцей віном і самому падлячыцца, папрасіў унука з’ездзіць на ровары ў суседнюю вёску ў магазін.

У дзеда было моцнае здароўе, ён толькі пасміхаўся за сталом, калі маладыя хутка хмялелі…

Пасля няспешнага снедання студэнты павыходзілі ў двор, пасядалі пад дрэвамі ля калодзежа. Алег схадзіў у хату за фотаапаратам, Міхась адшукаў дзедаў саламяны капялюш. Людміла, у якой былі доўгія прыгожыя валасы цёмнага колеру, захацела ў ім сфатаграфавацца. Ёй вельмі пасаваў той стары саламяны капялюш. Прыгажосць жанчыны нібыта набыла новыя фарбы. Фатаграфаваліся хто як хацеў: і паасобку, і разам. Міхась зняўся на лаве ля сцяны хаты з дзедам і бабуляю. Фотасесія прайшла на вышэйшым узроўні.

Пасля гэтага Міхась прапанаваў Алегу схадзіць палавіць кломляю рыбу на балота ў стары роў, бо асаблівай працы ў дзеда не было. Людміле з Надзеяю заставалася толькі дапамагчы бабулі прыбраць у хаце і на падворку. Лезці з хлопцамі ў незнаёмае балота яны не захацелі.

***

Кломлю Міхась пайшоў папрасіць да бацькоў Валерыка, сябра дзяцінства.

Дзядзька Васіль крыху засумняваўся наконт улову, але вынес старэнькую прыладу для рыбнай лоўлі.

– Толькі дзіркі, якія з мінулага года, пазацягвайце, бо і адзіны карась уцячэ, калі раптам трапіць да вас, небаракаў.

– Не хвалюйцеся, дзядзьку! Сваю рыбу мы зловім, – упэнена адказаў Міхась, паціскаючы руку дзядзьку Васілю ў знак удзячнасці.

Надзейней было ісці на балота ў стары роў: там заўжды можна было “надавіць” карасёў. Да таго ж трэба было і Алега ўвесці ў курс справы, і перад дзяўчатамі сябе паказаць...

Па дарозе да рыбалкі заглянулі да Івана Бялевіча, хрышчонага бацькі Міхася, які завіхаўся ў садзе ля вулляў з пчоламі, каб пагаварыць пра рыбную лоўлю.

– Ідзіце ў роў на балота. Там найхутчэй нешта і зловіце. З восені вады хапала, рыба павінна быць. Калі што, дык уюноў наберацe: іх там заўсёды хапае ў мулі, – адзначыў з разуменнем хрышчоны. – Я яшчэ не паспеў у гэтым годзе выбрацца, але праходзіў равамі, глядзеў: рыба павінна быць. Думаю, і ў навакольных сажалках хапае, але самае надзейнае месца ў раву сярод балота, направа ў бок ад Ямкі...

***

Роў быў шырокі і глыбокі, але парослы асакою, чаротам. Месцамі парасло кустоўе. Асаблівага дагляду за ім не было, хіба што падкошвалі асаку, секлі калі-нікалі хмыз.

– Нам тут хопіць працы, – сур’ёзна адзначыў Міхась, звяртаючыся да Алега, – сумна не будзе.

– Я ўпершыню, – папярэдзіў Алег, – таму, калі што, не злуйся, кіруй.

Хлопцы збольшага пераапрануліся і пераабуліся: у вадзе можна наступіць на нешта вострае.

Вада напачатку здалася халоднаю. Алег паморшчыўся, але паціху палез у ваду ўслед за Міхасём.

– Не ведаю, ці зловім мы тут што. Нешта не відаць рыбы, – расчаравана зазначыў Алег.

– Ты не панікуй, усё наперадзе. Вось толькі крыху ўскаламуцім ваду, тады весялей пойдзе. Вось пабачыш! – супакоіў яго Міхась. – Цягні смялей.

Па ўскаламучанай вадзе пачалі вяртацца назад, бліжэй да грэблі. Часцей сталі трапляць у кломлю карасі, шчупакі.

Алег радаваўся як дзіцё: ніколі раней ён не лавіў так рыбу. І тое, што траплялася, вызывала добры настрой. Але калі раптам з-пад берага скочыў паверх кломлі вялізны шчупак, хлопец пералякаўся, кінуў кломлю і пабег з вады на бераг. Але пазлізнуўся, зачапіўшыся за нешта, зноў апынуўся ў вадзе.

– Ты чаго так напужаўся? – здзіўлена запытаў Міхась. – Шчупакоў ніколі не бачыў у сваёй Прыпяці? Супакойся, гэта рыба так радуецца, калі пачынаеш яе “давіць”...

Алег супакоіўся, але выбраўся на бераг і сеў на траву, узіраючыся сябе пад ногі.

– Што ты там выглядаеш, лезь у ваду, акутат рыба пайшла! – гукнуў незадаволена Міхась.

Алег падняў галаву, зірнуў на сябра:

– Глядзі, я за нешта зачапіўся, калі хацеў выскачыць з рову. Нібыта скураны саквояж ці сумка вывальваецца з гліны.

Міхась паклаў бліжэй да берага кломлю, падышоў да Алега. Сапраўды, з гліны выглядаў аблеплены брудам стары карычневы саквояж. Хлопец асцярожна працягнуў руку, дакрануўся да ручкі, ухапіў яе і рвануў на сябе...

... Тое, што трапіла раптам на вочы хлопцам, вельмі здзівіла іх. Але ў той жа момант за спінай Алега з’явіліся нейкія загадкавыя сполахі: нібыта палярнае ззянне, вырасла высокая сцяна, што адбівала промні сонца. Яна бліснула, і склалася ўражанне, што прастору ўздоўж рова абцягнулі празрыстай паліэцыленавай плёнкай. Стала так ціха, быццам выключылі гук у тэлевізары ці радыё.

– Што здарылася? – запытаў Міхася не сваім голасам Алег. – Нешта не тое ў нас атрымліваецца. Ці не пара нам адсюль ногі несці ў вёску як мага хутчэй?

– Пачакай. Трэба аглядзецца і разабрацца: з чаго ўсё гэта пачалося. Я толькі раскрыў саквояж, мы не паспелі нават разглядзець, што ў ім...

Зіхаценне паступова пачало прападаць, але нязвыклая ціша засталася. Паверхня вады ў рове стала гладкай і люстранай.

Міхась падцягнуў кломлю вышэй на бераг, ступіў бліжэй да саквояжа і раскрыў яго на ўсю шырыню. Зверху ляжала скамечаная, паўгнілая кепка, пад ёй нейкая тканіна, праз якую абазначыўся пачак грошай, заблішчэла золата і серабро. Міхась крануў рукою гэты скарб – і пачуўся прыглушаны звон, які падаўся хлопцам у той цішыні моцным громам. Яны пераглянуліся. Міхась хацеў нешта крыкнуць Алегу, але не змог: толькі правай дрыжачай рукой паказаў убок.

Метраў за сто ўздоўж рова ў іхнім накірунку рухаўся чалавек у доўгім шынялі, аброслы валасамі, страшны з выгляду. Ішоў ён цяжка і няспешна. Ад гэтага хлопцам зрабілася ніякавата: было не да скарбу. Чалавек рухаўся як невідушчы: далікатна і няспешна ступаючы паміж купін балота...

– Што будзем рабіць? – толькі і змог спытаць Алег у Міхася, усё яшчэ седзячы насупрач сябра.

– Пакуль сядзі і не рухайся. А я непрыкметна зачыню саквояж і прыкрыю яго травой...

Міхась заўважыў, як постаць мужчыны стала паступова прападаць, растварацца, нібыта згубілася ў вячэрнім тумане...

Хлопец падаў руку Алегу, які нарэшце падняўся на ногі.

– Вось дык прывёз ты мяне! Ніхто не паверыць, калі пачнём расказваць. Як тут людзі і жывуць толькі побач з гэтым балотам?!

– А нікому нічога і не трэба гаварыць! – рэзка адказаў



сябру Міхась. – Маўчы. А пакуль пайшлі збіраць нашу рыбу...

Хлопцы сцягнулі мокрую вопратку, у якую закруцілі саквояж-знаходку, падабралі рыбу і папраставалі да дзедавай сядзібы. Надыходзілі прыцемкі, трэба было ўжо і спяшацца, бо і дзяўчаты зачакаліся, і апетыт за дзень нагулялі. А цішыня над балотам працягвала заставацца ранейшай...

***

– Я здагадваюся, пра што ты гаворыш, – задуменна адказаў дзед Павел унуку, дакурваючы “Астру”. – У час вайны старастам у нашай вёсцы быў мой сусед Ігнат Дакуцкі. Ён нібыта нікому нічога благога не зрабіў, але ж служыў на такой пасадзе, за якую Саветы нікога не хвалілі апасля вайны. Таму, калі прайшоў фронт, яго хутка прыбралі. Сядзеў у лагеры. Хутка праляцеў час, і ад яго прыйшло жонцы Таццяне пісьмо, у якім гаварылася, што вяртаецца дамоў... Быў названы і дзень прыезду... Але родныя яго не дачакаліся. Толькі наступным годам увесну нехта сярод балота патрапіў на цела мужчыны непадалёку ад вёскі ля рова: у старым шынялі, гумовых ботах, са старым дзіравым рэчмяшком... Некаторыя гаварылі, што яго забіў адзін з нашых, які і цяпер жыве, але ў тое цяжка паверыць, бо яны сябравалі. Цяжкі быў час, бо і вёску маглі спаліць разам з жыхарамі, ды толькі Бог уратаваў: не адшукалі тады на маім падворку тое, што шукалі – зброю. Добра, што не трапілі да майго стрыечнага брата Івана на другім канцы вёскі, бо яго сын Сашык на той момант меў прыхаваныя ў прызбе патроны і гранаты. Выходзіць, іхні наводчык дрэнна спрацаваў. Стараста наш не быў да гэтага ніякім чынам далучаны... Вось такая гісторыя. А тое, што вы бачылі яго прывід, то не ўпершыню. Казалі людзі, што пад вечар на балоце можна сустрэць чалавека-дзівака, які ходзіць паміж купінаў і нібыта нешта шукае. Відаць і вы патрапілі на яго. Хаця хто яго ведае, што можна пра ўсё

гэта думаць і гаварыць. Мо нешта і схаваў стараста на балоце, дык да гэтага часу і шукае...

А наконт знаходкі-саквояжа дзед параіў самім вырашаць, але не спяшацца, час пакажа.

Хлопцы дамовіліся адвезці саквояж спачатку ў горад, а там ужо спакойна разглядзець усё і вырашыць далейшы лёс таго, што раптам трапіла ў рукі.

Уначы Міхась зноў чуў чыесьці цяжкія крокі на дзедавым падворку і разумеў, што ў гісторыі, у якой яны апынуліся, яшчэ не ўсё расстаўлена па сваіх месцах. Ніякавата было чуць тыя крокі ўжо каторы раз, асабліва апасля дзённых уражанняў і расказаў дзеда. Алег, дзякуй Богу, у гэты час моцна спаў, абняўшы сваю прыгажуню-жонку. Міхасю таксама было да каго прытуліцца.

## НЯДЗЕЛЯ

Алег з Людмілаю падняліся раней за ўсіх, потым Міхась, а на гарышчы засталася Надзея. Яна хацела крыху прыбрацца.

Не дачакаўшыся сяброўкі, Міхась падняўся на гарышча: стол у хаце быў ужо накрыты для снедання. Асабліва пахкаю была смажаная рыба. Апетытна ішла пара і ад бульбы.

Падняўшыся па старой драбіне, Міхась найперш пабачыў аголеныя ногі Надзеі: у гэты момант яна якраз здымала з сябе спадніцу.

– А ты вельмі прыгожая, калі на цябе глядзець знізу! – залюбаваўся Міхась. Ад нечаканасці дзяўчына апусціла рукі і прысела.

– Не пужай мяне так больш, – папрасіла яна, – а то нарадзіць дзіця табе не змагу!

Міхась абняў далікатна Надзею, сеў побач на сена.

– Вырашыла павыбіраць саломінкі з-пад адзежы. А тут ты...

– У нас атрымаўся зручны момант пабыць тут адным хаця б некалькі хвілін. А пахкае сена так дурманіць... – шэптам прамовіў Міхась на самае вуха сяброўцы...

– Во, ужо нафарбавалася, – сказала здзіўлена Людміла, пабачыўшы Надзею з падмаляванымі вачыма.

Надзеіны вялікія зяленаватыя вочы сапраўды ўражвалі і былі падобныя Міхасю на вялікі таямнічы сусвет. Хлопец разумеў, што дзяўчына хоча ўсім падабацца, асабліва дзеду і бабулі Міхася. Старыя людзі ацанілі гаспадарчыя здольнасці Надзеі ўжо на другі дзень пасля прыезду, калі яна прыбрала ўсю дзедаву хату, пад канец дня вымыла з драчуном нефарбаваную падлогу, якая адразу засвяцілася, зацеплілася сваёй чыстай паверхняю. Свежае паветра ў хаце дабавіла ўзнёсласці і добрага настрою гаспадарам і іхнім гасцям.

Паснедаўшы, маладыя людзі вырашылі прагуляцца ў лес, што цягнуўся ўздоўж чыгункі за суседняй вёскай. Сонца ўжо высока паднялося на небе. Надвор’е спрыяла вандроўцы студэнтаў у Хваіну.

Па дарозе зайшлі ў невялічкі магазін у суседняй вёсцы, узялі некалькі бутэлек віна, цукерак, мінеральнай вады. З тым і рушылі ў сасновы лес, што віднеўся за вёскаю.

Грыбы збіралі мо якую гадзіну. Усе былі задаволеныя тым, што гэтае невялічкае падарожжа так радуе цяплом, святлом, непаўторнымі пахамі і гукамі лесу... Калі выйшлі на невялічкую палянку, то прыпыніліся, расклалі “трафеі” ў цяньку, паслаўшы посцілку, якую Надзея папрасіла ў Міхасёвай бабулі.

– Ты ўжо як маладая гаспадыня адчуваеш сябе, – пажартавала Людміла.

– Я ўсяго толькі дапамагаю Міхасю, – трохі засаромелася Надзея.

Вяртаючыся з лесу, сутыкнуліся з матацыклістам. Міхась пазнаў мужа роднай цёткі Марыі – Васіля, які вяртаўся, напэўна, ад цешчы з цесцем – Міхасёвых дзеда і бабулі. Дзядзька Васіль ужо мінуў іх, але прытармазіў раптам і аглянуўся:

– Міхал, то ты? А я адразу і не пазнаў. – Ён хуценька злез

з матацыкла і падышоў да моладзі, зычна павітаўшыся.

– Ну што, грыбоў назбіралі? – было яго першае пытанне. – Калі на закуску хопіць, то я зараз заеду ў магазін і вярнуся...

– Назбіралі! – весела адказаў Міхась, павітаўшыся з дзядзькам. – Хопіць усім! Даганяйце, дзядзьку! Даўно не бачыліся, то пагаворым, калі на тое ў вас ёсць час. Будзем чакаць!

Васіль быў жвавым мужчынам, меў двух сыноў.

Калі матацыкал апынуўся перад дзедавай хатай, бабуля спахапілася:

– Мусіць нешта забыў у нас Вася.

Міхась нічога не сказаў дзеду з бабуляю пра Васіля, акрамя таго, што сустрэў яго па дарозе, бо не быў упэўнены, што дзядзька вернецца. А той вярнуўся з вялікімі бутэлькамі гарэлкі, паставіў на стол у кутку ля вокан, за якім заўжды збіраліся дзедавы сыны, дочкі і жаданыя госці.

– За сустрэчу трэба і выпіць з маладымі. Калі яшчэ такі выпадак здарыцца ў нашым калгасе, хіба толькі на Міхасёвым вяселлі?! – задаволена вымавіў дзядзька Васіль.

Да позняга вечара Васіль гаманіў з гасцямі і цесцем з цешчаю, але потым спраўна сеў на матацыкл. Было відаць, што яму не прывыкаць у такім стане кіраваць тэхнікай. Дзядзька Васіль, як сам казаў, не баяўся натрапіць на ДАІшнікаў ці некага з свайго мясцовага кіраўніцтва. Сварылася на зяця і цешча-бабуля, бо не падабалася ёй, што Васіль ездзіць на падпітку...

## ПАНЯДЗЕЛАК

Мінула трэцяя ноч студэнцкіх канікул.

Калі ў нядзелю ўвечары ўжо стала змяркацца, раптоўна пачалася навальніца. Яна працягвалася доўга, таму, калі скончылася, ніхто з моладзі не чуў, бо моцна



пазасыналі ўсе пасля вясёлай вячэры.

Цёплая летняя раніца сустрэла лужынамі і мокраю травой. Міхась адразу звярнуў увагу на ледзь прыкметныя сляды, што вялі направа за вугал хлеўчука, дзе гадаваўся дзедаў вяпрук. “Трэці ранак свежыя сляды, начныя крокі. Нездарма ўсё гэта. Пара ўжо дакладна абследаваць тое месца, дзе яны абрываюцца. Нешта тут не тое... Міхась накіраваўся па следу. Падавалася, нібыта нехта галінкаю з лісцем прасунуў па траве ў гэтым месцы.

У куце паміж плотам і хлеўчыкам пад старым вязам раслі лапухі, ляжала некалькі невялічкіх камянёў, што напалавіну хаваліся ў зямлі. Звычайная з’ява для вясковага побыту, але ледзь прыкметныя сляды абрываліся менавіта ў гэтым месцы, што адразу насцярожыла хлопца. “Нешта менавіта тут хавае той, хто прыходзіць уначы. Трэба капаць. Але чаму так настойліва нехта вядзе мяне аднаго да гэтага месца. Бо толькі я бачу гэтыя сляды, бо толькі я думаю пра гэта. І не ад таго, пэўна, што начытаўся прыгодніцкіх кніжак, наглядзеўся дэтэктыўных кінафільмаў. Я адзін ведаю пра мінулае гэтых мясцін і людзей, я тут нарадзіўся.”

Міхась і на гэты раз хацеў параіцца з дзедам, але таго ўжо не было ў хаце, пайшоў на другі канец вёскі да брыгадзіра.

Хлопец узяў рыдлёўку і накіраваўся за хлеўчык. Там яго ніхто не мог пабачыць.Вельмі не хацелася, каб нехта з вяскоўцаў зранку заўважыў яго за незразумелай для гэтага часу працай.

У хуткім часе рыдлёўка ўпёрлася ў нешта цвёрдае і непадатлівае. Цвёрды прадмет прамавугольнай формы, што абазначыўся ў яміне, быў падобны на сярэдніх памераў скрыню для патронаў. Верх быў драўляны, таму хлопец крыху супакоіўся: не хапала яшчэ натрапіць на снарад ці міну.

Тое, што адкапаў Міхась, здзівіла яго і насцярожыла: “Адкуль усё гэта?”

Калі хлопец зняў накрыўку скрыні, то ўсярэдзіне яе

пабачыў невялікіх памераў тры цынкавых каробкі, у якіх звычайна захоўваліся нямецкія патроны. Паверхня цынковак была змазана салідолам.

Міхась закрыў скрыню, абцёр, наколькі можна было гэта зрабіць, ад зямлі і панёс яе ў хлеўчык пад сячкарню, каб з гароду ці ад балота ніхто не пабачыў раптам яго зранку за незвычайнай працай. Вярнуўшыся, Міхась засыпаў яміну, разраўняў зямлю і вярнуўся ў хлеўчык.

У першай цынкавай каробцы былі старыя паперы на розных мовах, што адразу здзівіла хлопца. Ён з большага пагартаў іх і адклаў убок.

У Міхася яшчэ мацней затахкала сэрца: а ну раптам нешта такое трапіла ў рукі, ад чаго перавернецца ўвесь сусвет!

У другой каробцы ляжалі два бліскучыя пісталеты. “Наган і вальтэр!” – адразу вызначыў хлопец, адчуваючы, як раптам стала вельмі горача. “Вось дык знаходкі!” – толькі і падумаў Міхась, і пачаў распакоўваць апошнюю, трэцюю, у якой нечакана заблішчэлі металічныя манеты рознага колеру і памераў. На дне ляжалі папяровыя грошы, залатыя завушніцы, пярсцёнкі, медальёны... “Ну і ну!” – не пераставаў здзіўляцца Міхась. – “І што цяпер з усім гэтым рабіць?! Трэба ўсё ж такі параіцца з дзедам.”

Міхась прыкрыў скарб сенам і пайшоў мыць рукі.

Пасля снедання ўсе павыходзілі на падворак перакурыць. Асабліва любіў гэта рабіць дзед, якому пакурыць было – што паесці. Мо нават і больш. Бабуля расказвала, што дзед па маладосці не курыў. Пачаў “травіцца”толькі тады, калі яны пазнаёміліся і сталі сустракацца.

–Да большай важнасці! Каб быў мужчынскі пах, – зазначыў, пасміхаючыся, дзед, пускаючы сівы дым у паветра. – Калі служыў у Сямёнаўскім палку ў Пецярбурзе, то атрымлівалі махорку на кожны месяц, але я на той час не ўжываў, то адкладваў у свой сундучок. Потым абменьваў ці прадаваў.

Калі пакурылі і нагаварыліся, Міхась незаўважна для іншых паклікаў дзеда да калодзежа.

– Зранку я тут справу адну зрабіў. – Міхась павёў дзеда ў хлеў да сячкарні, прычыніў дзверы.

– Пакуль мае сябры яшчэ спалі, я пайшоў хрэну выкапаць. Ды замест хрэну выкапаў адну хрэновіну.

– Карацей, адкапаў скрынку ад патронаў, а ў ёй розныя штучкі.

– Не разумею пра што гаворыш, – адказаў здзіўлена дзед Павел.

– Тады глядзі! – Міхась скінуў са скрыні сена. – Гэта яшчэ не ўсё!

Калі дзед усё прагледзеў, дакрануўся да кожнай рэчы, пачаў згадваць былое.

– Гэта мог схаваць толькі адзін чалавек, наш аднавяскоўвец Іван Дакуцкі. Я табе ўжо гаварыў пра яго. У нас былі добрыя суседскія адносіны. Тое, што яго пасля вайны арыштавалі, дык гэта не дзіўна. Толькі ён ні ў чым не быў вінаваты перад людзьмі, перад савецкай уладай. Дык вось: Іван Дакуцкі, хутчэй за ўсё, і схаваў гэтую скрыню адразу пасля таго, як немцаў пагналі ў 1944 годзе, ці яшчэ раней. Відаць, прадчуваў, што ад Саветаў нічога добрага чакаць не прыйдзецца, таму і прыхаваў свой скарб на маёй зямлі: давяраў ён мне. Ды толькі , відаць, ні жонка, ні дзеці не ведалі пра гэтае месца. А ён не дайшоў да роднай хаты пасля смерці Сталіна зусім мала: загінуў сярод балота. Ці сілы яго пакінулі, ці патрапіў на нейкага ліхога чалавека. А табе, унуча, вось пашчасціла адкрыць маленькую таямніцу, ды толькі не да часу. Я не хачу, каб твае сябры пра гэта ведалі. Гэта нашыя мясцовыя справы. Прыйдзецца табе пра гэта маўчаць. Наступным разам прыедзеш сам. Мы тады і вырашым, што з гэтымі рэчамі рабіць далей. Толькі скрынку з пісталетамі кінь непрыкметна ў стары калодзеж. Пра гэта не павінен ніхто ведаць: лішнія праблемы нам не патрэбныя. Астатняе я пакуль прыхаваю ў камору. Толькі скажы, як табе прыйшло ў галаву пайсці за хлеўчык з рыдлёўкай?

– Напэўна, гэта мне падказаў Іван Дакуцкі. Мяне ўвесь час цягнула ў гэтае месца: уначы чуў крокі ля хлява, раніцай бачыў сляды на траве.

Дзед Павел здзіўлена паглядзеў на ўнука, але больш нічога не сказаў...

Адразу за вёскай кампаніі перагарадзіла дарогу вялікая калюжына. Міхась скінуў свае пантофлі, падышоў да Надзеі, абхапіў яе рукамі, падняў і перанёс на другі бок, хлюпаючы нагамі па цёплай вадзе.

Навокал стаяла ціш. Было нават душна ад цеплыні і вільгаці. Калі Міхась падышоў да Людмілы, каб і яе перанесці, Алег пастараўся зрабіць гэта раней. Хлопец не скідваў красоўкі, а абуты з Людмілаю на руках пайшоў па вадзе. І яго можна было зразумець: уласная жонка ў абдымках – каму спадабаецца.

Маладыя людзі весела пакрочылі далей, але ў гэты момант Алег, зірнуўшы ў бок таямнічага балота, раптам прыкмеціў, што за поплавам па балотнай нізіне ізноў рухалася паўпразрыстая постаць, нагадваючы чалавека ў доўгім старым шынялі. Хлопец прыпыніўся, крануў рукой Міхася:

– Ён нас не адпускае! – прамовіў Алег сцішаным голасам.

Міхась прыпыніўся, глянуў у бок балота.

– Мы бачым рэшткі памяці. Гэта напамін нам не забыць мінуўшчыну, не забыць пра тых людзей, што раней жылі тут, працавалі, кахалі. І мне заўжды будзе карцець зноў сюды вяртацца, бо гэта – мая радзіма, бо гэта – мая зямля. І гэты прывід, мо, і не прывід, а павевы мінуўшчыны, што не адпускае нас. Нам аказаны ёю вялікі давер. Цяпер наша справа вырашаць, як абысціся з тым, што трапіла нам у рукі, што закралася ў нашу памяць і свядомасць. Нам гэтым цяпер распараджацца і з гэтым жыць далей...



## АЎТОРАК

На наступны дзень пасля прыезду з вёскі Міхась вырашыў нарэшце вярнуцца да знойдзенага скарбу. Дастаў таксама са скрыні стала каробачку, што падарыла цётка Адарка.

Тое, што адбылося за час паездкі ў вёску, не толькі здзівіла і напалохала, але і ўзварушыла свядомасць і прымусіла больш пільна ўглядацца ў гісторыю роднага краю. Аказваецца, яе таямніцы прыхаваны на кожным квадратным метры зямлі, у кожным кубічным метры паветра...

Са скураным саквояжам трэба было разбірацца яшчэ і разбірацца. Алег прапанаваў Міхасю асабіста заняцца ўсім гэтым. На яго радзіме “злавілі” кломляю саквояж, то хай Міхась сам паціху і ўдакладняе што да чаго, хай вырашае, што рабіць надалей. Да таго ж можа высветліцца, што знойдуцца і нашчадкі гаспадара скарбу. Усё можа быць...

Міхась пачаў сваё даследванне з падарунка цёткі Адаркі. Да скрыначкі з манетамі і паперамі Міхась напачатку аднёсся не зусім уважліва. Цяпер ён спакойна дастаў яе, зняў накрывачку, уважліва разгледзеў манеты і расклаў іх у храналагічнай паслядоўнасці. А потым акуратна пачаў разгортваць і шукаць тое, што мела непасрэднае дачыненне да вёскі. Такі падыход да справы адразу настроіў яго на сур’ёзны лад.

Калі ў руках аказаўся план роднай мясцовасці, то тут не абышлося без павялячальнага шкла. Міхась узяў чысты ліст паперы, ручку і пачаў “варажыць”, наносіць план мясцовасці на чыстым аркушы паперы, нібы малюючы нанова гісторыю жыцця незнаёмага чалавека....

Вынік амаль двухгадзіннай працы прынёс плён: на плане нарэшце абазначылася дзедава сядзіба. І крыжык трапляў якраз на тое месца, дзе Міхась адкапаў скрыню. “Вось яно што!” – Міхась ад нечаканасці прыўзняўся з крэсла і пачаў хадзіць па пакоі, усміхаючыся самому

сябе. З адною знаходкаю праяснілася. Трэба толькі будзе зайсці да цёткі Адаркі і распытаць яе пра тое, як трапілі ёй у рукі паперы, распытаць пра нашчадкаў былога старасты Івана Дакуцкага.

... У сярэдзіне сямідзясятых гадоў прыязджала я ў вёску да сястры Ніны выбіраць бульбу. А ў той час суседка Ніны – Ліда, што набыла некалькі гадоў да таго старую хату Дакуцкіх, мяняла гонтавы дах на шыферны. Да Ліды прыехаў старэйшы брат з горада, нехта з радні ды яшчэ сыны былі на падхваце.

Ліда неяк увечары паклікала і мяне да сябе.

– Адарка, ты малодшая за мяне, шпарчэйшая. Я ўжо стамілася, сіл маіх не хапае. Дапамажы крыху прыбраць лахманы з гарышча. Заўтра будуць крыць хату, а там лахманоў – не перадаць словамі...

Я з Лідаю пачала перабіраць усё. Так нечакана ў лахманах, у старым валёнку, натрапіла я на цынкавую скрыначку, паказала Лідзе.

– А, патроны. Шмат іх нахаваў Дакуцкі ў вайну. Прыхавай, не паказвай сынам, выкінеш потым, каб не бачылі. Мала мне свайго гора, дык яшчэ гэтыя патроны...

– Так я загарнула ў анучку тую скрынку, прынесла да сястры і паклала пад лаўку ў сенцах. А на наступны дзень вырашыла паглядзець на тыя патроны, пабачыць, перш чым выкідваць. А там аказаліся манеты польскія і нямецкія, дакументы. То я ўсё і прывезла ў горад. Манеты шкада было іх выкідваць, бо пры Польшчы то былі вялікія грошы. А ў паперах вельмі не разбіралася: не маё – дый годзе. Так і не ўспаміналa пра гэтую скрыначку доўгія гады, пакуль не натрапіла неяк нечакана. Так вось і надумала перадаць табе: ведала, што ты патрэбным чынам скарыстаешся ёю.

– Так, цікавая скрыначка.

Міхась аб нечым задумаўся на хвіліну, а потым запытаў:

– А ў наваколлі ад Ямкі былі пры Польшчы хутары?

Адарка глянула на Міхася, нібыта нешта



прыпамінаючы, адказала задуменна:

– Да вайны жыла непадалёк у старой хатцы бабулька, якая яшчэ пры Польшчы не захацела пераязджаць да сына ў вёску. Але пасля таго, як там непадалёк польскія паліцаі застрэлілі яе ўнука Сцяпана, то яна хутка адышла ў лепшы свет. А хатка згарэла напачатку вайны: снарад трапіў. Нічога не засталося ад таго месца пасля вайны, калі пачалі арганізоўваць калгасы. Тое-сёе разабралі, разнеслі, луг разаралі. Засталося адно ці два дрэўцы на тым месцы. А так толькі хіба хто са старых памятае, што там жыла адзінокая старая, якая не захацела пераехаць у вёску да сына, нашага земляка.

***

Міхась прыехаў да дзеда праз тыдзень ужо адзін. Пытанняў набралася шмат, не на адзін перакур.

– Пасля Першай вайны, – расказваў стары, – тут заставалася некалькі хат. Цяжка жылося ў тыя гады, але вытрывалі, перапакутавалі. Калі я вярнуўся з маці і малодшым братам, то ўсё трэба было адбудоўваць нанова, бо на месцы сядзібаў толькі печы віднеліся ды кустаўё і зелле буяла. Цяжка было падымаць гаспадарку, але ўсё пераадолелі, акрыялі патроху. Тут ужо як у каго атрымалася. Амаль адразу трапілі пад Польшчу, а там свае законы і парадкі. Так і жылі. Усяго хапала... –- Дзед дакурыў цыгарэту, дастаў другую. Было відаць, што ўспаміны зачапілі яго за балючае.

– Тое, што ты з сябрамі адшукаў – асколкі мінуўшчыны, сведкі былога часу. За ўсім гэтым стаіць лёс нашых вяскоўцаў, часам вельмі складаны лёс. Асуджаць цяпер таго ці іншага позна. Гэта ўжо далёкая гісторыя. Ты, твае сябры і сяброўкі – пішыце новую гісторыю. Мне ў маім жыцці ўсяго хапіла: і добрага, і благога. То быў мой лёс. І я задаволены ім амаль спаўна. Галоўнае – у мяне ёсць сыны, дочкі, ёсць вы – унукі, унучкі. Жывыя, блізкія мне людзі. А тое жалеззе, паперкі – для мяне непатрэбшчына. Усё гэтае польска-савецка-нямецкае

засталося за спінаю... Таму са знаходкамі вырашай сам, як абыйсціся. Памятай толькі: нельга, каб гэта прынесла зло. Вам жыць надалей, будаваць сваё асабістае жыццё. Беражыце толькі памяць продкаў, бо без яе і ў гарод за морквaю не сходзіш, не нап'ешся і вады з калодзежа...

І ўважліва паслухай, што яшчэ хачу табе сказаць, пра што ніколі нікому не гаварыў: чалавек, які хутчэй за ўсё схаваў той знойдзены вамі саквояж на ўзровіску, быў мой малодшы брат Сцяпан. Яго лёс склаўся трагічна: ён быў застрэлены польскім паліцыянтам у 1935 годзе, калі пасля няўдалага набегу на паштовы цягнік быў вымушаны ўцякаць са сваімі сябрамі на хутар, што быў некалі непадалёку ад таго рова, дзе вы лавілі рыбу. У той дзень нехта выдаў іх паліцыі. У Жабінцы паліцыя не чакала, што пачнецца перастрэлка, таму некаторым удалося ўцячы, у тым ліку і Сцяпану. Як стала вядома пазней, ён хацеў схавацца ў бабулі на хутары. Знойдзены вамі саквояж, хутчэй за ўсё належыў яму. Сцяпан загубіў сваё маладое жыццё марна. Я ніколі не любіў закранаць гэтую тэму: было балюча ўспамінаць. Ён быў неблагім хлопцам, любімым братам, але не ў тым накірунку пачаў жыць, займаўся непатрэбшчынай. Таму так трагічна і абарваўся яго лёс.

У вечаровай цішы чуваць было толькі брэх сабакі на краі вёскі. А ў летнім небе абазначылася першая зорка, якая нібыта ўвесь гэты час толькі і рабіла, што сачыла за суразмоўцамі. Студэнцкія канікулы працягваліся, як і няспешнае жыццё ў невялічкай вёсцы непадалёк ад чыгункі, адкуль часам былі чуваць хуткія цягнікі.







## ДЗЯМОБА *( ПРЫЗЫЎ 1974 )*

***З успамінаў Андрэя Марчука***

***Не дай Бог вам трапіць у армію,***
***ды яшчэ за мяжу – самая сапраўдная турма...***

*( з паштоўкі Анатоля СЫСА з савецкага войска (Польшча,ПГВ ) да Эдуарда Акуліна, Аляксандра Бяляцкага, Сяржука Сыса ў 1983 годзе)*

# ДЗЯМОБА *( ПРЫЗЫЎ 1974 )*

***З успамінаў Андрэя Марчука***

***Ад аўтара***

***“Дзямоба”*** *– так называлі час звальнення з войска салдаты і сяржанты, якія служылі ў краінах былога сацыялістычнага лагера. Упершыню пачуў гэтае слова ў Пячах пад Барысавам, куды мы трапілі на пачатку службы ў Савецкай Арміі ў сярэдзіне 70-х гадоў мінулага стагоддзя. Распавёў нам пра адрозненне “дзямобы” ад “дзембеля” наш сяржант – камандзір аддзялення Васіль, які быў родам з Берасцейшчыны. Слова “дзембель” гучала на тэрыторыі неабсяжнай краіны (1/6 часткі сушы) – Савецкага Саюза – ад Брэста да Камчаткі.*

*“За мяжою служыць значна цяжэй!” – казаў сяржант Васіль, усміхаючыся ў свае светлыя, бы з птушынага пуху, вусы. Мы, маладое папаўненне, верылі кожнаму яго слову.*

*Усё напачатку спадабалася: новыя знаёмствы, прасторная казарма з двухпавярховымі ложкамі, афіцэры і нават прапаршчыкі... (з якіх заўсёды насміхаліся) і “адбой” па тлеючай запалцы. Упершыню ўсё было цікавым. Асабліва калі ляцелі ў дэсантным самалёце ў Венгрыю. Большасць прызыўнікоў драмала на драўляных лавах у самалёце, а я ў гэты час рабіў накіды са сваіх новых таварышаў.*

*Наша дзямоба была далёка-далёка... Ніхто пра яе яшчэ нават і не думаў. УСЁ толькі пачыналася...*

*Два гады службы за мяжою далі вялікі, непаўторны жыццёвы вопыт. Па-першае, хлопцы ў нашым падраздзяленні былі з розных куткоў вялікай дзяржавы, па-другое, мы ўсе ўпершыню апынуліся за мяжою, і гэтыя новыя абставіны наклалі свой адбітак на наша вайсковае жыццё, ну і, па-трэцяе, адносіны паміж намі – хлопцамі, салдатамі і афіцэрамі... Зараз у нашай суверэннай рэспубліцы зусім іншае войска – маленькае адлюстраванне таго – савецкага.*

*Два гады я вёў перапіску з роднымі, сябрамі, дзяўчатамі. Гэта былі невыказныя хвіліны шчасця*

*пісаць блізкім людзям, асабліва атрымліваць ад іх лісты... Бывала, што за адзін раз прыходзілі па два-тры канверты. Як тут не парадавацца?!. Ды і пасля году службы паехаў у адпачынак на дзесяць дзён (прабыў адзінаццаць). Зноў новыя знаёмствы, новыя сустрэчы і развітанні...*

*Пасля загада аб звальненні служба працягвалася, як і раней. Кожны дзень, кожны час мы былі на пярэднім краі краін сацыялістычнага супольніцтва. І, нарэшце, настаў час ад'езду. Мы развіталіся з часткай нашага маладога жыцця, развіталіся са сваімі новымі сябрамі – таварышамі па службе. І пад незмаўкаючыя гукі марша "Развітанне славянкі" мы развіталіся з тымі хлопцамі і афіцэрамі, хто яшчэ заставаўся служыць. Мы развіталіся з двума гадамі службы за мяжою ў Венгрыі...*

*Перад намі адкрывалася неабсяжная прастора новага жыцця ва ўмовах мірнага неба... І кожны з нас, саслужыўцаў, выбіраў свой далейшы лёс сам яшчэ напрыканцы службы ў войску. Кожнага чакала новае жыццё, якое было непрадказальным....*







## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

## ВЯСНОЮ – У ВОЙСКА

Вось і вучоба ў школе засталася ўспамінам, спроба стаць студэнтам ахітэктурнага факультэта будаўнічага інстытута не атрымалася ( не хапіла 0,5 прахаднога бала), а многія мае аднакласнікі пайшлі працаваць на завод – у шматтысячны калектыў – зноў вучнямі, але на гэты раз у майстроў – слесара, токара, фрэзероўшчыкаў... Ды і за гэта ўжо плацілі грошы: напачатку недзе крыху больш за сорак савецкіх рублёў...

З сябрам-аднакласнікам Сяргеем мы трапілі ў шосты цэх, але да розных майстроў. Затое працаваць давялося ў адну змену, што было для нас зручна: разам ездзілі на працу і вярталіся пасля адным аўтобусам...

З восені нас ужо пачаў турбаваць гарадскі ваенкамат: прыходзілі павесткі з загадам з’явіцца. Так пачалася “падрыхтоўка” да службы ў войску. Мы кожны месяц прыходзілі на другі паверх будынка па вуліцы Леніна і пісалі аўтабіяграфіі, запаўнялі розныя анкеты. Нас, хлопцаў-прызыўнікоў, назбіралі чалавек трыццаць, стварылі асобную каманду.

А жыццё пасля школы набірала разгон: мы ўдзельнічалі ў спартыўных спаборніцтвах, хадзілі на танцы, адзначалі дні нараджэння...

Вясной на заводзе мы ўжо працавалі самастойна, авалодалі рабочай спецыяльнасцю і атрымлівалі неблагія грошы.

А ваенкамат пра нас не забываў, і вось нарэшце павестка на прызыў. ( Засталося ў памяці: загад міністра абароны СССР маршала Андрэя Грэчкі №75 ад 2 красавіка 1974 года ). З Сяргеем мы спачатку трапілі ў адну каманду. Думалася, што будзем служыць у адным месцы. Але не атрымалася. Яго накіравалі на службу ў марфлот, а я заставаўся ў былой камандзе.



## ПРОВАДЫ

Провады ў войска – асаблівы рытуал, свята: запрашаюць радню, сяброў, суседзяў... І чым больш гасцей, тым, лічылася, большая павага да прызыўніка. На той час – сярэдзіна 70-х гадоў мінулага стагоддзя – провады рабілі нібы вяселлі: збіралі шмат гасцей, не шкадавалі грошай, хаця тых грошай у людзей заўжды не хапала...

Запрашаць на провады я паехаў са старэйшым братам Анатолем спачатку да дзеда з бабуляю – так вырашылі дома з бацькамі.

У вёсцы на той час было шмат нашай радні. Некалькі гадзін затрацілі, запрашаючы і стрыечную сястру Марыю са сваёй сям’ёй, і родную цётку Дарку. Было заведзена ў нашай вёсцы: у кожнай хаце, куды мы заходзілі, нас частавалі, запрашалі да стала.

На аўтобусным прыпынку у суседняй вёсцы, адкуль збіраліся ехаць да радні ў Кобрын, сустрэлі братавага сябра Мішу, з якім нам было ў адну дарогу.

– Вось меншы збіраецца на службу ў войска! Ездзім запрашаць на провады, – паведаміў навіну брат.

– Трэба і мне далучыцца да вашых провадаў! – парадаваўся Міша, бліснуўшы сваімі чорнымі вачыма. – Зараз тут і наладзім провады, пакуль няма аўтобуса.

Міхась накіраваўся ў бок магазіна, што знаходзіўся непадалёк, брат пайшоў за ім.

Ля старога клуба, пад ліпамі, мы селі на вялікі камень, які, колькі сябе помню, ляжаў там, і пачалі “праводзіць” мяне ў войска. Міхась дастаў тры бутэлькі віна, паклаў побач на траву, дастаў два пачкі вафляў на закуску. Брат узяў бутэльку і прапанаваў Міхасю:

– Ты, як старэйшы, першы пачынай.

Хлопец адпіў трэцюю частку з бутэлькі і аддаў брату.

– Няхай усё ў цябе, Андрэй, складзецца на службе, не падводзіць здароўе, а ўсё іншае праскочым...

Брат кіўнуў галавой у мой бок:

– За цябе! – і выпіў яшчэ адну трэцюю бутэлькі, а астатняе перадаў мне.

Я скалануў рэштткі віна, адзначыўшы сабе тое, як роўна хлопцы адпіваюць, каб нікога не пакрыўдзіць...

На сельскай вуліцы паказаўся аўтобус, але я яшчэ паспеў выпіць і паклаў бутэльку ля плота.

... Толькі позна ўвечары вярнуліся дамоў, паспеўшы пабыць у Кобрыне ў сваіх дзядзькоў і цётак, якіх было шмат з боку бацькі і маці. Здароўя, як ні дзіўна, у нас хапіла перажыць усе частаванні...

На провады з’ехалася радня, прыйшлі аднакласнікі, суседзі. Расселіся ў двух сумежных пакоях: у адным – радня, а ў другім – сябры-аднакласнікі.

Прыехаў і дзед са саёю традыцыйнаю кашолкаю з лазы, прывез вясковыя пачастункі.

Мне прыемна было сустракаць сяброў-аднакласнікаў, сваіх родных і блізкіх.

Я, вядома, больш знаходзіўся з сябрамі. Заходзіў да нас і старэйшы брат, які добра ведаў большасць гасцей, каб пасядзець сярод моладзі, пагутарыць, крыху выпіць з імі.

Провады доўжыліся, пакуль не разышліся апошнія добра падвесялелыя госці. А я не зводзіў вачэй са сваёй чарнявай аднакласніцы.

Я правёў яе да роднай хаты... І доўга-доўга не мог развітацца ў той позні вечар...

## НА СЛУЖБУ

Адразу ўразілі нізкія шэрыя баракі для перасылкі навабранцаў. Тым прызыўнікам, хто прыязджаў з раёнаў, даводзілася і па некалькі дзён чакаць адпраўкі. Неабходны парадак тут, канечне, падтрымліваўся. Працавала і часовая цырульня – асобнае памяшканне, дзе дзве жанчыны галілі галовы маладым хлопцам.



Вырашыў і я не адкладваць гэту працэдуру. За металічны савецкі рубель праз дзве хвіліны стаў падобны на іншых маіх “калегаў”.

... Бацька з маці і аднакласнік Віцёк чакалі вырашэння майго далейшага лёсу на вуліцы. Тым часам “гарадскім” дазволілі яшчэ некалькі гадзін быць вольнымі. Такім чынам з’явілася магчымасць перад адпраўкай у войска заглянуць на родную вуліцу яшчэ раз...

... Калі з прызыўнога пункта нас калонаю направілі да чыгуначнага вакзала, то самым цікавым было прайсці праз пешаходны металічны мост: ад вялікай нагрузкі канструкцыі маста “гралі” – мост, здавалася, хіліўся ўлева-управа. Ад гэтага адчування нават вострымі “голачкамі” калола ў нізе жывата: такога не даводзілася яшчэ адчуваць ніколі, хіба што крыху пазней у Будапешце, на “амерыканскіх горках”.

З перона хлопцы весела рынуліся па вагонах, адведзеных асобным камандам прызыўнікоў. Пачалі рассаджвацца невялічкімі групамі, штурхаючы адзін другога сваімі мяшкамі, весела смеючыся, быццам толькі што прыехалі на адпачынак да цёплага мора.

Так і я апынуўся сярод новых і старых знаёмых. Наша купэ, добра памятаю, было другім ад уваходу направа. Я ўпадабаў сабе месца знізу, каб можна было бачыць дзверы насупраць, у якія то заходзілі, то выходзілі хлопцы, пакуль цягнік стаяў ля перона.

Афіцэры пералічылі нас, прызыўнікоў, папрасілі захоўваць парадак. На пероне засталіся родныя, сябры, якія чакалі адпраўкі цягніка. А ў вагоне паціху ўладкоўваліся хлопцы нашай каманды...

Цягнік рушыў на ўсход. Развітальныя словы родных, сяброў з перону, апошнія ўзмахі рук. Бывай, родны горад, бывайце, родныя і сябры! Мы адпраўляемся на службу ў Савецкай Арміі...

Наперадзе новае, невядомае вайсковае жыццё.

У вагоне стала крыху цішэй. Два сяржанты-суправаджальнікі яшчэ раз папярэдзілі нас пра парадак

і дысцыпліну.

Хлопцы нашай каманды засталіся ў вагоне кожны сам-насам са сваімі думкамі. Усім раптам захацелася есці – навабранцы пачалі распакоўваць абед.

Бацькі, вядома, кожнаму з нас паклалі ў дарогу шмат прыпасаў, быццам адпраўлялі ў кругасветнае падарожжа. Яны хваляваліся, таму і хацелі, каб усё было як мага лепей.

На століках кожнага купэ цяпер было як у казцы, з рога ўсяго многа. Дасталі віно, бутэлькі з гарэлкаю. Хаця і папярэджвалі афіцэры, што піць нельга, ды хто іх слухаў. Аднак налівалі спачатку з некаторай асцярожнасцю: а раптам загляне афіцэр ці сяржант.

Пасля некаторага зацішша, пакуль частаваліся хатнімі прыпасамі, зноў загаманілі, пачалі абмяркоўваць сваю будучыню, якая была таямніцаю, бо ведалі толькі, што едзем у Барысаў.

Нарэшце загучалі і песні пад гітару. А цягнік, здалося, паімчаў хутчэй і хутчэй. Наступалі прыцемкі, у якія мы ўязджалі бы ў невядомы начны лес, у якім лёгка заблудзіцца.

Хлопцы пачалі класціся адпачываць на сваіх “плацкартах”. Клопаты першага дня адпраўкі ў войска прытамілі. Некаторыя хлопцы з раёнаў па два-тры дні знаходзіліся на прызыўным пункце.

Надышла ноч. Галасы заціхлі. У вагоне быў чуцен здаровы малады храп прытомленых новабранцаў. Нехта ў сне гаварыў, спрачаўся... Ішла першая вайскавая ноч... Трывожная, бо раніцай нас чакала вайсковая часць.

Як там сустрэнуць?

## ПЕЧЫ

Раніцай скрозь майскі туман акрэсліўся Барысаў – горад, праз які пешшу павялі каманды хлопцаў-навабранцаў да казармаў у вайсковую часць.

Тыя казармы падаліся вельмі ўжо вялікімі па памерах: трохпавярховыя, каменныя... Яны адразу ўразілі сваёй веліччу. “Няўжо тут і давядзецца служыць два гады?” – адразу чамусьці падумалася мне.

Размясцілі нас на друхім паверсе: злева – двух’ярусныя металічныя ложкі, з правага боку – месца для пастраення і вокны, у якія шчодра лілося майскае сонца.

Я апынуўся на ніжнім ложку: мне пашанцавала ў тым сэнсе, што не трэба было скакаць уніз пры частых пад’ёмах... Сеў на ложак і распранайся, апранайся... Побач якраз быў ложак і нашага сяржанта-земляка з Берасцейшчыны. Гледзячы на мяне, ён толькі пасмейваўся: мне дасталіся такія цесныя ялавыя боты, што, насунуўшы іх, потым цяжка было іх зняць. Пры частых трэніроўках “пад’ём-адбой” я не паспяваў нават сцягнуць пракляты бот... У той жа час весела было назіраць за таварышамі, як яны вучыліся хутка апранацца-распранацца. Гэта былі трэніроўкі!..

У першы вечар, праз нейкія паўгадзіны пасля адбою, да мяне ціхенька падышоў Славік з Высокага, штурхануў мяне і паклікаў схадзіць за кампанію ў прыбіральню. На дварэ чакалі яшчэ два нашы хлопцы-землякі.

– Што здарылася? – ціха запытаў я.

– У нас яшчэ засталося тры бутэлькі добрага віна, шкада аддаваць сяржантам. Давай вып’ем за нашу далейшую службу.

Мы зайшлі за прыбіральню, куды нас ужо вадзілі строем, і хвілін сорак, аглядваючыся па баках, пілі віно, размаўлялі. А начная прахалода падтрымлівала і без таго добры настрой пасля выпітага віна.

Наступнымі днямі нас вадзілі строем наводзіць парадак у гарадку перад прыездам камандуючага. Разносілі жвір па дарожках шуфлямі на дзясяткі метраў. Праца была нудная, нецікавая.

Праз тры дні, калі мне ўжо надакучыла соўгацца з тою шуфляю і бегаць строем услед за нашым прапаршчыкам,

я раніцою разам з іншымі хлопцамі, хто меў добры почырк, выказаў жаданне пісаць дакументы.

... Некалькі разоў я не трапляў у спісы на адпраўку за мяжу. Было вельмі непрыемна ад гэтага. Перспектыва заставацца ў Печах не вельмі радавала: лепш за мяжу, з землякамі!..

## У ЧАКАННІ АД'ЕЗДУ

У вольныя хвіліны даводзілася пабавіць час і ў цені бяроз ды сосен. Тады сяржанты пачыналі філасофстваваць і "вучыць" нас жыць, хоць былі яны ўсяго на паўгода, год старэйшыя, але мелі за плячыма пэўны тэрмін службы ў "вучэбцы", што па армейскіх мерках значыла нямала...

Асабліва нязвыклым стала наша новае аблічча, калі пасля лазні пераапрануліся ў вайсковую форму: атрымалі ХБ, пілоткі, боты, рэмені. Напачатку ўсе сталі падобныя адзін на аднаго, не пазнаць. Асабліва нязвыкла было бегаць кросы. Новы абутак муляў ногі, але што зробіш, даводзілася цярпліва прывыкаць да ўсяго.

Аднойчы зухаваты сяржант у хвіліны адпачынку завёў размову пра далейшую нашу службу за мяжою:

– Хто з вас на "гражданцы" быў лідарам, хто хоча быць камандзірам і ў войску, падыдзіце да мяне: мне ёсць што вам сказаць...

Некалькі самаўпэўненых хлопцаў азваліся, падышлі да сяржанта. Невялікаю купкаю, у боку ад астатніх, "камандзіры" аб нечым размаўлялі з сяржантам, але мне ўвогуле было гэта нецікава, бо пра службу я шмат чаго ведаў ад старэйшага брата, ад старэйшых хлопцаў. Таму тыя, хто на самым пачатку рваўся камандаваць, не выклікалі ў мяне павагі і цікавасці.

У хвіліны адпачынку, бывала, сяржанты заводзілі размовы пра грошы, пра тое, як можна "заляцець", калі знойдуць схаваныя савецкія чырвонцы за мяжою. Адным словам, падсудная справа: за кантрабанду. Але са сваімі грашыма ніхто не спяшаўся развітацца, бо ў палку працавала кафэ, дзе можна было набыць што з прысмакаў. Ужо перад самай адпраўкай мы "скінуліся" сяржантам на падарункі. Тыя, канечне, былі задаволены. Некаторыя хлопцы і так аддавалі грошы сяржантам, разлічваючы, пэўна, што тыя паспрыяюць лепш уладкавацца на новым месцы.

Я добра ведаў, як зарабляюцца грошы, таму ні на якія хітрыкі з боку сяржантаў не "купляўся", ды і грошай вялікіх з сабою ў мяне не было.

## У САМАЛЁЦЕ

На стары аэрадром Мінска дайшлі пешшу ад чыгуначнага вакзала. Селі на траве пад дрэвамі. ( Дыхай не дыхай, а ўсё роўна не надыхаешся родным паветрам на два гады...).

Нудныя гадзіны чакання самалёта: нікуды не адыдзеш, ды і грошай не засталося, каб збегаць яшчэ нешта купіць у дарогу.

Нарэшце прагучала каманда: "Строіцца!». Калона рушыла да самалёта.

Самалёт быў дэсантны: уздоўж бартоў і пасярэдзіне драўляныя лавы, на якія мы бухнуліся хто куды. Мы першы раз ляцелі ў такім самалёце.

Я сеў пасярэдзіне. Насупраць – знаёмыя твары хлопцаў: усе ўзбуджаныя палётам. Калі яшчэ давядзецца?

Унізе паплылі краявіды роднай Беларусі: лясы, гарады і вёскі, дарогі... Наглядзеўшыся, хлопцы пачалі засынаць. А мне было не да таго: розныя думкі мроіліся ў галаве. Дастаў блакнот, ручку і пачаў рабіць накіды хлопцаў. Яны драмалі, нічога не здагадваючыся.

Нарэшце пачулі ад аднаго афіцэра:"Пераляцелі мяжу!

Назірайце за Венгрыяй.”
А што назіраць? Тыя ж палі, дарогі, паселішчы...
Але ж нешта ўсё роўна іншае, толькі што?

## ВЕНГРЫЯ. АЭРАДРОМ.

Самалёт прызямліўся сярод квітнеючага вялізнага поля на бетон ваеннага аэрадрома. Калі пачалі сыходзіць па трапе, дык у твар ударыла гарачым водарным паветрам невядомай краіны. Было відаць, што тут, у Венгрыі, намнога цяплей, чым у Беларусі. І паветра больш вільготнае, адчувалася, што і зямля іншая, што новыя пахі прысутнічаюць у самой гэтай вільгаці.

Спусціўшыся з самалёта, мы збіліся ў купкі, сталі дзяліцца ўражаннямі, пакуль афіцэры не загадалі строіцца.

Да нашых афіцэраў падышлі мясцовыя, пра нешта загаварылі. Ад іх гурту аддзяліўся капітан, які павітаў нас і нечакана выклікаў мяне з шарэнгі на тры крокі ўперад. Ад гэтай неспадзяванкі я на нейкае імгненне аслупянеў, інстынктыўна “якнуў” і выйшаў.

– Радавы Марчук! Маляваць, пісаць плакатным пяром умееш? – запытаў добразычліва, але патрабавальна.

– Умею! – толькі і адказаў я.

– Паедзеш са мною! Больш ні з кім не згаджайся нікуды ехаць. Пазней я падыду да цябе і забяру. Чакай!

Гэта адбылося так хутка, што знаёмыя хлопцы, таксама як і я, не паспелі нічога зразумець.

Я стаў на сваё месца ў шарэнгу, пачаў чакаць. Пасля “майго” капітана падбіралі сабе “кадры” іншыя афіцэры – аўтамабілістаў, будаўнікоў, сувязістаў...

Праз нейкі час адшукаў мяне капітан і прывёў да “УАЗіка”. Дастаў паперу, туш, плакатныя пёры і папрасіў напісаць друкаванымі літарамі нейкі тэкст.

Я напісаў некалькі радкоў з верша Сяргея Ясеніна:

*Не жалею, не зову, не плачу.*
*Всё пройдёт, как с белых яблонь дым…*

Агледзеўшы маю працу, капітан задаволена матнуў галавою і падвёў да купкі хлопцаў, якія стаялі за машынаю. Сярод іх я пабачыў свайго даўняга знаёмага Валодзю, таксама і Дзіму, з якім пазнаёміліся ў Печах. Трэцім быў Васіль, – таксама з Берасцейшчыны. Астатнія два хлопцы – украінцы: Анатоль – з Кіева і Мікола – з Харкава. А “пасватаў” мяне капітану школьны сябар Валодзя, які сказаў афіцэру, што другім рэйсам ляціць яшчэ адзін добры мастак-чарцёжнік. Так па-вайсковаму хутка нас згуртавалі ў маленькае падраздзяленне і накіравалі ў Будапешт, у роту аховы і суправаджэння.

## БУДАПЕШТ. ШТАБ.

З каравульнай роты нас, шасцярых хлопцаў, прывезлі на КПП – невялікі будынак у цені дрэў. Там папрасілі пакінуць рэчавыя мяшкі. “Служывыя” адразу акружылі нас, з цікавасцю пыталіся, адкуль прызваліся. Праз нейкі час капітан Крусь павёў папаўненне праз ваенны гарадок да вялікіх трохпавярховых будынкаў – у карпусы штаба.

Будынкі штаба ўразілі сваёй веліччу: былы кадэцкі корпус быў старой класічнай архітэктуры, выдатна дагледжаны. На другі і трэці паверхі вялі шырокія лесвіцы. На першым паверсе вылучаўся вялікі жывапісны партрэт міністра абароны СССР Андрэя Грэчкі, які вісеў над завуаліраванымі кумачом дзвярыма. Гэта таксама надавала ўстанове велічнасць. Служыць у такім памяшканні – вялікі гонар.

Праверку на прыгоднасць службы ў Аператыўным упраўленні штаба Паўднёвай групы войск мы прайшлі ўсе, акрамя Васіля, не надта спрактыкаванага чарцёжніка. Яго адправілі ў роту аховы. Пабачыць яго

ўжо не давялося.

З КПП нас адправілі на вузел сувязі ў каранцін, у батальён, які знаходзіўся ў кіламетры ад вайскавога гарадка. Мы няспешна крочылі па Будапешце. Са мною былі землякі: Дзіма з Бярозаўскага раёна, які жыў у Брэсце на суседняй вуліцы; Валодзя, якога я добра ведаў да войска. Уражанняў хапала.

На вузле сувязі мы прыпыніліся перад казармамі, прыселі на лаўцы. Нехта палез у рэчавы мяшок і заўважыў, што там не ўсё на месцы. Мы, астатнія, таксама пачалі развязваць свае мяшкі: у мяне і ў іншых хлопцаў зніклі флаконы з адэкалонам, вакса, шчотка... Калі выйшаў капітан Крусь, дарэчы, наш зямляк з Кобрына, мы паскардзіліся яму.

– Я ў штаб, пасля зайду на КПП і разбяруся, а вы ўладкоўвайцеся тут, у казарме...

Стала вельмі прыкра ад таго, што такія ж як мы салдаты на КПП лазілі па нашых рэчавых мяшках, выграбалі рэчы, якія каштавалі да таго ж капейкі... Вельмі, вельмі было агідна... Мы яшчэ тады не ведалі, што ў Венгрыі ўсё каштуе ў некалькі разоў даражэй.

Вось так наша служба пачалася з маленькіх непрыемнасцей.

Вінаватых так і не адшукалі. Ніхто не прызнаўся ў крадзяжы. Так і засталося рубцом у памяці тое непрыемнае ўражанне ад нашых землякоў – хлопцаў з Саюза...

## КАРАНЦІН

Размясцілі нас у левым баку старой ( з 1956 года ) драўлянай казармы: шэсцьдзесят першагодкаў. Мне дастаўся перадапошні ложак у дальнім куце. Побач было месца Анатоля Кваско з Кіева, з якім я пасябраваў з самага пачатку службы.



Усе радаваліся, што пакуль разам: і тыя, што застануцца на вузле сувязі, і спартсмены, і музыканты, і будучыя чарцёжнікі Аператыўнага ўпраўлення штаба.

Вайсковыя будні былі падобныя адзін на другі: пад'ём, зарадка, снеданне. Пасля кароткага адпачынку страявая падрыхтоўка, фізічная... Але праз некалькі дзён нампаліт вузла сувязі маёр Замяталін выбраў мяне і Дзіму з Бярозаўскага раёна аднаўляць шчыты з нагляднай агітацыяй.

Працавалі на вуліцы ля казармы. У спякотныя дні распраналіся да трусоў, абліваліся вадою і малявалі. Закончылі за два тыдні. Потым зноў заняткі ў гарадку па фізічнай падрыхтоўцы, па страявой...

Адзін раз нас вазілі на стрэльбы з аўтамата. За час каранціна былі на экскурсіі па Будапешце. Гэтая паездка моцна ўразіла: паглядзець на еўрапейскую сталіцу з яе знакамітымі архітэктурнымі помнікамі было надзвычай цікава.

І зноў фізічная падрыхтоўка, страявыя заняткі, вывучэнне вайсковага статута... Паціху прывыкалі да службы, да ежы, да новага распарадку жыцця...

У нашым падраздзяленні некаторыя хлопцы былі пасля інстытутаў і адчувалі яны сябе крыху нязвыкла сярод нас, маладых, васемнаццацігадовых.

Аднойчы Васіль Шышко з Украіны – ён меў вышэйшую адукацыю – паспрачаўся з нашым камандзірам каранціна – лейтэнантам Лысенка. Яны былі аднагодкі. Але служба ёсць служба, і давялося Васілю ўсю ноч мыць прыбіральні, пасля чаго ў насценнай газеце з'явілася яго "заметка" "Гэту ноч я правёў па-за законам" з малюнкам.

Самае цікавае ў каранціне было тое, што мы ўсе знаходзіліся ў аднолькавым становішчы: гэта быў час прывыкання да вайсковай дысцыпліны, час братэрства... Потым, ужо ва ўзводзе, пайшлі падзелы па тэрмінах службы.

Каранцін, безумоўна, многаму навучыў. Ды яшчэ і з лейтэнантам пашанцавала, які быў нам амаль два

месяцы і за бацьку, і за старэйшага брата. Але, вядома, без аніякага панібрацтва. Хоць усё роўна да кожнага адносіўся па-рознаму, бо і хлопцы, вядома, былі кожны са сваім характарам і амбіцыямі.

Каранцін застаўся незабыўнай старонкай службы ў войску, а напрыканцы яго мы давалі прысягу на вернасць Радзіме.

## ПАЧАТАК СЛУЖБЫ Ў ШТАБЕ

Давялося застаць яшчэ хлопцаў, якія звальняліся ў маі пасля нашага прыезду. Яны перадалі нам паперу, канцтавары. Трэба было паказаць сваё ўменне прыгожа пісаць плакатнымі пёрамі.

У кабінеце насупраць чарцёжкі мы карпатліва выводзілі літары, а бывалыя "пісары" расказвалі пра сваю службу.

Між намі, маладымі прызыўнікамі, і стараслужачымі склаліся адразу неблагія адносіны, хаця і бывалі асобныя прыкрыя моманты. Асабліва лютаваў "дзед" Паша – масквіч. У нейкай меры яго можна было зразумець: вырас без бацькі, напэўна, давялося многае пабачыць.

Служба кожны дзень пачыналася з мыцця падлогі, выцірання пылу, хаця яго там асабліва і не прыкмячалася. Затое працаваць у такім памяшканні было прыемна: свежае паветра, чысціня...

Напачатку былі самыя простыя даручэнні: клеілі карты, рабілі невялічкія схемы...

Служба мне спадабалася ў першую чаргу тым, што трапіў у свет паперы, алоўкаў, фарбаў, клеяў... Усё гэта не было абыякавым яшчэ са школьнай пары, можна сказаць, з маленства. Таму, калі я бачыў, што хлопцы неахайна адносіліся да ватманскай паперы, абураўся:

– Зямлякі, беражыце паперу, гэта такое багацце!

На мае словы сябры толькі пасміхаліся:

– Паперы хопіць усім і надоўга...

Так, паперу ў рулоне атрымлівалі кожны год кілаграмаў 300-400. Гэты рулон ледзьве ўцягвалі на "наш" трэці паверх. Звычайна папера стаяла недзе збоку, каб не замінаць нашай працы.

Яшчэ і цяпер памятаю цудоўныя пэндзлі для акварэлі, гуашы. Фарба таксама была вышэйшага гатунку. Адны толькі пахі той фарбы паднімалі настрой і клікалі да працы...

Кожны новы дзень службы быў не падобны на іншыя: заўсёды здараліся нейкія неспадзяванкі ці мясцовыя "прыгоды". На нашым паверсе працавалі тры машыністкі, да якіх мы нярэдка заходзілі па службе ці проста так паразмаўляць. Тыя жанчыны былі для нас астраўком грамадзянскага жыцця, якога так нам не хапала на службе. Таму мы адносіліся да іх з вялікай павагай.

Часам здаралася, што некаторага з нас вызывалі афіцэры для тэрміновай працы, і тады даводзілася паўдня ці цэлы дзень працаваць побач з імі. Але гэта не вельмі турбавала нас, бо адносіны былі самыя добразычлівыя... Мо таму, што ад нашай працы шмат што залежала і ў службе афіцэраў.

## СТАРШЫНА МІХАЛУЦА

Ён адразу напомніў мне аднаго з акцёраў тэлеперадачы "Кабачок "12 крэслаў" – шырокі твар з вялікім дзюбатым носам. І нават інтанацыя ў голасе прысутнічала тая ж. Толькі голас прапаршчыка Міхалуцы быў патрабавальным, гучным, камандзірскім. Я нават не запомніў яго імя... Ды і навошта яно было мне... Старшына Міхалуца паўгода мітусіўся перад вачыма, пакуль наш узвод з казармы вузла сувязі не перасялілі ў казарму ля батальённага стадыёна. З другога боку гэтага

будынка была гасцініца для прыезджых афіцэраў. А за стадыёнам знаходзілася тэрыторыя філіяла вядомага ў Савецкім Саюзе аўтобуснага прадпрыемства “Ікарус”.

Прапаршчык Міхалуца быў добрым гаспадарнікам на сваім вузле сувязі. Яму гэта, напэўна, і вельмі падабалася : адчуваць сябе гаспадаром у такім важнаым і патрэбным падраздзяленні.

Але, як я прыкмеціў пасля, была ў гэтага фізічна моцнага і грубаватага з выгляду чалавека свая маленькая слабасць: ён любіў кветкі. Таму ля абедзвюх казармаў заўсёды было прыгожа: шмат квітнеючых ружаў і ў любую пару акуратныя зялёныя газоны (за час каранціну не аднойчы даводзілася тыя газоны падрэзваць нажніцамі). А ружы ўвогуле ўражвалі, бо на той час у нашым горадзе іх было не вельмі шмат, ды і тыя прывозілі з суседняй Польшчы.

А калі даводзілася быць днявальнымі па роце, дык супакою ад Міхалуцы не дачакаешся: заўжды знаходзіў нейкі занятак, нават непатрэбны. Салдат павінен, па яго думцы, заўсёды несці службу – быць у руху.

Старшына Міхалуца быў малдаванінам, таму размаўляў са своеасаблівым акцэнтам. Потым, мы да гэтага прывыклі, але спачатку часта пасмейваліся з яго “афарызмаў”.

– Заходжу ў тумбачку салдата, а там беспарадак! – гаварыў ён неяк нашаму камандзіру ўзвода прапаршчыку Вінаградаву.

Старшына Міхалуца спраўна нёс сваю службу, за якую атрымліваў грошы. А розныя недарэчнасці ўзнікалі заўсёды, бо на службу прыходзілі хлопцы са шматлікіх куткоў Саюза са сваімі звычкамі і традыцыямі.



## ВУЗЕЛ СУВЯЗІ

Упершыню на вузел сувязі я патрапіў у першы дзень прыезду ў Будапешт, пасля азнаямлення са штабам, калі ўзвод прывялі на абед у батальённую сталовую.

Пасля каманды сяржанта хлопцы пачалі выходзіць на пляцоўку перад сталовай, а мяне затрымаў чарнявы яфрэйтар, які папрасіў дапамагчы прыбраць посуд. Праз некалькі хвілін я выйшаў, а ўзвода ўжо не было.

– Таварыш лейтэнант, – звярнуўся я да афіцэра, які першым трапіў на вочы, –скажыце, калі ласка, у які бок пайшлі салдаты з чырвонымі пагонамі?

Той паглядзеў на мяне са здзіўленнем:

– А ты, баец, што, першы раз тут?

– Так, сёння раніцою толькі з Беларусі!

– То гэта, пэўна, узвод штабнога абслугоўвання, – млява дабавіў афіцэр і паказаў рукою напрамак.

За будынкам сталовай я адшукаў дзве драўляныя казармы, адна насупраць другой. Паміж будынкамі ішла дарожка, уздоўж якой расло шмат кветак. Асабліва ўразілі ружы. Выгляд газонаў быў нязвыклы: такія ружы ў родным горадзе можна было бачыць толькі ў крэпасці ды на цэнтральнай плошчы Брэста. А тут апынуўся сярод такога хараства!

Побач з тым хараством і праслужыў два гады.

## СУБОТНІК

Па суботах і нядзелях, калі не працавалі ў штабе, наводзілі парадак у памяшканні, на тэрыторыі вакол яго ды рабілі ўсё іншае, на што не хапала часу ў будныя дні.

Прайшло некалькі месяцаў службы. Аднойчы паведамілі, што ў бліжэйшую суботу пойдзем у гарадок на суботнік. Гэта было куды лепей, чым знаходзіцца

цэлы дзень у казарме.

Мне прыйшлося наводзіць парадак ля правага будынка штаба, аднаго з трох, што месціліся побач.

Папрацавалі якую гадзіну, зрабілі перакур. Хлопцы хто дзе па два-тры чалавекі палілі цыгарэты "Гуцульскія", якія давалі па 17 пачак на кожнага ў месяц для тых, хто курыў. Я прысеў на прыступку побач з будынкам, дастаў з кішэні блакнот, які насіў побач з ваенным білетам, і пачаў запісваць верш, які даўно пракручваў у галаве.

Раптам пачуў зласлівы голас намесніка камандзіра ўзвода яфрэйтара Курты:

– Зямляк, ты што, ліст пішаш на радзіму? Табе што, часу не хапае ў казарме?!

Я прыкмеціў ужо раней, што ён неяк прадузята адносіўся да мяне: нешта яму не падабалася ў маім выглядзе... Курта вельмі хацеў атрымаць малодшага сяржанта да звальнення, таму, як мог, выслужваўся. Збоку было смешна глядзець на тое, як ён занадта старанна гэта рабіў.

– Ды не! – адказаў я, – газету чытаю...

Курта нешта сказаў "дзядам", з якімі стаяў побач: яны галасна засмяяліся, паглядаючы ў мой бок...

"Напэўна, і напраўду думаюць, што і пішу ліст на радзіму. Хай думаюць!" – супакоіў сябе, незадаволены тым, што Курта адарваў ад любімага занятку...

## КАЧАГАРКА

На тэрыторыі ваеннага гарадка было спецыяльна адведзена месца, куды мы насілі ў мяшках паліць непатрэбныя дакументы, пячаткі і іншыя "бытавыя адходы", якія ішлі з сакрэтнай часці ўпраўлення і нашай чарцёжкі.

У тым паўпадвальным памяшканні знаходзілася печ, куды кідалі мяхі з паперай.

З аднаго боку нязвыкла: на двары гарачыня, з печы жарам дыхае, а ты стаіш і падкідваеш "дровы" ў тую печ.

Аднак работа была адказная: мы прыносілі паперы з сакрэтнай інфармацыяй для службовага карыстання. Нічога не павінна было застацца. Маёр з асобага аддзела часцяком правяраў нашу працу: такія ў яго былі абавязкі. Ды і мы самі прызвычаіліся сур'ёзна адносіцца да справы.

У качагарцы пачувалі сябе нават утульна: тут было дзе і пасядзець, і пачытаць.

Бывала, што цягнулі мяхі ўдваіх, калі шмат набіралася непатрэбшчыны. Але паліць усё роўна заставаўся нехта адзін. У чарцёжцы працы хапала ўсім.

Сказаць шчыра: мне падабалася хадзіць у нашу качагарку: лішні раз прашпацыруеш вольна па гарадку, паглядзіш на мясцовае жыццё-службу. Акрамя ўсяго, прызвычаіўся ў качагарцы не толькі нешта чытаць, але і пісаць вершы. Агонь роў у печы, нібы ў дзедавай хаце марозным зімовым вечарам. Пад яго гул я любіў у адзіноце памарыць, нешта накідаць у блакноце.

Акрамя ўсяго, была яшчэ адна прычына палюбіць качагарку: часам пасля ўсяго я заходзіў у кніжную краму, якая знаходзілася непадалёку. Акуратна клаў складзеныя мяхі ля дзвярэй і пачынаў разглядваць новыя кніжкі. На той час яны былі ў дэфіцыце, а тут – такое багацце! Прывозілі не абы што... Думаю, што траплялі ў магазін і такія выданні, пра якія кніжнікі ў саюзе маглі толькі марыць.

## ЧАРНЯГА

Даводзілася да ўсяго прывыкаць і да трохразавага харчавання ў салдацкай сталоўцы...

Маладому арганізму ў новых абставінах патрэбна

было і адпаведнае харчаванне. І калі са сталоўкі вярталіся ў казарму, асабліва ўвечары, то праз якую гадзіну зноў хацелася есці.

Бывала, што нехта прыносіў з сабою бохан чорнага хлеба. Мы дзялілі яго паміж сабою. Найсмачнейшай здавалася падсмажаная скарынка. Добра, калі выпадала да той "чарнягі" і два-тры кавалачкі цукру, які атрымлівалі адзін раз у месяц па 750 грамаў тыя хлопцы, хто не смаліў цыгарэты.

З часам мы трохі асмялелі і падыходзілі да батальённага хлебарэза, прасілі бохан ці два. Бывала, што перападала і масла, рэшткі якога заўсёды заставаліся па розных прычынах. Крыху пазней, калі з хлебарэзамі ўжо ўсталяваліся добрыя адносіны, "хлебныя" праблемы зніклі. А на пачатку службы той "голад" доўга не адпускаў нас.

Трэба сказаць, што за сталом з аднаго боку сядзелі "дзяды". Яны першымі збіралі апалонікамі зверху тлушч у бачках з баршчом, выбіралі лепшыя кавалкі хлеба і масла, далей за імі астатнія, па "ранжыру", у залежнасці ад працягласці службы. На другім баку сядзелі "маладыя". Ад стараслужачых бачкі і місы з ежаю рухаліся налева да малодшых па службе.

Здаралася, што апошнім ежы не хапала.

Аднойчы, калі Славе з Падмаскоўя нечакана перакулілі бачок з гарачым баршчом, ён не ўтрымаўся і рэшткі таго баршчу выліў на грудзі свайму "крыўдзіцелю", старэйшаму па службе. Пачалася бойка...

Калі ж таму самаму Славіку іншым разам не хапіла бульбы ў бачку, ён дэманстратыўна ўстаў без дазволу з-за стала і пайшоў у казарму галодны. Тады ўжо ўмешваліся некаторыя праўдалюбы-"старыя", пачыналі разбірацца. А некаторыя з іх навальвалі сабе той бульбы столькі, што не з'ядалі.

Але, як кажуць, "у сям'і не без вырадка"... Усялякае бывала. А так увогуле свае клапаціліся пра сваіх, таму і быў такім паважаным чалавекам хлебарэз.



А ў казарме "бывалыя" з веданнем справы пасміхаліся з малодшых, калі тыя прыносілі і елі чарнягу: "Што, галадуха?! Сушыце сухары!"

## ПАДВАЛ

На самым пачатку службы нас завялі ў падвальнае памяшканне, якое належала Аператыўнаму ўпраўленню, далі лісты з картамі і паказалі, як трэба іх абрэзваць і склейваць. Напачатку атрымлівалася нейкая блытаніна, але пазней мы прызвычаіліся. Карты часам былі такіх памераў, што месца ў падвале ледзь хапала, каб разгарнуцца з імі.

У падвальным памяшканні стаялі драўляныя шафы і металічныя куфары-сейфы, стойкі, розная драбяза. З часам і ў мяне з'явіўся свой такі куфар, дзе я трымаў асабістыя рэчы, пакуль не "пазычыў" нехта выбранае Аляксандра Блока. ( На той час у Саюзе быў вялікі дэфіцыт на кніжкі. На іх "рабілі" грошы ўсе, хто толькі мог).

Калі прыйшло новае папаўненне, ў нас з'явіліся нават свае падручныя. Працы было многа і ў дапамогу давалі нават хлопцаў з роты аховы. Унашага "маладога" чарцёжніка Мішы Гагавуза выйшаў канфлікт з адным ахоўнікам: карацей, яны пабіліся, як маладыя пеўні. Міша быў дужэйшым, таму хлопец з роты аховы злавіў момант, каб пакараць Мішу чужымі рукамі. Але гэта ўжо будзе зусім іншая гісторыя...

А ўвогуле ў падвальным памяшканні заўсёды можна было "схавацца" ад службы, нешта зрабіць асабіста для сябе. Гэтым мы і карысталіся, бо, акрамя нас, туды ніхто не мог патрапіць: ключ быў толькі ў аператыўнага дзяжурнага.

## СЯРГЕЙ БУДАНАЎ

Сяржант Сяргей Буданаў быў родам з Магадана. Мы пазнаёміліся, калі ён адслужыў палову тэрміну. Пасля "вучэбкі" хлопец трапіў на вузел сувязі, куды мы былі прыкамандзіраванымі.

У Сяргея былі дзікія чорныя вочы, худы, выцягнуты твар і арліны нос. Калі сяржант адчытваў некага за правіннасць ці крычаў, то вочы яго закатваліся так, што рабілася не па сабе. Гэта была, як пасля высветлілася, своеасаблівая яго маска-страшылка, бо бываў ён і іншым, лагоднейшым...

Аднойчы мне давялося разам з сяржантам Буданавым трапіць у нарад: Сяргей дзяжурным, а я – днявальным. Сяргей быў патрабавальным, днявальным не даваў спуску. Але і абараніць мог. Таму, нягледзячы на "грозны" выгляд камандзіра, мы яго не баяліся – адчувалі "душу" чалавека.

Калі надышоў час ставіць на сталы бачкі з ежаю, Буданаў стаў ля раздатачнага акна і пільна сачыў за парадкам. А калі не стала хапаць чайнікаў, то закрычаў на кухонных рабочых такім дзікім голасам, што навокал усталявалася мёртвая цішыня.

– Вы што, салагі, сябе як на "гражданцы" адчулі?!.. – рабіў ён разнос, дзіка свідруючы сваімі чорнымі вачыма наваколле.

Знайшліся і чайнікі, і ўсё астатняе. Сяржант Буданаў ведаў як трымаць дысцыпліну, не дарма з Магадана быў родам...

У казарме часта жартавалі наконт гэтага: "Буданаў з Магадана..." клікалі Сяргея.

## РЫБАЦКІ БАСТЫЁН

Будапешт. Старажытны цэнтр горада... Мы, маладыя вайскоўцы, на экскурсіі... Дух захоплівае!

Перад прыняццем прысягі для нас, "каранцінаўцаў", зрабілі такі падарунак.

Блукаючы па крэпасці "Рыбацкі бастыён", мы натрапілі на мастака, які выбраў сабе месца на пляцоўцы непадалёк ад невялікай вежы: немалады мужчына маляваў алоўкам архітэктуру крэпасці. Побач у рамах пад шклом стаялі ягоныя малюнкі. Я адважыўся падысці да майстра, папрасіў дазволу паглядзець на малюнкі, крыху ля яго затрымаўся, пакуль нашы хлопцы разглядвалі крэпасць.

Па "Рыбацкім бастыёне" з цікавасцю пахадзіў і я. Яна прываблівала мяне яшчэ і таму, што непадалёку ад нашага дома таксама знаходзіліся напалову разбураныя старыя ўмацаванні – парахавы склеп канца 19-га стагоддзя...

Рыбацкі бастыён вылучаўся сваёй фартыфікацыйнай архітэктурай з вежамі, з якіх можна было назіраць за Будапештам. Ужо пазней, калі хадзілі ў горад у звальненні, ніколі не міналі старую крэпасць. Асабіста для мяне было цікава назіраць за мастакамі, якія заўсёды працавалі там, зарабляючы на жыццё малюнкамі.

## ПЕРШЫЯ ВУЧЭННІ

Ноччу прагучаў сігнал трывогі і праз які час мы выехалі на першыя ў маім вайсковым жыцці вучэнні. Першыя вучэнні не абы-што і рыхтаваліся мы да іх не адзін дзень.

Я уважліва глядзеў у вокны аўтобуса, за якімі праплывалі прыгожыя венгерскія краявіды. Во дзе было хараство! Адны толькі палі, чырвоныя ад макаў, чаго каштавалі!

Да вучэбнага цэнтра, месца нашай дыслакацыі, дабіраліся некалькі гадзін.

З нашага аддзялення на вучэнні са мною ехаў Паша Сяргееў. Для мяне “стары” Паша быў аўтарытэтам, бо многае ведаў па службе. Я з увагай прыслухоўваўся да Пашавых парад, хаця не ўсё мне падабалася ў ім. Адзін толькі выгляд яго твару і згорбленай постаці шмат пра што гаварыў. Крычаў Паша часам як недарэзаны парсюк, але нас, “маладых”, было чацвёра, а ён адзін, бо другі, Лёша, быў інтэлігентным хлопцам, да таго ж камандзірам аддзялення. Мы бачылі ў ім настаўніка.

Паша ехаў з маленькім карычневым пацёртым чамаданчыкам. Але што ён там трымаў і вёз з сабою – я не ведаў, бо ўсе патрэбныя рэчы былі пагружаны ў скрыні, спецыяльна зробленыя для чарцёжнікаў. Той чамаданчык Паша трымаў на каленях, не выпускаў з рук. “Нешта важнае там”, – думаў я, паглядаючы на яго збоку... Паша ўвогуле мне не спадабаўся: непрыемны погляд, дзікаваты гумар, крыклівасць. Чаго толькі ад яго не пачуеш. “Дзед” любіў парадак, але сам яго не прытрымліваўся, бо заўсёды хадзіў неахайным.

Ехаў на вучэнні яшчэ адзін “стары” – масквіч Юра Зіноўеў, сакрэтчык. Аднак гэта быў хлопец зусім іншага складу. Юра заўсёды паводзіў сябе роўна, быў акуратны. Адчувалася інтэлігентнасць сталічнага жыхара.

Так я ўпершыню апынуўся ў адной кампаніі са старэйшымі. Але сядзелі яны асобна, у іх былі свае праблемы і радасці ад хуткай “дзямобы”.

А я ўглядаўся ў навакольны свет, якому да мяне не было аніякай справы... Глядзеў на палі, на сады, якія здзіўлялі сваёй прыгажосцю, уладкаванасцю. Глядзеў на гарады, мясцовыя вёскі, пасяленні. Упершыню апынуўшыся за мяжою, я пільна назіраў за ўсім тым, што трапляла на вочы, часам рабіў замалёўкі, калі дазвалялі абставіны.

Надвор’е стаяла надзвычай сонечнае. Мора зеляніны было паліта густа – пунсовым колерам макаў, якія палымнелі ажно да самага далягляду, дзе адбівалі блакітам старыя горы і пагоркі. Сярод палескіх палёў такое пабачыць было б казкаю. А яшчэ ж пакуль нічога



не патрэбна было рабіць, акрамя таго, што сядзець і назіраць за наваколлем, забыўшыся на вайсковую форму.

.. Размясцілі нас у двухпавярховым корпусе будынка вучэбнага цэнтра. Тут адвялі рабочае памяшканне для працы за картамі і на схемах, а таксама невялікі пакойчык для адпачынку. Там мы склалі свае шынялі, скрыні з неабходнымі прыладамі, сухія пайкі і ўсё астатняе.

Збольшага уладкаваўшыся, мы даведаліся, што асноўная праца пачнецца пад вечар, калі ўмоўныя войскі выйдуць на баявыя пазіцыі. А пакуль што можна было агледзіцца.

Павел некуды схадзіў даведацца пра абед, бо гэта было галоўнае для яго. Вярнуўся у добрым настроі з усмешкаю, што было не так часта.

– Ну што, пойдзем зараз на абед, зямеля, – задаволена паведаміў ён. – Паспрабуеш сапраўднага палявога абеду. Бяры кацялкі, лыжкі – ды пайшлі за Юрам.

Так утрох мы і рушылі ў невядомым для мяне напрамку на абед па дубовым лесе. Я ішоў ззаду, Паша з Юрам – наперадзе. І тут іх гаворка ўпіраліся ў адно: хутка дадому. А для гэтага трэба рыхтавацца сур’ёзна:давесці да патрэбнай кандыцыі парадную форму, паклапаціцца пра падарункі родным. Ні чым іншым галава не была забіта, хіба што яшчэ абедам.

Ідучы следам, я разглядаў усё, што трапляла на вочы. Навокал стаялі дубкі, але не такія моцныя, як у нас, у Беларусі. Зямля пад нагамі была камяністая. Я прыглядаўся з надзеяй пабачыць якога-небудзь грыба. Ды дзе там! Не тыя месцы.

Па вузенькай дарожцы мінулі больш густыя зараслі дрэў і апынуліся на прасторнай палянцы, нібы загадзя прыгатаванай для нас, вайскоўцаў. Пасярод яе стаяў вялікі брызентавы шацёр – палатка-сталоўка для афіцэраў, а непадалёку – палявая кухня і машына з прадуктамі.

Тут мы атрымалі хлеб і цукар, а за першым, другім і трэцім сталі ў чаргу да палявой кухні.

Атрымаўшы ўсё, што належала, адышлі ў бок невялічкага пагорка ля кустоўя, дзе і разлягліся ў высокай траве. На першае быў густы пахучы боршч, які я праглынуў нібы адным глытком, адчуўшы добрую прысутнасць чырвонага перцу. Ён прыемна апаліў знутры, з чаго падалося, што з'еў вельмі многа. На другое елі грэцкую кашу, якую я ўпадабаў яшчэ з дзяцінства. Каша была з мясам, таму хацелася працягнуць насалоду.

Як толькі мы з Пашам гатовы былі ўзяццаза за "другое", Юра дастаў вялікую банку мясной тушонкі. Я амаль не заглынуўся сліною, глядзеў на банку як загіпназаваны. Юра па вайсковых паняццях быў "дзедам". І я гадаў: а ці перападзе і мне маладому што-небудзь з той бляшанкі? Тое, што палову банкі мяса атрымаў Паша, мяне не здзівіла пасля... Юра вываліў у маю кашу амаль усё астатняе мяса з банкі. А Паша раптам сказаў: "Дабаў яму яшчэ і маю долю! Я нешта не вельмі хачу есці!" Ён сказаў гэта так проста і выразна, а Юра гэтак жа проста паклаў тое дзіўнае мяса мне, нібы даў пачытаць нікчэмную газету. Я не ведаў што думаць і гаварыць. Ледзь змог выдавіць з сябе "дзякуй" і ўзяўся за ежу...

За гэтым вайсковым палявым абедам я зразумеў простую ісціну: гэтыя хлопцы-масквічы, старэйшыя па службе за мяне на нейкія паўтара гады, у нестандартных абставінах будуць заўсёды на вышыні. Бо, калі ніхто не заграбае бліжэй да сябе лепшы кавалак, калі ўсё так проста і ясна ў адносінах за абедзенным сталом... Я еў моўчкі і думаў, што гэтаксама, калі б – не дай Бог – здарылася ліхая часіна, Паша з Юрам паводзілі б сябе і ў акопах, і ў баі. Яны падняліся б першымі, прыкрылі б маладых.

Так вось у простых і няпростых абставінах высвятляецца: на што годны чалавек у цяжкую хвіліну... А ў звычайным, паўсядзённым жыцці нашай службы кожны паўстае як са сваімі заганамі, так са сваімі станоўчымі якасцямі. І тое, што пасля абеду Паша з Юрам кінулі свае кацялкі на маю адказнасць, а самі пайшлі па сваіх справах, я ўжо ўспрыняў як належнае: кожнаму – сваё. У "маладых" свае абавязкі, а ў "старых" – свае, хаця ў мяне ўнутры ўсё клакатала супраць такіх адносін. Але я стрымаў свае пачуцці, папрасіў гарачай вады ў повароў і вымыў усе кацялкі і лыжкі.

Тады мне, маладому салдату з трохмесячным "стажам", шмат што не падабалася, бо на "гражданцы" зусім іншае жыццё, іншыя абставіны. Толькі крыху пазней, праз чатыры месяцы, калі нашыя "старыя" развіталіся з намі і паехалі па сваіх родных кутках, а мы занялі іхнія месцы па службе, я зразумеў, як правільна вялі сябе "дзяды", прымушаючы нас лішні раз вымыць посуд, падлогу ў чарцёжцы, вынесці мяхі з непатрэбшчынай...

Шмат гадоў ужо прайшло пасля службы, але я добра памятаю той першы абед у палявых умовах, калі масквіч Юра – "стары"– падзяліўся са мной мясной тушонкай, паказаўшы такі просты па жыцці і такі важны прыклад мужчынскай таварыскасці.

## СЛІВАВАЕ ВІНО

Неяк пасля абеду заявіўся ў не вельмі добрым настроі наш прапаршчык Іван Васільевіч. Ён адразу папрасіў ключы ад металічных сейфаў у Аляксея, які быў адказным за дакументы.

– А ну, дай мне паглядзець, які там у вас парадак. Нешта даўно не правяраў. А вы апошнім часам развялі навокал бардак...

Аляксей Мурзін моўчкі палез у кішэню і разгублена адказаў:

– Іван Васільевіч, напэўна, у казарме пасля абеду пакінуў...

– Ідзі і прынясі, а я пачакаю! – з недаверам дадаў наш прапаршчык і заняўся нейкімі паперамі.

Аляксей пераглянуўся з Пашам і выйшаў у калідор. Паша праз хвіліну вярнуўся.

У гэты час Івана Васільевіча паклікаў загадчык аддзела палкоўнік Мікалаеў.

Пакуль прапаршчык адсутнічаў, Паша дастаў з сейфа бутлі з віном і перанес некуды ўніз у службовым чамадане. Мы, маладыя, былі толькі нямымі сведкамі ўсяго.

Калі вярнуўся Аляксей і аддаў ключы прапаршчыку, той, вядома, нічога лішняга ў сейфе не адшукаў, не прыкмеціў, толькі вылаяўся з гумарком.

Пасля вячэры мы вярнуліся ў чарцёжку працаваць далей: перад вайсковымі вучэннямі працы было заўсёды шмат.

Калі ўжо пачало змяркацца, з’явіліся Паша з Лёшам. Абодва на добрым падпітку: відаць, віно было някепскае.

Паша зняў з вушака дзверы, абабітыя скураю, паклаў іх і лёг адпачываць, а Аляксей прынёс два шынялі з сейфа і ўлёгся ў куце на вялікім стале. “Дзяды” папрасілі іх не турбаваць. Ды і мы самі пасяшаліся ў казарму: навошта перашкаджаць паважаным “людзям” адпачываць. Слівавае віно зрабіла сваю справу...

## НА КУХНІ

Першыя паўгода службы ў нарады я хадзіў два разы на месяц: адзін раз рабочым на кухню ці ў сталовую і адзін раз днявальным – спачатку ў роце на вузле сувязі, а крыху пазней у казарме нашага асобнага ўзвода.

Сталовая – вялікае памяшканне з цэглы, пабудаванае крыху пазней за драўляныя казармы. У зале сталовай зімою паказвалі кінафільмы для салдат батальёна, а так кожны дзень яна выкарыстоўвалася па сваім прызначэнні. Зала была вялікая, і гразі на ботах салдаты наносілі дастаткова.



На кухні здзівілі велізарныя катлыы: для першага, для другога, і для кіпеню.

Паварам-салдатам заўжды былі патрэбныя памочнікі.

Увесь дзень даводзілася мітусіцца ля катлоў, падносіць, прыбіраць, падаваць бачкі з ежаю ў акно для днявальных і дзяжурных, драіць кухню перад здачаю наступнаму нараду.

Не вялікая радасць і посуд адмываць. За суткі праз рукі столькі праходзіла, што толькі дзіву даешся. Але спраўляліся. Самае адказнае чакала напрыканцы, калі трэба было здаваць памяшканне наступнаму нараду. Хлопцы траплялiся розныя, але найгорш было мець справу з прапаршчыкамі. Асабліва ўедлівым быў адзін невялічкага росту, таўстмавы, кругленькі, з непрыемным тварам. Любіў паесці, яго прывыклі бачыць з поўнаю міскаю катлет. Пэўна, не толькі сам еў, але і дадому насіў. Гэты недарослы “прапар” да ўсяго чапляўся, усё яму не падабалася. Да апошняга “загружаў” папярэднюю змену.

Нарад заканчваўся, і зноў пераходзілі на звычайную “пайку”.

Праўда, наш малодшы таварыш па службе Анатоль Булат з Малдавіі пасля працы на кухні дзень ці два не хадзіў у сталоўку: наядаўся так, што потым нават ад напамінання пра ежу яму рабілася дурна.

## ПТУШНІК

Аднойчы пасля вячэры мы ўбачылі ў казарме новага хлопца – невысокага ростам, каржакаватага, з круглым тварам “байца”. То быў Генадзь Варона з Гомельскай вобласці. Як потым даведаліся, яго прыслалі да нас пасля “вучэбкі”, ды і яфрэйтарскія пагоны гаварылі аб нечым, бо ў нашым узводзе атрымаць “лычку” было няпроста: калі па штаце дазвалялася, хлопцы атрымлівалі з часам, а калі не – то пра “лычкі” не магло быць і размовы.

Былі і такія, якія вельмі ўжо дамагаліся "атрымаць сяржанта" перад звальненнем са службы – для большай важнасці перад раднёю ці каб пакрасавацца перад дзяўчатамі.

На той час у нас ва ўзводзе ўжо было тры хлопцы з Беларусі: Сяргей Сарока, Валодзя Салавей і Віцёк Вераб'ёў... Нехта са "старых" заўважыў:

– Во, развялі тут беларусы птушнік! Каго яшчэ чакаць?!

Але час мінаў, і новых хлопцаў з птушыным прозвішчам не дабаўлялася. Толькі на пачатку апошняга паўгода службы трапіў да нас пасля заканчэння інстытута зямляк з Брэста Валерый Галкін: чарнявы, моцна збіты хлопец з добраю ўсмешкаю. На той час хлопец быў ужо жанаты, меў маленькую дачушку.

Хлопцы ўсё роўна жартавалі:

– Што гэта ў Беларусі так шмат птушыных прозвішчаў? Ці то ад таго, што ў вас Белавежская пушча, ці экалогія такая спрыяльная?

– І адно і другое! – адказвалі мы не без гонару.

## ПАМІДОРЫ

Нашы "старыя" звальняліся са службы позняй восенню, таму захапілі яшчэ і "збор ураджаю".

Непадалёк ад штаба, па дарозе да батальёна сувязі, знаходзілася шмат прыватных пабудоў з садамі і агародамі. Асабліва спакушаў вялікі агарод за металічнай сеткай.

Афіцэры забаранялі нам нават блізка падыходзіць да платоў, а тым больш нешта зрываць з дрэў. Нельга! Такі парадак: мы не на сваёй зямлі, таму весці сябе трэба адпаведна. Тым больш, што ў Венгрыі законы строга абаранялі прыватную маёмасць.



Але знаходзіліся, вядома, і такія смельчакі, што і да службы любілі лазіць па чужых садах. Бывала, што траплялі ў рукі гаспадароў. Гэта ўжо было НЗ (надзвычайнае здарэнне). І тады ўжо мала не было...

Нашы "дзяды" Паша Сяргееў і Аляксей Мурзін неяк увечары прыйшлі ў чарцёжку з карычневым старым чамаданчыкам. Нічога асаблівага ў гэтым не было, але мяне заінтрыгавала: што там?

На наступны дзень быў будзённы выезд на заняткі ў вучэбны цэнтр Хаймашкер. У аўтобусе я сядзеў з хлопцамі ззаду, а Паша крыху спераду ( з намі не было Аляксея ). Калі настаў час перакусіць і мы падаставалі свае сухія пайкі, Паша адкрыў у сябе на каленях чамаданчык і дастаў адтуль па два памідоры.

Вось і адкрылася таямніца карычневага чамаданчыка. Там былі памідоры, якія Паша з Лёшам набралі ў венгерскім гародзе! Але нам, маладым, што й казаць, была да спадобы такая "дзедаўская ўвага".

## ДНЯВАЛЬСТВА

Наш камандзір узвода прапаршчык з Растова-на-Доне Вячаслаў Вінаградаў часта паўтараў зранку на разводзе ці пасля працы ў штабе:

– Будзьце ўважлівымі. Можа здарыцца, што нечакана загляне генерал-маёр Мікіценка, камендант штаба. Каб дакладвалі яму як належыць, калі раптам зойдзе ў нашу казарму...

Наш камандзір хваляваўся і за сябе, вядома. Генерал быў самадурам, ад яго можна было чакаць невядома чаго, таму гатовым сустрэць каменданта ў адпаведнасці са статутам павінен быў кожны, хто дняваліў і дзяжурыў...

Здарылася так, што нечаканы прыход генерал-маёра Мікіценкі якраз адбыўся на маё днявальства.

Акрамя мяне ў "чырвоным кутку" пасля змены было

тры-чатыры хлопцы, якія пісалі пісьмы дамоў, чыталі газеты. На той час я стаяў ля тумбачкі – там дзе і патрэбна знаходзіцца днявальнаму.

Я ўбачыў генерала, але не разгубіўся. Выпрастаўся, крыкнуў каманду: – Узвод, смірна! – і далажыў: – Таварыш генерал-маёр! За час майго дзяжурства ніякіх здарэнняў не адбылося! Узвод займаецца па ўнутраным распарадку!

Генерал Мікіценка моўчкі прыклаў руку да фуражкі мне ў адказ, сказаў”вольна!”, прайшоўся па казарме, бліснуў хромавымі ботамі, заглянуў у некаторыя куткі, пакруціў носам і выйшаў.

Я разам з хлопцамі нарэшце ўздыхнуў вольна. Пранесла. А то раптам да нечага прычапіўся б, то і на “губу” можна было трапіць.

Увечары камандзір узвода задаволена зазначыў, што днявальны Марчук належным чынам сустрэў генерала, добра адрапартаваў і ўвогуле генералу спадабалася ў казарме. Так маё днявальства ўвайшло ў гісторыю нашага ўзвода, бо наведаў генерал Мікіценка нас усяго толькі адзін раз. Прыемна, што пасля гэтага ў яго не было падстаў чапляцца ні да ўзвода, ні да прапаршчыка Вінаградава.

Апошні раз днявалiць я напрасіўся сам, калі ўжо быў “дзедам”: хацелася нешта зрабіць сабе перад звальненнем. Але без прыгод не адбылося: на вузле сувязі на той момант дзяжурыў прапаршчык Емец, невядома якой нацыянальнасці, таўстапузы, з азызлым тварам. Прапаршчыка Емеца невядома чаго занесла ў нашу казарму. Адразу пачаў чапляцца да печаў, якія трэба было ўжо закрываць на ноч, увогуле да парадку ў казарме. Я папрасіў яго не ўмешвацца ў наш распарадак, бо ў яго быў свой вузел сувязі. Емец ашчэрыўся, нагаварыў мне ўсяго з вышыні сваіх пагонаў прапаршчыка і пайшоў, але зуб на мяне паймеў. Ды толькі ўкусіць не змог. Да ўсяго, калі мне прыйшлося звальняцца, то па року лёсу яму давялося спешна афармляць мае дакументы на



звальненне. Толькі зыркаў коса з-пад ілба.

## АД’ЕЗД “ДЗЯДОЎ”

У нашым аддзяленні было два хлопцы-масквічы, з якімі мы праслужылі паўгода: Аляксей Мурзін і Паша Сяргееў. Яшчэ двое, Юра Зайцаў і Павел Булацецкі (абое з вышэйшай адукацыяй) перад звальненнем запісаліся на афіцэрскія курсы, і мы іх амаль не бачылі. Паша, дарэчы, адзначыўся тым, што аднойчы ў калідоры штаба прывітаў генерала Мікіценку рукой да галавы, на якой не было пілоткі. Потым за гэты выпадак “адбрэхваўся” наш прапаршчык Іван Васільевіч.

Аляксей быў старшым нашага аддзялення, але “камандаваў” больш Паша Сяргееў. Быў ён з небагатай сям’і, у дзяцінстве, пэўна, “даставалася на цукеркі”, вось і адыгрываўся на “маладых”. Але за знешняй рэзкасцю хаваліся і вартыя павагі чалавечыя якасці, якія можна было адчуць пры больш блізкім знаёмстве.

Аляксей, наадварот, культурны хлопец з інтэлігентнай сям’і. У яго знешнасці заўсёды вабіла юнацкая дабрыня, пацуццё справядлівасці. І калі Паша “наязджаў” на нас, “маладых”, то Лёша заўсёды стрымліваў яго ад крыкаў і мацюкоў. Так мы і праслужылі з імі паўгода.

Да звальнення хлопцы-масквічы рыхтаваліся сур’ёзна, урэшце як і ўсе астатнія: тыя ж “парадкі” даводзілі да ладу, альбомы, нешта прыкуплялі ў якасці падарункаў.

Часам Паша з Лёшам прыходзілі вечарамі на падпітку і хутка клаліся спаць: адзін даставаў шынель з металічнага сейфа, а другі знімаў дзверы ў пакоі чарцёжкі, абабітыя з аднаго боку паралонам і скураю, і клаў ля сцяны ў кутку. Раніцою мы прыносілі ім у кацялках снеданне.

У нашым узводзе быў яшчэ адзін масквіч – Юрый Зіноўеў. “Масквічы” перад звальненнем часта збіраліся разам. У іх былі свае справы, якія яны вырашалі асобна ад іншых “дзядоў”. Адным словам – масквічы.

... Ужо перад ад’ездам Паша з Лёшам зрабілі нам, “маладым”, падарункі: Дзіме перайшлі падручнікі ад Пашы, мне – набор цудоўнай нямецкай акварэлі ад Аляксея, Анатолю – сцізорык, а Валодзю скураны рэмень... Мы ж падзякавалі ім за клопат і пажадалі хуткага вяртання ў сталіцу.

Нікога з іх я болей не сустракаў, хаця пэўны час жыў потым у Маскве...







# ЧАСТКА ДРУГАЯ

## НОВАЕ ПАПАЎНЕННЕ

Прайшло паўгода. Наш прапаршчык Іван Васільевіч нарэшце вярнуўся з камандзіроўкі: ездзіў адбіраць маладых салдат у чарцёжку. Атрымалася зборная СССР: з Малдавіі, Казахстана і Падмаскоўя... Нават Міша-гагауз трапіў да нас.

Цяпер ужо мы выступалі ў ролі ”настаўнікаў”: вучылі пісаць плакатнымі пёрамі, клеіць карты, чарціць схемы...

Анатоль Булат з Малдавіі любіў маляваць, па-руску ён размаўляў дрэнна і праз гэта часта меў непрыемнасці. Бывала, што адпускаў мацюкі нават на адрас прапаршчыка. Іван Васільевіч кіпяціўся і адпраўляў Булата ў нарады.

Міша Чорнаогла таксама быў з Малдавііі, але па нацыянальнасці гагауз. Ад свайго земляка ён адрозніваўся не толькі знешнім выглядам, але і характарам. Міша быў знаўцам віна, мог расказваць пра яго гадзінамі.

Прыметны быў і Валодзя Вішкоў з Тулы, поўнасцю “свой” хлопец. Шкада што пабыў ён з намі толькі паўгода – не атрымалася стаць чарцёжнікам.

Кожны з навабранцаў быў хоць чым-небудзь адметны.

## ВУЧЭБНЫ ЦЭНТР ХАЙМАШКЕР

“З вамі толькі на “ВЫ” трэба!” – казаў прапаршчык, узбек па нацыянальнасці, малады вясёлы мужчына, выдаючы нам пасцельныя прыналежнасці. Замест ліхтара ён запаліў скрутак газеты, сунуў Анатолю Кваско ў руку і загадаў: “Свяці, бо нічога не відаць.”

У казарме жыва ўладкаваліся на свабодных ложках і пазасыналі, як кажуць, “без задніх ног”...

Падраздзяленне рыхтавалася да снедання. Сяржанты падганялі мацюкамі маладых салдат, што прыбіралі памяшканне. Адзін соўгаў па падлозе нейкую цяжкую металічную балванку, абкручаную кавалкам старога шыняля: наводзіў бляск на падлозе, нацёртай спецыяльнай масцікай.

Наша служба ў Аператыўным упраўленні, вядома, вельмі адрознілася ад службы ў вучэбным цэнтры. Сюды траплялі, пэўна, “шрафнікі”, – тыя, хто парушаў дысцыпліну па ранейшаму месцу службы.

Вучэбны цэнтр размяшчаўся ў некалькіх цагляных будынках з краю невялічкага лесу, калі так можна было яго назваць. Крыху правей углыб знаходзіліся салдацкія казармы, яшчэ далей – сталовая, склады. За пабудовамі з аднаго боку цягнулася поле, куды мы хадзілі восенню па кукурузу, з другога – праходзіла дарога, якая вяла на палігон.

На час вучэнняў нам давалі адзін утульны пакой, якога хапала на ўсіх: там мы харчаваліся, там жа і спалі, калі выпадалі свабодныя хвіліны. ( У першую ноч мне дазволіў крыху паспаць палкоўнік Верпета. У памяшканні гарэла святло, а я прылёг на трох свабодных крэслах і адразу задрамаў, прытаміўшыся за дзень.

– Уставай сынок, пара працаваць! – пачуў я раптоўна голас палкоўніка і адкрыў вочы. Паспаў недзе гадзіну... Так праходзіла маё першае выпрабаванне на недасып...)

## АЛЕСЬ МАРДУХАЙ

Алесь быў маім земляком, праўда, з другой вобласці, з Гродзенскай. Яго твар напамінаў дзявочы: прыгожыя чорныя вочы, прыемная ўсмешка. Алесь ніколі не злаваўся, хаця прычын для гэтага хапала.

Мардухай знешне здаваўся нейкім несур’ёзным хлопцам: вельмі ўжо мне не падабалася, як ён хадзіў не па мужчынску, віхляючы задам. Але чалавекам ён аказаўся цікавым.

Алесь захапляўся гісторыяй, асабліва гісторыяй Беларусі, часта спрачаўся наконт розных падзей і дат. Ён

упарта адстойваў уласную пазіцыю, па-свойму тлумачыў асобныя гістарычныя факты.

Пры кожнай зручнай нагодзе Алесь напамінаў, што Беларусь уваходзіць нараўне з СССР у Арганізацыю Аб'яднаных Нацый. Зямляк наш да хрыпаты ў голасе даказваў, што гэта найвялікшы гонар беларускага народа. Аспрэчваць гэты факт ніхто не мог.

На палітзанятках Алесь абавязкова задаваў пытанні пра родную Беларусь, спрачаўся, не даваў адказным за ідэалогію камандзірам магчымасці расслабіцца.

Тыя спрэчкі працягваліся аж да самага апошняга дня звальнення Алеся са службы. Яго ўпэўненасць у тым, што Беларусь вылучаецца сярод іншых рэспублік СССР, перадалася і нам, Алесевым землякам.

Доўга яшчэ прыпаміналі Алеся Мардухая пасля яго ад'езду. Хлопцам запомніўся ён найперш сваёй апантанасцю. Такім памятаю яго доўгія гады і я.

## КАМАНДЗІРОЎКА

Неяк восенню наш прапаршчык паслаў мяне на першы паверх да аператыўнага дзяжурнага палкоўніка Міхайлава.

– Паедзеш суправаджаць палкоўніка Ланіна ў полк. Зараз ён атрымае зброю, і адразу – у машыну...

Палкоўніка Ланіна, каранастага мужчыну з добрым выразам твару, я застаў за "працаю": палкоўнік абгортваў газетаю чорны, як крыло крумкача, пісталет. Ланін прыхапіў яшчэ скураную папку, сказаў нешта на развітанне Міхайлаву, і мы пайшлі ўніз да машыны.

Калі выехалі за горад, Ланін аддаў мне пісталет, абгорнуты газетай, і сказаў:

– Цяпер ты адказваеш за яго. Глядзі, не згубі!

Праз гадзіну заехалі ў штаб палка. Ланін завёў мяне да маладжавага капітана, пазнаёміў нас.

– Капітан Варонін! – весела адгукнуўся чарнявы



афіцэр. – Будзем разам служыць, пакуль не адправяць у Саюз!

Варонін мне спадабаўся адразу сваім добразычлівым характарам. (Пазней ён часта прыязджаў да нас у штаб, заўсёды заходзіў у чарцёжку, прывозіў няхітрыя падарункі.)

Варонін завёў мяне да дывізійных хлопцаў-чарцёжнікаў, дзе я і правёў някепска час, пакуль палкоўнік Ланін вырашаў свае справы.

– А што ты ўвесь час трымаеш у газеце? – запытаў мяне новы знаёмы, яфрэйтар-чарцёжнік Васіль.

– Пісталет... – проста адказаў я, – у палкоўніка сакрэтныя дакументы і мне даручана ахоўваць.

Вярталіся ў добрым настроі, асабліва палкоўнік Ланін. А я быў задаволены ў першую чаргу сытным абедам, які мне прапанавалі калегі-чарцёжнікі. У войску самае галоўнае – добра паабедаць!

## КНІЖНАЯ КРАМА

У нашым ваенным гарадку побач з прадуктовым магазінам знаходзілася кніжная крама, якая стала для мяне на два гады святым месцам.

Гэтая крама размяшчалася ў асобным невялікім будынку, з трох бакоў якога праз шырокія вокны былі бачны паліцы з кнігамі і альбомамі.

Загадчыцай магазіна была Ала Міхайлаўна з Гародні, жонка палкоўніка Саркісава з нашага Аператыўнага ўпраўлення. Маладая з выгляду, прыгожая, з добрай душой жанчына. З Алай Міхайлаўнай заўсёды было прыемна пагаварыць пра жыццё, пра кніжкі (іхнія сын і дачка жылі і вучыліся ў Саюзе, летам прыязджалі на канікулы).

Наведваць кніжную краму я любіў адзін. Ніхто тады не перашкаджаў разглядваць альбомы з карцінамі мастакоў, кнігі паэзіі і прозы...

Я не саромеўся звярнуцца да Алы Міхайлаўны з пытаннем ці просьбаю, проста пагаварыць пра Гародню і Брэст, у якім служыў некалькі гадоў яе муж.

Асабліва мне падабалася бываць у кніжнай краме вясною і летам, калі ў памяшканні было светла ад сонца і неяк па-асабліваму пахла друкарская фарба.

Ала Міхайлаўна часам жалілася мне:

– Ведаеш, Андрэй, як непрыемна бывае, калі пасля завозу новых кніжак жанчыны ўрываюцца ў магазін, валяць на падлогу сталы і прылаўкі. Страшнае відовішча. Жонкі афіцэраў і прапаршчыкаў у асноўным не працуюць. Яны скупляюць кніжкі, дываны возяць на продаж у Саюз і такім чынам зарабляюць грошы. Хай сабе зарабляюць, але навошта валіць сталы ды прылаўкі...

## САША БУЧЫК

Саша Бучык – высокі, хударлявы хлопец з папярэдняга прызыву – быў родам з Закарпацця. Мастак па спецыяльнасці, ён вечарамі сядзеў у кутку і нешта маляваў. Я ведаў, што Саша ўдзельнічае ў конкурсе: робіць эскіз эмблемы да Алімпійскіх гульняў у Маскве. (Пазней, калі пасля заканчэння службы я стаў студэнтам, прыпомніў тыя Сашавы эскізы. Яму мала чаго не хапіла, каб стаць пераможцам: сярод шматлікіх варыянтаў былі і такія, што вельмі напаміналі будучую эмблему.)

Яшчэ Саша вельмі любіў чытаць, збіраў нумары газеты “Футбол-Хоккей” і быў добрым палітінфарматарам.

Саша Бучык напачатку з намі, маладымі, кожную суботу пасля лазні разносіў бялізну па казарме. Так было заведзена па службе. Хапала ўсялякіх недарэчнасцяў, крыку. Амаль да бойкі даходзіла: асобныя “старыя” ўсчынялі скандал, калі прасціна трапляла кароткая ці, не дай Божа, з дзіркаю або плямаю. І ў самой лазні былі праблемы, калі “дзядам” пападалася сподняе не зусім патрэбнага выгляду. Саша абураўся, чырванеў, але “выруліваў” з падобных сітуацый. А ўжо калі моцна даставалі, то голасна крычаў:”З...лі!”

Мне падабалася з ім гутарыць, нешта разам рабіць у казарме. Саша ўмеў сябраваць, а яшчэ мне імпанавала тое, што ён мастак. І калі Саша звальняўся са службы, мы абмяняліся хатнімі адрасамі на ўсялякі выпадак. Ды толькі, на вялікі жаль, так і не скарысталіся імі. Але не-не ды і ўспамінаю Сашу Бучыка – цудоўнага хлопца, мастака, аматара газеты “Футбол –Хоккей”.

## МУЗЫКА НІНА РОТА

Вяртаўся вечарам у казарму са сталоўкі ў вучэбным цэнтры, калі пачаў накрапваць дождж. Крыху затрымаўся з земляком, які служыў у роце аховы.

Падбегшы да казармы, раптам прыпыніўся: недзе блізка загучала музыка Ніна Рота з кінафільма “Хрышчоны бацька”.

Той фільм перад адыходам у войска глядзеў два разы, а музыку слухаў незлічоную колькасць разоў. Яна так прыемна клалася на душу, што хацелася плакаць ад замілавання. Музыка абудзіла хвалю прыемных успамінаў.

Узгадалася Алёна, з якой пазнаёміўся на танцах у Доме культуры, нашы сумесныя святы. Сціплыя студэнцкія застоллі заўсёды суправаджалі магнітафонныя запісы, і найчасцей гучала музыка з кінафільмаў “Хрышчоны бацька” і “Генералы пясчаных кар’ераў”.

Музыка гучала ўсё гучней, а я стаяў на ганку казармы і слухаў, слухаў незабыўную мелодыю і аддаваўся прыемным успамінам, не зважаючы ўвагі на нудны халодны дождж...

Музыка Ніна Рота гучала ўва мне, пакуль я не заснуў моцным сном шчаслівага чалавека.

## ШПІТАЛЬ

Часам нашы хлопцы ездзілі ў шпіталь папрацаваць: аформіць наглядную агітацыю. Не мінула гэта і мяне.

Прывёз у шпіталь сам ягоны начальнік – палкоўнік Камароў. Усю дарогу ён расказваў мне пра ўстанову, пра яе важнасць.

Пераапрануўшыся ў "бальнічнае", я зайшоў з медсястрою ў палату, дзе падлечваўся перад звальненнем і наш яфрэйтар Лёня Палякоў: у яго былі нейкія праблемы з носам. Медсястра паказала мне свабодны ложак.

Шпіталь Паўднёвай групы войск знаходзіўся ў старым раёне Будапешта. Пра гэта нагадвала архітэктура будынкаў самаго шпіталя і пабудовы, якія стаялі навокал. Удалечыні было відаць нейкае культавае збудаванне, якое я і намаляваў акварэллю неўзабаве.

На другі дзень палкоўнік Камароў паказаў мне месца будучай працы, паставіў "творчую задачу" і выдаў ключ ад памяшкання...

Так я амаль на два тыдні стаў няштатным супрацоўнікам шпіталя, а па сумяшчальніцтву і "хворым" з усімі яго правамі і абавязкамі.

У шпіталі я пазнаёміўся з медсястрой Марынай. Мне было прыемна ад таго, што яна пачала заходзіць у маю часовую майстэрню: хутчэй ляцеў час, веснавая пара новыя пачуцці. Ды і самі павінны разумець...

Зрабіўшы асноўную працу, некалькі акварэляў і малюнкаў алоўкам на памяць, я вярнуўся ў штаб, дзе ўжо чакалі хлопцы-землякі

## ЛЕТНІ КІНАТЭАТР

З вясны да позняй восені ў батальёне працаваў летні кінатэатр, які меў выгляд вялікай пляцоўкі з доўгімі драўлянымі лаўкамі, што радамі мясціліся перад вялікім экранам, на які і праецыравалі кінастужкі вечарамі, калі ўжо было цёмна.

Восенню, калі ўжо халадала, салдаты надзявалі шынялі, каб утульна было паўтары-дзве гадзіны сядзець на драўляных лавах. Хадзіць на прагляд кінастужак было абавязкова.

Фільмы былі розныя, але сам факт прагляду кінастужкі на свежым паветры меў сваю прывабнасць: акрамя ўсяго можна было і паспаць лішнюю гадзіну, калі таго вельмі хацелася ці стужка была нецікавая.

На прагляд фільмаў мне падабалася браць шынель Валодзі Салаўя, які быў многа вышэйшы за мяне ростам, таму меў і адпаведнаю росту вопратку.

У тым шынялі ўтульна было сядзець: укутаўшыся, я не адчуваў вечаровай прахалоды, ды і падрамаць было добра.

Праз год службы майго земляка-суседа перавялі ў іншы горад. На той час у летні кінатэатр я амаль і не хадзіў. І не толькі таму, што не было Валодзевага шыняля, але і таму, што перайшоў у катэгорыю "дзядоў". Было чым заняцца ў казарме ці ў штабной чарцёжцы: хлопцы прасілі аформіць дзямобныя фотаальбомы, і як можна было адмовіць.

## ПРАЦА Ў "ПАРКУ ДРУЖБЫ"

Позняй восенню даручылі нашаму ўзводу прыняць удзел у будаўніцтве ў новым мікрараёне Будапешта "Парка савецка-венгерскай дружбы".

Вазілі аўтобусам па суботах і нядзелях. Кожны раз склад будаўнікоў мяняўся, але я стараўся трапіць у спіс, каб праветрыцца, набрацца новых уражанняў.

Быў у нашым узводзе хлопец з Закарпацця Генадзь Дундзяк, які няблага размаўляў па-венгерску, таму перакладаў часам самае неабходнае ў нашых інтэрнацыянальных зносінах з мясцовым насельніцтвам. З часам хлопец пачаў кожны раз сустракацца з

дзяўчынаю-венгеркай. Іхняе сяброўства, на зайздрасць астатнім, доўжылася некалькі месяцаў, пакуль Генадзь не звольніўся са службы.

Праца была не складаная: у асноўным земляныя работы. Але стаяла ўжо халодная восень, часта ішлі дажджы. І ў такую пару вельмі прыемна было адчуць шчырую павагу ад венгерцаў-гараджан, якія прывозілі для нас вялікія тэрмасы з гарачым чаем.

... Прайшоў час, засталіся ўспаміны. Не забыліся і пра нас. Вельмі прыемным было атрымаць месяцы праз два ганаровыя памятныя дыпломы за ўдзел у працы.

Ужо пазней, студэнтам, натрапіў у краме на кніжку з адлюстраваннем манументальнага знака ў “Парку савецка-венгерскай дружбы” – на вокладцы. Таго самага, што быў і на маім памятным дыпломе.

## ТАЗЛАВАН

Гэты хлопец-малдаванін трапіў у наш узвод з маладым папаўненнем.

Працаваў Тазлаван у друкарні разам з грамадзянскімі служачымі. Быў ён чорны, нізкага росту, нетаропкі. Нешта ў ім было няўлоўна прывабнае, нібы ў Квазімода.

Я добра запомніў Тазлавана яшчэ і таму, што пэўны час сядзеў з ім побач у сталоўцы. Цікава было назіраць, як ён сёрбаў лыжкаю: адно вока так закатвалася пад лоб, што рабілася страшна.

Тазлаван аднойчы спатрэбіўся Анатолю Кваско, калі таму закарцела займець бланкі даведак, па якіх мянялі савецкія грошы на венгерскія форынты. Тазлаван сваю справу зрабіў: штук дваццаць-трыццаць тых паперак былі схаваныя ў маім сейфе.

Але аднойчы да нас завітаў маёр з асобага аддзела. Ён пачаў распытваць пра Тазлавана, пра магчымае з ім “супрацоўніцтва”. Мы, вядома, нічога дрэннага пра хлопца не сказалі, але хутка зразумелі, што той “заляцеў”...



Тазлаван знік з нашага ўзвода гэтак жа непрыкметна, як і з’явіўся.

## ПАЛІТЗАНЯТКІ

Палітзаняткі былі на службе абавязковай працэдурай.

Праводзіў іх адзін ці два разы на тыдзень наш камандзір узвода прапаршчык Вячаслаў Вінаградаў.

Звычайна Вінаградаў расказваў пра апошнія падзеі. Потым задаваў асобным салдатам пытанні “на засыпку”. Астатнія сядзелі і слухалі, ці рабілі выгляд што слухаюць.

Цягнула на сон. Так аднойчы мой зямляк Валодзя Салавей, седзячы на першым радзе, задрамаў і захроп на ўсё памяшканне. Дружны рогат ледзь не сарваў палітычную інфармацыю.

Мне здаецца, і слухачы, і камандзір трымаліся прынцыпу “абы прайшоў час”. Хлопцы служылі ў штабе, таму кожны дзень праглядалі газеты і, вядома, знаходзілі цікавае для сябе.

Палітзаняткі былі часткай нашай вайсковай службы. Вялікі ўплыў яны на нас не аказвалі, за выключэннем хіба тых рэдкіх выпадкаў, калі размова пераходзіла “на вольную тэму”.

## ПАЛКОЎНІК ЯЦКЕВІЧ

На майскіх вучэннях давялося бліжэй пазнаёміцца з палкоўнікам Яцкевічам, сувязістам.

Калі палкоўнік Яцкевіч прыходзіў да “майго” палкоўніка Касцюхіна папрацаваць з сакрэтнымі дакументамі, не адзін раз чуў яго мову са знаёмым беларускім акцэнтам. І калі спытаў у Касцюхіна пра Яцкевіча, то атрымаў чаканы адказ:

– Так, палкоўнік Яцкевіч родам з Беларусі, але не ведаю канкрэтна, з якога горада. Калі цікава, то спытаю.

А лепей сам спытай.

Высветлілася, што Яцкевіч быў маім земляком, і гэта радавала.

... На камандным пункце было шумна ад галасоў і крыкаў па тэлефоне: унізе пад гарою, на якой мы знаходзіліся, разгортваліся “баявыя дзеянні”. Танкі сходу атакавалі “варожы” рубеж.

Палкоўнік Яцкевіч “сядзеў на тэлефоне” і некаму зычна даваў каманды і ўказанні. На другім канцы провада нехта недачуваў ці не зусім разумеў палкоўніка, пакуль той не крыкнуў:

– Я хоць і беларус, але па-руску добра размаўляю і даходліва кажу табе, куды бегчы і што рабіць...

Для мяне было прыемна пачуць, што палкоўнік Яцкевіч – беларус і што ён добра ведае сваю справу сувязіста. Не дарма ж зямляк, не дарма – палкоўнік!..

## ДЖЭКСАН

Нізкарослы, жвавы, нахабны, ён напамінаў мне земляка Лёню Сароку, сына мясцовага каваля.

Андрэй заўсёды паводзіў сябе “на мяжы выдалення”, кажучы спартыўнай тэрміналогіяй. Бывала, што катэгарычна адмаўляўся нешта рабіць, спрачаўся з нашым прапаршчыкам. Напэўна, яму многае даравалася з прычыны малога росту. Увогуле хлопец быў нядрэнны.

Калі я прыехаў апоўначы з вакзала ў нашу чарцёжку ( вярнуўся з водпуску) і пачаў распакоўваць свае чамаданы, Андрэй папрасіў у мяне флакон адэкалону, выліў яго ў кубачак і выпіў...

Я ўпершыню тады пабачыў, як мужыкі п’юць адэкалон і скалануўся ад убачанага, здзівіўся, не зразумеў Жарабца. Пазней уцяміў: яму хацелася паказаць сябе мужчынам. На такія ўчынкі ён не раз адважваўся, хоць ў некаторых выпадках і шкодзіў гэтым сабе.



Аднойчы мы пайшлі на вячэру, а наш сябар папрасіў прынесці яму хлеб і масла ў чарцёжку. Мы не здзівіліся. Але насцярожыла тое, што пакінулі на вечар бутэльку гарэлкі і бохан свежага белага хлеба на закуску ў адным памяшканні з Андрэем...

Вярнуўшыся, доўгі час не маглі трапіць у чарцёжку: Андрэй не адчыняў дзверы, размаўляючы з кімсьці ў памяшканні.

– Напэўна, жанчыну прывёў, не іначай? – сказаў са злосцю Лёня Палякоў, наш камандзір аддзялення (яны абодва былі землякі, з Украіны). Нас чакала яшчэ праца, таму мы ўз’еліся на Жарабца, які з паўгадзіны не адчыняў дзверы.

Калі нарэшце трапілі ў памяшканне, то зразумелі, што ніякай жанчыны не было, а п’яны ў дым Андрэй размаўляў па тэлефоне з нашым прапаршчыкам.

Самае непрыемнае было тое, што Жарабец сам выпіў цэлую бутэльку агульнай гарэлкі, закусіў хлебам і “сеў на тэлефон”...

Яму далі мянушку “Джэксан”, якая вымаўлялася без асаблівай паволі.

## КАНЦЭРТЫ

У ваенным гарадку быў шыкоўны Дом афіцэраў, куды нярэдка прыязджалі вядомыя мастацкія калектывы і асобныя артысты з Саюза, выканаўцы...

Радавалі сваімі візітамі і знакамітасці: з канцэртам для салдат выступаў кумір пакалення Уладзімір Высоцкі, вядомы артыст (фільм “Вершнік без галавы”) Алег Відаў.

Самым адметным выдаўся 1975 год, калі прыязджалі нашы беларускія “Песняры” і Іосіф Кабзон.

Напрыканцы выступлення Кабзон паведаміў, што за кулісамі прысутнічае ягоны сябра – вядомы венгерскі спявак Янаш Коош. Янаш вызірнуў з-за куліс, папрасіў

прабачэння за тое, што ён у джынсах, таму не можа выйсці на сцэну...

Нас уразіла, наколькі венгерскі спявак сур'ёзна ставіцца да свайго іміджу...

У памяці засталіся выступленні венгерскіх гуртоў "Карвіна", "Сям'я Неатан". Вядома, мы былі ў захапленні ад дзяўчат-прыгажунь.

Прыязджалі на гастролі ў Паўднёвую групу таксама малдаванскі ансамбль "Жок", усесаюзны ансамбль песні і танца імя Аляксандрава.

Трапіць на канцэрты заўжды было святам.







# ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

## ГОД МІНУЎ

Мінуў год службы ў войску... Шмат чаго давялося перажыць, адчуць, зрабіць...

За год мы, маладыя, пасталелі, спраўна пачалі выконваць абавязкі штабных чарцёжнікаў, пазнаёміліся з Будапештам...

Не прайшлі марна і заняткі па фізічнай падрыхтоўцы.

Мы набылі важны жыццёвы вопыт, вопыт адносін паміж салдатамі, адносін па службе з афіцэрамі і прапаршчыкамі.

... “Час не ўтрымаць! “ – любіў гаварыць кожную раніцу на разводзе вузла сувязі камандзір вайскавой часці маёр Мікіша, маючы на ўвазе тое, што рана ці позна кожны з хлопцаў вернецца дадому. Але наперадзе быў яшчэ год, дванаццаць месяцаў.

## ВУЧЭННІ КРАІН ВАРШАЎСКАГА ДАГАВОРУ

Да іх рыхтаваліся ўсю зіму, і калі надышоў час вучэнняў, асаблівага страху не было.

### I.

Па трывозе паднялі нечакана. Голас днявальнага прагучаў коратка, але зычна “ТРЫВОГА!”, “ПАД’ЁМ!”...

Хутка апрануўшыся, пабеглі ў напрамку штаба. Адчынілі дзверы ў чарцёжцы і пачалі выносіць патрэбныя куфары да машыны ўніз.

Пагрузіўшы рэчы, выехалі ў раён вучэнняў.

Была ноч. Мы сядзелі ў машыне і драмалі.

Праз некаторы час пачалася ўзгорыстая тэрыторыя Венгрыі. Былі вельмі крутыя пад’ёмы і спускі. Ад такой язды ажно пакалвала цела.

Прыпыніліся ў лесе. Навокал – цемра. Маёр Пятроў адвёў нас у нейкую палатку, дзе мы прадрамалі да раніцы.



### II.

З балоцістай мясціны праз два дні пераехалі на ўзвышша, якое парадавала сасняком.

Размясціліся на новым месцы, агледзеліся, пачалі думаць пра вячэру. Па гэтым пытанні звярнуліся да маёра Пятрова, які займаўся ўладкаваннем і іншымі бытавымі пытаннямі.

– Ваша кухня на пагорку за сасняком, – сказаў маёр.

Павячэралі. Сонца пачало паціху апускацца на вершаліны дрэў. Пара было вяртацца да нашай машыны. Але кожны пачаў цягнуць іншых у свой бок. Раздзяліліся на дзве групы і накіраваліся ў розныя бакі, але, што цікава: вярнуліся, бы згаварыліся, у адну хвіліну, толькі з розных бакоў. Ажно здзівіла такое супадзенне...

З вечара нас нагрузілі картамі. Са мною амаль усю ноч працаваў палкоўнік Мякушка: пажылы афіцэр.

Пад раніцу ў цішыні лесу прагучаў зычны голас:

– Мякушка, Мякушка, ... тваю маць!..

З-за дрэў паказалася постаць начальніка Аператыўнага ўпраўлення палкоўніка Крывабока, які ішоў у наш бок, мацюкаючыся на ўвесь лес.

Мякушка спакойна працягваў працаваць далей.

### III.

Апошнім месцам дыслакацыі стаў ліставы лес, які, сагрэты сонечнымі промнямі, няблага прыгрэў і нас.

Палкоўнік Сізоў увечары папрасіў мяне зрабіць да раніцы схему для заняткаў у адным з палкоў. Працаваць па начах мы ўжо прывыклі, у гэтым не было нічога дзіўнага. Тым больш, што было добрае, цёплае надвор’е. У лесе стаяла дзіўная цішыня, адно толькі надакучліва зумкалі камары.

Працаваў да самай раніцы. Мае таварышы таксама не спалі. Прылеглі на ранку, але разбудзіў тут жа маёр Пятроў:

– Хлопцы, падымайцеся! Хутка тут будзе праязджаць камандуючы! Станьце па другі бок машыны, каб вас не

было відаць.

Я першы прыўстаў з травы, расплюшчыў вочы: Анатоль яшчэ не прачнуўся. Ён увесь быў аблеплены мурашамі, бо лёг якраз побач з мурашнікам. Я разбудзіў Анатоля, дапамог яму збіваць мурашоў. Прабудзіліся і Дзіма з Валодзем.

Хуценька перабраліся за машыну і зноў пападалі як нежывыя. Ці праязджаў камандуючы, ці не, – што салдату да таго. А вось паспаць лішнюю гадзіну – справа святая.

## ВОДПУСК

Пасля вучэнняў многія афіцэры пачалі ад'язджаць у Саюз адпачываць. У салдат таксама адбываліся такія шчаслівыя выпадкі-здарэнні: кароткатэрміновы водпуск на радзіму. Але "падарунак" яшчэ трэба было заслужыць. Таму не ўсім, вядома, атрымлівалася за час службы пабыць дома...

Надышоў і час майго адпачынку. У гэты дзень ехаў у Саюз і наш прапаршчык Іван Васільевіч са сваёю жонкаю. У адным купэ са мною апынуўся і знаёмы сяржант з радыёстанцыі камандуючага Валерый...

Мяне непакоіў зуб. Таму, калі Іван Васільевіч прыйшоў да нас у купэ і запрасіў да сябе на вячэру, давялося адмовіцца.

Я сядзеў ля акна і глядзеў на палі і пагоркі, сады і дамы, што прабягалі міма вагона. Чым бліжэй пад'язджалі да Чопу, тым больш я хваляваўся.

І вось яна – мяжа. Нейтральная паласа. І ўжо праз хвіліну я на сваёй зямлі, савецкай... Як гэта хвалююча прыемна! А здавалася: зямля адна і тая ж... Такая ж самая трава, дрэвы і кветкі. Ды не! Іншыя пачуцці, іншае паветра! Захацелася легчы на СВАЮ зямлю, абняць яе рукамі, забыцца ў высокай водарнай траве...

Раней ніколі б і не падумаў, што такія пачуцці могуць апанаваць ад доўгага расставання з радзімаю. Цягнік імчыць усё бліжэй да дому. Свеціць ласкавае сонца, радуе высокі блакіт неба. Пад стук колаў гучаць у галаве словы:"Хутчэй дадому !.."

Раніцай пад'язджалі да Львова. Надвор'е працягвала радаваць. Палі, што прасціраліся за чыгункаю, нагадвалі дзяцінства, канікулы ў вёсцы ў дзеда з бабуляю.

Вокны ў вагоне адчыненыя. Цёпла.

Са спадарожнікам Валерам перакідваемся словамі. Адчуваецца стомленасць ад бяссоннай ночы, але на гэта не звяртаем увагу. Вытрымлівалі і не такое! Валеру ад Львова на Чарнігаў, мне – крыху бліжэй.

У іншы час пры другіх абставінах ніколі не падумаў бы, што так нясцерпна будзе хацецца дадому, нясцерпна захочацца падыхаць родным паветрам, пахадзіць па знаёмых вуліцах. Заплюшчу вочы – бачу і чую, як ляціць да акна стракаты матыль, падаюць галасы цыкады, мільгане крылом ластаўка. Вось зараз падуе цёплы ветрык, праедзе машына па завулку, падымаючы пыл на дарозе, пройдзе паштальёнка з вялікаю скураною сумкаю, забітаю газетамі і часопісамі, пісьмамі...

Грукат колаў... Непрыкметна набліжаецца Львоў. Я з Валерам развітваюся на два тыдні, каб потым зноў сустрэцца ля яго машыны – радыёстанцыі камандуючага.

Усе мае думкі – як мага хутчэй выехаць са Львова на Брэст. Абы на чым, толькі каб не заставацца ва Львове да вечара. Але, як на злосць, няма рэйса ні на самалёт, ні на цягнік, ні на аўтобус... Толькі а палове шостай адпраўляецца аўтобус. Гэта ж трэба з самага ранку чакаю таго вечара! Нічога не хочацца бачыць, нікуды не хочацца ісці. Стрэлкі гадзінніка нібы прыклеіліся да шкла.

... Месца маё ў аўтобусе – чатырнаццатае. Аўтобус вялікі, утульны. Пасажыраў – чалавек дваццаць. Усе чакаюць, пакуль адчыняцца дзверы, каб імгненна рвануцца ў салон. Дзівакі. Напэўна, думаюць, што аўтобус рушыць адразу, як толькі яны сядуць на свае месцы.

На стаянцы, пакуль чакаў аўтобус, звярнуў увагу на прывабную светлавалосую дзяўчыну. Яна з сур’ёзным выглядам твару стаяла побач у гурце пасажыраў. Мая галава была забіта сваімі думкамі пра няўдалы дзень, пра хуткую сустрэчу з роднымі, але дзяўчына прыцягвала ўвагу. Неяк адразу выдзелілася з натоўпу. Напэўна, таксама як і я, спяшалася дадому.

Воляй выпадку нашыя месцы аказаліся побач: яе – трынаццатае. Калі я зайшоў у салон аўтобуса, то не адразу паверыў, што маё – побач з дзяўчынаю. Вось дык падзяка лёсу за доўгае чаканне аўтобуса!

Калі аўтобус крануўся з месца, толькі тады паверыў, што прыеду дадому.

Я глядзеў па звычцы ў акно. Мая суседка сядзела з сур’ёзным недаступным выразам твару. Я не ўтрымаўся і звярнуўся да сваёй спадарожніцы з нейкім простым пытаннем. Яе сур’ёзнасць раптоўна знікла. Дзяўчына ўсміхнулася блакітнымі вачыма і шчокі яе заружавелі.

Мы пазнаёміліся, і нашым размовам не было канца. Паціху прападала спякота, а лёгкая прахалода абвейвала праз расчыненыя форткі. Так мы і даехалі да яе ўкраінскага гарадка. Святлана пакінула мне свой хатні адрас для перапіскі...

Выходзіла Святлана, калі ўжо цямнела. Развіталіся мы як даўнія знаёмыя. Было радасна ад таго выпадковага знаёмства. Зусім сцямнела. У салоне святло не запальвалі, толькі прыдарожныя агні часам асвятлялі твары пасажыраў.

Я ненадоўга застаўся адзін са сваімі думкамі і чаканнямі. Праз паўтары гадзіны сустрэнуся з роднымі і сябрамі. Прытомлены апошнімі падзеямі я крыху разамлеў і непрыкметна задрамаў. Калі прачнуўся, то заўважыў, што пад’язджаем ужо да Брэста.

Было за поўнач, калі я выйшаў з аўтобуса. Дыхаў летняй начной прахалодай, слухаў гукі засынаючага горада. Насупраць прывакзальнай плошчы ў жаночым інтэрнаце свяціліся вокны. Напэўна, пасля другой змены дзяўчаты толькі рыхтаваліся да сну. Некалькі постацяў цямнела на вуліцы ля дзвярэй. Я пастаяў крыху і вырашыў дабірацца дадому пешшу. Хацелася паўспамінаць, паглядзець на начны горад. Здавалася, што доўга-доўга не быў тут, што горад мяне не чакаў.

Цямнеюць сады і дамы. І вокны нашага дома ўжо даўно цёмныя. Але вось зараз я пастукаю ў шыбіну. Загарыцца святло на кухні, потым – на верандзе, – і маці адчыніць мне дзверы... Я – дома!..

**ЗЛОДЗЕЙ**

У нашай невялікай драўлянай казарме ўсё было як на далоні. Таму, калі ў хлопцаў пачалі прападаць грошы, то было неяк не па сабе.

Доўгі час ніяк не атрымлівалася “вылічыць”, хто займаўся паскуднаю справаю.

Наш прызыў заўжды жыў паміж сабою дружна, можна сказаць, адной сям’ёй. Таму агідна стала, калі пачаліся крадзяжы.

Хлопцы паміж сабою абмяркоўвалі сітуацыю, вылічвалі магчымага злодзея.

Чамусьці падазрэнне ўпала на Сяргея Каўцова з Сібіры, які рыхтаваўся да звальнення. Спачатку ён збіраўся ехаць у Маскву, дзе разлічваў уладкавацца на працу ахоўнікам. Для гэтага Сяргей пачаў займацца боксам: трэніраваўся ў казарме.

Пальчатак было дзве пары, таму смельчакі баксіравалі з ім. Але многа аматараў не знаходзілася, бо атрымаць па пысе не вельмі хацелася.

Папаўся Каўцоў на крадзяжы проста: сярод ночы адзін са “старых” хадзіў на вуліцу пакурыць і затрымаўся там крыху. Як потым ён расказваў: праз акно нечакана ўбачыў, як Каўцоў шарыць ля чужога ложка ў кішэні ПШ...

Праз некалькі хвілін Алесь Мардухай, а гэта ён хадзіў

курыць, заскочыў у казарму і скамандаваў раптоўна: “Трывога”, “Пад’ём!”.

Увесь узвод пастроілі, і Саша перад строем папрасіў усіх праверыць кішэні, у каго на той час меліся грошы. У двух хлопцаў грошай не знайшлося, тады Саша Мардухай загадаў праверыць “дзядам” Каўцова. На спробу таго аказаць супраціўленне, хлопцы адказалі адпаведна.

Тое здарэнне дамовіліся “не выносіць” з казармы. Толькі камандзір узвода ведаў пра непрыемны выпадак.

З Каўцовым да звальнення ніхто не меў агульных спраў. Той непрыкметна даслужыў і непрыкметна знік...

## ПАЭТ ВАДЗІМ

Вадзім быў высокага росту, светлавалосы. Яго ўпартыя прамыя валасы пастаянна спадалі яму на твар, Вадзім іх раз-пораз прыгладжваў. Пшанічныя вусы ўпрыгожвалі яго ўсмешлівы твар. А вочы, светла-блакітныя, адбівалі сонечныя промні і ўсміхаліся...Ён заўжды весела ўсміхаўся. Здавалася, што хлопец не ў войску служыць, а недзе ля дома з сябрамі прагульваецца ў вольны час.

Вадзім у страі заўсёды хадзіў паперадзе мяне, таму я і запомніў яго нібы збоку, нібы на экране кіно.

Неяк у вайсковай газеце я натрапіў на верш Вадзіма Бессакірнага “На пасту”.

У нашым узводзе верш Вадзіма стаў падзеяй. Перад строем прапаршчык Вінаградаў павіншаваў хлопца і пажадаў творчых поспехаў.

Прыемна было адчуваць, што побач творчая асоба – паэт Вадзім.

Вершы Вадзіма пачытаць давялося крыху пазней. Хлопец пісаў на маю думку добра, мне падабалася яго лёгкае, даходлівае вершаскладанне. Вершы пра Будапешт, пра зіму, пра службу...

Да гэтага часу памятаю Вадзімавы радкі:



*Мне обидно, когда в разговоре*
*Говорят, что я молод ещё.*
*Я стою на посту, я в дозоре…*
*Автомат мне не режет плечо.*

Шкада толькі, што нідзе ў саюзных газетах і часопісах я не натрапіў больш на вершы Вадзіма Бессакірнага, вясёлага хлопца з добрымі вачыма і светлымі непаслухмянымі валасамі пад выгарэлай ад сонца пілоткай.

## ЧАЙ

Кожны год прапаршчык Іван Васільевіч ездзіў у Маскву (сам быў адтуль) набываць канцылярскія тавары для штаба. Яму падабалася лішні раз пабыць на радзіме.

Апошнім разам перад ад’ездам начальнік Аператыўнага ўпраўлення штаба палкоўнік Іван Анісімавіч Крывабок папрасіў яго прывезці чаю вышэйшага гатунку. Іван Анісімавіч прайшоў усю вайну, з першага яе дня апынуўся на фронце маладым лейтэнантам-танкістам, толькі з вучылішча.

Да салдат палкоўнік Крывабок адносіўся з любоўю і павагай: заўжды цікавіўся нашай службай, бо здагадваўся, што ад афіцэраў і прапаршчыкаў можна чакаць што ўгодна...

Аднойчы Іван Анісімавіч завітаў да нас у чарцёжку ў добрым настроі (напэўна, сагрэўшыся перад гэтым шклянкаю “чаю”). Ён шчыра пагутарыў з намі, спытаў пра нашы салдацкія праблемы. На той час якраз было спякотнае лета, дык ён распарадзіўся наконт таго, каб нам пашылі лёгкія курткі для працы ў чарцёжцы, каб не было так душна...

... Калі наш прапаршчык вярнуўся з паездкі ў Маскву, то зранку падрыхтаваў пачкі чаю і панёс палкоўніку Крывабоку.

Хутка Іван Васільевіч вярнуўся без настрою з тым жа чаем.

– Зусім з розуму выжыў палкоўнік!.. – абурана выказваўся прапаршчык. – Адкуль ён узяў, што я на вакзале ў старой бабкі пытаў, які лепш чай купіць для начальніка Аператыўнага ўпраўлення штаба Паўднёвай групы войск... Ён вытурыў мяне са свайго кабінета і загадаў, каб гэты чай (чай быў у цвёрдых плітачках) аддаў салдатам – вам, чарцёжнікам...

Мы, вядома, былі задаволеныя. Гэта быў добры падарунак ад начальніка-палкоўніка. Да таго ж мы ведалі, як Крывабок адносіцца да салдатаў... Шкада было толькі самога палкоўніка, што не дачакаўся добрага чаю. Але што чакаць ад прапаршчыка, ды яшчэ такога, як Іван Васільевіч?!. Толькі непатрэбнага енку, старых анекдотаў ды аповедаў пра свае "подзвігі" ў Маскве...

## БІБЛІЯТЭКА

Батальённая бібліятэка знаходзілася з процілеглага боку суседняй казармы. Бібліятэка была нядрэнная: вялікае памяшканне, шмат кніжак. Ды і чытачоў, вядома, хапала.

Бібліятэкарам была маладая прыгожая жанчына, таму, я думаю, з-за гэтага павялічвалася і колькасць чытачоў. Ва ўмовах вайсковай службы нават паразмаўляць з прывабнай жанчынай колькі хвілін – і то шчасце.

Хлопцы чыталі шмат, бо некаторым гэта дазваляла служба. Хапала часу і перад адбоем пачытаць, і у выхадныя дні... Шмат чытаў Саша Бучык. Было такое ўражанне, што гэта яго асноўны занятак у войску.

Ён няблага разбіраўся ў літаратуры, любіў пагаварыць пра кніжкі, часам зачытваў асобныя цікавыя месцы ўголас. Тады можна было паразмаўляць, паспрачацца.

Паход у бібліятэку для Сашы Бучыка быў падзеяй. Хлопец аж свяціўся, з асаблівай далікатнасцю выкладваў кніжкі на тумбачцы і гартаў іх.

Аднойчы я быў сведкам, як хлопец з суседняга авіяцыйнага батальёна прынёс здаваць парваную кніжку. Бібліятэкар далікатна зрабіла яму заўвагу:

– Даражэнькі салдацік, у такім непатрэбным выглядзе кніжкі нельга вяртаць! Трэба і пра іншых чытачоў думаць...

"Лётчык", скрывіўшы твар, груба адказаў:

– Я ўжо "дзедам" стаў! Хай цяпер за мяне маладыя падклейваюць... – рэзка павярнуўшыся, "лётчык" пайшоў да стэлажоў выбіраць сябе новую ахвяру.

Я ведаў крыху таго хлопца, таму быў вельмі здзіўлены...

Пазней, калі я прыходзіў па кніжкі, Валянціна Іванаўна не адзін раз жалілася, што такія чытачы, на жаль, сустракаюцца часта.

А маладая бібліятэкар, між тым, вельмі любіла сваю справу.

## ЛІСТЫ З РАДЗІМЫ

Вялікім шчасцем было атрымліваць лісты з радзімы. Шкада толькі, што не ўсе яны захаваліся да цяперашняга часу. Не было на гэта, вядома, умоў... ды і набіралася тых лістоў вельмі шмат.

Атрымліваў лісты ад дзеда Івана з бабуляю Ефрасінняю: пісаў дзед, бабуля была непісьменнаю. Затое яна, як я даведаўся пазней, заўсёды прымушала дзеда адказваць як мага хутчэй.

Ад бацькоў з дому рэгулярна прыходзілі лісты, адпраўленыя найчасцей бацькам, ці не пад маміну дыктоўку.

Асобным месцам было ліставанне з дзяўчатамі.

Калі аднойчы летам вярнуліся пасля працяглых вучэнняў я налічыў каля дзясятка пісьмаў.

А калі адна былая знаёмая, на якую ўскладваў такія-сякія спадзяванні, напісала, што стала ўжо замужняю жанчынаю, то мяне нават "перамкнула" ад нечаканасці.

Найбольш "вернаю" аказалася суседка-аднакласніца,

на той час студэнтка: яна пісала мне нават на лекцыях, перапісвала для мяне вершы знакамітых паэтаў, часцей пра каханне. Адным словам, ведала, што трэбна пісаць салдату. За гэта я ёй быў вельмі ўдзячны.

Не абмінуў я і родную школу: адпраўляў віншаванні да святаў, да Дня настаўніка.

Шмат было за час службы перапіскі з хлопцамі-сябрамі, якія служылі ў розных кутках краіны і за мяжой.

Я захоўваю самае дарагое з таго, што атрымліваў у час службы.

Дзякуй вам, родныя і сябры!

## “МАЛАДОСЦЬ”

Вельмі падабалася мне раскладваць газеты і часопісы для афіцэраў упраўлення. Такім чынам усе свежыя навіны праходзілі спачатку праз нас, салдат аддзялення. Яфрэйтар Сіроцкі з вузла сувязі прыносіў кожны дзень свежую “прэсу” адразу да нас, у чарцёжку.

Калі напрыканцы першага года службы надышоў час падпіскі, я вырашыў выпісаць для сябе часопіс “Маладосць”, які пачаў чытаць яшчэ ў школе. Часопіс падабаўся мне нізкамі вершаў, празаічнымі творамі, публіцыстыкай, каляровымі ўкладкамі і іншым афармленнем. Да таго ж, там друкавалі творы маіх землякоў: Ніны Мацяш, Міхася Рудкоўскага, Алеся Разанава, Раісы Баравіковай, Міколы Пракаповіча, Алеся Каско...

З новага года пачаў атрымліваць доўгачаканую “Маладосць”. Для мяне з’явілася выдатная магчымасць дакранацца да жыцця маёй радзімы, маіх землякоў, быць бліжэй да роднай мовы, да роднай літаратуры.

Так праз паўгода службы я вырашыў для сябе праблему сувязі з радзімай праз цудоўны часопіс (крыху раней бацькі даслалі мне беларускамоўны слоўнік, схаваўшы ў ім яшчэ і дзесяць рублёў адной паперкаю).



Мой зямляк Дзіма Бацула з Бярозаўскага раёна, пабачыўшы першы нумар “Маладосці”, расказаў пра свайго земляка-паэта Алеся Разанава: яны былі з адной вёскі.

Так у маю службу за мяжой увайшоў літаратурны часопіс з роднай Беларусі, які паспрыяў самастойнай гуманітарнай адукацыі, стаў для мяне візітоўкай радзімы.

## У ПЯЧЭРАХ НА ВУЧЭННЯХ

Два разы давялося пабываць на вучэннях у гарах.

Вапнавы камень лёгка паддаваўся апрацоўцы, таму ў часы апошняй вайны палонныя па загаду нямецкіх акупантаў высяклі тут шматлікія трохпавярховыя пячоры, адбудаваўшы цэлы комплекс, прыгодны для доўгага знаходжання ў ім.

Там мы і жылі некалькі дзён, пакуль працягваліся вучэнні. Увесь час адчувалася высокая вільготнасць. Карты распаўзаліся пасля склейкі, рабіліся мокрымі.

Заходзіў да нас начальнік упраўлення палкоўнік Крывабок, пытаўся пра бытавыя ўмовы. Ён увогуле добра адносіўся да простых салдат, а тут яшчэ спытаў пра ежу. З ежай на той час было туга, пра што мы і сказалі яму.

У адказ на нашу скаргу Крывабок загадаў аднаму з нашых афіцэраў маёру Пятрову накарміць нас, забяспечыць сухімі пайкамі...

Так я паехаў удвух з Анатолем і маёрам Пятровым у вайсковую часць, якая знаходзілася непадалёк. Паблукаўшы крыху па дарогах, пад’ехалі да будынкаў нашых вайскоўцаў. Выгляд іх асабліва не ўразіў: было відаць, што з парадкам там былі праблемы. Але нам хацелася як мага хутчэй нешта набыць паесці для сябе, для нашых таварышаў.

Загадчыка прадуктовага склада адшукалі недзе на

краю часці ў летняй пабудове: сярод трох прапаршчыкаў сядзеў старшы лейтэнант, загадчык склада, які на пытанне маёра пра сухія пайкі адказаў, што іх проста няма на складзе, а ў сталоўцы яшчэ пакуль нічога не прыгатавана...

Маёр Пятроў тады моцна раззлаваўся, пачаў крычаць на лейтэнанта, які, было відаць, перад нашым прыездам выпіваў з прапаршчыкамі і закусваў сухім пайком...

Старшы лейтэнант усё ж такі знайшоў выхад з непрыемнай сітуацыі. Некуды з'ездзіў і прывёз праз хвілін пятнаццаць некалькі сухіх пайкоў. Дзе ён іх набыў – нас гэта не хвалявала. Пэўна, узяў са сваёй кватэры.

Загадчык прадуктовага склада лёгка "адскочыў" ад непрыемнасцей: за такія справы мог і страціць сваё "казырнае" месца на складзе...

Вучэнні працягваліся. І нам стала весялей ад таго, што суткі мы маглі яшчэ спраўна "ваяваць", пакуль не давядзецца збірацца на ад'езд з катакомбаў.

## "ПЕСНЯРЫ". СУСТРЭЧА З РАДЗІМАЙ.

Сярод шматлікіх канцэртаў, сустрэч з артыстамі асобна стаіць прыезд да нас знакамітага калектыву з радзімы – "ПЕСНЯРЫ", які мне пашчасціла "ўжывую" пачуць яшчэ ў дзясятым класе.

На той час папулярнасць групы пераходзіла ўсе магчымыя межы, і трапіць на канцэрт да землякоў было вялікай радасцю.

У 1975 годзе артысты прыехалі з канцэртам і ў наш Дом афіцэраў.

Памятаю, перад канцэртам у фае да нас нечакана падышоў Аляксандр Дзямешка, і спытаў, ці ёсць землякі.

Два аддзяленні канцэрта сталі сапраўдным "допінгам" для аматараў сапраўднай музыкі, тым больш для нас, землякоў знакамітага гурта... На сцэне саліравалі Уладзімір Мулявін, Леанід Барткевіч, Анатоль



Кашапараў...

Удзельнікі ансамбля былі апранутыя ў запамінальна нацыянальныя касцюмы, а выкананне беларускіх народных песень у аранжыроўцы Уладзіміра Мулявіна выклікала авацыі залы...

Пасля канцэрта наш "сакрэтчык" Мікола Шаўчэнка павёў мяне з Анатолем Кваско з Кіева ў падсобнае памяшканне за кулісы пафатаграфавацца з артыстамі.

Першым мы пабачылі Уладзіміра Мулявіна. На той момант ён мне паказаўся чалавекам невысокага росту, уразілі ягоныя знакамітыя вусы. Мікола ведаў крыху Мулявіна яшчэ да службы, таму адразу звярнуўся да яго на "ты":

– Валодзя, мяне з табою пазнаёмілі ў Харкаве пасля канцэрта. А зараз вось пазнаёмся з маімі сябрамі з Брэста і Кіева. Нам пашчасціла пабываць на вашым канцэрце. І прабач за наш візіт за кулісы...

Нядоўгая размова пакінула моцнае ўражанне. Ды яшчэ пасля таго, як Уладзімір Мулявін запрасіў у будучым часцей бываць на канцэртах "Песняроў" і не саромецца падыходзіць да яго пасля выступлення. На тым і разышліся, бо ў кожнага былі свае справы.

А нам было прыемна падзяліцца ўражаннямі ў казарме з хлопцамі, бо "Песняры" гучалі моцна не толькі ў Саюзе, але і тут, у Венгрыі...

## "ЧЫТАЧ"

Міша Чорнаогла, хлопец з нашага аддзялення, шарыў па тумбачках, заходзіў у сушылкі і бытавыя пакоі... Потым ён некуды знік з казармы.

Але ўвечары таго ж дня Міша падышоў да мяне з вокладкай ад нейкай кніжкі ў руках:

– Ты не ведаеш, – запытаў ён мяне з кіслым выразам твару, – хто маю кніжку занёс у прыбіральню?

– Міша, не ведаю, – адказаў я са спачуваннем. – Я свае

кніжкі берагу. А ўвогуле, калі бяру, то чытаю. Прачытаў – адразу аднёс – выбраў іншую.

Міша пра сваю кніжку, пэўна, доўгі час не ўспамінаў, пакуль яму нешта не спатрэбілася ў бібліятэцы. А бібліятэкар нагадала яму пра доўг.

– Міша, – параіў я яму добразычліва, – атрымаеш грошы, купі добрую кніжку ў краме ды і занясі яе замест згубленай. Бібліятэкар добрая жанчына. Яна ўсё зразумее.

Пазней, калі Чорнаогла праслужыў больш за паўгода, ён заўсёды бянтэжыўся, калі бачыў, што я назіраю за ім, ледзьве стрымліваючы ўсмешку.

А вокладку першай “прачытанай” кніжкі Міша, пэўна, спаліў, ці парваў на шматкі.

## САЛАВЕЙ

Мой зямляк Валодзя, дзякуючы якому (хутчэй за ўсё так) я апынуўся служыць у штабе ў Будапешце, перад службай актыўна займаўся спартыўным веславаннем, выканаў нарматыў кандыдата ў майстры спорту. Ён быў высокага росту, здаровы, але нейкі флегматычны. Ну, такі ўжо нарадзіўся.

Мы з Валодзем з аднаго раёна горада, жылі непадалёк, але вучыліся ў розных школах, таму пазнаёміліся толькі ў старэйшых класах. Ён, як і я, маляваў, пісаў плакатнымі пёрамі, афармляў у школе насценныя газеты.

У войску Валодзю шмат чаго не падабалася. Па-першае, яму, здароваму хлопцу, не хапала ежы. З гэтай прычыны ён пакутаваў. Да службовых абавязкаў адносіўся з прахалодай. Але калі Дзіма і я з’ездзілі на радзіму ў адпачынак, то і Валодзю таксама захацелася пабываць дома. Ды толькі наш прапаршчык быў супраць.

Валодзя пачаў прасіць мяне пагаварыць з палкоўнікам Касцюхіным, у якога я працаваў і з якім быў у добрых адносінах.



Палкоўнік Касцюхін па-бацькоўску паслухаў мяне, схадзіў да начальніка Аператыўнага ўпраўлення і падпісаў загад на водпуск для Валодзі Салаўя.

Валодзя з тым загадам насіўся, як дурань з дзвярыма, пасля паклаў яго на стол ля расчыненага акна, побач з якім стаялі бутэлькі з хлоркаю для працы.

У той дзень мы працавалі ў штабе і пасля вячэры: была тэрміновая работа.

– Валодзя, прыбяры паперыну са стала. А то яшчэ бутэлька ўпадзе і залье. Тады бяда! – папярэдзіў я.

– Не хвалюйся, Андрэй! Усё будзе як трэба, я хутка еду і нішто ўжо мне не перашкодзіць! – самаўпэўнена адказаў мой зямляк, паціраючы задаволена далоні.

Працавалі ўсю ноч. А раніцай у нейкі момант з бакоўкі выйшаў амаль са слязьмі на вачах Салавей:

– Ну што, задаволены, што я не паеду ў водпуск?! – разгублена, з крыўдаю, дрыжачым голасам прамовіў Валодзя, трымаючы ў руцэ абпалены хлоркаю загад.

Мы ўсе зразумелі, што здарылася бяда: бутэлька перакулілася. Гэта рама расчыненага акна збіла яе, і хлорка вылілася на паперу...

Выпраўляць становішча давялося мне: я ізноў пайшоў да “свайго” палкоўніка Касцюхіна прасіць дапамогі.

Касцюхін доўга моршчыўся, пакуль не сказаў:

– Да начальніка лішні раз заходзіць нельга. А тут яшчэ такі выпадак. Падстаўляеце мяне, хлопцы. Раптам у яго будзе дрэнны настрой. Перадрукуйце загад, а я ўжо выберу момант...

Усё абышлося. Салавей паехаў у адпачынак, ды яшчэ прывез мне ад бацькоў гасцінец, за што яму вялікі дзякуй. Але пасля адпачынку, можна сказаць, яго скарацілі – Валодзю адправілі ў штаб дывізіі, на “паніжэнне”. Не апраўдаў даверу ў таварыша прапаршчыка.

## СКІВІЦА

У нашым упраўленні служыў палкоўнік Гладышаў: сярэдняга росту, непрыкметны, добразычлівы. Ён часта заходзіў да нас у чарцёжку пагутарыць, адысці ад спраў. У Гладышава крыху выступала ўперад ніжняя частка твару, таму нехта да нас яшчэ даў яму мянушку “Сківіца”. Ці ведаў палкоўнік пра сваю мянушку? Мы не цікавіліся, бо ставіліся да чалавека з павагай.

У палкоўніка была вельмі прыгожая дачка Наталля, якая на той час заканчвала дзясяты клас. Часцяком мы бачылі яе ў гарадку, калі дзяўчына вярталася са школы ці прагульвалася з сяброўкамі. Знаёмства з ёю ніхто з нас не заводзіў: не было зручнага выпадку. Аднак у размовах з Гладышавым зрэдку заходзіла гаворка і пра яго дачку.

Калі я ўжо ведаў, што паеду ў адпачынак на радзіму, Гладышаў пацікавіўся нашым нацыянальным напоем: ён быў у некаторым сэнсе аматарам высокіх градусаў. Я расказаў яму пра нашу самагонку, абяцаў яе прывезці і пачаставаць.

Сваё абяцанне я выканаў і наступным па прыездзе днём паклікаў палкоўніка на дэгустацыю.

Гладышаў зайшоў да нас у чарцёжку, паглядзеў на слоік, па-змоўніцку прамовіў:

– Трэба праз паўгадзіны да начальніка з дакладам ісці. Пачакайце ўжо да абеду...

...Цікавы выпадак здарыўся з палкоўнікам Гладашавым перад 8 Сакавіка. Наш прапаршчык вырашыў падкузьміць Гладышава: ён пачаў тэлефанаваць у кабінет палкоўніка і прасіць паклікаць Мар’ю Іванаўну ( так звалі жонку палкоўніка). Праз некалькі званкоў Гладышаў зайшоў да нас, крутануўся моўчкі і выйшаў. Прапаршчык зноў пачаў тэлефанаваць. Так працягвалася каторы час.

Было сорамна за прапаршчыка, але сказаць яму ў вочы, што мы на гэты конт думаем, так ніхто і не асмеліўся.

Палкоўнік Гладышаў адносіўся да нас па-бацькоўску. І, калі надышоў час з’язджаць, было адчуванне, што яго



будзе не хапаць. Такіх мужчын няшмат было на службе.

## “АБСТРЭЛ” БАТАЛЬЁНА

Ужо ляжаў на зямлі першы снег, якога зусім не было мінулай зімой. У казарме пасля адбою хлопцы ніяк не маглі супакоіцца: нехта расказваў анекдоты, нехта – жудасныя гісторыі, а нехта гледзеў у акно на белае дзіва. З цягам часу размовы пачалі заціхаць, як раптам з боку кантрольна-прапускнога пункта пачуліся галасы і выразныя гукі стрэлаў: і адзіночных, і кароткімі чэргамі. Пра ранейшыя здарэнні з мадзьярамі мы крыху ведалі ад старэйшых хлопцаў, ад афіцэраў. Таму першая рэакцыя была адназначная – упасці на падлогу казармы, пакуль не высветляцца абставіны. Лежачы, пачалі абмяркоўваць здарэнне: было не да смеху. Смельчакі, утаропіўшыся ў вокны, заўважылі мітусню ў тым баку, дзе стралялі. Калі стрэлы пачалі заціхаць, вырашылі паслаць дзяжурнага высветліць сітуацыю.

Дзяжурным быў рыжаваты хлопец са Львова Пятрук: высокі, здаровы яфрэйтар. Яго і адправілі на разведку.

Вярнуўся Пятрук на дзіва хутка.

– Ніхто не абстрэльваў батальён! – весела выгукнуў ён. – Гэта склад будаўнікоў-мадзьяр загарэўся. А там лісты шыферу. А напачатку дзяжурныя па КПП не зразумелі, падднялі роту аховы па трывозе, таму і мітусня пайшла.

З радасцю хлопцы палезлі пад коўдры глядзець свае салдацкія сны.

## КАМЕНДАНТ МІКІЦЕНКА

На пачатку службы ў штабе давялося неаднаразова бачыць пажылога генерал-маёра з непрыемным выразам твару. Ён кожны раз быў нечым незадаволены, ніколі

не ўсміхаўся, не жартаваў... Паўнаваты твар генерала з адвіслай скіВіцай заўсёды быў прадвеснікам разносаў па службе.

Пазней я даведаўся, што гэта камендант штабных будынкаў, якога не так даўно "панізілі"па пасадзе.

Мікіценка звычайна моўчкі з'яўляўся на "генеральскай" алеі гарадка, прыдзірліва ўглядаўся ў вартавога, адказваў вяла на прывітанне таго і крочыў у галоўны корпус штаба.

Тады мы ўжо ведалі: генерал можа ў хуткім часе з'явіцца і на нашым паверсе. Так адбывалася заўжды, калі ў генерала быў дрэнны настрой.

Аднойчы ён заявіўся ў чарцёжцы, нават не павітаўся і адразу прычапіўся да нашага прапаршчыка:

– Прапаршчык, чаму ў прыбіральні павуцінне?

Той не знайшоў, што сказаць у адказ, акрамя як:

– Таварыш генерал, ёсць салдаты-прыбіральшчыкі, ёсць жанчына, якая прыбірае. Мы ж толькі чарцёжнікі!

Мікіценка загадаў прапаршчыку ісці за ім...

... – Ён нейкі хворы. І чаго толькі трымаюць такіх у войску! – выкрыкнуў Іван Васільевіч, раззлаваны і ўзбуджаны, праз хвілін дзесяць вярнуўшыся ў чарцёжку. – Пачаў адчытваць мяне за павуцінне ў прыбіральні!..

## НОВЫ ГОД

Да сустрэчы Новага 1976 –га года пачалі рыхтавацца за два тыдні. Мы былі ўжо "дзядамі" – на апошнім тэрміну службы.

У "чырвоным" кутку павесілі вялікі, на ўсю сцяну навагодні плакат з гадзіннікам, на якім адну лічбу ў спешцы напісалі нават наадварот. Увогуле ўпрыгожвалі памяшканне толькі "старыя", бо гэта быў наш Новы год – год звальнення са службы. Але дапамагалі, вядома, і нашы "паслядоўнікі".



Да навагодняй ночы мы набылі некалькі вялікіх бутэлек сухога віна, а ўвечары 31 снежня, схаваўшы іх пад шынялямі, панеслі ў казарму. У гарадку натрапілі на аднаго з нашых афіцэраў, які, глянуўшы на нас, зразумеў усё без лішніх слоў, усміхнуўся і пажадаў усяго найлепшага ў надыходзячым Новым годзе.

Пасля вячэры ўсе пераапрануліся ў парадную форму: у дзесяць гадзін па мясцовым часе збіраліся ў ленінскім пакоі на вузле сувязі слухаць віншаванне камандзіра.

Дзве бутэлькі віна я далікатна паставіў у свае ялавыя боты і зверху, як было патрэбна, абматаў анучамі і паставіў пад ложак. Заставалася чакаць толькі Новага года.

На вузле сувязі камандзір хвілін дваццаць гаварыў, віншаваў, жадаў нам усяго найлепшага. Але напрыканцы адзначыў, што не ўсе салдаты з адказнасцю адносяцца да службы, да сваіх абавязкаў, паказаў на кут ззаду, дзе тры хлопцы на падпітку драмалі, паклаўшы галовы на плечы саслужыўцаў. Сярод іх быў і мой зямляк з Кобрына Аляксей.

Вярнуўшыся з вузла сувязі ў казарму, мы даведаліся ад дзяжурнага, што, пакуль мы адсутнічалі, у казарме правялі вялікі "шмон": дзяжурны па вузле сувязі і яшчэ два афіцэры перавярнулі ўсе ложкі,ператраслі ўсё памяшканне: шукалі алкаголь і ўсё іншае недазволенае...

Я падышоў да свайго ложка, з хваляваннем палез у бот... Не, ліха мінула: дзве бутэлькі віна былі на сваіх месцах!..

У той вечар цікава было назіраць, як хлопцы выкопвалі бутэлькі з "палівам" з сумётаў ля казармы, здымалі з невысокага даху. У казарме ніхто не хаваў нічога – асцерагаліся праверкі. Толькі мне з хлопцамі і пашанцавала.

Калі адгучалі куранты, ужо ў цемры пачалі кучкавацца па два-тры чалавекі, віншаваць адзін другога, "адзначаць" Новы 1976 год.

Гадзіны дзве-тры ніхто яшчэ не спаў. Хлопцы

паводзілі сябе ціха, каб не падвесці камандзіра ўзвода, каб самім не “ўляпацца” ў непрыемную гісторыю. А наш днявальны пільна ў гэты час сачыў праз акно, каб з боку вузла сувязі раптам не падышоў дзяжурны афіцэр.

Новы 1976 год нёс шмат шчаслівых хвілін і надзей на будучае.







# ЧАСТКА ЧАЦВЁРТАЯ

## МЫ – “СТАРЫЯ”

Выйшаў загад Міністра Абароны СССР маршала Андрэя Грэчка №84 ад 30 сакавіка 1976 года пра звальненне і набор у войска. Гэтая падзея асабліва адзначалася ў войску стараслужачымі: нехта спрабаваў абавязкова выпіць, нехта пісаў на радзіму, дзяліўся доўгачаканай радасцю. Наш аднагодак Фёдар Калядкін з гэтай прычыны пагаліў галаву.

Для нас, хлопцаў, якія адслужылі год з паловаю, было вялікім святам тое, што хутка не будзе ніякага псіхалагічна ціску з боку старэйшых па службе...

Адзначылі свята ў батальённай “Чайной”. Успаміналі, пафатаграфаваліся на ўспамін.

Загад на звальненне я выразаў з газеты і акуратна паклаў у свой “дзямобны” альбом.

## РАЗВІТАННЕ З “ДЗЯДАМІ”

Нашы два чарцёжнікі з Украіны Лёня Палякоў і Андрэй Жарабец, што звальняліся праз некалькі дзён, вырашылі зрабіць провады. Для гэтага яны кансультаваліся з прапаршчыкам Іванам Васільевічам.

Пасля доўгіх перамоў вырашылі сабрацца ў яго на кватэры: жонка нашага прапаршчыка Святлана Васільеўна была не супраць.

Лёгкае сухое віно і добрая закуска паднялі салдацкі настрой: было пра што пагаварыць, што ўспомніць і абмеркаваць.

Пасля застолля хацелася працягу свята, таму Іван Васільевіч пазваніў вольнанаёмнай Лідзе з машынапіснага бюро. Тая запрасіла ў госці...

Так мы апынуліся ў кампаніі дзяўчат, якіх так не хапала ў кватэры Івана Васільевіча.... Загучала музыка, усім захацелася патанцаваць...

У першы і ў апошні раз я танцаваў з дзяўчатамі ў салдацкіх ялавых ботах. Тыя провады зацягнуліся за поўнач, але прапаршчык загадзя патэлефанаваў дзяжурнаму па вузле сувязі і папярэдзіў, што мы затрымліваемся па службе...

Праз два дні хлопцы -“дзяды” паехалі на сваю радзіму ва Украіну. А мы засталіся даслужваць свае паўгода, не-не ды і прыпамінаючы провады ў Івана Васільевіча, нядрэннага, як аказалася, чалавека.

## НОВЫ “ШЭФ” – ПАЛКОЎНІК УЛАДЗІМІРАЎ

“Мой” палкоўнік Касцюхін пачаў збірацца ад’язджаць у Саюз: надышоў канец яго службы ў штабе Паўднёвай групы войск. Гаворка апошнім часам была толькі пра тое, хто прыедзе на яго месца. І ён з’явіўся – палкоўнік Уладзіміраў – паўнаваты мужчына з добрай усмешкай у вачах.

Уладзіміраў адразу па-добраму паставіўся да мяне: даверыў ключ ад сваёй кватэры. Пакуль вяліся рамонтныя работы, ён спецыяльна затрымліваўся ў штабе, каб не перашкаджаць майстрам.

Калі ўжо мой новы “шэф” пераехаў з гасцініцы ў кватэру, я прыходзіў да яго дапамагчы давесці жыллё да ладу перад прыездам жонкі з сынам.

На гэты час, калі Уладзіміраў з’явіўся ў штабе, амаль адначасова памяняўся і аператыўны дзяжурны палкоўнік Алёшын на “хахла”– палкоўніка Бандурка.

Бандурка быў чалавекам немаладым, таксама чакаў прыезду жонкі. Калі я прыходзіў да Уладзімірава на кватэру пасля службы, амаль кожны раз там бавіў час і Бандурка: ці то яны раней былі знаёмымі, ці паспелі пасябраваць ужо тут. Звычайна я заставаў іх за бутэлькаю гарэлкі з добрай закуссю. Частавалі яны і мяне, праўда, да “градусаў” не даходзіла.

Бандурка любіў жартаваць: глытне гарэлку з чаркі і трымае ў роце, каб “лячыць” хворы зуб, а потым кажа:

– Нешта не магу доўга трымаць у роце: пячэ, шэльма! – і просіць калегу наліць яшчэ чарку, па-змоўніцку пасміхаючыся.

Як гэта ні дзіўна гучыць, у штабе я дапамагаў палкоўніку Уладзіміраву хутчэй прывыкнуць да новых абставін. У той жа час выконваў свае паўсядзённыя абавязкі.

З палкоўнікам Уладзіміравым служыць было не горш, чым з былым "шэфам".

Удзячны лёсу, што бараніў мяне ад самадураў з вялікімі зоркамі на пагонах.

**НАДЗЕЯ**

З некаторага часу стала працаваць батальённае радыё: недзе з шасці гадзін вечара пачынала гучаць музыка, якая ўносіла пэўны мажор у шэрыя будні службы.

Для сябе я адзначыў, што найчасцей гучыць песня Аляксандры Пахмутавай "Надзея" у выкананні польскай спявачкі Ганны Герман.

*Светит незнакомая звезда,*
*Снова мы оторваны от дома…*

Гэта песня выконвалася за дзень па некалькі разоў. З ёю ўсе зжыліся, і калі толькі дзень-другі не было яе чуваць, то хлопцы пачыналі абурацца:"Дзе наша Надзея, куды яе падзелі?!"

Так працягвалася, пакуль мы не скончылі службу.

Песня ў выкананні Ганны Герман кранала нашу душу, навявала ўспаміны пра родныя мясціны, пра бацькоў, будзіла думкі пра каханне.

Голас польскай спявачкі быў блізкі кожнаму чалавеку, асабліва хлопцам у вайсковай вопратцы.

"Надзея" стала своеасаблівым гімнам нам, маладым



вайскоўцам, якія марылі пра вяртанне на радзіму і ў кожным сне бачылі сваіх родных і блізкіх... Песня дарыла кожнаму з нас надзею на хуткае вяртанне дадому, надзею на лепшую будучыню.

**КАМСАМОЛЬСКІ СХОД**

У нашым асобным узводзе пачалі гаварыць пра прыём кандыдатамі ў члены КПСС.

Адразу ж пачалі вырашаць: хто будзе прэтэндаваць у кандыдаты?.. Вылучыліся два Міколы: наш намеснік камандзіра ўзвода з Армавіра і другі, з Харкава. Мой зямляк Дзмітрый Бацула быў трэцім кандыдатам у кандыдаты. Ён меркаваў, што гэта дапаможа здаць экстэрнам экзамены за 9-ты і 10-ты класы і атрымаць належную пасаду пасля тэрміновай службы. Ён збіраўся застацца "наёмшчыкам".

Камсамольскі сход праводзілі ў казарме, напаліўшы да гэтага дзве металічныя печкі.

Вялося бурнае абмеркаванне кандыдатур. У казарме паднялася тэмпература да найвышэйшай кропкі, калі пачалі абмяркоўваць кандыдатуру яфрэйтара Міколы Кабыска, нашага намкамузвода, які на той час абвясціў сябе хворым.

Хлопцам не спадабалася, што ў такі адказны момант Мікола разлёгся на ложку, папрасіў малодшага па службе хлопца напісаць за яго заяву на ўступленне кандыдатам у члены партыі. Гэта ўжо не лезла ні ў якія вароты...

Мікола не прайшоў па галасаванні, а я і яшчэ некаторыя нашы хлопцы сталі лічы што "ворагамі" для нашага камандзіра ўзвода і яго намесніка Міколы.

Нашы адносіны з Міколам крыху сапсаваліся, але да канца службы заставалася зусім мала часу, таму даслужылі мы і развіталіся як вайсковыя таварышы.

## ПАЛКОЎНІК ЯРОМЕНКА

Ён з'явіўся ў штабе непрыкметна. Падалося, што гэты палкоўнік толькі што прыехаў з адпачынку з Украіны, настолькі ён быў загарэлы, рухавы. А яшчэ каранасты, моцна збіты.

Завітаўшы да нас у чарцёжку, каб пазнаёміцца, палкоўнік адразу прапанаваў спартыўныя практыкаванні для рук, якія патрэбна было рабіць з ім удваіх. Паспрабавалі ўсе, але потым займаліся двое-трое, у тым ліку і я.

Праз нейкі месяц мне давялося з ім і палкоўнікам Скамарохавым па трывозе выехаць у вучэбны цэнтр.

Але напачатку была ноч у штабе над картаю з афіцэрамі розных службаў, бо з Масквы прыехала праверка з генерал-лейтэнантам Абалінсам: паднялі ўначы па трывозе два танкавыя палкі, якія рухаліся да вучэбнага цэнтра Хаймашкер.

Так я з двума старшымі афіцэрамі апынуўся на гары Кераш-Хедзь – на назіральным пункце, адкуль камандуючы сачыў за развіццём вучэнняў.

Тры дні цягнуліся вучэнні. Пад канец нас запрасілі да сябе на абед лётчыкі, і ўпору, бо сухія пайкі акурат закончыліся.

Той абед ледзь не стаў для нас трагедыяй, бо па дарозе да кухні лётчыкаў трапілі на машыне пад мінамётны абстрэл.

Аказалася, на незнаёмай мясцовасці наш малады вадзіцель не туды скіраваў, а афіцэры папярэдне не ўдакладнілі маршрут. Але ўсё абыйшлося, толькі маладзенькі лейтэнант-мінамётчык пералякаўся болей за нас, калі пабачыў, што з машыны выходзяць два палкоўнікі.

Паабедалі мы добра. Яшчэ і з сабою далі пайкі.

... Напрыканцы вучэнняў заязджалі ў вучэбны цэнтр. Непадалёк ад будынкаў на спартыўнай пляцоўцы займаліся салдаты. Яроменка папрасіў вадзіцеля



прыпыніцца, падышоў да аднаго моцнага салдата, папрасіў не пужацца.

– Ты моцны на выгляд хлопец, давай некалькі практыкаванняў зробім з табою на сілу, – прапанаваў ён.

Усе пачалі назіраць. Паказаўшы сілу рук, палкоўнік папрасіў і іншых хлопцаў пазаймацца з ім. Салдаты толькі дзівіліся: афіцэр са штаба не цураецца простых салдат! Дзіва ды і толькі!

Палкоўнік Яроменка вельмі любіў спорт. Я пераняў у яго фізічныя практыкаванні на сілу і моц рук.

А палкоўніка я яшчэ ўспамінаў у сваім студэнцкім жыцці.

## ЗВАЛЬНЕННІ Ў ГОРАД

Калі з'яўляліся грошы ці ўзнікала нейкая патрэба пабываць у горадзе, мы звярталіся да нашага прапаршчыка. Той любіў хадзіць з намі ў звальненні; са сваёю новаю жонкаю Святланаю Паўлаўнаю паказаў нам цікавыя месцы. Кожны такі паход нязменна заканчваўся вячэраю на кватэры ў Івана Васільевіча: мы куплялі сухое віно, грыль-куры і яшчэ тое-сёе і сядзелі да адбою. Наш прапаршык тэлефанаваў дзяжурнаму па вузле сувязі, а мы спакойна дапівалі віно і даядалі курыцу.

Аднойчы мы трапілі ў звальненне без прапаршчыка: трэба было прыкупіць нешта дадому на звальненне.

Ля аднаго магазіна я прыкмеціў хлопца маіх гадоў, які ўважліва разглядаў нас. Асаблівай увагі я гэтаму не прыдаў, бо хлопец быў чарнявы, падобны на венграў, наша вайсковая форма магла зацікавіць яго.

Праз якія паўгадзіны я нечакана зноў прыкмеціў чарнявага і мне здалося, што ён ходзіць следам за намі і сочыць.

– Анатоль, – звярнуўся я да сябра, – глядзі на таго чорнага. Ён ужо нейкую гадзіну цікуе за намі. Давай падыдзем і разбяромся: што яму патрэбна?

Хлопец нібыта ўжо чакаў нас. На пытанне “Што

табе патрэбна?” ён адказаў сваім пытаннем: “Вы рускія салдаты?”

Мы спачатку нічога не зразумелі, пераглянуліся, а пасля дайшло, што гэта турыст з Саюза, з нейкай паўднёвай рэспублікі. Але размаўляць з ім было цяжка: ён слаба гаварыў па-руску. Больш гаварылі мы, пакуль не надакучыла, ды і часу лішняга не было...

Я зразумеў, што нечаканы “зямляк” швэндаўся па горадзе без справы, а пазнаўшы савецкіх салдат па форме, не адважыўся першым падысці. Пэўна, дрэннае веданне рускай мовы яго якраз і стрымлівала.

## ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ

У снежні мне спаўнялася дваццаць гадоў...

Раніцою на пастраенні ў казарме хлопцы павіншавалі мяне з юбілеем, зрабілі сціплыя салдацкія падарункі, падняліі на рукі і тройчы падкінулі дружна ўверх, святкуючы такім чынам не толькі мой юбілей, але і хуткае наша звальненне...

Да дня нараджэння падрыхтаваліся загадзя. Адзначыць круглую дату патрэбна было на пэўным узроўні: я падрыхтаваў закуску з магазіна, купіў дзве бутэлькі гарэлкі, а напярэдадні папрасіў прапаршчыка Аляксея набыць мне тры бутэлькі сухога віна, за якім паслаў сходзіць Мішу Чорнаогла з “фірменным” чамаданам.

Вярнуўся Міша недзе праз хвілін сорак без чамадана і без віна.

– Міша, дзе чамадан з віном? – незадаволена запытаў я ў яго, гледзячы ў бок дзвярэй.

– Палкоўнік Алёшын забраў... – без настрою адказаў Міша. (Аператыўныя дзяжурныя знаходзіліся на першым паверсе, адным з іх быў палкоўнік Алёшын).

– А што здарылася, мо, ты жартуеш? – хваляваўся я, бачачы, што свята маё пакуль адкладваецца.

Я выглянуў за дзверы, усё яшчэ не верачы Мішы. Але і там нашага чамадана не было. Відаць, Міша казаў праўду.

Трэба было спускацца ўніз да аператыўнага дзяжурнага.

Ля сцяны я адразу прыкмеціў славуты наш чамадан, не без хвалявання звярнуўся да Алёшына.

– Таварыш палкоўнік, дазвольце забраць чамадан, які пакінуў у вас Міша Чорнаогла?

Алёшын зірнуў на мяне з-пад акуляраў:

– А ты ведаеш, што ў чамадане?

– Ведаю! – адказаў я ўпэўнена. – Там сухое віно на мой юбілей. Палкоўнік Мікалаеў дазволіў выпіць па шклянцы пасля вячэры.

– Добра, – адказаў Алёшын, усміхнуўшыся. – Зараз я пазваню вашаму прапаршчыку, хай ён разбіраецца.

Пасля кароткай размовы з прапаршчыкам палкоўнік Алёшын дазволіў забраць чамадан, папярэдзіўшы:

– Пойдзеце да вашага Івана Васільевіча. І хай ён мне пераззвоніць.

– Вялікі дзякуй! – узрадаваўся я.

У чарцёжцы дамовіліся, як быць далей: з Толікам Кваско пойдзем з чамаданам да Івана Васільевіча, а астатнія хлопцы будуць чакаць нас у казарме. Ну а потым ужо і будзем адзначаць у капцёрцы мой юбілей.

Іван Васільевіч нас ужо чакаў.

– Ну што, зноў без мяне хацелі выпіць! – голасна загаварыў ён, як толькі мы зайшлі ў кватэру. Выглянула і жонка нашага прапаршчыка, павіншавала з днём нараджэння і знікла на кухні: відаць, яна ўжо рыхтавалася да нашага прыходу.

– Ну то ўжо праходзьце на кухню, алкаголікі! – задаволена выгукнуў Іван Васільевіч і пайшоў да тэлефона званіць у штаб палкоўніку Алёшыну.

– Таварыш палкоўнік, тут мае хлопцы прынеслі нейкую гадасць у чамадане, дык я выкінуў яе ў сметнік, а саміх адправіў у казарму! – з настроем выдаў Іван Васільевіч і праз імгненне паклаў трубку.

– Ну, паказвайце, што прынеслі? – і весела ўслед за намі завярнуў на кухню.

Прабылі ў Івана Васільевіча мы нейкую гадзіну, пакуль не скончылася віно. Цёпла развіталіся з яго жонкаю і пакрочылі ў казарму, дзе мяне даўно ўжо чакалі хлопцы. Дзень нараджэння працягваўся...

## ФУТБОЛ АД ЦСКА

Вясною 1976 года ў Будапешт прызджала футбольная каманда ЦСКА на перадсезонную падрыхтоўку перад пачаткам чэмпіянату СССР па футболе.

На той час галоўным трэнерам футбольнай каманды зацвердзілі знакамітага хакейнага трэнера Анатоля Тарасава: ваеннае кіраўніцтва мела намер вывесці з дапамогай Тарасава футбольны ЦСКА ў лідэры чэмпіянату.

Для нас, вайскоўцаў – аматараў футбола, гэта было сапраўднае свята, бо мы кожную раніцу бачылі футбалістаў, ідучы на службу ў штаб. І жылі футбалісты ў гасцініцы побач з КПП, хадзілі харчавацца ў афіцэрскую сталоўку побач з гасцініцай, таму нашыя сцежкі раніцаю перасякаліся...

Усіх футбалістаў я ведаў па прозвішчах і імёнах: Уладзімір Фядотаў (сын знакамітага Рыгора Фядотава), Барыс Капейкін...

Першую таварыскую сустрэчу футбалісты ЦСКА правялі на стадыёне ў нашым гарадку.

Мы, аматары футбола, адпрасіліся ў свайго кіраўніцтва і пайшлі на гульню.

Адразу і не паверылі, што да нас на трыбуну ідзе сам Анатоль Тарасаў з памочнікамі.

– А ну, хлопчыкі, працягніце шынялём па лаўцы. Яе, відаць, не здагадаўся ніхто працерці для Тарасава?! – зычна папрасіў-загадаў вялікі трэнер.

Тарасаў усеўся са сваімі і загаварыў пра футбол, больш не заўважаючы нас. Пачалася гульня...

... Наступная сустрэча з футбалістамі ЦСКА адбылася ўжо ў самім горадзе Будапешце на стадыёне, калі армейцы сустракаліся з венгерскай камандай на вялікім стадыёне, куды мне з сябрамі пашчасціла трапіць.

Перад гульнёй мы адышлі крыху ад стадыёна ў пошуках што-небудзь перакусіць і папіць піва.

У піўнога бара з дзясятак мясцовых мужыкоў рознага ўзросту спакойна адпівалі піва па глытку з вялікіх куфаляў. Раз-пораз некаторыя пацягвалі гарэлку з чарачкі на трыццаць-пяцьдзесят грам. Для нас гэта падобная працэдура была дзіўнай.

Мы селі за свабодны столік у першай зале бара, прыкупіўшы беляшоў і піва. Пачалі гаварыць пра футбол, да якога заставалася яшчэ недзе паўтары гадзіны. Часу хапала. Нашу размову перабіў малажавы мужчына: ён без лішніх слоў прапанаваў за некалькі куфаляў піва жанчыну для ўцехі, якую праз некалькі хвілін прывёў з вуліцы.

Жанчына была нішто сабе, пэўна, з мясцовых, але мы без асаблівага шкадавання адмовіліся, бо прыйшлі з другой мэтай.

Футбалісты ЦСКА правялі некалькі таварыскіх гульняў у Будапешце.

Апошняя сустрэча з аматарамі футбола адбылася ў Доме афіцэраў.

Анатоль Тарасаў павёў гаворку пра футбольны клуб, пра перадсезонную падрыхтоўку, пра далейшыя планы. Шмат пытанняў было з залы. Нам давялося тыя запіскі насіць Тарасаву, які ці то сам агучваў іх, ці перадаваў іншым трэнерам і футбалістам. Сезон толькі пачынаўся, таму маладыя футбалісты паводзілі сябе залішне вольна, некаторыя нават абыякава, на што зрабіў заўвагу галоўны трэнер. У канцы ён падзякаваў кіраўніцтву Групы войск за гасціннасць, за добрыя адносіны, за падтрымку...

А мы чакалі свайго свята – хуткага звальнення са службы. Сустрэчы з маскоўскімі футбалістамі паднялі

наш пераддзямобны настрой. Мы ведалі, што хутка ўслед за футбалістамі вернемся да сваіх родных і блізкіх.

## ШАНДАР ПЭТЭФІ

Са знакамітым венгерскім паэтам Шандарам Пэтэфі, які загінуў ва ўзросце 26 гадоў у венгерскую рэвалюцыю (ў жніўні 1849 года), я "пазнаёміўся" выпадкова: нехта з афіцэраў выпісваў часопіс "Венгерскія навіны", на вокладцы якога быў змешчаны жывапісны партрэт венгерскага класіка.

Я ўважліва прачытаў артыкул, спадабаліся вершы паэта, быў уражаны яго біяграфіяй – кароткім, да краёў насычаным падзеямі жыццём, аддадзеным за вызваленне нацыі ад прыгнёту...

Нарадзіўся паэт у 1823 годзе ў сялянскай сям'і. Яго сапраўднае прозвішча – Петравіч. Першы верш Шандара быў надрукаваны ў 1842 годзе:

*Пусть не владею я на родине ничем,*
*Но сам я ей принадлежу навечно...*

У верасні 1846 года паэт пазнаёміўся з Юляй Сэндрэі, з якой ажаніўся ў верасні таго ж года.

У прыліве творчых сіл Шандар стварыў цыкл вершаў пра каханне, якія ўвайшлі ў скарбніцу сусветнай лірыкі.

*Но ведь возможность разочарованья*
*Не повод для того, чтоб не любить.*
*Пойми: живое испытать страданье*
*Всё ж лучше, чем безжизненно застыть.*

... Часопіс з партрэтам Шандара Пэтэфі я потым выпрасіў у палкоўніка Садчыкава. Я акуратна выразаў партрэт, наклеіў яго на кардонку, прывёз дадому і аформіў у рамку, павесіўшы на сцяне ў сваім пакоі.



Вельмі ўжо ўразіла тое, што знакаміты паэт загінуў з шабляю ў руцэ, – змагаючыся за высокія ідэалы і за свабоду радзімы не толькі паэтычным словам...

*На всех руках уж цепи дребезжат,*
*В руке венгерца только блещет сабля.*
.......................................................................
*Пускай подымет наш венгерский дух*
*То, что мы свет единственный для прочих.*

## ПАДРЫХТОЎКА ДА ДЗЯМОБЫ

З таго часу, як мы сталі "дзядамі", хлопцы пацiху пачалі рыхтавацца да звальнення: адны парадное абмундзіраванне даводзілі да кандыцыі, другія найперш былі заклапочаны падарункамі для родных, трэція спешна рыхтавалі фотаальбомы.

Альбом я атрымаў у падарунак ад афіцэраў Апэратыўнага ўпраўлення на сваё дваццаціголддзе, з прыгожым подпісам на ўспамін. Я паўклейваў асабістыя вайсковыя фотаздымкі і тыя, што атрымаў ад родных і сяброў. Здымкаў назбіралася дастаткова, было з чаго выбраць.

Мая парадная форма мела прыстойны выгляд, таму з ёю не трэба было нешта рабіць, акрамя пагон: пад іх я падшыў тонкі кардон. Трэба дадаць, што ў "парадцы" мне не вельмі падабалася ўвогуле хадзіць на звальненні ў горад ці на якія ўрачыстыя мерапрыемствы: я вельмі добра адчуваў сябе ў ялавых ботах, якіх знасіў дзве пары, ў ХБ летам, якое так "выгарала", што рабілася амаль белым, і ў ПШ узімку.

За час службы ў мяне сабралася нямала кніжак, часопісаў, накідаў і малюнкаў, ды яшчэ прапаршчык з нашага ўпраўлення падараваў мне вялікі, аб'ёмісты зошыт. Чамадана для ўсяго "дабра" не хапала. І я пачаў шукаць у хлопцаў на абмен значна большы, пакуль не

натрапіў на той, які прыйшоўся даспадобы. Але ўсё роўна шкада было пакідаць стосы кніжак, спісаных з бібліятэкі, самаробныя альбомы з выразкамі са старых часопісаў. Ведаў, што пасля майго ад'езду ўсё гэта нікому не будзе патрэбным...

З сябрам Анатолем аднойчы ўвечары адматалі сабе чарцёжнай паперы – ватману. Туга скручаную паперу (рулон быў вышынёй пад два метры) мы распілавалі на дзве палавіны і да часу прыхавалі ў металічным сейфе. Калі паступіў у інстытут, той ватман мне амаль два гады праслужыў добрую службу: чарціў на ім вучэбныя праекты. Анатоль таксама паступіў вучыцца ў тэхнікум, і папера яму не была лішняя. Сумленне не мучыла: тая папера ў вялікай колькасці расходвалася ў чарцёжцы на розную непатрэбшчыну.

## ВОСЬМАЕ САКАВІКА

Напярэдадні 8 Сакавіка палкоўнік Сізоў (намеснік начальніка Аператыўнага ўпраўлення) даручыў нам ад імя ўпраўлення павіншаваць усіх жанчын – жонак афіцэраў і служачых. Святочных паштовак аказалася 26...

Зранку пасля снедання мы з Дзімам і Анатолем пайшлі найперш павіншаваць жонку нашага прапаршчыка – Святлану Паўлаўну. Знайшлі для гэтага выпадку і кветкі.

Жанчына абрадавалася, прыветліва запрасіла ў кватэру. Нашаму камандзіру гэта не вельмі спадабалася. Але Святлана Паўлаўна сказала:

– Гэта маё свята, таму я распараджаюся.

Яна паставіла на стол дзве бутэлькі сухога віна, добрую закуску і весела запрасіла да стала.

Прапаршчык быў аматарам выпіць, таму ягоны настрой адразу памяняўся на лепшы, хоць мы добра ведалі, што ён не столькі злуецца, колькі ”іграе”...

Наступнай сям'ёй, куды мы зайшлі, былі Саркісавы. Палкоўнік Саркісаў служыў аператыўным дзяжурным, таму мы сустракаліся па службе амаль кожны дзень. Яго жонцы Але Міхайлаўне таксама было прыемна пачуць ад нас добрыя словы. Яна запрасіла нас да стала. Нас пачаставалі і чаркай, і смачнымі катлетамі, якія прыгатаваў сам палкоўнік, ды яшчэ мандарынаў далі на дарогу.

Святочнае “падарожжа”, адпаведна і пачастункі, працягвалася.

Мы ўжо былі крыху на падпітку, але трымаліся прыстойна, толькі пасмейваліся, бо такога свята ў нашым жыцці яшчэ не было, ды і ў далейшым не прагледжвалася. Вядома, мы не ўсіх афіцэраў і іх жонак засталі дома, што нас выратавала ад непрадбачаных сітуацый. Але калі ўжо спускаліся з трэцяга паверха ад прапаршчыка Аляксея, то мандарыны ад Саркісава выпадалі з рук, ляцелі ўніз па прыступках і чакалі нас на першым паверсе...

Здарылася так, што ў апошнія некалькі кватэр хлопцы ўжо не заходзілі: не хапіла сіл. Атрымалася, што я аказаўся наймацнейшым з нашай тройкі.

Таму, калі завітаў да падпалкоўніка Мякішы, які толькі некалькі месяцаў служыў у штабе, то ён крыху здзівіўся:

– А дзе астатнія? Я тут прыгатаваў пачастунак для вас траіх.

Я павіншаваў абаяльную жонку палкоўніка і крыху затрымаўся, бо проста так ён не хацеў адпускаць, ці, дакладней, жонка ласкава папрасіла застацца хоць бы на некалькі хвілін.

Мякіша нам падабаўся: ён быў самым маладым з афіцэраў штаба. Пасля акадэміі атрымаў павышэнне па службе і быў перапоўнены аптымізмам, добразычліва адносіўся да падначаленых.

Я ўжо не спяшаўся: гэта была апошняя кватэра. Хвілін дваццаць затрымаўся, пагутарыў з прыемнымі людзьмі пра хуткае вяртанне дадому, пра будучае.

Хлопцы ўнізе ледзьве мяне дачакаліся: трэба было

спяшацца, бо і ў казарме нас чакалі сябры, віно, а закускі назбіралася на два дні.

Быў ужо пасляабедзенны час, калі мы вярнуліся “дамоў”. Добра яшчэ, што ваенны гарадок быў невялікі і наша казарма знаходзілася непадалёку, а то...

– Ну вы і пагулялі! – усміхнуўся наш сябар Мікола, які на той час быў намеснікам камандзіра ўзвода.

А мы ў найлепшым настроі аднеслі сумку з прадуктамі ў “капцёрку”, куды пазбіраліся нашы дзяды, каб належным чынам адзначыць свята жанчын...

## ПАЛКОЎНІК МІКАЛАЕЎ

Палкоўнік Мікалай Мікалаевіч Мікалаеў быў моцна збітым чарнявым мужчынам з гумарам, пасля якога не вельмі хацелася пасміхацца.

Аднойчы, зайшоўшы да нас перакурыць, ён прыпыніўся ля майго рабочага месца, паклаў далонь з цыгарэтаю на край стала. Наш прапаршык папрасіў дазволу прыкурыць:

Мікалаеў з усмешкаю, глянуўшы на нас, сказаў:

– Прыкурвай, калі твае салдаты не супраць...

Іван Васільевіч дастаў цыгарэту і стаў чакаць, што палкоўнік паднясе яму сваю, але Мікалаеў як стаяў так і працягваў стаяць і размаўляць з намі. Тады прапаршчык нахіліўся з цыгарэтаю ў вуснах да далоні на стале і толькі намерыўся прысмаліць, як палкоўнік тыцнуў цыгарэтаю амаль што ў твар. Іван Васільевіч пералякана адхіліўся назад, ажно сеў ад нечаканасці на падлогу задам...

Той-сёй рагатнуў, а Мікалаеў кінуў абыякава:

– Ну што, прапаршчык, не навучыўся яшчэ прыкурваць у войску, то ідзі на пляц ды патрэніруйся.

Такія яго былі жарты.

Тым жа разам палкоўнік Мікалаеў сеў раптам на рассохлае крэсла, што разваліласяпад ім, і грымнуўся на падлогу перад чарцёжным сталом.



Наш прапаршчык пералякаўся, пачырванеў, падбег да Мікалаева:

– Таварыш палкоўнік, прабачце, не паспеў папярэдзіць, што крэсла зламанае!

– Ты спецыяльна мне яго падсунуў, каб я грымнуўся пры салдатах! – са злосцю ў голасе крыкнуў Мікалай Мікалаевіч, падняўшыся з падлогі. Ён крутнуўся ля стала, яшчэ нешта буркнуў прапаршчыку і выйшаў з чарцёжкі.

Усе мы адносіліся да палкоўніка з пэўнай павагай, таму ніхто і не смяяўся. Трэба сказаць, што першым з таго крэсла грымнуўся яфрэйтар Лёня Палякоў. Але крэсла склалі і зноў пакінулі на былым месцы, пакуль не паляцеў з яго наш прапаршчык Іван Васільевіч, злы на нас і на сябе, перанёс крэсла ў вялікі пакой і паставіў у кут, з якога ўжо палкоўнік Мікалаеў высунуў яго і хацеў прысесці.

Мікалай Мікалаевіч нярэдка выклікаў мяне па тэлефоне да сябе: асабліва часта гэта здаралася, калі там былі афіцэры са штаба венгерскай арміі. Мужчыны размаўлялі, палілі цыгарэты, выпівалі па чарцы-другой. Мне неабходна было прывесці ўсё ў адносны парадак.

Мікалаеў паступова прывык да мяне і ўжо звяртаўся па самых розных прычынах. Так доўжылася да самага апошняга дня службы...

Часта Мікалаеў у кабінеце пакідаў мяне аднаго, давяраў ключ і наказваў не падымаць трубку тэлефона і самому нікуды не званіць. Тых сакрэтных схемаў і карт перарабіў я шмат. Бывала, мы шмат размаўлялі пра жыццё-быццё, пра службу. У нас завязалася сапраўднае мужчынскае сяброўства, якім я стараўся не злоўжываць. І ўсё ж, калі была неабходнасць звярнуцца да яго за падтрымкай, палкоўнік заўсёды з увагаю выслухоўваў мяне і чым мог дапамагаў...

... Служба заканчвалася. І калі я зайшоў развітацца з Мікалаевым, то ён, суровы на выгляд мужчына, праслязіўся, – я гэтага аніяк не чакаў.

– Дзякуй табе за службу, за працу! Такога салдата ў мяне яшчэ не было, ды і наўрад ці ўжо будзе. Мо табе грошы патрэбны на звальненне, дык я дам, – з удзячнасцю ў голасе вымавіў палкоўнік Мікалаеў, палезшы ў кішэню.

– Мікалай Мікалаевіч, дзякуй! Грошы ў мяне ёсць. Дзякуй вам за ўсё, што вы зрабілі мне і маім таварышам па службе. Я буду вас памятаць усё жыццё!

Палкоўнік абняў мяне па-бацькоўску. Мы тройчы пацалаваліся і разышліся: палкоўнік, выціраючы шчокі, – у свой кабінет, а я, таксама змахнуўшы здрадніцкую слязу – у сваю чарцёжку.

## СТО ДЗЁН ДА ЗАГАДУ

Гэта дата была як бы ўрачыстым калідорам, апошняй фінішнай прамой паміж звальненнем са службы і пачаткам яго святочнага чакання.

Нашы сто дзён трапілі на студзень.

Хлопцы нашага прызыву сабраліся ў батальённай чайной. У чайной пасядзець было прыемна: абставіны настройвалі на хатні лад. На стале – смачная ежа, напоі, сімпатычная жанчына абслугоўвала за прылаўкам. Дарэчы, за нашу вайсковую “зарплату” ў чайной можна было сціпла пасядзець два разы.

Пасля “Чайной” схадзілі на стадыён і пафатаграфаваліся: урачыстаць гэтага дня важна было зафіксаваць на плёнку.

Усе думкі і мары былі толькі пра вяртанне на радзіму...

## ВЯСЕЛЛЕ

На пачатку вясны было запланавана вяселле нашай машыністкі Таццяны, маладой, сімпатычнай, чарнявай дзяўчыны з каротка падстрыжанымі валасамі. Яна адпрацавала крыху больш за год у машынапісным бюро і цяпер выходзіла замуж за лейтэнанта.

Нас, траіх “дзядоў”, папрасілі дапамагчы па гаспадарчай частцы, на што я і мае сябры згадзіліся з задавальненнем.

За некалькі гадзін да пачатку ўрачыстасцей мы накіраваліся ў афіцэрскае кафэ расстаўляць сталы, посуд, развешваць жартаўлівыя віншаванні.

Апроч “нашага” вяселля было яшчэ адно: хлопец звыштэрміновай службы, сам родам з Азіі, жаніўся на жанчыне, якая была старэйшая за яго на дванаццаць гадоў.

Абедзве вясельныя ўрачыстасці праходзілі ў адной зале.

Наша машыністка Ганна Іванаўна папрасіла гадзіны паўтары-дзве пасядзець з яе маленькім сынам. Каб не вельмі сумавалі, накрыла нам стол, паставіла дзве бутэлькі сухога віна і пайшла святкаваць. Мы ж засталіся нянькамі, але час за чаркай, у гульнях з маленькім Антонам праляцеў хутка. І калі румяная Ганна Іванаўна прыбегла, весела выгукнула:

– Вас там дзяўчаты ўжо чакаюць, паспяшайце, а я нагулялася на сёння....

Астатні час мы шчыравалі ў падсобцы, а каб не надта сумавалі, то гаспадары накрылі тут стол: на вяселлі ўсім хапала і ежы і выпіўкі.

Праз акно раздачы мы раз-пораз цікавалі за вясельнымі гуляннямі, за асобнымі гасцямі.

Раз-пораз забягала ў падсобку па сваіх справах маладая прыгожая афіцыянтка Наталля, якая не-не ды і папраўляла шаўковыя панчохі на сваіх стройных нагах, не саромеючыся нас. Гэта “запальвала”, правакавала гаварыць на самыя “вольныя” тэмы.

Пакруціўшыся ў падсобцы, выйшлі пакурыць. Праз некалькі хвілін далучыўся і палкоўнік Якаў Садчыкаў. Ён з намі быў у добрых адносінах. Пастаялі, паразмаўлялі,

пакуль не выскачыў прыкметна падпіты капітан Несцераў з палітупраўлення. Ён нешта выкрыкнуў да Садчыкава, падбег, тузануў таго за рукаў. Мы сталі паміж палкоўнікам і маладым капітанам, гатовыя надаваць таму па шыі. Але Садчыкаў супакоіў нас, папрасіў не чапаць капітана. Несцераў, крыху паскандаліўшы, пабег зноў у памяшканне.

– Перабраў малады капітан, бывае... – спакойна сказаў палкоўнік і пайшоў.

... Ужо позна ўвечары спачатку “чужое” вяселле скончылася, пасля –“нашае”... Мы пачалі прыбіраць са сталоў. Не забывалі пра тое, каб нешта прынесці і хлопцам у казарму: некалькі неадкаркаваных бутэлек з віном і гарэлкаю знікла ў кішэнях нашых шынялёў. Мне трапіла ў рукі літровая бутэлька чырвонага віна, якую я ледзве ўціснуў ва ўнутраную кішэню, думаючы пра тое, як яе потым данесці.

Калі ўсё ў кафэ было прыбрана, жанчыны падзякавалі і запрасілі нас за стол выпіць за маладых. Мы пасядзелі ў прыгожай “цывільнай” кампаніі. Гаспадары далі нам з сабою закускі, дзве бутэлькі спірту. Папрацавалі, як высветлілася, не дарма.

Ужо позна мы вярталіся ў свой батальён праз бакавы пост, каб не трапляць на вочы дзяжурных афіцэраў. Хлопец на пасту быў маім земляком.

– Славік, – спытаў я яго крыху няроўным голасам, – віна вып’еш?

– Не адмоўлюся!

Я дастаў вялікую бутэльку чырвонага віна. Той зайшоў у дзяжурку, глытнуў некалькі разоў і вярнуў мне.

– Пі колькі хочаш, – прапанаваў я. Славік не прымусіў доўга чакаць.

Крыху пазней, калі я ўбачыў Славіка, запытаў:

– Ну як тады, усё нармальна прайшло? Не вельмі захмялеў?

– Не, – усміхнуўся Славік, – калі прыйшоў развод, то я сунуўся ззаду. Але ногі крыху запляталіся. Затое добра паспаў некалькі гадзін. А віно харошае трапіла. Калі яшчэ такое падвернецца? Хіба толькі ўжо на “гражданцы” дома...

## ДЗЯМОБЕЛЬСКІ ГАНДАЛЬ

Непадалёк ад будынкаў нашага штаба шло будаўніцтва новых шматпавярховых дамоў. І калі ў нашага прызыву надышоў час адпускоў, то пачалі прывозіць з Саюза розныя рэчы на продаж мадзьярам: такім чынам можна было сабраць крыху грошай на звальненне са службы.

Хадзілі звычайна на будоўлі: там было спакойна і зручна. Рабацягі ўжо колькі гадоў набывалі ў савецкіх салдат розныя танныя рэчы: адэкалон, гадзіннікі, радыёпрыёмнікі...

На будоўлі працавала шмат людзей цыганскага паходжання. З імі найгорш было мець справу – любілі патаргавацца. А пакуль таргаваліся, то “збівалі” прымальную для нас цану. Атрымлівалася, што ўжо і прадаваць было нявыгадна. Мы спрачаліся, лаяліся, але нічога не маглі зрабіць на чужым аб’екце. Таму, прыходзячы на будоўлю, першым чынам аглядаліся, шукалі такія месцы, дзе б не было цыган.

Аднойчы , калі я з Анатолем і Міколам трапіў на будоўлю, да нас выйшаў спачатку брыгадзір, які запрасіў да сябе ў невялічкі вагончык. Тая падсобка была добрым месцам для размовы, пакуль не зайшлі двое цыган-будаўнікоў. У іх адразу загарэліся вочы пры сустрэчы з салдатамі-гандлярамі. Пэўна, не мы адны прыходзілі сюды падзарабіць. Па размове цыган, па знешнім выглядзе мы зразумелі, што гэта якраз “аматары” патаргавацца. Ды толькі мы мелі справу з майстрам, гаспадаром вагончыка. Той пагаварыў крыху з мужчынамі і адправіў іх працаваць, а з намі пачаў разлічвацца за прыёмнік, адэкалон, электрычную брытву.

Нас задаволіў гандаль, і мы развіталіся з брыгадзірам палюбоўна. Ды толькі калі выйшлі з вагончыка, зноў наткнуліся на старых знаёмых.

Цыганы, мужыкі сярэдняга ўзросту, загаварылі, пачалі пытаць пра "тавар", але ў нас нічога ўжо не засталося, таму мы паабяцалі зайсці другі раз. Ці то яны не зразумелі нас, ці то ім нешта ад нас яшчэ спатрэбілася, але цыганы перакрылі выхад з будоўлі.

– Нечым мы ім не спадабаліся, – сказаў са здзіўленнем Мікола, азірнуўшыся.

– Мо пераблыталі з іншымі гандлярамі? – дадаў Анатоль і паспрабаваў нешта спытаць, але цыганы пачалі злосна крычаць, сціскаць кулакі.

Сітуацыя абвастрылася, добра што нечакана з'явіўся побач майстар і крыкам адагнаў рабочых.

– Нехта з вашых учора зарваўся з імі, – патлумачыў нам майстар. – Таксама амаль да бойкі даходзіла. Цяпер яны шукаюць вінаватых, хочуць адпомсціць. Вы пакуль з тыдзень перачакайце. А калі з'явіцеся, то адразу да мяне падыходзьце.

Так мы "выкруціліся" на гэтым, а сваім хлопцам нагадалі, каб па адным гандляваць не хадзілі – на ўсялякі выпадак.

## АД'ЕЗД ДАДОМУ

Абяцаны мне прапаршчыкам хуткі ад'езд дадому не атрымліваўся. Нешта не складвалася. А мне вельмі карцела выехаць раней, каб застаць дома сябра-аднакласніка Сяргея, які служыў у марфлоце і якраз прыехаў у водпуск.

Рызыкнуўшы, я вырашыў звярнуцца да намесніка начальніка Аператыўнага ўпраўлення палкоўніка Сізова, які мне вельмі нагадваў сваім знешнім выглядам роднага дзядзьку Паўла.

На маю просьбу палкоўнік адгукнуўся з разуменнем:



– А чаму ж ты раней не звярнуўся да мяне? Ужо даўно быў бы дома. Але ўсё можна паправіць, усё ў нашых руках...

Сізоў узяў трубку і набраў нумар генерала Крамарэнка – начальніка войск сувязі...

Не паспелі мы з нашым камандзірам узвода прайсці і сотні метраў, як насустрач трапіў прапаршчык Емец, які спяшаўся ў штаб.

– Зямляк, ты заўтра адлятаеш! – радасна паведаміў ён. – Сам генерал-маёр Крамарэнка даручыў мне падрыхтаваць твае дакументы на звальненне.

Я здзівіўся ўзбуджанаму настрою прапаршчыка, бо быў з ім у дрэнных адносінах: аднойчы Емец павёў сябе непрыстойна ў нашай казарме. Але радасць звальнення прымусіла забыць усё кепскае.

А з нашым прапаршчыкам Іванам Васільевічам мы зайшлі ў краму набыць тым, хто звальняецца, падарункі ад кіраўніцтва і афіцэраў Аператыўнага ўпраўлення.

Мы выбралі па прыгожай каробцы цукерак – падарункі для маці. Іван Васільевіч падтрымаў такі выбар.

Ва ўрачыстай абстаноўцы ў прысутнасці шматлікіх афіцэраў упраўлення палкоўнік Сізоў уручыў нам каробкі з цукеркамі, а таксама Ганаровыя граматы, падзякаваў за службу, паціснуў рукі.

На гэтым, можна сказаць, наша афіцыйная служба ў штабе скончылася, засталося давесці да ладу яшчэ такія-сякія справы.

... Потым ужо, пазней, калі прайшлі гады пасля звальнення, мне не-не ды і сніўся "наш" штаб, яго светлыя калідоры і ўтульныя кабінеты афіцэраў, снілася чрцёжка, у якой праслужыў два гады... Настальгічныя ноткі "прабівалі" мяне раз-пораз, вяртаючы ў гады маладосці, у гады службы ў войску.

## РАЗВІТАННЕ СЛАВЯНКІ

Зранку ля драўлянай казармы вузла сувязі, да якога мы былі прыкамандзіраваны два гады, гучала музыка-марш “Развітанне славянкі”. Каманда з вузла сувязі, у якой апынуўся і я, рыхтавалася да адпраўкі на аэрадром Музікавешд.

Добрае сонечнае надвор’е дарыла прыўзняты настрой: хацелася спяваць, ляцець... Ды і ўвогуле, было вельмі радасна ад таго, што хутка буду дома.

Калі ўжо на гадзінніку было хвілін пятнаццаць на дзясятую, я пазваніў “сваму” палкоўніку Уладзіміраву:

– Таварыш палкоўнік, хутка пакідаю Будапешт, заканчваю службу! – узрадавана далажыў я яму свой няхітры салдацкі расклад. – Дзякуй вам за ўсё, што зрабілі для мяне за гэты час. Жадаю вам заставацца ў добрым настроі, поспехаў па службе і ў сямейным жыцці! – сказаў і ледзь стрымаўся, каб не пусціць здрадніцкую слязу.

– То мо яшчэ прыйдзеш карту хоць адну мне падпішаш? – папрасіў ён ці то ўсур’ёз, ці то жартам. Але ў мяне ўжо з учарашняга дня быў нерабочы настрой, таму, хоць час і дазваляў, але я ўжо нічога па службе не мог рабіць. Яшчэ раз з удзячнасцю развітаўся з палкоўнікам Уладзіміравым па тэлефоне і з нейкай шчымлівай “ноткай” у сэрцы паклаў трубку. Усё! Служба скончылася.

А яфрэйтар Васільеў, высокі хударлявы “капцёршчык”, седзячы ля прайгравальніка ў акне, раз за разам ставіў “Развітанне славянкі”. Гэты марш не-не ды і раптам прагучыць у душы балючым успамінам пра салдацкія гады, пра хвіліны развітання.

## Я ДОМА

Штабным аўтобусам, на якім я два гады ездзіў на вучэнні, пад гукі марша “Развітанне славянкі” мы выехалі ад вузла сувязі. Хлопцы, якія заставаліся служыць, махалі нам рукамі, крычалі ўслед... Усё... Бывай назаўжды вузел сувязі, бывай казарма асобнага ўзвода штабнога забеспячэння...

Праз гадзіну мы апынуліся ў нейкім палку побач з іншымі шчаслiўцамі, якія чакалі адпраўкі на аэрадром Музікавешд. Невялікімі групамі хлопцы чакалі ад’езду, перакусвалі сухімі пайкамі.

Ведаючы дакладна, што ў хуткім часе мы будзем ужо дома, у казарме з сухіх пайкоў выбіралі толькі смачнейшае. Але потым аказалася, што надзеі на хуткае вяртанне былі паспешлівымі. Калі ўжо апынуліся на аэрадроме, то “стралялі” кансервы ў тых, каму пашанцавала з адпраўкай – бралі і неслі да агульнага стала.

Групы дэмабілізаваных прыбывалі і адбывалі, а мы заставаліся на аэрадроме: не было патрэбнага самалёта да Кіева.

Першую ноч правялі ў вялікім бараку на пасцеленым пасярэдзіне брызенце, пад які было пакладзена ці то сена, ці нейкае пілаванне-стружка. За кароткую майскую ноч можа крыху і падрамаў, седзячы на тым брызенце. Але больш выходзіў на свежае паветра з хлопцамі пакурыць, хоць сам і не курыў.

Наша каманда налічвала сто трыццаць хлопцаў, але купка ў чалавек пятнаццаць-дваццаць “сваіх” была заўсёды разам. Каманды прыбывалі, ад’язджалі, а мы ўжо другія суткі заставаліся на аэрадроме. За гэты час абраслі шчаціннем, бо не мелі магчымасці пагаліцца. Аэрадром ёсць аэрадром: прыляцелі – адляцелі, а тут...

Насунулася другая ноч. Сцямнела. Нашу каманду павялі ў “летні кінатэатр” глядзець кінафільм. Мы расселіся на сваіх чамаданах, на лаўках, утаропіліся ў экран. Не разлічвалі на нешта цікавае, але стужка захапіла. Гэта была цікавая гісторыя кахання мексіканскіх каўбояў да прыгожай дзяўчыны. Не адразу пачулі загад: “Каманда сто дваццаць, выходзь строіцца

да самалёта!..”.

З аднаго боку пачуліся незадаволеныя галасы:”Дайце ўжо кіно даглядзець!”, з другога боку – свіст і выкрыкі “Ура!!!”.

Ля трапа самалёта я сустрэў знаёмага маёра, які раней служыў у нашым упраўленні, а потым пайшоў на павышэнне ў іншую службу. Маёр Кірэеў з прыемнаю ўсмешкаю павітаўся са мною, пажадаў шчаслівага вяртання дадому і ўсяго найлепшага...

Пэўна, сустрэча і развітанне з маёрам былі сімвалічнымі ў маёй службе, бо і прыляцеўшы на гэты аэрадром два гады таму, я таксама сустрэў яго, дакладней ён мяне ўжо чакаў...

Бывай, Венгрыя, бывай аэрадром Мюзікавешд, бывай служба!..

## ЗЕМЛЯКІ

Прыляцеўшы ў Барыспаль, некаторыя хлопцы адразу пабеглі падсілкавацца. Я з трыма землякамі Жэнем, Аркадзем і Валодзем думалі, як дабрацца да Брэста. Развітаўшыся з усімі, мы направіліся да “кіеўскага” аўтобуса.

Была яшчэ ноч, білеты не прадавалі, месцы на лаўках былі заняты. Мы ўладкаваліся ля сцяны. Так і дачакаліся, седзячы на чамаданах, ранку. Занялі чаргу да білетных касаў, паснедалі ў буфеце. Засталося чакаць адпраўкі самалёта ў Брэст.

Нарэшце жаданыя білеты ў руках. Стомленыя, але шчаслівыя, мы накіраваліся да самалёта.

Мае землякі адразу пазасыналі ў крэслах, а мне сон не ішоў.

Увесь час я глядзеў у ілюмінатар. Хлопцы спалі і не бачылі прыгажосці родных мясцін з вышыні птушынага палёту. Напэўна, гэта ім і не было патрэбна.

Так непрыкметна даляцелі да Брэста. Я штурхануў сяброў пад бакі:

– Усё праспіце, даражэнькія! Паглядзіце хаця б на родны горад з вышыні. Калі яшчэ давядзецца пралятаць.

Горад на той час не вельмі ўражваў сваімі пабудовамі, хіба што кінатэатр у цэнтры вылучаўся між старых малапавярховых пабудоў.

Прызямліліся ў старым аэрапорце. Нейкі мужчына на “УАЗіку” згадзіўся за тры рублі давезці нас да аўтавакзала, дзе і развіталіся.

Аркадзь застаўся на аўтавакзале: адтуль ён мусіў дабірацца ў свой раённы цэнтр. Жэня з Валодзем пайшлі на аўтобусны прыпынак, а я на апошнія грошы сеў у таксі і паехаў на родную вуліцу.

## МАЙСКАЯ СУСТРЭЧА З ДЗЕДАМ

З самага першага дня пасля звальнення акунуўся ў вір жыцця роднага горада. Сябра Сяржук яшчэ дагульваў свой адпачынак, таму было з кім бавіць час.

Кожны наступны дзень стаў для мяне святам. Я жыў сярод родных і блізкіх, піў ваду са свайго калодзежа. Я быў дома! Я быў шчаслівы...

Непрыкметна ляцеў час... Неяк зайшоў да мяне стрыечны брат Іван:

– Дзед казаў, каб ты неадкладна прыехаў да яго! А то вярнуўся з войска, а нават і носу свайго не паказваеш! Едзь, бо стары чакае... Сам ведаеш, як яму хочацца цябе пабачыць. Ды і бабуля Ефрасіння прасіла дапамагчы па гаспадарцы...

Я і сам ведаў, што трэба ехаць у вёску да дзеда з бабуляю, ды, праўду сказаць, загулялі мы крыху з Сяржуком. Усё ж такі два гады не бачыліся, а тут такі момант.

З асаблівым хваляваннем, з добрым настроем ехаў у цягніку да дзеда з бабуляю. Як і раней, вёз ім пачастункі:

дзеду – некалькі селядцоў, якія ён вельмі ўпадабаў, піва; а бабулі – свежых булачак і зефіру.

... Знаёмая станцыя, знаёмыя дрэвы і кусты... Свеціць сонца і весяляцца сярод голля птушкі. Дзень пачаў сваё вясковае жыццё звыклымі галасамі і гукамі ранку.

На двары ля хаты застаў бабулю: яна поркалася ля дзвярэй у сенцы. Звыклы сельскі клопат.

– О-о!!. Нарэшце ты ўспомніў пра нас! – пабачыўшы мяне, узрадавалася бабуля. – Нагневаўся ці што? Чаму не прыехаў адразу?

Бабуля яшчэ доўга выгаворвала мне, пакуль не запрасіла ў хату:

– Праходзь, праходзь! Ты, напэўна, з дарогі прагаладаўся? То якраз паснедаеш, ды і старому занясеш у поле перакусіць...

– А што там дзед робіць?! – здзівіўся я, што дзеда няма ў хаце.

– Сёння наша калейка кароў пасці. Адпачнеш крыху, тады сходзіш да яго. А колькі дзён пабудзеш у нас?

– Сёння ж і назад паеду, бо вельмі трэба ў горад, – без ахвоты вымавіў я...

– А можа, застанешся хоць да заўтрашняга дня, бо стары вельмі хацеў пабачыць цябе? – папрасіла бабуля з горыччу ў голасе.

– Увечары абавязкова трэба быць у горадзе! – адказаў я, усхваляваны такім ходам падзей.

Паснедаўшы бабулінымі аладкамі з маслам і малаком, я прыхапіў бутэльку халоднага малака і кавалак свежага белага хлеба для дзеда і праз агароды пайшоў за вёску ў бок старога балота, дзе ён павінен быў пасвіць кароў.

Сонца ўжо добра прыгравала наваколле. Лёгкі ветрык прыемна пралятаў над поплавам. Вось і каровы, і дзед стаіць з дзядзькам Стасем: кураць свае “прыміны”. Такая вось простая справа ў іх...

– О! Андрэй прыехаў! Дачакаўся ты нарэшце і яго! – голасна выгукнуў дзядзька Стась да дзеда, па звычцы дабавіўшы “моцнае” слова. У дзедавых вачах заблішчэлі здрадніцкія слязінкі.

Мы абняліся з дзедам, пацалаваліся... Павітаўся за руку і з дзядзькам Стасем, хударлявым высокім мужчынам, які калісьці быў нашым суседам.

– Ну як там зараз у войску? – адразу запытаў сусед, сплюнуўшы ўбок і зноў мацюкнуўшыся, быццам без гэтага не было б ніякай далейшай размовы.

– Ці надоўга прыехаў? – занепакоіўся дзед, зняўшы кепку і паціраючы галаву далонню, дадаў: – Трэба твая дапамога. Прыступкі на ганку зусім разваліліся.

– Зробім, дзеду! – бадзёра адказаў я. – Ды толькі сёння трэба назад ехаць, а праз два дні прыеду і ўсё зраблю.

– Крыху няўдала атрымалася з гэтай калейкаю, – пахмурнеўшы, адказаў дзед, ды раптам павярнуўся да Стася:

– Пабудзеш ля кароў пару гадзін. Трэба з унукам хоць па чарцы кульнуць за вяртанне з войска!

– А то так, дзядзьку! – згадзіўся адразу былы сусед, сур’ёзна дабавіўшы: – Пабуду колькі патрэбна! Спраўлюся! А вы ступайце, такі выпадак!

Задаволены дзед з добрым ужо настроем перадаў прынесенае мною малако і хлеб дзядзьку Стасю:

– Пойдзем, унучак, – заспяшаўся ён, – паснедаем як трэба! Я вельмі рады, што ты вярнуўся! Ды і старая вельмі рада! Мы доўга чакалі цябе, а калі я даведаўся, што ты ўжо дома, то не мог дачакацца цябе пабачыць.

... Мы селі па звычцы за стары дубовы стол у куце. Тое-сёе я паставіў на стол, але больш мітусілася бабуля. Яна не чакала, што са мною вернецца і дзед.

– А як жа каровы? – захвалявалася раптам.

– Ды ніякая халера іх не возьме! – адказаў дзед, сядаючы на фарбаваны табурэт ля стала. Ён паставіў на стол бутэльку “Выбаровай”, напоўніў стограмовыя чаркі і сказаў:

– Ну, унучак, дзякуй, што прыехаў праведаць! Вып’ем за тое, што ты адслужыў і вярнуўся здаровы! А гэта – галоўнае!

Бабуля пасмакавала чырвонай “наліўкі”, якую яна гатавала з чарніц, маліны, вішань...

За чаркаю і размовай хутка ляцеў час.Так да абеду і прагаварылі пра войска, пра жыццё, пра радню. Дзед быў задаволены маім прыездам. Іншае яго не хвалявала, адно толькі папрасіў:

– Калі будзе вольны час, прыязджай на пару дзён. Трэба агароджу ад балота паправіць, прыступкі замяніць...

Дзед паціху паклыпаў да кароў, а я застаўся з бабуляю, нанасіў вады з калодзежа. Трэба было яшчэ зайсці і да роднай цёткі Даркі, і да стрыечнай сястры Марыі... Але найбольш цешыла тое, што прыехаў у вёску, пабачыў дзеда з бабуляю, глытнуў так важнага для мяне роднага паветра на дзедавым падворку...









# АПАВЯДАННІ

*... у коміне сіроцкі вецер свішча*
*І гоніць, круціць попел, сажу, дым...*

*(“Стан”, Ул. Някляеў)*

# АПАВЯДАННІ

## КОМІН

Яны трое, відаць, былі будаўнікамі, бо кожны раз везлі з сабою, акрамя шэрых торбаў, розныя будаўнічыя прыстасаванні: рэйсмус, цыбаты самаробны цыркуль, плінтусы да падлогі. У аднаго з іх, высокага доўгавалосага мужчыны, нязменна была жоўтая металічна – драўляная рэйка для муляроў – грунтвага. Жоўтую рэйку ён вельмі бярог: калі сядзеў на прывакзальнай лаўцы, дык і тады не выпускаў яе з рукі, туліў да сябе. Торбу ў другой руцэ трымаў таксама напружана. “Мабыць, там іншыя дарагія прылады?” – думаў я, калі заставаў гэтую тройцу каля прыгараднага вакзала.

Апошнім часам я неабыякава адносіўся да будаўнікоў, бо на сваім лецішчы паставіў невялікую цагляную хаціну, калі так можна яе назваць. Жонка доўга мяне “пілавала”, зыркаючы з – пад акуляраў: “Зямлю атрымалі, агарадзілі, а прыедзеш, дык няма дзе прысесці, ад дажджу ці сонца захіліцца!” Нарэшце я пачаў займацца “домам”. Канечне, клопату хапіла, бо з людзьмі, якіх раней не ведаў, цяжка было працаваць, а траплялісяя розныя.

Першую зіму пабудова самотна прастаяла пад снегам і сцюжамі, а ўжо на наступны год, увесну, даробляялі тое, на што бракавала часу і грошай мінулым летам. Акрамя недаробкаў усярэдзіне памяшкання, застаўся недабудаваны комін, на які не хапіла прыгожай чырвонай цэглы. Калі цэглу давезлі, то жонка знайшла і двух майстроў, - маладых хлопцаў са сваёй канторы. Чым яны займаліся на жончынай працы, я не ведаў, але комін паклалі, толькі праз некаторы час будаўнічы раствор пачаў тапырыцца і вывальвацца з – пад цэглы. Так працягваліся мае пакуты з гэтым лецішчам. Комін стаў для мяне нейкім нягеглым помнікам на шасці сотках зямлі.

І тут я ўспомніў пра траіх “знаёмых” будаўнікоў. “Вось хто мне дапаможа, хто давядзе нарэшце да ладу мой домік!” Я дабраўся да вакзала задоўга да адыходу

цягніка, што кіраваўся ў бок майго лецішча, - каб знайсці іх. Яны стаялі на пероне і курылі. Наймалодшы, бялявы з непрычэсанымі валасамі, нешта голасна гаварыў мажнаму рыжаватаму напарніку, той пасмейваўся і прыглядаўся да ранніх пасажыраў, што праходзілі паўз іх. Трэці, з торбаю ў адной руцэ і жоўтай рэйкаю ў другой, курыў моўчкі, не вымаючы з рота доўгай папяросы. Ён мне больш падабаўся – заклапочаным "будаўніцкім" выглядам, самавітасцю, ці што... Я павітаўся з усімі, але запытаўся, пазіраючы менавіта на яго:

– Хлопцы, а не маглі б вы паправіць мне комін на лецішчы? Заплачу як трэба, і гарэлка ў мяне ёсць, і закусіць знойдзецца. Ну, разабраць комін і скласці нанова, а то разваліцца сам. І жонка лопне ад крыку!

Мужчыны пераглянуліся, засмяяліся. Я адчуў, што аднекваццa не будуць. Рыжы дзеля прыліку пачухаў патыліцу і павярнуўся да "майго" будаўніка з рэйкаю:

– Васіль, мо ты і з'ездзіш з гаспадаром, а я з Міхасём даробім учарашняе...

– То колькі ўжо той працы з комінам, зраблю. Вязі, паказвай! – ажыўлена сказаў чарнявы Васіль і трасянуў сваімі доўгімі валасамі.

Апынуўшыся каля доміка на лецішчы, я найперш паказаў яму балею з растворам, якім карысталіся хлопцы з жончынай працы.

– Дык яны гэты раствор не дарабілі. Яго размяшаць лепей трэба, -папрасіў Васіль. -Гаспадар, давай, размешвай, пакуль я пераапрануся.

Што ж, разбіраецца. Я неяк лазіў па лесвіцы на дах глядзець на той кляты комін і заначыў, што ў растворы засталася сухая вапна; яна пад дажджамі пачала "працаваць" і высыпацца. Пакуль я, спехам нацягнуўшы камбінезон паверх вопраткі, у якой прыехаў, мяшаў раствор у балеі, Васіль пераапрануўся ў доміку, потым перакурыў, стоячы побач.

– Ну што, мо шклянку віна вып'ем для сугрэву? – запытаўся ён, калі я закончыў. – Рана яшчэ, справімся.

– Выпіць можна, але ў мяне гарэлка ёсць. Ды і галодныя вы, напэўна?

Я пайшоў на кухню да стала. Нарэзаў кілбасы, хлеба, дастаў агурочкаў з памідорамі, паўлітроўку адкаркаваў "сінявокай" і напоўніў чаркі.

– Сядайце, частуйцеся! – запрасіў я Васіля і сеў на сваё гаспадарскае месца ля акна.

Ён прысеў насупраць, моўчкі выпіў, пакрывіўся, узяў у рукі сваю торбачку.

– Гарэлка вельмі моцная, трэба ўсё ж віна, - сказаў ён і выцягнуў пляшку таннага напою. Не закусіўшы гарэлкі, прагавіта зрабіў некалькі глыткоў, выцер рукавом кашулі вусны. Пасядзеў крыху і выняў са сваёй ужо знакамітай торбы свіное вуха брудна – жоўтага колеру. Еў, запіваючы віном, з такім смакам, як быццам іншае ежы і не каштаваў ніколі... Здзіўлены, я чакаў канца гэтага сталавання, карцела як мага хутчэй узяцца дарабляць комін.

– Ну то давай, лезь першы, а я за табою, гападар. Паказвай, што трэба рабіць! – павесялелым голасам скамандаваў Васіль, запіўшы незвычайную ежу рэшткаю віна з бутэлькі. Я палез на дах з вядром раствору. Мой ратавальнік – следам. Прымасціўшыся, я паклаў некалькі цаглін і прапанаваў Васілю працягваць: кладка ў мяне атрымлівалася не надта.

Васіль доўга корпаўся, пакуль прыладзіўся. Яму нязручна было. Нарэшце ён таксама паклаў цагліну – другую побач з маімі, але яны ў яго леглі крыва і паціху пачалі раскоўзвацца. Я моўчкі сачыў за яго працаю, пакуль адна цагліна не ўпала з радка.

– Васіль, пачакай, крыху не так кладзеш! – раздражнёна перайшоў я на "ты".

– То на, пакажы, як трэба! – без усялякай крыўды адгукнуўся будаўнік, падаючы мне кельму.

Я пачаў сам класці комін, рад за радам усё спраўней, а Васіль тым часам падаваў мне раствор і цэглу. Нязвыклая

праца хутка стаміла мяне, абліла потам, і я прапанаваў яму завершыць кладку.

– Гаспадар,то давай ужо дарабляй! У цябе добра атрымліваецца! – пахваліў мяне “памочнік”. Было ясна: і на гэты раз мне не пашчасціла на будаўніка. Але я застаўся задаволены, што амаль самастойна падняў свой чырвоны комін над дахам лецішча. Ужо не сорамна будзе запрасіць сюды каго з радні ці сябраў.

Мы злезлі з даху. Па – гаспадарску я прыбраў усе прыстасаванні, цэглу, балею з рэшткамі раствору, падмёў дворык. Не хацелася, каб жонка пасля мяне пабачыла смецце... Мне нават не верылася, што “эпапея” з комінам закончылася. Засталося толькі разлічыцца з будаўніком. Ён чакаў мяне, седзячы за сталом, і дыміў цыгарэтаю.

– На табе дзесяць баксаў за дапамогу, за тое, што згадзіўся! – працягнуў я падрыхтаваныя даўно амерыканскія грошы.

– Мо грошай і не трэба... Давай пасядзім, - неяк паныла сказаў Васіль. Але дзесятку ўзяў, свабоднаю рукою пацягнуўся па шклянку з гарэлкаю. –Хай, я і пякучкі вып’ю, віна ў мяне больш няма. За комін! – і тут голас ягоны памякчэў. –За грошы дзякуй. Я, канечне, не заслужыў іх, але... Але мне трэба заплаціць за падвал, мая чарга плаціць.

– За які падвал?

– Той, куды я трапіў, дзе жыву цяпер. Дзе і Міхась з Рыжым... Яны да ніткі цябе абабралі б! Тваё шчасце, што да багацейшых паехалі, нашмат багацейшых, чым ты... Ну, а мяне, недапечанага, табе сплавілі. Каб не замінаў ім.

– Слухай, а навошта ты носіш гэтую прыладу? – паказаў я на рэйку.

– Гэта не прылада, а прынада. Для такіх, як ты...

– І часта ўдаецца вам гэтае... як ліпку, як... Як ты сказаў?

– Да ніткі, - гэтак жа пахмурна і сур’ёзна паправіў мяне Васіль. – Калі як. Часам і каля мясакамбіната пасвіцца даводзіцца. Непадалёку ад яго жывем...

Тут, па дарозе, а потым на прыпынку і ў прыгарадным цягніку Васіль нямала, ажно я здзівіўся з ягонай гаварлівасці, паведаў пра жыццё сваё няўдалае, пра дачку, якая вучыцца ў нейкім далёкім педуніверсітэце, пра завод, дзе працаваў не згадае колькі гадоў назад, пра футбол... Калі прыехалі, паказаў рукою на вакзал і спытаўся, дзе там можна памяняць амерыканскую дзесятку. “Віна трэба купіць. Не хочаш, я пачастую? То будзь...” І знік.

Пасля гэтага, едучы на лецішча, я некалькі разоў заўважаў яго ў натоўпе, але ён мяне стараніўся, не падышоў ні разу...

А комін тым часам пераўжыў выпрабаванне на прыгоднасць. Аніўто атрымаўся! Толькі я не вельмі распавядаю, як яго будаваў. Жонцы – і ўвогуле ні слова.

Комін... Ха! Я доўга яшчэ буду памятаць, як Васіль ставіў мне комін на лецішчы...

## ВАЛАЦУГІ

Два неахайна апранутыя мужчыны няпэўнага ўзросту сунуліся ўздоўж вуліцы Аптэчнай, разграбаючы ватнымі нагамі глыбокі начны снег...

Было відаць, што “хворыя” нядаўна папрачыналіся. У аднаго, што ў акулярах на круглым твары, з паношанай палатнянай торбачкай у правай руцэ, адзенне было трохі спраўнейшае: амаль новая скураная куртка, цёмная шапка з фарбаванага труса, добрыя боты. Гэты чырванашчокі мужчына нешта гаварыў узахлёб другому – вышэйшаму ростам з увабранай у плечы галавой, памятай шэрай вушанцы, з азызлым тварам, парослым рыжым шчаціннем. Першы гаварыў горача, нешта даказваў , але яму з цяжкасцю даваліся асобныя словы:

ці то ад марозу, ці ад прыроды быў такім.

– Заглянем да Сінябокага, – прапанаваў чырванашчокі. – Ён пакуль дома павінен быць. Сёння нядзеля. І жонка з ім. Пасля вяселля дачкі толькі адпачываць ля цёплай грубкі. А Сіні прыдумае што–небудзь нам на лекі. А то мы з табою ўсе бутэлькі ўгаварылі, быццам апошні раз жывём на гэтай грэшнай зямлі. Прасіў жа, каб пакінуў крыху на ранак падлячыцца. Дык не, не засталося нічога, усё заглытнуў, як жаба мулі... Зараз вось патрэбна так сунуцца несагрэтаму па ранішнім марозе. Цьфу, каб табе...

Другі нешта несуразна мармытаў. Па-мясцоваму яго клікалі Белы. Ён ужо некалькі гадоў жыў адзін. Бацькі памерлі адзін за другім, а жонка кінула яго і пайшла жыць з дачкою асобна шмат гадоў таму. Да гэтага часу ўжо і дачка вырасла, нявестаю стала... У хуткім часе і ўнучка нарадзілася, але Белы яе яшчэ так і не пабачыў. Ды і пабачыць калі... хто ж тое ведае.

Белы перабіваўся як мог. Час ад часу хадзіў на працу, але доўга нідзе не затрымліваўся. Дапамагаў пенсіянерам–суседзям, асабліва адзінокім жанчынам: то градкі перакапае, то смецце вынясе, то яшчэ што зробіць па гаспадарцы. А часцей хадзіў збіраць парожнія бутэлькі. Іншы раз і поўныя трапляліся: то з півам ці віном, а то і з гарэлкаю... Піў ён многа, а ёў, канечне, мала. Таму , як кажуць, і “высах”. Але пакуль яшчэ трымаўся...

Цяпер Белы стомлена дрыпаў побач з Валерыкам – даўнім сябрам. А Валерык што? Валерык жыве з бацькам-пенсіянерам, былым вайскоўцам-франтавіком. Бацька атрымлівае добрую пенсію, але таксама з сынам папівае ў сваёй двухпакаёўцы, зачыніўшыся ад суседзяў і ўсяго свету. Без працы Валерык доўга не бавіць часу: бацька не дае дома адседжвацца, ды і аліменты за малодшую дачку трэба яшчэ выплачваць. Былая жонка больш за два месяцы не вытрымлівае, піша заяву на Валерыка ў “органы”. Хаця ёй і засталася трохпакаёвая кватэра, мэбля і яшчэ тое-сёе, але былому мужу не дае жыць спакойна: то дачок прысылае да дзеда па грашы, то сама заяўляецца для “разборак”. Як тут не вып’еш з усяго гэтага?.. Бяда, ды і толькі...

Учора Валерык заехаў да старога сябра з добрым пачастункам: было што выпіць і было чым закусіць. Позна ўвечары хадзілі яшчэ за дабаўкаю. А ўжо сёння зранку няма нічога, а так хочацца глытнуць шклянку якой-небудзь атруты... каб палягчэла. Вось і давялося выбірацца напошу-кі...

– Ты заглянь да Сіняга, а я ля брамкі пачакаю, – распарадзіўся Валерык. – Папрасі на бутэльку, праз некалькі дзён аддам. У аўторак аванс атрымаю.

Сінябокі, высокі хударлявы мужчына, быў на падворку з гаспадыняю – тонкаю, як запалка, светлавалосаю жанчынай з вясёлымі вачыма. Відаць было, што яна не страціла яшчэ надзеі на лепшую жаночую будучыню. Непадалёку брахаў чорны калматы сабака. Гаспадыня заўважыла нязваных гасцей першай.

– Вольга, пакліч мужыка свайго, а то не бачыць і не чуе нас. Пагаварыць трэба.

– Няма яго, – крыкнула Волька, падымаючыся па прыступках на ганак сваёй драўлянай хаты.

– А гаўкае хто за хлеўчыкам?! – падкузьміў Белы жанчыну.

Але гаспадар ужо набліжаўся сам да ганку. Быў ён лёгка апрануты ў нейкі пінжак, ускудлачаныя валасы на галаве нагадвалі пра начную завіруху.

– Гэта яе брат гаўкае! – кінуў Сіні жонцы ў твар, і тая хуценька схавалася за дзвярыма.

Гаспадар падышоў да мужыкоў, павітаўся, закурыў сам і даў закурыць сябрам.

– Ну, ёсць што-небудзь падлячыцца? Мо пасля вяселля што засталося? – запытаў Белы, паціраючы пачырванелы нос.

– А не, нічога няма, – спешна адказаў гаспадар, – за хатаю толькі некалькі парожніх бутэлек ляжыць. Сам хачу ў маці папрасіць на маленькую.

Сінябокі курыў і шпарка гаварыў. Яго вочы-гузікі бегалі ва ўсе бакі. Было відаць, што ад яго нічога не дачакаешся, што ён сам толькі і думае, як падмануць жонку і састарэлую маці і нешта надыбаць, каб выпіць...

Валерык гэта зразумеў і падштурхнуў Белага ісці далей, – туды, дзе можна чым- небудзь пажывіцца...

– Зайдзіце да Музыканта. У яго спірт бывае. Ён сам зараз не п’е, а толькі гандлюе, – параіў гаспадар вялікага падворку і падаўся да ганка.

– Во, праўду кажаш! Пойдзем да Музыканта. Я даўно да яго не заглядваў, нічога яму не вінаваты. Павінен праставіць! – Белы павесялеў і, штурхнуўшы Валерыка ў плячо, пабрыў далей па вуліцы Аптэчнай. Усе сябры па няшчасці жылі непадалёк адзін ад другога, як у невялікай вёсцы. Гэты жылы раён, як асобнае паселішча, жыў сваім жыццём: у старажылаў скалаліся асаблівыя ўзаемаадносіны яшчэ з савецкіх часоў. Таму можна было заўсёды спадзявацца на разуменне і дапамогу.

Ногі сабутэльнікаў коўзаліся па снезе. Ступаць трэба было асцярожна, далікатна, каб не грымнуцца. Добра, што да Музыканта было недалёка. Але стан абодвух валацуг быў кепскі. Хворыя душы іхнія і целы праглі вядомых лекаў, мучыла думка толькі пра тое, як найхутчэй выпіць, каб палягчэла, пацяплела.

Зайшлі на шырокі самотны двор, завалены глыбокім снегам з боку чыгункі. Па драўляных слізкіх прыступках падняліся да дзвярэй. Белы грымнуў кулаком некалькі разоў, прыслухаўся. Нехта зірнуў у акно і штосьці незразумелае крыкнуў у адказ.

– Можна заходзіць, – патлумачыў Белы Валерыку і пацягнуў на сябе дзверы. Яны ціха адчыніліся, і сябры трапілі ў вузкі калідор. За адчыненымі дзвярыма гучна размаўлялі. Чуваць быў мужчынскі рогат і моцныя



мацюкі.

– Праходзьце-праходзьце! – данёсся з пакоя вясёлы голас Музыканта.

Было відаць, што Белы з Валерыкам не спазніліся, трапілі ў самы час. Дзень толькі пачынаўся і ў гэтай хаце.

У пакоі па абодва бакі зэдліка, які служыў сталом, сядзелі два немаладыя няголеныя мужчыны. Было відаць, што яны ўжо прынялі на грудзі. Трэці – гаспадар, як яго клікалі мясцовыя – Музыкант, – ляжаў на ложку. (Калісьці ён добра спяваў, падыгрываючы на акардыёне: “Водка бывает, водка бывает по три шестьдесят две”...). Насупраць працаваў тэлевізар. Паказвалі расейскі канцэрт.

На зэдліку паміж гарбатым і хударлявым мужчынамі стаялі дзве шклянкі, талерка з агуркамі, памідорамі, а побач на паперы – нарэзанае няроўнымі скрылікамі сала, наламаны хлеб, цыбуліна. З бутэлькі ад мінеральнай вады была адпіта палова нейкага напою, што дараваў добры настрой прысутным, з чаго іх па чарзе не-не ды і цягнула на спевы.

Гарбаты павітаўся за руку, прыўстаўшы, з Белым і Валерыкам, прапанаваў падыходзіць бліжэй, прысаджвацца. Другі, якога клікалі Колькам, нешта пачаў даставаць з торбачкі, што прытулілася да нагі.

– Ну што, лекі шукаеце? – адазваўся з ложка Музыкант.

– У мяне больш няма нічога. Трэба ехаць за таварам. Во, толькі апошнюю бутэльку пачалі хлопцы. Калі крыху вас пачастуюць, то і добра будзе.

Хлопцы былі не супраць. Для іх дзень толькі пачынаўся, грошай пакуль хапала. Усё яшчэ было наперадзе. Таму Гарбаты наліў у шклянкі аднаму і другому . Было відаць, што ўсе прысутныя адчувалі сябе ў гэтым пакоі як дома. Напэўна, яны прыходзілі да Музыканта часцяком, бо ён не звяртаў асабліва на іх увагі. Быў захоплены канцэртам. Некалі музыка была яго стыхіяй, ён і цяпер заставаўся Музыкантам, бо гэта

вадой з мылам не адмыеш.

Белы з Валерыкам выпілі, узялі па памідорыне... Рабілася прыемна–цёпла, хацелася падпяваць тэлевізару. Аднак лекаў было мала...

– Музыкант, а дзе паблізу можна знайсці “ паліва”? – запытаў Белы, трымаючы перад носам у руцэ недаедзены памідор. Дзякуй, што падлячылі, але дзень толькі пачаўся, а свята працягваецца. А снегу намяло так, што хадзіць немагчыма.

– Вось як бывае! – паглядзеў Музыкант на Белага з Валерыкам. – Калісьці я на заказ спяваў пра гарэлку, а цяпер даводзіцца піць разведзены спірт. Добра, што на зуб ёсць што пакласці, а то піць гэтую атруту проста так, без закусі, немагчыма.

– У Рыбака самагонка ёсць. Нагнаў колькі дзён таму, – падказаў гаспадар гасціннага дома Беламу і зноў унурыўся ў тэлевізар. Вядомы артыст спяваў душэўную песню пра дзяўчыну, каханне...

Колька дастаў з торбачкі некалькі яблыкаў і паклаў побач з талеркаю.

– Ещце вітаміны! – усміхнуўся ён, беручы ў руку бутэльку, каб наліць сабе і Гарбатаму.

– Коль пайшла такая свадьба, рэж апошні агурэц! – весела дадаў ён, як бы хітра напамінаючы пра тое, што гэта, дай Бог, не апошняя на сёння бутэлька...

Белы з Валерыкам разумелі, што доўга заставацца ў Музыканта не вельмі зручна: у Колькі з Гарбатым, канечне, грошы ёсць, але ў іх свае планы на добра пачаты дзень. Музыкант не гоніць з хаты, яны могуць працягваць адседжвацца тут і надалей. Тым больш што ў гаспадара ёсць яшчэ два свабодныя пакоі, дзе можна і паспаць па вялікай патрэбе, і не толькі самім, але і кабеціну якую прывесці за кампанію... Але ім тут больш рабіць не было чаго.

Белы прыўстаў, трымаючы ў руцэ аблезлую шапку і, кашляючы, прамовіў:

– Валерык, збірайся, пойдзем да Рыбака! Ваўка ногі кормяць. Нас таксама пакуль яшчэ не падводзілі. Таму перабірай нагамі, пакуль цяпло не выйшла з душы.

Ніхто з прысутных ніяк не адрэагаваў на словы Белага да Валерыка, які засоп, як пакрыўджаны вожык, якому не далі дапіць малака. Усе ведалі, што дзень толькі пачаўся, што дзень вялікі, што сустрэцца яны могуць яшчэ не адзін раз, як гэта бывала і раней.

Надвор’е было цудоўнае. Прыгожы глыбокі снег пакрыў зямлю, дамы, дрэвы густымі шапкамі белага пуху. Ад такой прыгажосці на душы рабілася лёгка, хацелася спяваць. Птушкі шумна аблётвалі падворкі ў пошуках спажывы, але ўсё было завалена снегам, і таму ім трэба было вычакаць каторы час, каб людзі нешта падсыпалі, падкінулі. Але народ прабіваў сцежкі, мітусіўся, спяшаўся ў крамы...

Птушкі толькі пераляталі з дрэва на дрэва, узнімаліся ў паветра. Яны чакалі свайго корму, свайго часу...

– Дык куды далей? Да Рыбака!? – перапытаў Валерык, зняўшы акуляры ды праціраючы няўмытыя вочы.

Белы незадаволена буркнуў штосьці ў адказ і скіраваў з падворка на шырокую дарогу, па якой ужо не адзін раз праехалі машыны, расчысціўшы праход у снезе. У Белага былі свае планы, але побач быў Валерык, які яму цяпер ужо перашкаджаў. Яны падаліся далей па вуліцы Аптэчнай, якая выходзіла на Балотную, дзе адзінока пражываў у цагляным доме мужчына за пяцьдзесят гадоў, моцнага складу, але хворы на сэрца.

Было слізка, але сябры ўпарта рухаліся да мэты. Наперад вяла толькі адна думка: выпіць, выпіць, выпіць, бо недахмеленаму горш за хворага. Ды і дзень быў выхадны, таму быў шанс шмат каго застаць дома. Так поруч кожны са сваімі думкамі, Белы і Валерык, набліжаліся да брамкі Рыбака.

... Рыбак прачнуўся рана. Спяшацца не было куды,

таму дазволіў сабе паляжаць у ложку, паслухаць радыё, хаця акрамя музыкі яго больш нішто не цікавіла. Сэрца ён “пасадзіў” гадоў дваццаць таму, калі шмат выпіваў без усялякіх на тое важкіх падстаў, проста так, па маладосці ды каб дасадзіць жонцы. Цяпер яго наведвалі амаль кожны дзень запозненыя думкі: “Чаму ж я на гадоў дзесяць раней не кінуў выпіваць?! Колькі рыбы мог бы налавіць за той час, колькі добрых спраў зрабіць, ды і жонка была б пад бокам: не трэба было б самому варыць, прыбіраць, капацьградкі”. Хаця Рыбак працы ніякай не цураўся, але зараз здароўе не дазваляла яму доўга і з асалодай працаваць. Сэрца не давала спакою, часта нагадвала пра сябе. Таму Рыбак запрашае на дапамогу таварышаў-суседзяў, мужыкоў, якія нідзе не працуюць, але прагнуць выпіць. З гэтае прычыны ён пачаў гнаць самагонку з цукру. Сам не піў, толькі спрабаваў на моц, а мужыкі – ахвотнікі ўпадабалі. Піў Рыбак лякарствы, якія ў бутэлечках заўсёды знаходзіліся пад рукою. Іх пах ніколі не выветрываўся ў хаце Рыбака.

Зараз, падняўшыся з ложка, ён пагаліўся, апрануўся, расчасаў густыя чорныя валасы. Узроставае серабро блішчэла на галаве і “мулявінскіх” вусах як даніна яго пражытых гадоў.

Рыбак спыніўся на кухні. Трэба было паснедаць. Самы час згатаваць нешта смачнае, бо на тое і нядзеля. Думкі перабіў непрыемны грукат у шыбіну з боку вуліцы.

“ Каго гэта яшчэ прынесла!?” – незадаволена падумаў гаспадар. Грукат паўтарыўся. Рыбак павярнуў да выхаду, апранаючы куртку і нацягваючы на вушы кепку. Непрыемна пачынаць выхадны дзень з нечага грукату ў вокны. Шкло яшчэ не пабілі, а на дварэ зіма. Во, і снежка ў шыбіну!

Як даўні знаёмы Рыбака Белы першы падышоў да акуратнай металічнай брамкі і, узяўшыся за ручку, націснуў на яе і піхануў наперад. Брамка дрыгнула, але не адчынілася: так і раней было, калі гаспадар на ноч зачыняў яе на замок , каб менш сноўдалася начных валацуг, якіх у акрузе хапала.

Белы нейкі час пашугаў брамку і, упэўніўшыся, што яна не адчыніцца яму сама, узяў камяк снегу, шпурнуў яго ў акно дома, стаў чакаць. Не дачакаўшыся, шпурнуў яшчэ раз і зноў стаў паглядваць то на акно, то на падворак. Безвынікова. Толькі ў канцы падворка, ля гаража, на высокай тычцы шамацеў на марозе ад ветру бляшаны жоўта-зялёны флюгер у выглядзе рыбіны, падобнай на мясцовага карася. Дык гэты карась-флюгер нібы і паказваў моўчкі куды лепш падацца за выпівонам, але хаўруснікі не заўважалі, як той самотна рыпеў на ветры, незадаволена хітаючы вогненным хвастом, размаляваным калісьці суседам-мастаком Саньком за буртэльку “фірмовага” напою...

– Мусіць, спіць яшчэ, не падняўся? – як бы на маўклівае пытанне Валерыка адказаў Белы, нагнуўся і ўхапіў рукою кавалак мёрзлага снегу, рыхтуючыся кінуць яго ў другую шыбіну, але не паспеў...

– Белы, табе што, больш няма чым заняцца?! – крыкнуў з усяе моцы раззлаваны гаспадар, выходзячы з-за рогу дома. А ну прэч ад маёй хаты! І каб я цябе да вясны больш не бачыў. Не трапляйся мне на вочы, бо пашкадуеш! – Рыбак выкрыкнуў усё, што думаў, і пайшоў прэч з падворка , схаваўся за домам.

Белы не паспеў нічога адказаць. Толькі перасмыкнуўся і выпучыў вочы на тое месца, дзе толькі што стаяў гаспадар. Рыбаку даўно ўжо надакучылі суседзі-п’янтосы, але даводзілася неяк пераварваць іхнія выбрыкі, бо часам трэба была дапамога. Але калі ўжо невыносна “даставалі”, то Рыбак не цырымоніўся. Мог і абразіць нядобрымі словамі, мог і жардзінаю па спіне садануць. Сам ужо не мог піць як раней, а злосць часам спагнаць на сваіх былых сабутыльніках. Тады чалавеку лягчэла ад таго, што зараз ён не такі, як астатнія.

– Не, штосьці не шанцуе з Рыбаком. Трэба было пералезці праз брамку ў двор, то, можа, ён не злаваўся б так. Нешта зранку не ў настроі. Валерык, трэба ісці

далей, хопіць мерзнуць, – прамовіў Белы незадаволена і рушыў прама па вуліцы. Рыбак быў не першы і не апошні ў гэтым баку, хто мог дапамагчы з канвертуемай “валютаю”...

– Сходзім зараз да Барыса на Ліпавы завулак, – прапанаваў Белы. – У таго таксама бывае самагонка, ды і мужык спакайнейшы характарам: ніколі не стане брахаць, як той галодны сабака ў багатага гаспадара.

На тым і вырашылі. Белы павёў сябра да недалёкага завулка, які заўсёды прымаў самотных валацуг з блізкага наваколля.

Коўзаючыся ды мацюкаючыся на Рыбака, мужыкі паціху набліжаліся да завулка, дзе некалькі гадоў таму пабудаваў сабе двухпавярховы дом з гаражом Барыс – моцнага складу мужчына з прыветна-вясёлым тварам. Позна ажаніўшыся з маладой дзяўчынай, ён спраўна ўзяўся за будаўніцтва сямейнага дабрабыту. І яму гэта ўдалося, праўда, і цесцевы грошы былі не лішнімі .

Непрыкметна ў завулку падняўся над старымі пабудовамі прыгожы цагляны дом. З часам Барыс набыў патрыманы легкавік. Мужчыну часта можна было бачыць у машыне. Спраў розных хапала. Для разліку з майстрамі-будаўнікамі ды памочнікамі на дзень-другі ў яго меўся і самагон. Барыс яго часам прывозіў аднекуль: празрысты, моцны, чысты, як сляза немаўляці. Гэтая самагонка карысталася попытам ў навакольных “аматараў”, да якіх адносіўся і Белы, які не раз дапамагаў Барысу па гаспадарцы.

Барысава драўляная брамка была прыадчынена, нібы запрашала непрыкаяных мужыкоў на падворак. Тыя вырашылі заходзіць разам, бо на марозе задубелі да гэтага часу ногі і рукі. Першым падняўся па высокіх прыступках Белы (на правах старога знаёмага), за ім неадступна сунуўся Валерык, незадаволена мармычучы нешта пад нос. Вандроўка зацягвалася, а выніку патрэбнага пакуль не было.

Валацугі беспраблемна апынуліся ў калідоры, Белы далікатна пастукаў у дзверы, расціраючы твар дзіравай рукавіцаю.

– Барыс! – крыкнуў нецярпліва Белы, – адчыні, замярзаем!

Доўга чакаць не давялося. Вызірнуў у дзверы сам гаспадар. Ён быў у добрым настроі.

– Праходзьце, але толькі ціха, бо жонка з дачкою яшчэ адпачываюць.

Сябрукі ўзрадавана пераступілі парог і апынуліся ў цёплым памяшканні Барысавай пабудовы, але далей праходзіць засароменіся. Белы напаўголаса папрасіў: – Барыс, ратуй! Замерзлі, пакуль дайшлі да цябе. Дай на вэксель дзве штукі, тут такія справы атрымаліся. Потым раскажу. Ратуй, за мной не заржавее.

Барыс верыў Беламу, бо не раз звяртаўся да яго па дапамогу ў гаспадарцы, таму доўга не марудзіў. Хутка некуды схадзіў і вярнуўся з літроваю бутэлькаю напою, у якім плавала нейкая травіна. На недаўменны позірк Валерыка адказаў: –Зверабой!

Першы пайшоў да выхаду Белы з дарагой ношаю за пазухай, за ім паўсонны разамлелы ад цяпла Валерык. Гаспадар пачаў зачыняць за імі дзверы, каб не занесла каго яшчэ зранку. На сёння хопіць ужо візіцёраў.

Белы быў ужо каля брамкі, калі раптам пачуўся грукат. Павярнуўшыся, ён убачыў Валерыка, які ляжаў на прыступках. Адразу ж выскачыў і гаспадар, які ўжо ў калідоры пачуў нечаканы грукат.

А ў Валерыка дух пераняло. Не мог спачатку і слова сказаць: правая нага падвярнулася, нешта з болем трэснула ўнізе, быццам наступіў на капуснае лісце. Збоку валяліся рэшткі бутэлькі...

... Калі машына “ хуткай дапамогі” з Валерыкам ад’ехала ад Барысавага дома, Белы, адубеўшы як мае быць і ад марозу, і ад таго, што здарылася, вырашыў усё ж такі зайсці яшчэ раз да Рыбака, каб падзяліцца сваім

горам і, калі пашанцуе, перахапіць чарку.

Рыбак сустрэў Белага на ганку. Вочы заблішчэлі, вусны расплыліся ў шырокай усмешцы пад мулявінскімі вусамі: – Ну што, зноў прыплёўся! А жардзінаю па спіне не хочаш атрымаць? Ты што, вокны мне вырашыў паразбіваць са сваім сябрам у мароз? Калі ўжо вы панажыраецеся так, што больш не палезе?!.

Белы з вінаватым выглядам стаяў унізе і глядзеў на былога сабутэльніка. Ён пачаў жаліцца на халады, сабачае жыццё, на тое, як не пашанцавала Валерыку:

– Сябар нагу зламаў, “хуткая дапамога” забрала. Ды і яшчэ на гора разбіў бутэльку... Выручы, я адпрацую...

– Ідзі пад хлеўчык і чакай! Зараз нешта прыдумаю... – Рыбак хутка знік за дзвярыма. Белы, чырвоны ад марозу, прыхіліўся да сцяны хлеўчыка ў чаканні жаданага напою...

Ён на нейкі момант нібыта задрамаў, бо нечыя галасы пачуў як скрозь сон. Прыадкрыўшы свае загноеныя, нямытыя тры дні вочы, валацуга ўбачыў перад сабою двух міліцыянераў...

– Во, бл...і! – толькі і паспеў нячутна прахрыпець Белы, як моцныя рукі падхапілі яго пад пахі і пацягнулі на вуліцу да машыны.

На ганку стаяў гаспадар, пасміхаючыся ў густыя вусы. Цёмныя яго вочы задаволена блішчэлі.

## СЯРЖАНТ

З самай раніцы пачало моцна прыпякаць сонца. Тым не менш вучэбны ўзвод яфрэйтара Курты пабег чарговую пяцікіламетроўку. Яўгену Лышчыку, высакаросламу хлопцу з вялікімі, напрацаванымі кулакамі баксёра, падумалася, што гэта лішняе: можна было правесці ранішнюю зарадку на стадыёне побач з казармаю. Але Курта вырашыў прабегчыся са сваімі салдатамі, бо за дзень за пісьмовым сталом у штабе ён стамляўся без фізічнай нагрузкі. А гэтая прабежка для яго была асалодаю: атрымліваў зарад бадзёрасці на цэлы дзень.

На пастраенні перад казармаю пасля прабежкі яфрэйтар Курта пачаў выказваць сваю незадаволенасць падначаленымі. На яго худым, злосным, пярэстым ад рабаціння твары дзікавата зыркалі чорныя вочы ды тырчэла дзюба крывога носа, пад якім расло нешта падобнае на вусы. Яфрэйтар хадзіў уздоўж шарэнгі і выгаворваў па чарзе кожнаму свае заўвагі. Калі Курта апынуўся каля Яўгенавага земляка з-пад Баранавічаў Косці Бычыка, дык адразу прычапіўся да таго. Не спадабаўся мо не зусім акуратна паголены твар, а хутчэй за ўсё сам Косцік з яго незалежным характарам.

“Зноў пачне здзекавацца з хлопца,” – падумаў Яўген, у якога з самага пачатку службы свярбелі рукі на Курту.

Косцік, рыжаваты хлопец, быў незласлівым, спакойным, крыху самаўпэўненым. Вось і цяпер ён спакойна глядзеў на яфрэйтара Курту. Толькі расчырванелы пасля забегу твар пакрыўся кропелькамі поту, кароткія рыжавата-чырвоныя валасы на галаве зіхацелі пад сонцам.

– Два нарады па-за чаргою! – гучна крыкнуў Курта, стоячы перад “Чырвонцам” – такую мянушку паспелі ўжо даць хлопцы Косціку.

– За што? – недаўменна запытаў Косцік, гледзячы насмешліва на яфрэйтара. Той раптам размахнуўся і ўдарыў хлопца даланёй па твары так, што Косцік пахіснуўся і адступіў адною нагою назад, але ўстояў. Курта моўчкі пайшоў далей уздоўж шарэнгі. Калі ён апынуўся насупраць Яўгена, збялелы твар яфрэйтара ад злосці пачынаў чырванець. Яўген таксама спытаў яго:

– За што?

Курта вылаяўся, аднак не паспеў нават заікнуцца пра пакаранне, як атрымаў нечаканы ўдар злева ў сківіцу і, непрытомны, упаў на дарожку. Узвод разгублена маўчаў, пакуль Курта паціху вяртаўся да жыцця.

– Што гэта было? – хрыпла запытаў ён, падымаючыся з дарожкі.
– Сонечны ўдар, – адказаў нехта з шарэнгі, і ўзвод дружна зарагатаў, быццам нехта толькі што расказаў смешны анекдот.

... Праз два месяцы бездакорнай службы Яўген Лышчык быў ужо яфрэйтарам, а перад Новым годам прысвоілі яму званне малодшага сяржанта і прызначылі намеснікам камандзіра ўзвода. З таго часу для салдат ён стаў проста Сяржантам...

***

Была цёплая вясна, пачатак мая, калі Вадзім закончыў вайсковую службу за мяжой. Дамоў вяртаўся аж на двух самалётах, праз Кіеў. І калі перад абедам апынуўся ў родным горадзе, то на таксоўку якраз застаўся адзін металічны савецкі рубель, якога акурат хапіла, каб разлічыцца з кіроўцам.
Дома былі толькі маці і жонка старэйшага брата Яўгена – Алена, але і яны збіраліся пасля абеду на працу. Бацька з братам павінны былі прыйсці пазней. У гэты ж дзень Вадзім адразу займеў і новую хатнюю пасаду – выхавальніка маленькага пляменніка на летні час, бо ўвосень старэйшы брат павінен быў атрымаць з жонкаю новую кватэру.

... Бацька, Іван Піліпавіч, ад нечаканасці нават на нейкі час страціў мову, пакуль не абняў сына, не расцалаваў.
– Ну, сыну, віншую з вяртаннем дадому! Віншую!.. – вымавіў ён, задаволены тым, што і малодшы сын вярнуўся без прыгодаў са службы ў войску. – Дачакаліся нарэшце і цябе. То і добра. Дома і хлеб смачнейшы...
Сам бацька ў свой час ваяваў, дайшоў да Берліна, меў баявыя ўзнагароды. Яму была зразумелай радасць малодшага сына вярнуцца дамоў здалёку, з-за мяжы, куды нават "пасылку" немагчыма было адправіць.
Селі вячэраць, калі ўжо вярнуўся Яўген: бацька з задавальненнем і гонарам сеў за стол з сынамі. Выпілі па шклянцы віна, закусілі... І пачалася гаворка: Вадзім расказваў пра сваё вяртанне, бацька ўспамінаў свае франтавыя прыгоды. Іван Піліпавіч быў добрым апавядальнікам, дасціпным жартаўніком, таму сыны смяяліся да болю ў жываце. Ім, маладым, заўжды было цікава слухаць пра франтавое жыццё бацькі, а ў таго з кожнай чаркай усё цікавейшымі і больш закручанымі былі франтавыя гісторыі...
Хутка праляцела гадзіна-другая. Выйшлі ў двор на свежае паветра.
– Малы, а што, мо давай прагуляемся ў горад, – прапанаваў Яўген. Надвор'е цудоўнае. На танцы заглянеш у парк, сустрэнеш каго там са сваіх знаёмых. Самы час. А я цябе праводу да вакзала, бо і цыгарэт трэба купіць, і піва халоднага яшчэ з бацькам папілі б...
Вадзім пагадзіўся, пераапрануўся ў новыя, прывезеныя з-за мяжы фірмовыя джынсы і блакітную кашулю з металічнымі гузікамі.
– Во, зараз ты ўжо не падобны на вайскоўца, хаця яшчэ тыдзень будзеш ускокваць у шэсць гадзін раніцы пад гімн, – пажартаваў Яўген.

Ля вакзала зайшлі ў краму. Яўген на правах старэйшага брата разлічыўся за цыгарэты і тры бутэлькі партвейну.
– Заглянем у буфет. Па шклянцы вып'ем, крыху пагаворым, бо на танцы яшчэ ранавата. Пакуль не пачне змяркацца, моладзі мала будзе.
Вадзім і сам добра ведаў, што танцы пачынаюцца толькі на змярканні.
Па дарозе да вакзала трапілі на вайскоўца – вартавога за металічнай агароджаю ля цаглянага старога будынка, што значна адрозніваўся сваёй дагледжанасцю.
– Ну што, зямляк, як служба?! – бадзёра запытаў

Вадзім. – А я вось толькі сёння прыехаў пасля войска дамоў. Колькі табе засталося?

– Мне яшчэ паўгода хадзіць з аўтаматам. Да восені даслужу і ўсё – у свой Барысаў паеду.

– А я з Барысава пачынаў службу, – абрадаваўся Вадзім.

– Слухай, зямляк, віна з намі вып’еш? – запытаў Яўген, пабачыўшы, што знаёмства адбылося.

– Не, цяпер на пасту, не магу, бо пабачыць яшчэ хто. А пасля не супраць. Калі не шкада, дык наліце ў біклажку. – Вартавы зняў з папругі біклагу, выліў на зямлю ваду і падаў праз шчыліну Яўгену.

– Выпі за маё вяртанне! – сказаў Вадзім, – табе ўжо самому мала засталося, таму мы вып’ем і за твой дэмбель. Я ў вашых барысаўскіх Печах два тыдні прывыкаў да ботаў ды гімнасцёркі, пакуль не трапіў за мяжу.

Перакінуўшыся яшчэ некалькімі словамі, браты выправіліся да буфета.

Апаражніўшы адну бутэльку віна, Яўген выйшаў перакурыць на прывакзальную плошчу. Вадзім застаўся стаяць ля стойкі, няспешна закусваючы выпітае віно і назіраючы праз шкло дзвярэй за Яўгенам, да якога праз якую хвіліну-другую падышоў цёмнавалосы, на падпітку, мужчына. Незнаёмец энергічна размахваў рукамі – нешта даказваў ці на нешта абураўся. Вадзім спакойна назіраў, не зусім верачы ў тое, што ён ужо дома, у родным горадзе, у цывільным адзенні, што вайсковая служба засталася ззаду. Праўда,  дзве амаль бяссонныя ночы напаміналі пра сябе: у целе адчувалася нейкая нязвыклая стома, хаця хлопец і прызвычаіўся за два гады службы да бяссонных начэй. Між тым выпітае віно прыемна разлілося па целе. Вадзіму здалося, што такі настрой цяпер будзе з ім усё астатняе жыццё, бо ён аддаў два гады свайго маладога жыцця на карысць Радзіме. Вось і ў старэйшага брата з жонкаю, і ў бацькоў вылічвалі грошы з заробкаў на тое, каб трымаць шматмільённую армію не толькі на тэрыторыі адной шостай часткі сушы, але яшчэ і за мяжою...

Думкі Вадзіма перапыніла вяртанне Яўгена з чарнявым мужчынам. Старэйшы брат наліў яшчэ шклянку віна Вадзіму, сабе, а рэшткі ў бутэльцы аддаў незнаёмцу, які мармытаў нешта незразумелае без перапынку.

– Бяры, дапівай хутчэй віно і валі адсюль, бо мы занятыя вельмі! – Яўген злосліва глянуў на “халяўшчыка”, выпіў віно і пачаў закусваць цукеркаю.

Незнаёмец патрымаў бутэльку з рэшткамі віна ў руцэ, паглядзеў на яе, а потым павольна пачаў перакульваць сабе ў горла. Віно забулькала і панеслася нібыта ў бездань. Але не паспеў незнаёмец дапіць партвейн, як аднекуль раптам з’явіўся міліцыянер – старшы сяржант, які пагрозліва глянуў на ўсіх траіх, моўчкі схапіў незнаёмца за руку.

– Грамадзянін, выйдзем на вуліцу, і вы таксама з намі! – міліцыянт пацягнуў за сабой незнаёмца, а Яўген пайшоў следам, сказаўшы Вадзіму заставацца за стойкаю.

Вадзіму добра было відаць, як міліцыянер нешта даказвае на пероне незнаёмцу і Яўгену. Размовы той не было чутна, таму Вадзім выйшаў з залы і прыпыніўся ля акна звонку, абаперся на нізкі падаконнік.

У гэты час Яўген нечакана ірвануў у напрамку Вадзіма, пранёсся побач і кінуўся ў бок аўтобуснага прыпынку, далей ад будынка вакзала. Следам за ім рэзка ірвануў сяржант міліцыі. Усё адбылося так хутка, што Вадзім не паспеў нічога зразумець, толькі інстынктыўна выставіў левую нагу, а правай рукой нанёс міліцыянеру раптоўны ўдар у сківіцу. Той паляцеў на асфальт, распластаўся, як бярэмя саломы. Фуражка пакацілася ўбок. Але сяржант хутка ўскочыў і пабег далей, дастаючы пісталет з кабуры, што боўталася на баку.

– Стой, страляцьць буду! – крычаў ён што сілы.

Вадзім здрыгануўся і пабег следам. Міліцыянер бег, выкрыкваючы мацюкі, пакуль Яўген нечакана не прыпыніўся.

Вадзім крыху воддаль назіраў за далейшымі падзеямі. Яўген са служкам парадку, нібыта нічога не здарылася, вярнуўся на перон. Сяржант падняў па дарозе сваю фуражку, якую нехта шпурнуў да сцяны будынка.

Вадзім пайшоў следам.

***

Аддзел міліцыі знаходзіўся на трэцім паверсе вакзала, у стромкай вежы. У памяшканні дзяжурнага знаходзілася некалькі затрыманых, якія седзячы на лаве, чакалі прысуду. Яўген неспакойным позіркам сустрэў прыход Вадзіма, махнуў рукою на дзверы.

– Пачакай мяне там, я хутка выйду! – ледзь чутна прамовіў брат, седзячы збоку ад дзяжурнага афіцэра, які нешта пісаў.

Вадзім паслухаў, не разумеючы ўсяго, што адбываецца, бо злева паспеў заўважыць і “знаёмага” сяржанта. Але міліцыянер толькі коса глянуў у бок Вадзіма і зноў павярнуўся да чарнявага мужчыны, праз якога, відаць, і заварылася гэтая каша.

Было ўжо цёмна, калі нарэшце Яўген выйшаў з міліцыі.

– Дарма ты, Вадзім, пасунуўся следам. Калі б сяржант пазнаў цябе, былі б праблемы. А так я адбрахаўся: сяржант меў нешта да таго мужыка, што ў буфеце...

Браты адышлі ўжо далёка ад вакзала. Майская ноч апусцілася на горад, але жыццё працягвалася: праязджалі машыны, апошнія аўтобусы.

– Вось зараз было б добра пасядзець на верандзе за сталом з бацькамі, а не ў міліцыі. Але ж і нашы ўжо зачакаліся нас. Хвалююцца, пэўна. А цікава: хто лупануў мянта на вакзале? Бо так ужо ён злаваўся, што не прыкмеціў таго, хто паспеў яго садануць. – Яўген на хвіліну заціх, прыкурваючы цыгарэту.



– Гэта я яму заваліў па барадзе, калі ён пагнаўся за табою, – прызнаўся Вадзім.

– Смела... Але дарма, бо гэта крымінал... А калі б сяржант пазнаў цябе? Сядзелі б мы ў клетцы і чакалі прысуду. А так маёр павыпускаў усіх затрыманых, сказаў, што па амністыі, бо праз дзень свята – Дзень Перамогі. Але што там гаварыць... Я і сам лапухнуўся, бо дарма пабег ад міліцыянера з перона, справакаваўшы яго на пераслед. Але хацеў адцягнуць увагу ад цябе. Прыносіць з сабой у буфет і распіваць забараняецца. А ты толькі што вярнуўся з войска і табе зусім непатрэбны пратакол у першы дзень прыезду.

***

– Не шанцуе мне на гэтую міліцыю. Ніколі не паважаў яе, бо мала бачыў сярод іх нармальных мужыкоў! Адзін толькі дзядзька мой у Маскве – генерал міліцыі – нармальны. Калі служыў тэрміновую, то бываў у яго два разы ў гасцях, пераканаўся. Ды яшчэ дзед Іван па бацьку некалі расказваў, што бываў у гасцях у Пецярбурзе ў свайго земляка, які служыў паліцыянтам. Дзед часта прыпамінаў таго зямляка як нармальнага чалавека, нягледзячы на прыналежнасць яго да вядомай установы. – Яўген дзяліўся думкамі з лепшым сябрам Анатолем Гаронінным пры сустрэчы, паціраючы злосліва агромністыя кулакі, напрацаваныя з юнацкіх гадоў.

– Яўген, не звязвайся больш ніколі з мянтамі: не той ужо ўзрост, каб бегаць ад іх ці за імі. А твой меншы малайчына, што не разгубіўся і садануў мянта, калі той пагнаўся за табою. Спраўны ў цябе брат! Ганарыся... Ды толькі не дазваляй яму больш жыць на грані выдалення, як кажуць спартсмены... – Анатоль пасміхнуўся і дадаў: – Глядзі пільна за братам, каб вельмі не разгуляўся пасля службы ў войску: трэба жыццё будаваць, нечаму вучыцца...

***

... Яўген Іванавіч пад вечар пайшоў у цэнтр горада на сустрэчу з сябрам, таксама пенсіянерам Анатолем Гароніным, з якім у школьныя гады займаўся боксам у вядомага мясцовага трэнера Фралова. Яўгену Іванавічу хацелася ўладкавацца вартаўніком на працу да Анатоля.

Мужчына прысеў на лаўку ля Цэнтральнай плошчы бліжэй да сямі гадзін вечара: у сем павінен быў падысці пасля працы Анатоль. Яўген Іванавіч няспешна курыў і назіраў за птушкамі, якіх было даволі многа на плошчы. Але паціху пачала збарацца моладзь, пачуўся смех, музыка... Птушкі паляцелі ў іншае месца.

“Нейкае мерапрыемства павінна адбыцца ці што?” – падумаў пенсіянер, выглядаючы сябра. Але праз лічаныя хвіліны плошчу з усіх бакоў абступілі міліцыянты, спецназаўцы ў чорным непрыемным адзенні... Пачаліся затрыманні. Асабліва абурылі Яўгена Іванавіча паводзіны спартыўнага выгляду маладых людзей, каторыя па два-тры чалавекі падскоквалі да хлопцаў, дзяўчат і хапалі іх раптам за рукі, плечы і валаклі ў двары да прыхаваных там брудна-зялёнага колеру аўтазакаў.

Яўген Іванавіч прыўзняўся з лаўкі, расправіў плечы і хацеў нешта сказаць услых, абураны паводзінамі людзей у цывільным, як у гэты момант ззаду яго самога схапілі за рукі, заламалі і пачалі нагінаць тварам да новай пліткі, што была не так даўно пакладзена на плошчы. Не паспеў Яўген Іванавіч як след ачомацца, як адзін са стрыжаных качкоў адляцеў убок, за ім адразу другі.

– Валім хутчэй адсюль, пакуль не скруцілі!.. – зычны голас сябра вярнуў Яўгена Іванавіча да рэальнага жыцця. Навокал тварылася нешта падобнае на бойку, маладых хлопцаў і дзяўчат цягнулі ў спецмашыны. Мужчыны заскочылі ў памяшканне пошты за блакітнымі елкамі, што месцілася побач.

– Выходзім праз службовыя дзверы, бо нас будуць шукаць! – Анатоль падштурхоўваў Яўгена. – Пятнаццаць сутак гарантавана, а мо і болей...

– А што адбываецца, не зусім разумею? – Яўген Іванавіч апынуўся з Анатолем у двары, дзе не было ні міліцыянтаў, ні людзей у чорнай вопратцы.

– Даўно я не трапляў у такі экстрым. Не паспеў нават і рукой махнуць!

– Добра што і не паспеў, бо зараз былі б ужо ў спецмашыне, а так пойдзем піць піва і прыкусваць салёнымі арэшкамі, пакуль нам самім не дасталося “на арэхі”. Але ж не паспеў я падысці, як, бачу, нейкія смаркачы падскочылі да цябе і пачалі круціць рукі. Добра яшчэ, што ты нікога з іх не матануў, бо пачалася б бойка з крывёю...

– Мяне, сяржанта Савецкай Арміі, гэтыя смаркачы ў спецмашыну не завалаклі б! Не тое бачыў! Ды толькі як не сорамна таму, хто гэтых дзяцей пасылае на сваіх бацькоў? – Яўген Іванавіч абурана асушыў куфаль піва, гледзячы на сябра, і нібыта нешта прыпамінаючы, стукнуў кулаком па стольніцы: – Дажыліся!!! Дачакаліся!!!

## ПАЛАТА № 6

У накінутым на плечы белым халаце Марыя спешна паднялася на другі паверх бальніцы хуткай дапамогі, зайшла ў палату № 6 да Сяржука.

На нейкае імгненне ў яе адразу падкасіліся ногі, пабялеў твар, калі пабачыла пусты ложак мужа. Пасцель была свежая, акуратна прыбраная для наступнага хворага. Нішто не напамінала пра тое, што яшчэ ўчора тут ляжаў яе Сяржук... Стала млосна, перад вачыма паплылі вясёлкавыя кругі. Толькі крыху авалодаўшы сабою, Марыя змагла вымавіць:

– А дзе Сяржук?

Міхась, старэйшы за ўсіх у палаце мужчына,

прыпадняўся над сваім ложкам:
– А ў Сяржука раніцай дах паехаў: яму падалося, што столь пачала працякаць, што пайшоў дождж... Псіхоз... Ён зараз у рэанімацыі. Ледзь адвялі яго ўпяцярох на першы паверх: моцна супраціўляўся. Але заўтра павінен быць як агурчык, бо дактары ведаюць, што ў такіх выпадках рабіць: не ён першы, не ён – апошні. Паспіць да ранку, а там усё будзе добра. Малады, здаровы.... Тым больш што першы раз з ім такое здарылася... Бывае...
Марыі палягчэла, хаця было ўсё яшчэ невыносна млосна ад сузірання пустога ложка Сяржука...

***

... Са столі асыпалася пабелка маленькімі сняжынкамі, нібыта толькі што пачалася зіма і павольна паляцеў долу першы снег... Раптам здалося, што праз столь цурчыць вада, сцякаючы ручаямі па сценах... З балючай трывогай Сяржук назіраў за тым, што адбываецца ў палаце...
– Міхась, глядзі, вада! Пакліч каго-небудзь з персаналу, скажы... – малады мужчына звярнуўся да чарнявага суседа, які ляжаў злева.

Сяржук ляжаў пад кропельніцай і працягваў назіраць за тым, як сцякае па сценах вада, як са столі павольна апускаюцца сняжынкі. Праз акно даносіліся гукі машын з цэнтральнай вуліцы роднага горада... Раптам у куце памяшкання пачалі выгінацца ў розныя бакі крукі вешалкі. “А што будзе далей?.. Чаго чакаць?..” – з трывогай думаў Сяржук.
Справа ад яго ляжаў ужо другі дзень убіўшыся ў кніжку недзе аднаго з ім узросту светлавалосы Юрась. Калі малады мужчына з’явіўся ў іхняй шостай палаце, Сяржуку падалося, што яны раней недзе бачыліся. Адносіны паміж хворымі адразу ўсталяваліся сяброўскія.
– Пэўна, ля піўной кропкі перасякаліся, – успомніў і



Юрась, перагортваючы чарговую старонку кніжкі, з якой ён, пэўна, і прыехаў у бальніцу падлячыцца ад старой, усім вядомай хваробы. Але да яго дактары пакуль не падыходзілі...
Ля Юрася на сцяне была разетка для радыё, але самога прыёмніка ў палаце не было. Толькі Сержуку раптам пачулася музыка з той разеткі.
– Юрась, а што гэта без радыёкропкі чуваць музыку і галасы? Пэўна, ужо дастаткова адной разеткі? – запытаў здзіўлена Сяржук, прыслухоўваючыся.
– Табе гэта здалося. І радыё няма, і музыка не гучыць. Мо хіба з вуліцы? Ты лепш заплюшч вочы і лічы да тысячы: так хутчэй час праляціць пад кропельніцай...
Юрась перагарнуў чарговую старонку кніжкі.

***

Сяржука размясцілі ў шостай палаце на другім паверсе. Свабодным быў ложак пасярэдзіне ля акна. Па левую руку нечакана аказаўся сябар з паралельнай вуліцы Валодзя-музыкант. На хворага ён не быў падобны, ляжаў на сваім ложку апрануты ў бальнічную адзёжу і чытаў нейкую газету.
– О-о, прывітанне! А ты як сюды трапіў?! Гэта ВІП-палата! Сюды абы-каго не селяць! Але ж прывыкай. Відаць, ты заслужыў такі гонар. Мяне праз два-тры дні выпісваюць. Ад жонкі схаваўся: трэба было крыху ачомацца ад загулу, дык папрасіў знаёмага доктара на тыдзень-другі пакласці пад кропельніцы. Я ў шостай палаце не першы раз: мне падабаецца... – Валодзя з добрым настроем праінфармаваў суседа пра ВІП-лячэнне.
Сяржук з сумам адзначыў, што яго сябар-сусед хутка пакіне бальніцу, а яму яшчэ невядома колькі прыйдзецца лячыцца ад той атравы, што наглытаўся, як жаба мулі. Гэта ж трэба. Знаёмы запрасіў з раніцы “на піва”, сам

прыйшоў з бутэлькай спірту. Пра якасць таго спірту гаварыць не даводзілася, бо, як потым стала вядома, шчодры сабутэльнік праз гадзіну акачурыўся ў двары на лаўцы...

Хлопец-сусед з другога боку Сержуковага ложка аднекуль прыйшоў і пачаў даставаць з тумбачкі ежу. Пасля павярнуўшыся да Сержука, павітаўся, назваў сябе: – Віталь... Заўтра ўжо выпісваюць, – і пачаў умінаць свае прыпасы. Але, нібыта нешта прыгадаўшы, прапанаваў Сержуку мінералку: – Вам зараз трэба страўнік прачысціць. Піце ваду, я вам усю пакіну: мне нанасілі. А каб не прыпадымацца з ложка, даю добрае прыстасаванне: можна піць з бутэлькі лежачы...

Сержуку спадабаўся жвавы, прыветлівы хлопец. “Шкада, што такі сусед выпісваецца”, – падумаў хворы, усміхнуўшыся праз боль, зноў прыпамінаючы пагібельную бутэльку “Хахляцкай”, як называлі яе ўсе. Прывозілі гарэлку з Украіны. Танна каштавала: за гэта і купляліся мужыкі. Але што было рабіць, калі нармальнай не было як і дзе набыць: талонаў не хапала.

Зранку, на наступны дзень пасля п’янкі з Валерыкам – так звалі знаёмага – Сяржук пачаў дрэнна сябе адчуваць: балеў страўнік. Піў гарбату, сырую ваду – не дапамагала. Апахмяляцца ўжо не было чым ды і не хацелася ад моцнага болю. Прамучыўся да абеду, пакуль не прыехала з работы жонка Марыя. Яна напачатку накінулася на яго ледзьве не з кулакамі, а потым вызвала “хуткую дапамогу”.

– Хай вязуць цябе куды хочуць, хоць у наркалогію, бо так далей не можа працягвацца! Надакучыў ты мне са сваімі гулянкамі-п’янкамі.

“Хуткая” прыехала праз мінут пятнаццаць. І, на здзіўленне Сержука, доктарам быў яго былы аднакласнік Мікалай, цяпер Мікалай Іванавіч.

– Ну, хворы, на што скардзіцеся? – з усмешкаю і гумарам спытаў Мікалай Іванавіч.

– Хахляцкай гарэлкай траванууся. Усё баліць усярэдзіне. Месца сабе не знаходжу ў кватэры. Дапамагай чым-небудзь, бо дах едзе...

– Дах у цябе яшчэ не едзе, але да гэтага мала што засталося... Завязу я цябе ў бальніцу да выдатных дактароў, яны вылечаць. Трэба страўнік чысціць ад атравы. Збірайся!

Сяржук, хістаючыся, улез у старыя джынсы, накінуў куртку. Ён ледзь трымаўся на нагах ад болю і слабасці ва ўсім целе. Мікалай Іванавіч, пасміхаючыся ў невялічкую бародку, падтрымліваў былога аднакласніка пад руку. У свой час, калі яшчэ працаваў у медвыцвярэзніку, ён ужо адпраўляў Сержука на прымусовае лячэнне. Ды што з таго лячэння, калі ізноў атраўленне алкаголем.

Сяржук за той выпадак быў злы на аднакласніка, бо ледзь адмазаўся ад наркалогіі: сто лят яна яму непатрэбна была. Проста не яго дзень. Трапіў у медвыцвярэзнік больш з-за свайго языка, чым ад выпітага. Але ўжо такая натура... І вось сёння зноў Мікола, але ўжо сапраўды як доктар: ратуе...

***

Раніцай наступнага дня кропельніцу паставіла прыгожая чарнявая медсястра па загаду маладога доктара Цяліпкі, які рабіў абыход. Доктар прысеў на ложак да Сержуковага суседа Міхася, пачаў мацаць жывот, распытваць пра жыццё. Уставіў “дзве капейкі” і Сяржук. Малажавы доктар павярнуў круглы твар з невялічкімі вусікамі да Сержука і раптам запытаў:

– А ты хоць ведаеш, дзе знаходзішся?

Сяржук на імгненне затрымаў позірк на абліччы доктара, разгледзеў на халаце бэйджык з прозвішчам і нечакана адказаў:

– Знаходжуся ў бальніцы імя доктара Цяліпкі!..

Хворыя заўсміхаліся. Пасміхнуўся і доктар: – Недзе ты не памыліўся...

З таго разу паміж доктарам Цяліпка і Сержуком склаліся прыязныя, даверлівыя адносіны.

Але ж знайшліся і недобразычліўцы.

– А цябе хто сюды прывёз? Калі раптам здарыцца з табою псіхоз, то адвязем адразу за горад у псіхушку!.. – не ўпадабаў хворага немалады на выгляд урач.

Сяржук паглядзеў уважліва на бледны твар незнаёмца з вялікім гарбатым носам, хітраватымі вачыма і светлымі, ссівелымі месцамі валасамі. Адказаў няспешна: – Мікалай Іванавіч мяне прывёз сюды. Дай Божа яму моцнага здароў’я і доўгіх год жыцця. Ён мой былы сусед і аднакласнік!

Пажылы доктар больш ні разу не падыходзіў да Сержука, затрымліваючыся толькі ля хворых на бліжэйшых ад дзвярэй ложках...

***

Прымаючы штодня кропельніцы, Сяржук назіраў за жыццём у палаце. Замест яго суседа Валодзі пасля выхадных паступіў малады хлопец Алег невядома з якім дыягназам. Ён моўчкі ляжаў, думаючы аб нечым сваім. У палаце з’явіўся Аляксей Паўлавіч, мужчына ва ўзросце. Ён увесь час спаў, накрыўшыся з галавою коўдрай, ці толькі прыкідваўся, але яго не было відаць і чуваць.

За ім прыйшоў Кастусь, малады, высакарослы хлопец. Сяржук узгадаў, што не раз бачыў у горадзе яго чарнявую галаву з непрыемнымі цёмнымі вачыма. Але зараз усе былі ў аднолькавых умовах, праўда, увага да іх была розная. Як толькі прывезлі Кастуся позна ўвечары, то адразу вакол яго пачаў завіхацца доктар-пенсіянер з вялікім крывым носам. Той самы, што адразу не спадабаўся Сержуку ( ён якраз быў дзяжурным па аддзяленні).



Вакол Кастуся мітусіліся дактары і медсёстры: то некуды вадзілі, то давалі нешта піць... Сяржук разумеў, што бацькі Кастуся маюць добрае знаёмства з гэтым пажылым доктарам ці нечым “падкармілі” таго, заўжды насупленага, нечым не задаволенага. “Пэўна, такі кантыгнент хворых у шостай палаце, што ад іх адварочваюцца. Алкаголікі ці блізкія да таго... Што ж тут скажаш... “ – супакойваў сябе Сяржук і марыў толькі пра тое, каб хутчэй адсюль выйсці. Трэба толькі ачомацца крыху.

Але не ведаў і не спадзяваўся Сяржук, што яго напаткае неспадзяванка...

***

Тыя кручкі заварушыліся... Сяржук адчуў, што пачынаецца нешта, да гэтага часу ім не зведанае. Лежачы пад кропельніцай, чакаў, як яно пойдзе далей. Разумеў, што пачынаецца, як казаў змрочны ўрач, псіхоз. Хацелася, каб нечакана зайшоў доктар Цяліпка: нейкай дапамогі можна было чакаць толькі ад яго. Заставалася толькі спадзявацца на шчаслівы выпадак, калі раптам загляне Цяліпка. Гэта ён апошні раз жартаўліва прапанаваў зрабіць укол спірту. “Вось бы мне зараз такі укол”, – думаў засмучаны Сяржук. А палата ў яго вачах прамокла ад снегу і вады, што лілася па сценах.

Калі пачуў нечы голас з калідора пра абед, дык здалося, што вельмі ўжо прагаладаўся. Кінуў кропельніцу, падняўся і рушыў у напрамку дзвярэй. У гэты час нечакана трапіў на загадчыка аддзялення Мардухая...

Калі заводзілі ў паўпадвальнае памяшканне рэанімацыі, Сержуку падалося, што трапіў у морг: спераду ляжалі нерухома людзі пад белымі простынямі... Потым усё надоўга прапала...

Першае, што пабачыў Сяржук, калі апрытомнеў, – вялікі мужчынскі жывот з трубачкаю, што тырчэла з яго, белая паласа пластыру, а потым ужо і няголены твар гаспадара жывата. Сярэдняга ўзросту мужчына з чорнымі валасамі, з прывабнымі вусамі, з лёгкаю ўсмешкаю моўчкі глядзеў на Сержука... Крыху далей хлопец заўважыў яшчэ некалькі ложкаў з цяжкахворымі. Але цішыню раптам парушыў прыход медсястры, якая адразу звярнулася да Сержука: – Хворы, давайце пераапранемся! – Яна лоўкімі рухамі рук развязала рэмяні на руках і нагах, вызваліла Сержука з “палону”, хаця той і не паспеў яшчэ і разабрацца як след, куды трапіў.

– Вярніце мяне ў палату, – папрасіў Сяржук сястру, – я сябе ўжо добра адчуваю...

– Пачакайце крыху, хутка прыйдзе доктар, ён ўсё вырашыць. Пакуль паляжыце, – яна ціхенька выйшла з палаты.

– Дайце вады, – раптам папрасіў хворы, што ляжаў насупраць Сержука. Сяржук агледзеўся, заўважыў непадалёк на тумбачцы бутэльку з мінералкай, падаў суседу, дапамог таму папіць.

– Дзякуй, ты вельмі мне дапамог. Сястра не дазваляе шмат, але хочацца. Асабліва пасля ночы. Я бачыў, як цябе тут укладвалі. Нічога незвычайнага. Такое бывае не толькі з мужыкамі, але і з жанчынамі. Але сваё здароўе трэба берагчы. Калі сустрэнеш мяне дзе-небудзь у горадзе, звяртайся, падыходзь, калі пазнаеш... – сусед прыплюшчыў вочы, нібы паказваючы, што размова закончылася, трэба адпачываць...

Сяржук вярнуўся ў сваю палату нібыта нанова народжаны. Яна падалася яму цяпер святлейшай і больш прасторнай.

– Пакуль цябе не было, дваіх выпісалі. А яшчэ твая жонка прыходзіла: перапалохалася, калі пабачыла пусты ложак... А ты як зараз?..

– Ды нармальна сябе адчуваю, але не чакаў, што такое здарыцца...

– Не ты першы, не ты апошні, – паспачуваў сусед. У яго нешта не ладзілася са здароўем, таму гаварыць не хацелася.

Сяржук прагнуў пабачыць дактароў, каб даведацца пра далейшае, бо адчуваў сябе няблага, а доўга затрымлівацца не было як: шмат клопатаў засталося на рабоце, дома. Ачуняўшы пасля ўсяго, што на яго навалілася за апошнія два тыдні, ён ірваўся да працы.

– Ну што, яшчэ паляжыш у нас да выхадных, – прапанаваў Цяліпка, калі агледзеў хворага на ранішнім абыходзе. – Трэба табе яшчэ вітамінаў пакалоць, пакапаць...

– Дзякуй, з мяне ўжо хопіць. Астатняе дома. Ды і Мікалая Іванавіча трэба хутчэй пабачыць, падзякаваць.

– Не спяшайся. Няма яго, твайго аднакласніка. Учора пад раніцу нейкія наркаманы забілі яго на кватэры. Відаць, былі знаёмыя, бо адчыніў дзверы... Закатавалі, адным словам. – Цяліпка моўчкі пастаяў ля ложка Сержука, дабавіў: – А калі так патрэбна быць дома, то выпішам... Толькі тыдні два не ўжывай алкаголю: хай арганізм замацуецца пасля прыёму лекаў. І пасля адшукай мяне: ёсць справа.

Пераапрануўшыся, Сяржук завітаў у шостую палату развітацца з людзьмі. Ды і – джынсы падтрымаць патрэбен быў рэмень ці нешта ўзамен, бо за апошнія тыдні вельмі схуднеў. Выгляд Сяржука быў не лепшы ў старой куртцы і стаптаным абутку, на што Міхась паўжартам зазначыў: – Знешні выгляд яшчэ не заўжды гаворыць пра дастатак чалавека. Узяць таго ж грамадзяніна Карэйка.

– Не, я не падпольны міліянер, але і не бамжара! – з настроем адказаў Сяржук. – Я маю добрую працу, атрымліваю неблагія грошы, толькі вось “прыхварэў”

крыху па восені. Але зараз з новымі сіламі за працу!.. Вось толькі Кастусёў рэмень зацягну і наперад, за славай!..









# АБРАЗКІ

*Незвычайна свяціліся каляровыя шыбіны
ў верандзе старога дома...*

## АБРАЗКІ

## СЦЯЖЫНКА Ў ЖЫЦЕ

Пасля непрацяглага прыпынку цягнік павольна пачаў набіраць ходу. Седзячы ля акна, я ўзіраўся ў знаёмыя краявіды, як бы пражываючы наноў мінулае сваё жыццё, успамінаючы светлыя дні дзяцінства...

Па гэтай чыгунцы я езджу даўно. Памятаю яшчэ, як замест цяперашніх электрацягнікоў пускалі пару і дым паравозы. Па наваколлі тады разносіўся пах недапаленага вугалю. Гэта запомнілася на ўсё астатняе жыццё...

За акном злева цямнела мора зялёнага жыта. Яго хвалі падганяліся лёгкім ветрыкам. Складвалася, плывеш па моры, якому ні канца ні краю. Але ўдалечыні жытнёвае мора абрывалася цёмным сілуэтам дрэў і дамоў невялікай вёсачкі. І што больш за ўсё ўражвала –дык гэта старая царква, якая бялела там, у далечыні. Яна прыцягвала ўвагу да сябе рысамі някідкай і ў той жа час велічнай архітэктуры.

Цягнік паступова аддаляўся ад станцыі сярод поля. Я павярнуў галаву крыху назад, бо пабачыў, як праз жытне-пшанічнае мора рухаюцца ледзь прыкметныя дзве чалавечыя постаці: наперадзе жаночая, а на некаторым аддаленні – мужчынская. Яны ішлі да вёскі, а праўдзівей сказаць, дык сцяжынка праз жыта вяла акурат ад чыгункі да царквы. Нехта першы пратаптаў тую сцежку яшчэ па свежаўзаранаму полю. Жыта расло, цягнулася да сонца, а людзі кожны дзень хадзілі па гэтай сцежцы, як па сваёй хаце, несучы да царквы неўсвядомлены самімі грэх...

Неяк адразу прыпомнілася з дзяцінства: у пяці-шасцігадовым узросце з суседскай дзяўчынкай Анютаю бяжым праз жыта да бацькоў на сенакос. А тыя, замест таго, каб абрадавацца нам, пачынаюць ушчуваць, сур’ёзна, як дарослых.

У тым сонечным дзяцінстве мы беглі да поля, каб нарваць на мяжы сціплых, але вельмі прыгожых валошак і рамонкаў. Бывала, што гулялі ў хованкі, побач,

у кустоўі. Але ў жыта – аніколі.

## ДЗВЕРЫ Ў НОЧ

Я сядзеў на верандзе спінай да адчыненых дзвярэй і ў начной прахалодзе перабіраў старыя часопісы. Як раптам адчуў, быццам нехта глядзіць мне ў патыліцу.

Мне хацелася павярнуць галаву да дзвярэй, азірнуцца ў цемру. Але цела не слухалася. Яно ўсё роўна як анямела...

Я ўсё больш адчуваў млявасць. Спатрэбілася намаганне волі, каб скінуць яе і паварушыцца.

Непрабіўною сцяной стаяла загадкавая цемра. Было ціха. Толькі ў небе далёка свяціліся кропачкі зорак...

Я ўзіраўся ў ноч, і мне здавалася, што нехта нябачны гэтак жа глядзіць на мяне адтуль, з густой, глыбокай цемры. Нехта незнаёмы, незразумелы, чужы...

Вялікае, невядомае НЕШТА ўтаропілася ў мяне, быццам разглядвала з касмічнай прасторы, вывучала...

Зоркі мігцелі, свяціліся. Павольна плылі цішыня і водар мяты, што расла ля плоту.

Загадкавая сіне-фіялетавая летняя ноч ўзіралася ў адчыненыя дзверы, за якімі сядзеў я, збянтэжаны, узбуджаны нечаканай з’яваю...

Жоўты матылёк заляцеў у пакой, наблізіўся да гарачага шкла настольнай лямпы, парушыў ціш шолахам сваіх крылаў.

## НА ВЕРАНДЗЕ СТАРОГА ДОМА

Незвычайна свяціліся каляровыя шыбіны на верандзе старога дома, ля якога я апынуўся нечакана, заблудзіўшы ў малазнаёмым раёне горада.



У святле, што прабівалася з веранды, раптам зацвіў дзіўны сад. Чырвона-жоўтымі агеньчыкамі гарэлі ружы, гладыёлусы, макі... Фіялетавыя, блакітныя, сінія званочкі быццам вызвоньвалі вячэрнія каляровыя мелодыі... Белыя рамонкі, як першы нечаканы снег, дыхалі чысцінёй, запрашалі на свята...

Я стаяў, зачараваны відовішчам... Колернае багацце, букет незвычайных плямаў паланіў мяне, захапіў... У думках я маляваў гэты агромністы букет кветак на вялікім палатне. Як знайсці фарбы, каб перадаць гэты колер? Гэтае дыханне і святло! Гэтую незвычайную мелодыю гармоніі!

## ТРЫВОГА

Цэлы-цалюткі дзень я не бачыў ЯЕ. І пад вечар авалодала мною незразумелая, невыказная трывога-туга. Рабілася неспакойна на душы ад недарэчных думак, якія настойліва, як холад за каўнер кашулі, лезлі ў галаву...

Ці то рэўнасць закрадвалася, як злодзей, ці то светлае пачуццё прарастала ў душы.

Я думаў пра ЯЕ.

Я казаў ЁЙ, што раней, на пачатку нашага знаёмства, ЯНА была вясёлая, жыццярадасная... А цяпер?..

– Раней я мала думала пра нешта сур’ёзна, – адказала ЯНА мне. – А зараз я ўсё болей задумваюся пра тое, што адбываецца навокал мяне. Я хачу ўдзельнічаць у перабудове гэтага недасканалага асяроддзя... І мне становіцца трывожна.

ЗМЕСТ

**ЧАСТКА ЧАЦВЁРТАЯ**



**Апавяданні**



**Абразкі**





Літаратурна-мастацкае выданне

**Валасюк Лявон (Леанід Хведаравіч)**

**ВЯРТАННЕ БЕРАСЦЕЙСКАЙ СТРАЛЫ**
***Раманы і аповесці, апавяданні і абразкі***

***Рэдактар М.І. Сянкевіч***
***Афармленне Л.Ф. Валасюк***
***Карэктар І.М. Мельнічук***

